ББК84 Бел7
А 79

Рэцэнзент
ВАЛЯНЦІН ТАРАС

**Арабей Л.**

А 79 Пошукі кахання: Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 288 с.: іл.

Вайна праз гады ідзе па слядах чалавека, прыходзіць у сённяшні дзень, уплывае на лёс людзей — вось галоўная думка абедзвюх аповесцей.

Героі апавяданняў — людзі высокай маральнай чысціні. Яны патрабавальныя да сябе і да тых, хто жыве побач. Аўтар піша пра нашага сучасніка і вяртаецца ў пасляваенныя гады.

А $\frac{4702120200—044}{М\ 302(03)—87}$ 3—87 ББК 84 Бел7

## 1

Таня валакла свайго Сашку за руку па вуліцы і ледзьве стрымлівала слёзы. Такіх страху, гневу і сораму яна яшчэ не мела ў сваім жыцці, не магла і падумаць, што такое можа прыйсці да яе блізкіх, да яе самой. Яна не бачыла людзей, што ішлі насустрач, чаплялі яе плячыма, партфелямі, сумкамі, за якіх чапляўся, якіх абмінаў Сашка.

Валакла яго і па лесвіцы — на пяты паверх, піхнула ў калідор і замкнула за ім, за сабою дзверы, быццам хочучы адгарадзіцца ад усяго, што было за імі. Цяпер слёзы паплылі з вачэй, і яна пайшла ў кухню, села за пакрыты цыратаю столік, узлакацілася на яго, закрыла твар рукамі.

Сашкі зусім не было чуваць, потым вінавата рыпнула пад яго нагою масніцына, і замест злосці на сына Таня абрынула гнеў на сябе: недагледзела, не ўсцерагла... А што, як вырасце злодзеем, трапіць у турму?.. Яна сядзіць, румзае, а трэба нешта рабіць, нешта рабіць, каб не было позна...

Яна яшчэ не ведала, што трэба рабіць, што будзе рабіць, але сядзець больш не магла, паднялася, пасунулася ў ванную. З хвіліну стаяла над кранам, быццам успамінаючы, чаго сюды прыйшла, потым пусціла халодную ваду, набрала поўныя прыгаршчы, лінула на твар. Яшчэ раз, яшчэ. Халодная вада студзіла апечаны слязьмі твар, ад яе лягчэла, глынула яшчэ з прыгаршчаў некалькі разоў. Выціралася ручніком і думала: ніколі не біла, але тут трэба налупіць... Толькі чым? Рэменем? У хаце няма рэменя, няма мужчыны, і няма рэменя... На пральнай машыне ляжаў скрутак вяроўкі, на якой вешала бялізну. Узяла цяжкі скрутак, пачала развязваць. Рукі дрыжалі, але не ад зло-

сці — ад страху: як гэта яна будзе біць?.. Зрабілася моташна, аж занудзіла. Кінула вяроўку на падлогу, пайшла ў пакой.

Саша сядзеў на сваёй канапцы нахохлены, лыпнуў на маці спалоханым вокам і зноў адвёў позірк. Таня ўспомніла, якую праборку зрабілі яму ў міліцыі. Перажывае? А можа, лічыць сябе героем, у іх жа, у падшыванцаў, свае законы, міліцыя, бацькі, настаўнікі гавораць ім адно, а які бэйбус на вуліцы скажа другое, і таго бэйбуса яны больш паслухаюць, ён у іх большы аўтарытэт. І як убіць яму ў галаву, як навучыць, дзе знайсці словы?..

— Саша,— падышла яна да сына, села каля яго на канапцы.— Саша, у мяне, акрамя цябе, нікога няма на свеце...

Яна гаварыла не тое, канечне, не тое, трэба нешта цвёрдае, рашучае, але галаву сціскала, як абручом, і гэты абруч не даваў думаць.

— Чуеш, Саша? — Яна далоняй павярнула яго твар да сябе. Ад дотыку матчынай рукі Саша ўздрыгнуў, нібы ад удару, яшчэ глыбей уціснуўся ў канапку, узяўся за караткаваты ўжо рукаў пінжачка, пачаў нацягваць на руку.— Ты не бойся, Саша,— гаварыла Таня,— я спачатку і праўда хацела цябе набіць, але не паднялася рука... Ну што біць, няўжо мы так... Я табе найлепшы сябра, чуеш, Саша, ты павінен мне верыць і мяне слухацца... Не, я не хачу сказаць, што ў цябе больш не павінна быць сяброў, у цябе павінны быць сябры, але харошыя хлопчыкі, не такія, як гэты Генка, ён шмат старэйшы за цябе і дабру цябе не вучыць, бачыш, што выдумаў...

Саша глядзеў убок, на акно, за якім пачынала сінець, і ўсё больш нацягваў на руку рукаў пінжачка.

— Ты мяне не слухаеш, пакінь рукаў,— раззлавалася Таня і тузанула за пінжачок, але Саша яшчэ болей сцяўся, схапіўся за рукаў другою рукою.— Што ты там хаваеш! — сілаю падняла Таня рукаў і ахнула — праз усю руку ад кісці і амаль да локця чырванела ледзь засохлая разадраная палоса.— Божа мой... Што ж ты маўчаў? — І зноў шкадаванне, злосць нахлынулі, змяшаліся, падступаючы да вачэй слязамі.— Дзе гэта? Там? — строгасцю хацела прагнаць шкадаванне.— Ну, так, людзей у вайну на фронце раніла як герояў, а мой сын... Як злодзей, ну, так...

Пайшла на кухню, узяла з аптэчкі ёд, кавалак бінту. Калі канчала перавязваць руку, у дзверы пазванілі, і яна пайшла адчыняць, думаючы, што менш за ўсё ёй патрэбны сёння госці.

Але гэта прыйшла Люба — у светлым плашчыку, з сумкаю цераз плячо, заклапочаная.

— Што ў цябе здарылася? — з парога пачала яна.— Пабегла з работы як шалёная і больш не вярнулася, заходзіў рэдактар, пытаўся, дзе ты, я сказала, што цябе некуды тэрмінова выклікалі.

— Распранайся,— коратка запрасіла Таня.

Люба скінула плашчык, глянула на сябе ў люстэрка, што вісела каля вешалкі, кранула пальцам акуляры, папраўляючы іх на пераноссі, зайшла ў пакой.

— Здароў, Сашка,— павіталася з хлопчыкам.

— Здрасце,— буркнуў той.

Люба села на другую канапку, Таніну, выставіла нагу ў модным боціку, кінула каля сябе сумку.

— Дык што ў цябе?.. Твар апух... Плакала?

Таня адчула, што слёзы зноў падступілі да вачэй, але стрымалася.

— Ідзі ў кухню,— загадала Сашку, і той паслухмяна падняўся з канапкі, выйшаў. Таня зачыніла за ім кухонныя дзверы, потым дзверы ў пакой.

— З міліцыі прывяла,— кіўнула ў бок кухні.

Люба павяла акулярамі ў бок дзвярэй.

— Во фокус! — Гэта было любімае Любіна слова — фокус, яна выказвала праз яго шмат якія эмоцыі — здзіўленне, абурэнне, трывогу.— А што ён нарабіў?

— Разумееш, у склад залезлі... Вартаўнік, таксама добрая варона, недзе адышоўся, можа, чарніла піць, а яны збілі замок, залезлі ў склад і набралі ракет, дымавых шашак.

— Во заразы... А што гэта за склад такі, з ракетамі?

— Склад кінастудыі, там розная піратэхніка і ракеты, бомбы... Міліцыі наехала, думалі, дыверсія, потым злавілі завадзілу, ёсць у нас тут у двары такі доўбень, Генка, і той сказаў, з кім лазіў.

— Ты яму хоць усыпала? — паказала Люба вачыма на дзверы, за якімі быў Сашка.

Таня пакруціла галавою.

— Ты ж ведаеш, я ніколі яго не біла... І потым... Сама вінавата... Маеш дзіця, то май час і глядзець за

ім... А я што? Ён са школы прыйдзе — я на рабоце, гойсае адзін па двары, хто хоча, той над ім уладу бярэ... Я сёння наогул як вар'ятка, што як вырасце злодзеем, трапіць у турму, мне тады застанецца адно — рукі на сябе налажыць...

Люба паморшчылася, паказваючы, як не спадабаліся ёй гэтыя словы, загаварыла, і асуджаючы Таню, і спачуваючы ёй.

— Ты, па-мойму, занадта драматызуеш... Хлапчукі — свавольнікі, нельга рабіць такіх вывадаў...

— Усё пачынаецца з малога,— не пагадзілася Таня.— Сёння ракеты, а заўтра чорт ведае што... І добрае свавольства, на мяне штраф наклалі — сто рублёў, а ты ведаеш, што для мяне значыць сто рублёў.

Тут ужо Люба не магла не пагадзіцца, што справа сапраўды сур'ёзная, сто рублёў для Тані — амаль месячная яе зарплата.

А Таня пра гэтыя сто рублёў толькі цяпер успомніла, не яны былі галоўнае, не яны.

— Напішаш пару рэцэнзій... Не ў нашу, у іншую газету, часопіс... Я пагавару...

Таня, здаецца, не чула Любу, як у бездань правалілася ў свае думкі. Паволі падымала на Любу вочы.

— Кажуць, цяжка нарадзіць дзіця... Пакуты... Канечне, пакуты, я Сашку раджала ў трыццаць сем... Але я табе магу раджаць дзяцей хоць кожны год... Не фокус, як ты кажаш, нарадзіць, фокус выгадаваць... Я ведала, што будзе цяжка, але не думала, што так...

— Усім цяжка,— пагадзілася Люба.— Думаеш, мне не цяжка? Мой Воўка такі неслух, а ў Наташкі адны шмоткі ў галаве, толькі і круціцца перад люстэркам, не паступіць яна ў інстытут, а мне гэта, думаеш, не баліць?

— Ну, зраўняла ты сябе і мяне... У цябе муж, у цябе маці, твае дзеці дагледжаныя, не галодныя, і бацька... Ведаеш, як трэба хлопчыку мужчынская рука?

Люба энергічна падняла абедзве далоні, выставіла перад сабою, быццам адпіхаючы Таніны словы, не хочучы іх слухаць, сказала цвёрда, без жалю і спачування:

— Галубка, ведала, на што ішла... Цяпер маўчы...

— Ды ведала, маўчу... Таму сябе ва ўсім і вінавачу.

Люба паднялася, ускінула сумку на плячо, папра-віла акуляры на пераноссі.

— Я прыбегла, бо думала — бяда ў цябе... А гэта ўсё... Вядома, непрыемна, але не так і страшна...

— Чужую бяду рукамі развяду,— сказала Таня. Яна паднялася з Сашавай канапкі, на якую нядаўна прысела, пайшла за сяброўкаю ў калідорчык.— Дзякуй, што прыйшла. Я заўтра буду на рабоце. Толькі прашу цябе, нікому не расказвай, не хачу, каб мянцілі языкамі.

— Не бойся, нікому не скажу, і не перажывай,— абняла яе Люба. Пайшла, дробна стукаючы па лесвіцы высокімі абцасамі.

Таня пастаяла з хвілінку ў калідоры, успомніла, што выставіла Сашку ў кухню і ён цяпер яшчэ там. Іншым разам не вытрываў бы столькі ў адзіноце. Пайшла ў кухню.

Сашка сядзеў упоцемках, падпёршы шчаку рукою, бялела з-пад рукава павязка бінту. Спужана азірнуўся на маці.

Таня паставіла на пліту чайнік, дастала з халадзільніка масла, учарашнія катлеты, паклала на стол хлеб.

— Ідзі мый рукі, вячэраць будзем,— сказала сыну.

Ён паслухмяна пайшоў у ванную, іншым разам спрачаўся б, даказваў бы, што рукі чыстыя.

Таня памазала кавалак хлеба маслам, паклала зверху на яго катлету. Калі сеў за стол Саша, падала яму хлеб з катлетаю, наліла чаю. Сама ўзяла счарсцвелую скарынку хлеба, абмакнула ў сваім кубку ў чай. Саша з падазрэннем зірнуў на маці. Адкрыў ужо рот, каб адкусіць ад сваёй катлеты, але не адкусіў.

— А ты чаму катлеты не бярэш? — спытаў у маці.

Таня пабоўтала скарынкаю ў сваім кубку, адказала нібы спакойна:

— Я, сынок, больш чым месяц не буду есці ні мяса, ні катлет. Трэба ж заплаціць штраф — сто рублёў... А ты ж ведаеш, колькі я зарабляю... Трэба будзе сесці на галодны паёк.

— Дык і я не буду! — Саша паклаў свой хлеб з катлетаю і адхапіў руку, быццам апёкся гэтым хлебам.

Таня падсунула хлеб сыну.

— Ты павінен есці, бо ты расцеш... І розум твой па-

вінен расці, бо пакуль ён у цябе дурны... А мне не прывыкаць да голаду, у вайну я была такая, як ты цяпер... Масла і катлет мы ў вочы не бачылі... Шалупінне ад бульбы елі. Праўда, тады галадалі з-за фашыстаў...

— І я не буду есці! — закрычаў Саша, адпіхваючы катлету. І раптам заплакаў, першы раз за сённяшні дзень заплакаў.

Жаль агарнуў Таню, але стрымалася, спытала строга і нібы спакойна:

— Не разумею, чаго ты плачаш, я ж цябе, па-мойму, не біла, хоць цёця Люба сказала, што трэба было налупіць.

— Ну і бі, набі, а ты не будзеш есці, дык і я не буду! — праз плач гаварыў Саша.

Таня адчула, што і яна больш не можа стрымлівацца.

— Саша, Саша,— гаварыла яна, і так шмат хацелася сказаць сыну, але зноў не ведала, што гаварыць і ці трэба гаварыць. Яны абое сядзелі над сваімі кубкамі, плакалі.

## 2

Дзень пачаўся як звычайна: яна ўстала ў сем гадзін, зрабіла Сашу сняданне, разбудзіла, выправіла ў школу, загадаўшы, каб пасля школы абавязкова прыйшоў да яе на работу. Ёй у рэдакцыю трэба было ісці крышку пазней, і яна збольшага прыбрала ў кватэры, кінула ў каструлю кавалак мяса — зварыць булён, каб потым можна было толькі заправіць крупамі.

Рабіла ўсё гэта і на нейкія хвіліны як правальвалася ў нерэальнасць, перад вачыма ўсплываў твар Сяргея, яго амаль сівыя валасы над гладкім ілбом. Гэтыя сівыя валасы пры маладжавым твары прыцягвалі ўвагу да Сяргея, надавалі яму рамантычнай таямнічасці, а ў цвёрдых вуснах, у разумным позірку адчувалася сапраўды мужчынскае, дужае і прывабнае. Таня ў Сашу ўсё шукае гэтых рысаў — мужнасці, цвёрдасці — у твары, у характары, але не бачыць. Саша бязлітасна падобны на яе — такі самы мяккацелы кісель.

Перад Таняю ўсю раніцу ўставала аблічча Сяргея, але яна не магла разабрацца, якія пачуцці яно выклікае. Крыўду? Яна не мае права на яго крыўдаваць. Каханне? Толькі не яно, каханне даўно мінула. Шка-

даванне? А чаго шкадаваць? І ўсё ж яно прыходзіла, яго аблічча, і трэба было клопатамі дня адганяць яго.

У рэдакцыі закруцілася з работаю — рыхтавала да друку артыкул, адказвала на пісьмы. Выклікаў рэдактар. Ён сядзеў за сваім вялікім паліраваным сталом нахмураны, на дне вачэй ляжалі халодныя льдзінкі. Падаў ёй рэцэнзію, якую яна падрыхтавала з месяц таму назад.

— Рэцэнзія слабая, вярніце аўтару... Калі цытаты, якія ён прыводзіць, самыя лепшыя ў кнізе, то ўяўляю, якая кніга...

У голасе рэдактара быў моцны папрок і ёй — што ж яна за работнік, калі такі матэрыял яму падсоўвае.

Гадоў дзесяць кіруе рэдактар іх газетаю, а Таня, ды і не адна Таня ў рэдакцыі ніяк не могуць знайсці дарогу да яго сэрца.

Завялікую дыстанцыю трымае ён са сваімі падначаленымі, увесь час быццам хоча падкрэсліць сваю над імі перавагу. А Таня, хоць забіце яе, ніяк не можа засвоіць закон субардынацыі, надта хочацца ёй, каб усе людзі, якія пасады яны ні займалі б, у першую чаргу заставаліся людзьмі. Яна так ненавідзіць падхалімаў, што лістам сцелюцца перад начальствам, прыніжаюцца перад ім.

Вярнуўшыся ад рэдактара — яшчэ раз перачытала рэцэнзію. Здаецца, рэдактар мае рацыю. Рэцэнзія і праўда заблытаная, і цытаты... Як яна сама гэтага не заўважыла... Але мог бы сказаць мякчэй... Не так сурова і холадна...

Паклала рэцэнзію ў шуфлядку стала.

За дзвярыма пачуўся тупат, няйначай, абедзенны перапынак, і ўсе зрушылі з месцаў. Глянула на гадзіннік — ну так, без трох мінут дзве гадзіны.

Тані ў час абеду трэба было паспець у прадуктовы магазін, і яна, праверыўшы, ці на месцы кашалёк, ці не забылася торбачку, пабегла.

Такая разумная была не адна яна, у час абедзеннага перапынку шмат жанчын кідалася ў магазін, і было тут народу аж чорна. Давалі кілбасу, і за ёю выстраілася чарга. Кілбасы трэба купіць. Саша любіць кілбасу, а гэту, вараную, посную, есць без хлеба. Стала ў хвост. Як толькі набегла людзей за ёю, папрасіла дазволу адысціся і пайшла па іншых аддзелах. У металічны магазінны кошык паклала тры пакеты малака,

пачак маргарыну, булку хлеба, батон, кілаграм цукру, кілаграм проса — Саша любіць прасяную кашу. Крыўда на сына не прайшла, але крыўдуй не крыўдуй — карміць трэба.

З нагружанаю сумкаю вярнулася ў чаргу па кілбасу. Прадаўшчыца крыкнула, каб больш чаргу не займалі — кілбаса канчаецца, і Таня захвалявалася: ці хопіць ёй?

Блізка каля прылаўка разгараўся канфлікт:

— Вы тут не стаялі!

— Як не стаяла, я на хвілінку адышлася, во гэта жанчына можа пацвердзіць!

— Ніхто вас не бачыў, сорамна лезці без чаргі!

Таня нервавалася, колькі ўзяць, кілаграм ці цэлы батон? Каб не гэты штраф, то не думала б, узяла б цэлы батон... Ды не будзе ж яна цяпер марыць дзіця голадам і сама галадаць не будзе, учарашняю скарынкаю хацела даць урок. Можа, гэта быў недазволены прыём, але яна не ведае, які ўжо прыём правільны, які няправільны, Сашку, здаецца, прабрала. Яна потым таксама ўзяла катлету, галадаць яны не будуць, на штраф пойдуць грошы, што збірала сабе на паліто, яшчэ зіму ў старым паходзіць. Крыўдна, канечне, цяпер жанчыны так апранаюцца, яна вечна горшая за ўсіх... Як жа там з кілбасою, хопіць ці не хопіць, колькі яшчэ чалавек наперадзе — раз, два, тры,— чалавек дзесяць, здаецца, хопіць...

Яна падышла ўжо блізка да прылаўка, бачыла ўжо прадаўшчыцу — высокую, з гонарам на беласмятанным твары, з халодным позіркам светлых вачэй. Спрытным рухам выхоплівала яна са скрынкі кілбасу, гопала на вагі, тут жа гаварыла цану і скідала батон на паперу, што ляжала побач і каля якой стаяла маладзенькая дзяўчынка, мусіць, вучаніца, загортвала кілбасу і пісала на ражку паперы цану.

Вось і Таніна чарга падышла, і ёй выхапіла прадаўшчыца са скрынкі батон, і ёй дзяўчына загарнула ў паперу. Адышла ад прылаўка задаволеная, павярнулася да касы, і агарнула прыкрасць — да касы стаяў доўгі хвост чаргі. Але нічога не зробіш, прыйдзецца выстаяць.

Металічны кошык, напакаваны даверху, цяжкі, брала яго то ў адну руку, то ў другую. Глянула на гадзіннік — абедзенны перапынак на зыходзе, а тут, як

на злосць, у касе скончылася папера, касірка пачала ўцягваць новую стужку, ды так павольна гэта рабіла, так марудна. Другая каса была пустая, і Таня раззлавалася — вечная гісторыя, у абедзенны перапынак, калі так шмат людзей у магазіне, працуе толькі адна каса. Але ў гэту хвіліну са службовага ўваходу выйшла яшчэ адна касірка, Таня ведала ўсіх работнікаў гэтага магазіна, кожны дзень сюды бегала. Другая касірка пакіравалася да другой касы, і Таня рванула туды — каб сярод першых заняць чаргу. Першай стаць не паспела, стала чацвёртая, але і гэта было добра.

Скора яна заплаціла за свае прадукты, пераклала іх з магазіннага кошыка ў сваю торбу, пабегла на работу. Сёння ёй пашанцавала — і кілбасы купіла, і на работу не спазнілася, прыйшла яшчэ раней за Любу. Некалькі хвілін аддыхвалася за сваім сталом, дастала шчотку для валасоў, пудру, губную памаду, выняла з шуфляды люстэрка, паставіла на стол, прыпёршы да кіпы паперы. Глянула на сябе і ўздыхнула. Вочы прыпухлыя, твар шэры, валасы раскіданыя, бледныя вусны. Валасы прычасала, губы падмалявала, а прыпухлыя вочы і шэры твар засталіся.

Саша прыйшоў да яе на работу ціхі, пінжачок школьнай формы зашпілены на ўсе гузікі, стаў пры дзвярах, гатовы да любога матчынага загаду.

Кальнула ў сэрца ад такой пакорлівасці. Паказала на вольны столік і наўмысля строга сказала:

— Садзіся і рабі ўрокі!

— Ты што! — навалілася на яе Люба.— Дзіця толькі са школы, галава стомленая, а ты яму ўрокі! Яму пабегаць трэба!

— Набегаўся... Цяпер будзе на прывязі!

Саша пацягнуўся рукою да партфеля, што паставіў на падлогу каля крэсла, на якое сеў. Партфель аж распірала ад напханых у яго кніжак, сшыткаў, розных школьных прычындалаў.

— Добра, пасядзі так,— згадзілася Таня. Загаварыла да Любы: — Каб хоць тэлефон дома быў, каб магла праверыць яго па тэлефоне, дома ён ці не, дык жа ніяк не магу дабіцца.

— Пагавары з рэдактарам, няхай напіша просьбу ад рэдакцыі,— параіла Люба.

— Няёмка прасіць...

— Няёмка штаны цераз галаву надзяваць,— адрэзала Люба.

Увайшоў загадчык аддзела пісем Кулік Пятро Пятровіч — нізенькі, тоўсты, з круглым тварам і жывымі цёмнымі вочкамі, якія ўмелі перадаваць самую шырокую гаму пачуццяў — ад яхідства, падхалімства да робленых дабрыні і адчаю. Цяпер яго вочкі стрэлілі ў Сашу, і Таня не магла не заўважыць у іх яхідства. Здаецца, ва ўсёй рэдакцыі адзін Кулік асуджае незаконнае з'яўленне на свет Сашы. Стрэліў у хлопчыка нядобрым позіркам і тут жа перавёў вочы на яго матку. Чуйная Таня не магла не прачытаць у іх робленай дзелавітасці.

— Пісьмы на ваш аддзел... Прашу не затрымліваць адказы...

Павярнуўся, пайшоў.

— Божа мой, колькі начальнікаў на нашу галаву,— уздыхнула Таня.

А за дзвярыма чуўся голас Куліка, бубніў некаму:

— Раней у рэдакцыі быў дзіцячы сад, цяпер школа-прадлёнка.

Гэта ўжо на тое, што ў кабінеце сядзеў Саша.

— Месца ён тваё заняў? — уголас сказала Люба.

— Сквалыга,— не стрымалася і Таня.

— Плюнь,— супакоіла яе сяброўка.— Не ведаеш Куліка?

Таня ведала Куліка. Ён мог зняважыць ніжэйшага па чыну і да агіднага падхалімнічаць перад вышэйшым. Свае ўчынкі загортваў у паперку прынцыповасці, а сам рабіў толькі тое, што самому выгадна.

Вечарам Таня зварыла абед на заўтра, памыла Сашавы кашулі, шкарпэткі, улажыла сына спаць і сама лягла. У пасцелі падумала ўжо, што, можа, і праўда зайсці да рэдактара, папрасіць паперку — каб паставілі тэлефон. І яшчэ падумала, што заўтра трэба будзе схадзіць да Сашы ў школу, як там у яго, даўно не была.

Пачынала блытацца ўжо ў галаве, адольваў сон, апошняе, што ясна ўявілася,— сіваваты німб валасоў над чыстым белым ілбом. Павярнулася да сцяны, каб адагнаць гэты німб. І праўда адагнала, як у яму праваліласа.

## 3

Яна адчула не то трывогу, не то боль і ад гэтай трывогі ці болю прачнулася. Вакол было цёмна і ціха, нават Сашавага дыхання не чулася. Спаў дом, спала вуліца. Ага, міліцыя, штраф, успомніла Таня. Ліха з імі, неяк абыдзецца, хацела супакоіць сябе, каб зноў заснуць, але акрамя гэтага турбавала нешта яшчэ, яна не магла спрасоння зразумець — што, пакуль не ўбачыла: яно нібы выплыла з цемнаты, наблізілася да яе, застыла — тое самае аблічча — малады твар і сівыя валасы... «Адыдзі!» — ледзь не ўголас сказала Таня, але ёй здалося, што аблічча ўсміхнулася здзекліва: «Чаго ж ты гоніш, калі сама завеш...» — «Не заву я цябе, навошта ты мне, не заву!» Цела напружылася ад хвалявання, і сон зусім знік, у галаве настала яснасць, быццам і зусім не спала альбо выспалася ўжо. Палэпала ў цемнаце па крэсле, шукаючы гадзіннік, знайшла, уключыла святло, і яно разанула па вачах, доўга жмурылася, пакуль разгледзела — дзве гадзіны. Уся ноч наперадзе, трэба спаць. Яна зноў лягла, укрылася, заплюшчыла вочы. Баялася, каб зноў не падступіла тое аблічча, і ад таго, што змагалася сама з сабою, сон не прыходзіў... Яна раптам убачыла сябе ў люстэрку — такую, як была тым вечарам: сукенка вышэй каленяў — міні, па модзе, акуратна прычасаныя валасы — спецыяльна збегала ў цырульню. З люстэрка на яе пазіраў малады смуглы твар, ніхто не верыў, што ёй трыцаць шэсць. Але яна памятае, добра памятае, што іменна тады ўбачыла ў сваіх валасах першы сівы, як спіралька, валасок, ён тырчаў, выкручваўся з прычоскі, яна доўга лавіла яго пальцамі, выдрала, выкінула. Яшчэ раз агледзела сябе — можна ісці, усё ў парадку.

З Верай яны пазнаёміліся ў час турысцкай паездкі па Чэхаславакіі. Аж не верыцца, што некалі яна была такая вольная, бесклапотная, магла дазволіць сабе такі шык — махнуць у падарожжа за мяжу. Градчаны, «Злата улічка» Старой Прагі, Карлаў мост, шырокая плынь Влтавы і пах, непаўторны пах вясны, каштанаў. Гэта была паездка, якая запомнілася на ўсё жыццё. І яшчэ, як падарунак,— сяброўства з Верай, з Ларысай Пятроўнай.

Вера загадвала тэрапеўтычным аддзяленнем у клініцы, яе сябры, знаёмыя ў асноўным былі медыкі, і

сёння ў Веры медыкі, і будзе, напэўна, ён... З жонкаю... Чаму яна мінулы раз звярнула на яго ўвагу? Амаль зусім сівыя валасы і малады твар? Толькі таму? Наўрад. І бачыла, што з жонкаю, і жонка сімпатычная... А можа, ён даў падставу? Здаецца, не... А можа, даў? Той позірк, адзін толькі позірк, які ён кінуў на яе. Было ў ім нешта... І яшчэ Вера, сама не ведаючы, што робіць, падліла масла ў агонь: «Вельмі таленавіты хірург... Кандыдат навук... Піша доктарскую...»

Падабаліся разумныя мужчыны.

Яна ведала, што паміж імі абсалютна нічога не можа быць, і ў той вечар наўмысля на яго больш не глянула і на сабе позірку яго больш не адчувала.

Ён скора знік з яе памяці і выплыў толькі цераз год, тым вечарам, калі зноў збіраліся да Веры, на дзень нараджэння.

У Верынай кватэры было людна, шумна. Яе сустрэлі вясёлымі галасамі:

— А вы ўсё маладзееце, прыгажэеце!..

— А сукенка, вы паглядзіце, якая сукенка!

— Харошая мода, мне падабаецца,— гэта ўжо мужчынскі голас, рэакцыя на яе «міні».

Ёй было прыемна чуць кампліменты, яна ружавела, шукала вачыма яго і не знаходзіла.

Да дзвярэй быў прышпілены ліст паперы з фатаграфіямі Веры аж з яе маленства. З некаторых фатаграфій былі павыразаны толькі твары, да іх смешна прымаляваны рукі, ногі, пад імі — вясёлыя вершы. Госці разглядалі фатаграфіі, чыталі подпісы, смяяліся.

— Гэта, няйнакш, работа Ларысы Пятроўны,— сказала Таня.

— А што, не падабаецца? — адазвалася тая з балкона, дзе стаяла ў гурце мужчын і курыла.

— Наадварот, вельмі падабаецца, цудоўна!

Там, на балконе, сярод мужчын, быў і ён... А жонкі яго не відаць... Цікава, чаму няма жонкі?

Адзін за другім чуліся званкі ў дзверы, прыходзілі новыя госці, Вера прымала віншаванні, падарункі, ставіла кветкі ў вазы.

Людзей назбіралася ўжо вельмі многа, па кватэры было ўжо не прайсці, прабіраліся бокам, просячы адзін у аднаго прабачэння.

— Здаецца, нас ужо хопіць, калі хто спазніўся —

зачынім дзверы і не пусцім, няхай ведаюць дысцыпліну, прашу за стол! — аб'явіла Вера.

— Правільна, трэба заводзіць сяброў з разліку кватэрнай плошчы, не больш як пяць сяброў на квадратны метр! — звонка сказала Ларыса Пятроўна.

— Пяць сяброў на квадратны метр — замнога, не сядзем, стаяць прыйдзецца,— адазваўся нізенькі лысы тэрапеўт з Верынага аддзялення.

— Дзе ты набярэшся пяць сяброў на квадратны метр, цяпер на сяброў дэфіцыт,— гудзеў нехта з калідора.

— Вам, Барыс Платонавіч, канечне, цяжка, у вас кватэра, па-мойму, ці не сто квадратных метраў,— крыкнула яму Ларыса Пятроўна.

— Калі хочаш мець правераных сяброў, не заводзь вялікую кватэру, на вялікую плошчу пад маскаю сябра можа пралезці і закадычны вораг! — уставіла сваё і Таня.

Вера — з чорнаю касою, закручанаю ззаду абаранкам (класічная жаночая прычоска, ад якой сёння адмовіліся амаль усе маладыя жанчыны і ад якой не хацела адмаўляцца Вера), пазірала на ўсіх жывымі цёмнымі вачыма, усміхалася, паказваючы свежыя белыя зубы. Узяла Таню за руку, павяла ў тарэц стала, дзе на канапе сядзеў ужо ён. Гукнула да яго:

— Сяргей Кірылавіч, вы сёння саламяны ўдавец, прашу ўзяць пад апеку маю сяброўку, яна — літаратар, вы — кнігалюб, побач вам не будзе сумна!

— Я не літаратар, я падручны ў літаратараў,— удакладніла Таня.

Сяргей Кірылавіч пасунуўся, даючы ёй месца.

— Па-мойму, не такая ўжо і сціплая ваша прафесія,— сказаў ён.— Хто, як не вы, робіце пагоду ў літаратуры?

— Пагоду! — засмяялася Таня.— Гром і маланкі ляцяць на нашы галовы!

Нехта застукаў нажом па графіне, патрабуючы ўвагі, госці прыціхлі, тамада-самазванец — высокі поўны мужчына ў сінім касцюме і белай кашулі, манжэты якой высоўваліся з рукавоў,— Таня не памятала — хто ён, як яго імя,— загадаў усім наліць чаркі.

— Што будзем піць? — спытаў у Тані Сяргей Кірылавіч.

Яна паглядзела на батарэю бутэлек, што стаяла па-

сярод стала. Там былі каньяк, шампанскае, сухое віно, гарэлка.

— Я лепш за ўсё віп'ю гарэлкі... Крышку...

— Паважаю ваш густ,— узяў яшчэ не адкаркаваную бутэльку Сяргей Кірылавіч.— Я таксама больш за ўсё люблю гарэлку,— зняў ён з рыльца жоўтую бляшаную «бесказырку».

— Во п'яніцы сабраліся,— засмяялася Таня.

Тамада-самазванец гаварыў ужо тост:

— За дарагую Веру Мікалаеўну, якая, нібы магніт, прыцягвае да сябе людзей, у якой многа сяброў, бо яна ўмее любіць людзей. А людзі згаладаліся па любові, па таварыскасці, па шчырасці, і кожны з радасцю адгукаецца на дабро, якое сам рабіць развучыўся. За вас, Вера Мікалаеўна, ад усяго сэрца! Гамбэй, як кажуць кітайцы, да дна!

Госці дружна выпілі, пачалі закусваць, і ў цішыні, якая наступіла і ў якой чуўся толькі бразгат відэльцаў, нажоў, прагучаў голас:

— Адразу відаць, што пабываў у Кітаі...

— І пабываў... Тры гады працаваў у Шанхаі ў бальніцы... Некалі мы ім былі патрэбныя, увесь час дзякавалі за дапамогу.

— Народ не вінаваты, якую палітыку вядзе яго ўрад, а кітайскі народ працавіты, таленавіты,— сказала Ларыса Пятроўна, якая таксама некалі, у пяцідзесятых, працавала ў Кітаі.

— Ну так, кітайская медыцына,— падтрымаў нехта Ларысу Пятроўну.

— Во-о, павялі, на імянінах Веры Мікалаеўны пра кітайцаў павялі,— незадаволена сказала жонка тамады, як і ён — поўная, ружовая, у светлым парыку — тады былі модныя парыкі,— з дарагімі пярсцёнкамі на пальцах.— А ты таксама,— павярнулася яна да мужа,— гамбэй, гамбэй...

— Даю слова чарговаму прамоўцу,— падняў руку тамада.— Можа, у яго лепш атрымаецца, Барыс Платонавіч, прашу!

І пацякло застолле — з прамовамі, чоканнем, закускамі — спачатку халоднымі, потым гарачымі. Ларыса Пятроўна чытала верш, які напісала да Верынага дня нараджэння. З каго можна падзівіцца, дык гэта з Ларысы Пятроўны — ёй ужо за пяцьдзесят, а стройная, заўсёды дагледжаная, апранутая па модзе — і га-

рачы тэмперамент, нястрымная жыццярадаснасць. Да кожнага дня нараджэння ўсім сябрам, знаёмым і нават сама сабе яна піша вершы, клеіць і сценгазеты з фатаграфіямі імянінніка, як сёння Веры, прыдумляе розныя гульні. Тані наогул падабаліся Верыны госці, былі яны дасціпныя, разумныя, вясёлыя. Яна часам бывае сярод літаратараў, каму б, здаецца, як не ім, быць разумнымі і дасціпнымі, але тыя як падап'юць, дык усё спрачаюцца, хто з іх больш таленавіты, а гэтыя, дактары, больш адкрытыя шчырасці і весялосці. Можа, часта бачаць смерць, дык умеюць цешыцца жыццём, здароўем.

Мужчыны паскідалі пінжакі, гаварылі голасна, размахвалі рукамі, жанчыны вялі свае размовы.

Яны з Сяргеем Кірылавічам сядзелі ў кутку на канапе, як на ціхім астраўку ў шумным моры. Ёй падабалася, што ён не прымушае яе піць, як часта робяць суседзі па стале, не гаворыць пошлых кампліментаў, хоць адчувала — падабаецца яму. Ёй было добра, утульна каля яго, прыемны быў дотык яго пляча, дотык рукі, калі ён неназойліва, а часам нібы незнарок дакранаўся да яе пальцаў. Ён увесь час сачыў, каб талерка яе не пуставала. Яны больш маўчалі, слухалі, што гаварылі прамоўцы, смяяліся, калі нехта дасціпна жартаваў, і быццам прыслухоўваліся да таго, што адбывалася ў іх саміх, паміж імі.

— Мне зараз трэба ісці, а так не хочацца,— сказаў раптам Сяргей Кірылавіч.

— Ісці? — здзівілася Таня.— Але чаму? Да канца вечара, па-мойму, далёка.— Сказала так і зразумела — ёй не хочацца, каб ён пайшоў.

— Я сёння аперыраваў хворага, трэба з'ездзіць у бальніцу, паглядзець.

— А-а...

Гэты свет, свет дактароў, хірургаў, быў для Тані таямнічы, рамантычны і вельмі сур'ёзны, яна разумела ўсю важнасць работы хірурга і цяпер з павагаю паглядзела на Сяргея Кірылавіча.

— Шкода, што вы пойдзеце,— шчыра сказала яна.

Ён ужо надзяваў пінжак, які быў скінуў і паклаў на валік канапкі, апрануў яго, намерыўся падняцца, ды зноў сеў. Прыцішаным голасам папрасіў:

— Скажыце ваш нумар тэлефона...

Тады, на старой кватэры, у іх быў тэлефон, ён ста-

яў у калідоры, адзін на яе з суседзямі. Яна з хвіліну вагалася — называць нумар ці не называць, можа, лепей не трэба. І назвала.

— Дзякуй,— пацісnуў ён яе руку.

— Вы ж не запісалі, забудзеце,— усміхнулася Таня.

— Не забуду...

Ён пайшоў, і ў шумнай, цеснай Верынай кватэры ёй здалося пуста, вечар страціў цікавасць. Думала — навошта дала яму нумар тэлефона, навошта ўсё гэта? Супакойвала сябе — ён забудзе, нават не запісаў, забудзе...

Таня займала тады адзін пакой у агульнай кватэры, у другім пакоі жылі старыя людзі — муж і жонка з чарапахаю. Адзінокія людзі, не маючы нікога блізкага, яны некалькі гадоў ужо трымалі ў хаце чарапаху. Часам суседзі адчынялі дзверы са свайго пакоя ў агульны калідор, і чарапаха павольна выпаўзала на новую для яе прастору. Калі Таня праходзіла па калідоры, моцна тупаючы высокімі абцасамі, чарапаха палохалася, хавала галаву з пыскаю, падобную на дзюбу ў птушкі, і лапы з кіпцюрыкамі на канцах пад руды плямісты панцыр. Таня прыпынялася, глядзела на гэта стварэнне, і яно зноў высоўвала лапы і галаву на зморшчанай, як у старога чалавека, шыі, паводзіла ёю ў бакі, лыпала, як курыца, вачамі. Калі чарапаха адпаўзала далёка ад свайго пакоя, выходзіў сусед — сухенькі стары з белымі, зачэсанымі набок валасамі, гаварыў цёплым голасам:

— Ты куды, вяртайся назад, дадому, дадому.

І чарапаха паварочвалася, марудна паўзла назад, у пакой, а гаспадар цярпліва чакаў яе.

— Няўжо яна нешта разумее? — дзівілася Таня.

Кожную вясну, калі прыгравала сонца, сусед загортваў чарапаху ў анучу і павольна спускаўся з ёю па лесвіцы, саступаючы дарогу маладым і дужым, якім не хапала цярпення ісці павольна, якія стрымгалоў ляцелі па лесвіцы ўніз альбо ўзбягалі ўгору.

Сусед выносіў чарапаху на двор, пускаў яе на леташнюю, рудую траву і пасвіў.

Мусіць, усякае, нават самае брыдкае стварэнне жыве на свеце нездарма. Магчыма, што і гэта чарапаха жыла нездарма, неяк і яна паўплывала на Танін лёс:

надта баялася Таня, каб пад старасць не застацца вось так — з адною чарапахаю...

Сяргей Кірылавіч не забыўся нумар яе тэлефона і ў першую ж суботу пасля Верынага дня нараджэння пазваніў. Яна была адна ў кватэры, суседзі са сваёю чарапахаю паехалі на дачу. Тэлефонны званок загучаў нечакана і моцна, яна аж уздрыгнула і чамусьці падумала: ён, і тут жа адагнала здагадку — чаму ён, ці мала хто можа званіць? Не спяшалася да тэлефона, знарок перачакала і другі, і трэці званок, але тэлефон настойліва клікаў, і яна выйшла ў калідор, узяла трубку.

— Слухаю...

— Гэта я, Сяргей Кірылавіч...

Яна пазнала адразу, нібы званіў ён часта, можа, кожны дзень, і дастаткова было сказаць: «Гэта я...»

— Не забыліся нумар тэлефона? — спыталася яна, адчуваючы, як агортвае яе радасць.

— Як бачыце... Ну, як там скончыўся вечар?

— Анічога... Наеліся, насмяяліся... А як ваш хворы?

— Ведаеце, таксама нішто, выпаўзае, сёння ўжо есці папрасіў.

— Шчаслівы вы чалавек.

— Чаму шчаслівы?

— Ну, людзей ратуеце...

— Бывае...— Абое памаўчалі.— А я да вас з прапановаю... Што, калі пад'еду да вас на машыне і мы скочым куды за горад?

Яна спужалася, што ён праз тэлефон пачуе ўдары яе сэрца. Маўчала, ліхаманкава думаючы — згаджацца ці не? Ёй хацелася, вельмі хацелася згадзіцца, але яна не дзяўчынка, яна разумее, што такія прапановы робяцца нездарма, што згадзіцца на прагулку, значыцца, зрабіць яму нейкі аванс...

— Чаму вы маўчыце? Расцаніць ваша маўчанне як згоду?

— Ёсць лацінская прымаўка: кум тацэт — клямант, што азначае — калі маўчаць — крычаць... Так што маўчаць можна і ад абурэння.

— Вас абразіла мая прапанова? — голас не вінаваты, хутчэй упэўнены ў тым, што ён не мог яе гэтаю прапановаю абразіць.

— Ну, як вам сказаць... Яна нечаканая...

— Самае прыемнае ў жыццё прыходзіць нечакана... Як і самае благое, дарэчы... Цераз дзесяць хвілін я з машынаю буду стаяць каля вашага дома.

— Адкуль вы ведаеце мой дом?

— Я ўсё ведаю... Ведаю нават, што вы зараз гаворыце са мной па тэлефоне і захінаеце на грудзях халацік.

— Вы чараўнік! — амаль спалохалася Таня — яна і праўда леваю рукою захінала на грудзях халацік.

— Еду на вы! — сказаў ён і паклаў трубку.

Таня стаяла каля тэлефона, закусіўшы губу. Не, яна не хоча больш ніякіх раманаў, у яе было два, і абодва пакінулі ў душы толькі прыкрасць. Яна, як закахаецца, то траціць галаву, для яе каханне — як хвароба. Цяпер яна здаровая, і так ёй добра жыць у душэўным спакоі. Раман з жанатым мужчынам — бесперспектыўны, не трэба згаджацца на гэту прагулку.

Яна думала так, а сама ўжо вымала з шафы сукенку — тую самую, у якой была ў Веры. Апранулася, прычасалася, папудрыла твар, падмалявала губы. Падышла да акна, глянула ўніз. У двары стаяла сіняя «Волга», за ветравым шклом бялела сіваватая галава. Некалькі хвілін яна стаяла каля акна, пазірала ўніз і яшчэ стрымлівала сябе — не выходзь, ты яму не абяцала, не выходзь...

Машына стаяла ў двары, у яго ў руках апынулася газета, разгарнуў, пачаў чытаць. Відаць, збіраўся чакаць яе доўга. Адчула, як у душу зноў хлынула радасць, зрабілася лёгка і весела. Замкнула кватэру, пабегла ўніз па лесвіцы — да яго.

Яны ехалі спачатку вуліцамі горада, і калі спыняліся каля светафораў, ён паварочваў галаву і глядзеў на яе, яна не адводзіла позірку, яны нібы вывучалі адно аднаго ў новых для іх абставінах. Потым выехалі на шашу, ён прыбавіў хуткасці, у машыну ўварваўся свежы вецер з пахам травы, прыгрэтай на сонцы хвоі.

Яна сядзела побач, але ён, здаецца, не глядзеў на яе, глядзеў наперад, на дарогу.

— І што гэта вы такі вольны казак, дзе ваша мілая жонка? — спытала Таня.

— Жонка з дзецьмі купаецца ў моры,— адказаў ён.

— А колькі ў вас дзяцей?

— Двое... Два хлопцы... Старэйшаму пятнаццаць, а меншаму восем. Старэйшы сур'ёзны, добра вучыцца,

шмат чытае, а меншы трохі спешчаны... Хварэе шмат, дык мы з жонкаю дзьмухаем на яго. Вось і цяпер жонка дзеля яго на поўдзень паехала, ну і старэйшага ўзяла з сабою.

Ён расказваў ёй, як сябру, а не жанчыне, што яму падабаецца і з якою хоча завесці раман, і гэта Тані крышку не спадабалася, хацелася, каб з ёю ён думаў і гаварыў толькі пра яе, хоць ёй і цікава было — як, чым жыве ён у тым, невядомым ёй свеце.

— А жонка ваша хто? — спытала, каб падтрымаць размову ў напрамку, у якім яна пацякла.

— Жонка таксама доктар, педыятр.

Яна нічога не адказала, толькі падумала: што ж гэта вы, два дактары, ды тым больш педыятр, сваё дзіця вылечыць не можаце...

Яны ад'ехалі ўжо далёка ад горада, Таня маўчала, адхілілася на спінку сядзення, любавалася прасторай, што расхіналася наперадзе — пакрытыя лесам узгоркі, шырокія палі з высокім зялёным жытам, лугі, на якіх пасвіліся чорна-белыя каровы. Прыемна было адчуваць мяккае пагойдванне, павевы пахучага ветру, што задуваў у акно.

— Цэлы дзень у бальніцы, у кіслых палатах, так добра вечарам выехаць за горад,— сказаў ён.

— І мяне, значыцца, за кампанію, каб аднаму сумна не было? — павяла на яго Таня позіркам.

Ён памаўчаў, пільна ўзіраючыся ў дарогу, па якой нesліся ім насустрач і праляталі міма, як чмялі, легкавыя машыны, прапаўзалі з гулам цяжкія грузавікі.

— Не падумайце пра мяне блага... Я не донжуан, не валацуга, я прыстойны сем'янін... Цяпер я здраджваю не жонцы, а сабе...

— Пакуль яшчэ, па-мойму, нікому не здрадзілі...

— Здрадзіў... Вы заселі ў маёй галаве, як цвік, яшчэ з мінулага года. Я вельмі паважаю Веру Мікалаеўну, але гэты раз мог на яе дзень нараджэння не прыйсці, яна ведала, што ў той дзень я рабіў складаную аперацыю. Я прыйшоў дзеля вас, ведаў, што вы будзеце там.

Яна магла б сказаць яму, што і ён запомніўся ёй, і яна, ідучы да Веры, думала пра яго, але не сказала.

Ён павярнуў машыну на дарогу, што вяла ў бок ад шашы, бегла па рэдкім лесе, справа на які асядала сонца. На хвіліну яно затрымалася на вяршыні высокай

елкі, пырснула яркім залацістым святлом і паплыло ўніз, прашываючы лес касымі промнямі, кідаючы іх папярок дарогі. Машына падмінала гэтыя промні, ехала па іх, як па грэблі, промні падскоквалі з зямлі і набягалі на твары, паласавалі іх жоўтым святлом. Нібы ўцякаючы ад іх, Сяргей Кірылавіч павярнуў налева, на зялёную дарогу, якая вяла ў глыб лесу.

Яны спыніліся на паляне, парослай нізкай густой травой. Вакол паляны кусціўся арэшнік, за ім уздымаліся ў неба празрыстыя кроны хвой, стаялі панурыя елкі, бялелі камлямі бярозы. Сяргей Кірылавіч выйшаў з машыны, адчыніў дзверцы, запрашаючы выйсці і яе. І яна ступіла на траву, адчуваючы, як грузнуць у ёй высокія тонкія абцасы. З зялёнай травы на іх нібы з дзівам пазіралі дробненькія жоўтыя браткі, ківаў галоўкамі белы рамонак, сінелі званочкі. Сяргей Кірылавіч раскінуў рукі, глыбока ўдыхнуў паветра.

— Чуеце, які рай?.. Пасля шумнага, дымнага горада... Чуеце, якая цішыня?

Вакол сапраўды стаяла цішыня, толькі ціўкала ў лесе невядомая гарадской Тані птушка — тоненька і коратка:

— Ціў... Ціў...

З шырока раскінутымі рукамі ён падышоў да яе, абняў. Яна паспрабавала выслабаніцца, але ён абняў яшчэ мацней, і яна засталася ў яго руках.

Яе бог не пакрыўдзіў ростам, але ён усё роўна быў нашмат вышэйшы за яе, яна падняла вочы, зірнула яму ў твар, сустрэла ясны прамяністы позірк.

— Уявіце, што мы ў раі, што мы з вамі — Адам і Ева...

— А яблык, яблык дзе? — слаба спыталася яна.

— Ёсць яблык! — весела сказаў ён і пусціў яе, пайшоў да машыны, выцягнуў з багажніка стары зялёны плашч, кінуў на траву, з таго ж багажніка выняў некалькі яблыкаў, сыпануў іх на плашч, і яны рассыпаліся па ім — вялікія, чырвоныя.

— Вы чараўнік,— сказала яна.

— Мы з вамі будзем ляжаць, і есці яблыкі, і глядзець на неба, і дыхаць лесам,— гаварыў ён, рассцілаючы плашч на траве.

Яна села, заціснула яблык у далонях, аддаючы яму гарачыню сваіх рук, усперлася локцямі на калені, апусціла галаву.

Ён зноў абняў яе, павольна наблізіў твар да яе твару, асцярожна дакрануўся вуснамі да яе вуснаў. Яе нібы ўдарыла токам, і яна адхіснулася, яблык выпаў з рук, скаціўся з плашча, спыніўся ў густой траве. Ён пачаў яе цалаваць, расшпіліў каўнер яе сукенкі і цалаваў яе шыю, грудзі, цалаваў вочы, вусны.

Спачатку яна баранілася, потым зніклі сорам, страх. Цяпер ёй было ўсё роўна — што ў яго сям'я, што з лесу могуць выйсці людзі і ўбачыць іх, усё роўна, што ён падумае пра яе,— душу затапіла адчайная радасць.

## 4

Празрыста засінелі шыбы — пачыналася світанне, і як злыя духі начы, спужаныя набліжэннем сонца, пачалі знікаць, раставаць малюнкі мінулага, заставаліся толькі, як пасля хваробы, кволасць і смага. Асцярожна, каб не разбудзіць сына, яна паднялася, пайшла ў кухню, сцадзіла з крана цёплую ваду, маленькімі глыткамі пачала піць халодную, адчуваючы, як вяртае яна сілы. Глянула ў акно — і застыла з кубкам каля вуснаў. На ўсходзе, за дахамі высокіх дамоў, запальваўся чырванню гарызонт. Воблакі, аблітыя малінавым святлом, нерухома стаялі над ім вузкімі палосамі, у блакітна-зялёным небе патухаў празрысты серп месяца, каля яго макавым зернем дагарала зорка. З далёкага даля ў акно яе кухні пазірала вечнасць, і Таня раптам адчула сябе нібы далучанай да гэтай вечнасці, злітаю з вялікім, неабсяжным. Адчуванне вечнасці і злітнасці з ёю не прыніжала, а ўзвышала, супакойвала, як далучэнне да бясконцага, еднасць з тым бясконцым.

Яна вярнулася ў пасцель, лягла і заснула як забітая, і калі праз сон разумела ўжо, што пара ўставаць, ніяк не магла загадаць сабе прачнуцца. Праз сілу, як п'яная, паднялася, глянула на гадзіннік — сем. Вось што значыць прывычка — не праспала. Пайшла будзіць Сашу. Усё, што кроіла сэрца ўначы, знікла, зашылася, нібы ў схованку, якую, здаецца, калі нават моцна захочаш, сама не знойдзеш, нахлынулі клопаты дня.

За сталом, калі падавала ўжо Сашу сняданне, спытала:

— Ваша класная сёння будзе ў школе?

Саша з трывогаю глянуў на маці. Ён быў цяпер свежы, памыты, але заставалася ў ім і скаванасць, не было звычайнай гатоўнасці да смеху, да выбрыку.

— А нашто яна табе? — спытаў насцярожана.— Расказваць будзеш, хочаш расказаць? — У голасе пачулася крыўда.

Яна папраўіла каўнер на яго пінжаку, хацелася надаць рукам цвёрдасці, каб не адчуў сын у матчыным дотыку ласкі, яна проста папраўляе яго каўнер.

— А што, сорамна? Не хочаш, каб расказвала? Бачыш, сынок, калі табе за нейкі твой учынак сорамна, калі не хочаш, каб пра яго ведалі, значыцца, гэта кепскі ўчынак, добрых учынкаў не саромеюцца...

Саша нічога не адказаў.

Яна выправіла сына ў школу, прывычна, як рабіла кожны дзень, прыбрала пасцелі са сваёй канапкі, з Сашавай, трохі выцерла пыл — адкуль ён і бярэцца, кожны ж дзень выцірае — і сапраўды пабегла ў школу.

У калідорах было пуста і ціха, ішлі ўрокі, з класаў, каля якіх праходзіла, чуліся то голас настаўніка, то голас вучня, які адказваў урок, то неспакойны шумок дзятвы. Пахла крэйдаю, мокраю анучаю, пылам, які, мусіць, яшчэ не асеў з часу перапынку. Божа мой, які далёкі ад яе ўжо гэты свет, свет новага сшытка, незаструганага алоўка, чарніліцы-невылівайкі, якую насіла ў мяшэчку, зашморгнутым зверху шнурком. Саша піша шарыкаваю ручкаю і яшчэ ў трэцім класе рашаў задачкі, якія дай бог ёй развязаць. І ведаюць цяперашнія дзеці нашмат болей, чым ведалі яны ў іх узросце.

Раптам Таня спынілася — за дзвярыма хлапечы голас дэкламаваў:

Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны маёй убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю...

І нібы знікла тое, што аддаляла ад маленства, нібы прыбегла яно сюды, схавалася за тыя дзверы, варта адчыніць іх, і яна ўбачыць сябе за партаю, і свайго на-

стаўніка — без рукі і з ордэнам на палінялай гімнасцёрцы.

Вучань чытаў упэўнена, з настроем, Таня слухала, і шчымела нечага ў грудзях. А потым падумала — ці ж разумее гэты хлопчык сэнс таго, што вывучыў на памяць? Яна па сабе ведала — некаторыя вершы, знаныя яшчэ з дзяцінства, сэнс адкрывалі з гадамі, а тады запаміналa іх, як папугай. На ўвесь голас гарланіла:

Эх, полным-полна моя коробушка,
В ней и ситцы и парча.
Пожалей, душа моя, зазнобушка,
Молодецкого плеча!

А чаму тыя сітцы і парча ляжалі ў каробачцы, што такое зазнобушка і чаму яна павінна шкадаваць маладзецкае плячо — хто іх ведае. І толькі потым, калі дазналася, хто такія былі карабейнікі, зразумела і песню.

А пушкінскага «Прарока» зразумела наогул зусім нядаўна, неяк перачытала і жахнулася — магутнасці вобразаў, глыбіні сэнсу, зразумела, чаму Пушкін — геній, раней верыла на слова.

Дык ці могуць адчуць, зразумець сённяшнія гарадскія дзеці «Мой родны кут, як ты мне мілы...»? Дзе родны кут гэтых сённяшніх Косцікаў, Сашкаў — кватэры ў шматпавярховых дамах, пад'езды, двары, у якіх выбіваюць дываны і сушаць бялізну? Але хлопчык чытаў з натхненнем, калі і не разумеў як трэба сэнсу радкоў, то паддаваўся, мабыць, магіі паэзіі, яе чарам.

Зазвінеў званок, і пачалі, як лопацца, адчыняцца дзверы, выкідваючы ў калідор тупат ног, крык, смех, што стрымліваліся цэлых сорак пяць мінут. На Таню ніхто не звяртаў увагі, яе аббягалі, міналі, як бурны паток аббягае корч, што трапіў у яго цячэнне і толькі замінае.

Разумеючы, што перапынак кароткі і за гэты час трэба пагаварыць з класнаю, Таня пакіравалася да настаўніцкай, якая была ў канцы калідора і куды акурат сыходзіліся настаўнікі пасля скончанага ўрока.

Убачыла Таня і Сашаву класную — Зінаіду Паўлаўну. Яна ішла — невысокая, у цёмнай спадніцы і шарсцяной сіняй кофтачцы, з кіпаю сшыткаў пад пахаю і журналам у руцэ. Таня пакіравалася ёй насустрач.

— Дзень добры, выбачайце, што ў час перапынку, але, разумееце, потым я пайду на работу...

— Нічога,— супакоіла яе настаўніца.— Вы, здаецца, маці Сашы Каштанава?

— Ага, так, прабачце, можа, рэдка бываю, можа, сын...

Яны прыпыніліся каля настаўніцкай, тут было крышку зацішней, шум і крык заставаліся ўбаку, хаця траплялі і сюды, двое хлопчыкаў, па гадах як Саша, праляцелі паўз іх на злом галавы, даганяючы адзін аднаго, але Зінаіда Паўлаўна, здаецца, зусім не звярнула на іх увагі.

— Я вас слухаю,— сказала яна, убачыўшы, што Таня запнулася.

— Я...— Таня сама не ведала, што ёй сказаць, што спытаць, яна прыбегла сюды, бо адчувала і сваю віну перад сынам — мала за ім сачыла, не памятае, калі апошні раз была ў школе, здавалася, у сына ўсё нармальна, а бяда была ўжо на парозе.— Я зайшла спытаць, як тут Саша...

Рукою, запэцканаю ў крэйду, класная пачала папраўляць сшыткі пад пахаю, адзін ледзь не выслізнуў, Таня падхапіла яго, дапамагла пакласці на месца.

— Ведаеце...— настаўніца крышку падумала,— я, можна сказаць, не маю да Сашы вялікіх прэтэнзій... Ён такі, як усе хлопчыкі ў яго ўзросце... Бывае, што сваволіць, бывае на ўроках няўважлівы, але наогул... Вучыцца нядрэнна... Канечне, мог бы і лепей, мог бы і зусім без троек...

Таня ківала галавою, згаджаючыся — так, так, мог бы і зусім без троек, але не гэта, не тройкі яе цяпер хвалявалі. Настаўніца пакуль не ведала таго, што ўжо ведала Таня.

Зрэшты, можна было пагадзіцца з Любаю, што хлапчукамі больш кіравала свавольства, чым злы намер, але калі сёння Сашу так лёгка ўгаварылі залезці ў склад, дзе ляжаць ракеты, то хто можа даць гарантыю, што заўтра яго не падаб'юць на горшае — залезці ў кішэню да чалавека ці ў кватэру. Вось чаму Таня забегала, вось чаму ўся гэта гісторыя так яе напалохала. І за чым цяпер у Сашы найважней сачыць? Яна спытала ў настаўніцы:

— А дысцыпліна?.. Вы альбо іншыя настаўнікі не

заўважалі за Сашам... Ну, чаго-небудзь... На што трэба звярнуць увагу?..

Ёй хацелася спытаць — які Саша ў школе, з сябрамі, ці сумленны ён, ці не робіць якіх кепскіх учынкаў, але не хацелася ж і нагаворваць на сваё дзіця, насцярожваць увагу настаўніцы.

Зінаіда Паўлаўна яшчэ падумала, паціснула плячмі:

— Ды не... Здаецца, нічога... Як усе...

— Дзякуй вам,— Таня адчула палёгку, нібы падазравала ў сябе цяжкую хваробу, прыйшла да доктара, а доктар сказаў: «Вы здаровая». Адчула і ўдзячнасць да настаўніцы і паспачувала ёй — нялёгка спраўляцца з гэтай стыхіяй, а яшчэ стос сшыткаў нясе дадому.

Калі спускалася па лесвіцы да выхаду, зноў зазвінеў званок, і стыхія, што была вырвалася з берагоў, з шумам вярталася ў свае рэчышча — класы. Беглі па лесвіцы, даганяючы, пераганяючы яе, хлопчыкі, дзяўчаткі ў школьнай форме, класы ўсмоктвалі іх у сябе, як у вір, аж заторы рабіліся перад дзвярыма. Сашу ў гэтым гамузе і мітусні так і не ўбачыла, а можа, ён сам яе ўгледзеў ды прытаіўся.

Недалёка ад школы быў прыпынак аўтобуса, там спыняўся і той, на якім магла даехаць да рэдакцыі. Здалёк убачыла, што з-за павароту выруліў «Ікарус», пусцілася з усіх ног, бегла, трымаючы рукою капялюшык на галаве, прыціскаючы пад пахаю сумку, разляталіся на ветры полы плашчыка. Бачыла, што не паспявае, што аўтобус высадзіў пасажыраў, забраў новых, ужо і дзверы зачыніў, але яна ўсё бегла, хутчэй па інерцыі, бо спадзявацца не было на што.

Мусіць, шафёр убачыў і ацаніў яе настойлівасць, бо міргаў паваротам, але не зрушваў з месца, а калі Таня дабегла, адчыніў ёй пярэднія дзверцы. Яна ўвалілася ў аўтобус, шафёру, які з усмешкаю сачыў за ёю, таксама ўсміхнулася, сказала:

— Дзякуй.

Паехалі. Паволі аддыхвалася. Прабіла талончык, узялася рукою за поручань.

За акном плыла вуліца — знаёмыя будынкі, магазіны, час «пік» ужо схлынуў, і рух паспакайнеў — менш было машын, менш пешаходаў, але ў аўтобусе на кожным прыпынку прыбывала і прыбывала лю-

дзей. Заціснутая з двух бакоў пасажырамі, яна стаяла, пазірала ў акно, а ў вушах яшчэ звінелі дзіцячыя галасы. І ўспаміналіся свае школы.

Іх у Тані было тры — тая, з настаўнікам без рукі, у вылінялай гімнасцёрцы з ордэнам, была ўжо пасля вайны, калі, прапусціўшы ў час акупацыі тры гады вучобы, пасля пятага класа пайшла адразу ў восьмы. А першыя тры гады, тры класы, вучылася ў самай лепшай, узорнай, як тады яе называлі, школе імя Чарвякова.

Ва ўзорнай школе былі ўзорныя настаўнікі і ўзорныя вучні. На ўроках стаяла цішыня, настаўнікі цікава вялі ўрокі, вучылі дзяцей быць праўдзівымі, сумленнымі, адважнымі, паважаць і слухацца старэйшых. Вучылі, што сапраўднае сяброўства не ў тым, каб пакрываць кепскія ўчынкі дружбака, а выкрываць іх і гэтым дапамагаць сябру выпраўляцца. Прыкладам, героем быў Паўлік Марозаў, які выкрыў нават бацьку — ворага.

Дзіцячае Таніна сэрца з вялікай шчырасцю ўбірала ў сябе гэтую навуку, і яна хацела быць сумленнай, праўдзівай, адважнай.

А потым, калі памёр бацька, маці з ёю і з малодшай сястрой Ленай перасяліліся на іншую кватэру, на ўскраі горада, і Таню перавялі ў іншую школу, у тую, што была бліжэй да новага жылля, узорная засталася ў цэнтры.

Школа, у якую перавялі Таню, была не ўзорная, і вучні там былі не ўзорныя. Яны бегалі па партах, на ўроках не слухалі настаўнікаў, падстройвалі ім розныя штукі — то намажуць крэйдаю крэсла, каб настаўнік не заўважыў і сеў, то наловяць і напхаюць у чарніліцу мух, то ўкрадуць класны журнал, поўны двоек. Пасля той, узорнай школы для Тані ўсё гэта было незразумела і жахліва.

Аднойчы адзін хлопчык стрэліў у класе з рагаткі і выбіў шыбу. Прыйшоў дырэктар школы, спыніўся за настаўніцкім сталом, абвёў клас позіркам.

— Хто?

Клас маўчаў.

Дырэктар паўтарыў пытанне:

— Хто выбіў шыбу?

Зноў ніхто не адказаў, а бачылі ж усе, і Таня бачыла. «Чаму ж яны маўчаць? — дзівілася Таня.— Хі-

ба можна пакрываць такія кепскія ўчынкі, маўчаць, калі пытае сам дырэктар школы?..»

— Няўжо сярод вас не знойдзецца ніводнага смелага, сумленнага вучня? — дапытваўся дырэктар.

І Таня не вытрывала, сказала:

— Гэта Колька Драчык...

Дырэктар пахваліў яе, а хлопчыкі пасля ўрокаў падпільнавалі і набілі.

І потым яшчэ некалькі разоў давалі ёй урокі таварыскасці.

Таня і цяпер, дарослая, не ведае, як правільна было павесці сябе ў той сітуацыі — ці выдаць Кольку Драчыка, ці змоўчаць, як усе. Мусіць, трэба было ўсё-такі змоўчаць, не адрывацца, так сказаць, ад калектыву. Але і такая філасофія можа завесці ў балота, будзеш бачыць несправядлівасць, але ўсе будуць маўчаць — і ты змоўчыш... А колькі такіх сітуацый падкідае жыццё... І як вучыць Сашку?..

Задумалася, ледзь не праехала свой прыпынак. Калі прабіралася да выхаду, нейкі мужчына, і не стары яшчэ, замест таго каб даць дарогу, пачаў бурчаць:

— Спала дасюль, а цяпер прэцца...

Нічога не адказала.

На работу прыйшла ў час, амаль разам з Любаю, толькі Таня задыханая, распараная, а Люба — акуратненькая, праз павелічальнае шкло ў акулярах былі відаць падмаляваныя вейкі, пакрытыя блакітнымі ценямі павекі.

Аддыхалася і Таня, прычасалася, села за стол, паклала перад сабою паперы.

Люба папоркалася ў сваёй вялікай скуранай сумцы з замком-маланкаю, якая нагадвала пашчу акулы, выняла з той пашчы кнігу, прынесла Тані на стол.

— Што гэта? — спытала Таня, беручы ў рукі невялікі томік.

— Грошы на штраф,— адказала Люба. Потым растлумачыла: — Мяне даўно просяць напісаць рэцэнзію для часопіса, а я ўсё не выберу часу. Напішы ты. Я пазваню ў рэдакцыю, дамоўлюся.

Гэта з боку Любы было самаахвярнасцю, і Таня не магла прыняць такога яе жэсту.

— Дамаўляліся з табою, можа, яны хочуць, каб іменна ты напісала,— адклала яна ўбок кніжку.

— Ведаеш што,— не то роблена, не то сур'ёзна

ўзлавалася Люба.— Гэта гнілая інтэлігентнасць...— Яна папpавіла на носе акуляры.— Мы, па-мойму, з табою ў такіх адносінах, што няма чаго... Вазьмі і напішы, я табе не адкідаю абы-што, кніга харошая.

Яны сапраўды з Любаю былі сяброўкі. Люба старалася не падкрэсліваць свайго начальніцтва, і Таня была ёй за гэта ўдзячная. Але нешта ў адносінах Любы да Тані было падобнае на апякунства, у нечым Люба прызнавала сваё большае права. Яна, напрыклад, магла дазволіць сабе купіць дарагія модныя боцікі, а калі да такіх боцікаў прыцэньвалася Таня, Любе яўна не падабалася такая яе замашка. Часам Тані здавалася, што каб у яе крышку лепей склалася жыццё, то яны з Любаю былі б не столькі сяброўкі, як саперніцы. А можа, Таня ў нечым і памылялася, ва ўсякім разе, яна даражыла добрымі адносінамі Любы.

— Я бачу, што кніга харошая,— сказала яна,— тым болей сама напішы.

— Давай не будзем таргавацца, не возьмеш ты, я скажу ў рэдакцыі, што адмаўляюся пісаць, дадуць на рэцэнзію абы-каму, шкода аўтара,— заключыла Люба.

Аўтара было шкода, яго не вельмі песціла крытыка, хоць пісаў ён, магчыма, лепей за тых, чые імёны не сыходзілі з газетных палос. Талент аўтара быў някідкі. Ён пісаў пра вайну, але не столькі пісаў пра гераізм, як пра пакуты, якія яна прынесла людзям, ды быў там і гераізм, але не лабавы, не бяздумны, як у некаторых творах, а цярплівы і пакутлівы. Акрамя таго, аўтар не круціўся навідавоку ў начальства, сядзеў ціхенька дома і пісаў. Калі трапіць яго кніга неразумнаму крытыку, рэцэнзія можа аказацца адпіскаю, незаўважанымі застануцца перлы, параскіданыя па апавяданнях, чаго добрага, папракнуць і за вузкае бачанне свету.

— Калі ты і праўда... І калі ў часопісе пагодзяцца,— сказала Таня.

— Усё, дамовіліся,— адрэзала Люба.

Таня паклала кнігу ў сумку, каб дома ўважліва прачытаць, падсунула да сябе рукапіс даволі вядомага аўтара — урыўкі з рамана. Пачала чытаць і толькі цяпер адчула, што недаспала — галава цяжкая, усярэдзіне нядобра, і вочы зліпаюцца. Трэба было перамагаць кепскае адчуванне. Каб рукапіс быў цікавы, то, мусіць, сам па сабе рассеяўся б і сон, але рукапіс уга-

няў яшчэ ў большую дрымоту. Хто яго ведае, гэтага аўтара, здаецца, і таленавіты пісьменнік, а нешта як гоніць яго, гоніць, быццам хоча ўсіх абскакаць, над усімі праславіцца, і ў гэтай пагоні губляе той талент, які мае, збіваецца на прымітыў, на дэтэктыў у горшым яго сэнсе. Але ў сэнсе сацыяльным, палітычным усё ў яго правільна, камар носа не падточыць, заўсёды ў святле апошніх рашэнняў.

Таня ніяк не магла засяродзіцца, паміж чытаннем думала, што трэба зайсці да рэдактара і папрасіць наконт тэлефона... Успамінала школу і голас хлопчыка за дзвярыма — «Мой родны кут, як ты мне мілы...». І яшчэ думала, што трэба пазваніць аўтару рэцэнзіі, якую забракаваў рэдактар, але гэта было непрыемна рабіць, і яна вырашыла, што пазвоніць, можа, заўтра ці паслязаўтра. Потым учыталася, некаторыя старонкі былі яркія, цікавыя, прарываўся талент аўтара.

Зайшоў сакратар рэдакцыі — Віктар Паўлавіч — худы, з глыбока запалымі вачмі, крыху сутулы. Прафесія часта накладае адбітак на твар, на постаць, на рухі, на голас, нездарма мы можам пазнаць у чалавеку настаўніка, доктара, мастака. Доўгая работа журналіста таксама накладвае свой адбітак, вось і ў Віктару Паўлавічу лёгка было ўгадаць старога газетчыка. Ён перажыў ці не пяцёх рэдактараў, работнік быў вопытны і чалавек харошы, заўсёды стараўся згладжваць неразумныя канфлікты, а ў важным заставаўся прынцыповым да канца.

— Ну, дзевачкі, што здасцё ў сакратарыят? —назваў ён дзевачкамі Таню з Любаю, якім падбіралася ўжо кожнай пад пяцьдзесят.

Люба, як загадчыца аддзела, пачала дакладваць, вымаючы са стала матэрыялы, змацаваныя ў левым баку канторскімі шпількамі.

— Можам даць тры рэцэнзіі, на выбар — гэту, гэту і гэту,— назвала Люба аўтараў і кніг, і рэцэнзій.— І яшчэ — Таццяна Максімаўна чытае ўрыўкі з рамана.

Віктар Паўлавіч павярнуўся да Тані.

— Рэцэнзіі мы даем часта, рыхтуйце ўрыўкі з рамана, як яны, цікавыя?

— Н-нішто,— заікнулася Таня.

Віктар Паўлавіч яшчэ крышку пастаяў, падумаў, пайшоў. Узяўся ўжо за ручку дзвярэй, ды азірнуўся, сказаў Тані:

— Падайце ў мясцком заяву, там прыйшлі пуцёўкі ў піянерскі лагер.

— Праўда? — узрадавалася Таня, ды тут жа астудзіла сваю радасць.— Ці дадуць, мне летась давалі.

— Падайце заяву, там будзе відаць... Я буду падтрымліваць...

І пайшоў.

Таня паклала аловак, з якім чытала рукапіс, уздыхнула.

— Залаты чалавек.

Люба складвала ў стосік рэцэнзіі.

— Залаты,— згадзілася яна.— Кепска будзе, калі ён пакіне рэдакцыю.

— А чаму ён павінен пакінуць? — здзівілася Таня.

— Ну, гады... На пенсію пойдзе... Здароўе кепскае.

— Божа мой,— уздыхнула Таня.— Няхай бы добрыя людзі жылі вечна!

Дома Саша папрасіў:

— Мама, я ўключу тэлевізар, там футбол...

— Футбол! — узвысіла голас Таня.— Ніякага футбола! Садзіся вучы ўрокі! Ад троек не можаш адчапіцца! Настаўніца казала, што мог бы і без троек! І я павінна працаваць, трэба зарабляць грошы, думала сабе новае паліто справіць, у старым лісіца ўжо на сабаку падобна, дык грошы прыйдзецца на штраф аддаць!

Саша паслухмяна выцягваў са свайго партфеля падручнікі, клаў на стол — збіраўся рабіць урокі. Разгарнуў кнігу, сшытак, узяў ручку, падпёр шчаку рукою, задумаўся. І раптам сказаў:

— Я вырасту, буду атрымліваць палучкі і куплю табе паліто... І боцікі куплю, як у цёці Любы...

У душы ў Тані ўсё перавярнулася, але пастаралася не паказаць сыну сваёй узрушанасці, спытала крыху з насмешкаю:

— Дык мне што, да тваіх палучак хадзіць у старым паліто?

А сама падумала: «І ўбачыў жа ён у Любы тыя боцікі...»

## 5

Машына ехала берагам мора, якое ўставала справа, нібы сцяна. Пад самае неба ўскідаліся хвалі, абвальваліся на бераг, і ёй было страшна, што хвалі за-

раз затопяць іх. Але іх не затапіла, хваля падхапіла машыну, і яны паплылі ў ёй па моры, як у чаўне. І Тані зноў было страшна, бо яна ведала, што плывуць яны не ў чаўне, а на машыне, што машына не можа плаваць па моры, што яны хутчэй за ўсё загінуць. А далёка ў моры стаяў вялізны белы карабель, і трэба было да яго даплысці. Ад гэтага залежала — загінуць яны ці не загінуць, загінуць ці не... Даплывуць ці не даплывуць...

Зноў перад імі ўздыбілася вадзяная гара, абрынулася на машыну, і Таня ад жаху прачнулася. Некалькі секунд ляжала, спаралізаваная страхам, не магла крануць ні рукою, ні нагою, потым скаванасць пачала праходзіць, але ясным заставалася адчуванне марской прасторы і Сяргеевай прысутнасці, нібы ён толькі што быў тут, побач з ёю.

Мінулае, перакручанае фантазіяй сну, зноў урывалася ў яе свядомасць.

Яны не ездзілі ў машыне па беразе мора, але Таня ўяўляла мора, калі ён гаварыў, што атрымаў пісьмо і сын яму піша: «Я ўжо здаровы і загарэлы, даплываю да буйка, напішы маме, каб яна не сварылася, што я плаваю да буйка, і каб не прымушала есці моркву...»

Ён любіў сына, радаваўся яго пісьмам і чытаў іх Тані. А ёй было няёмка... Няёмка гаварыць, думаць пра яго дзяцей.

Яны не ездзілі берагам мора, яны ад'язджалі на машыне кіламетраў дваццаць, трыццаць ад горада, потым збочвалі ў лес. Ён не браў з сабою ні віна, ні гарэлкі, часам толькі цукеркі, яблыкі, свежыя памідоры. Яны елі і размаўлялі. Аднойчы ён спытаў:

— Ты не была замужам?

— Не,— адказала Таня.

— Куды глядзяць мужчыны,— падзівіўся ён. Потым падумаў і сказаў: — Твой, мусіць, ляжыць пад Сталінградам? Ці пад Курскам?

— Можна суцешыць сябе і такім развažаннем,— адказала Таня.— Але не ўсе ж мае равесніцы старыя халасцячкі... І ўсё ж, мусіць, вайна... Калі і не забрала майго нарачонага, то значна звузіла для мяне выбар...

Яна ляжала на спіне, падклаўшы пад галаву рукі, глядзела на неба, па якім плылі белыя аблачынкі, і гаварыла, як спавядалася:

— Я магла выйсці замуж... Калі была студэнткаю,

быў адзін... Ваня звалі... Сціплы, харошы хлопец. Мы сустракаліся з ім гады два. Ён сказаў мне: «Скончым універсітэт, паедзем разам працаваць». Я адказала: «М-угу»,— што павінна было азначаць згоду. А потым я зразумела, што не люблю яго... І ён паехаў, а я засталася... З майго боку гэта была здрада... Усё верыла, што свайго яшчэ сустрэну, а потым азірнулася — усіх хлопцаў разабралі... У нас на курсе было трыццаць дзяўчат і якіх пяць хлопцаў, ды хлопцы ўсе худыя, малыя, замораныя. Бачыла іх і не разумела — прыгожыя, разумныя дзяўчаты выходзілі замуж не вельмі перабіраючы. Праўда, цяпер і тыя, малыя ды замораныя, павылюднелі — той кандыдат, той дацэнт, той міністр, у капелюшах ходзяць, з партфелямі, адзін дык нават вядомы пісьменнік. Праўду кажуць, што, каб стаць генеральшай, трэба выйсці замуж за лейтэнанта... Я пра генерала не марыла... Не магла без кахання...

Памаўчала крышку, зноў загаварыла:

— Потым было два раманы, але абодва... Адным словам... Там нічога добрага і не магло атрымацца. Адзін быў жанаты, другі — стары халасцяк. Жанаты вярнуўся да жонкі, а стары халасцяк захацеў застацца халасцяком.

Яна сарвала травінку, адкусіла раз, другі, зняла пальцамі з губы зялёную дробачку.

— Потым той, стары халасцяк, гады цераз два хацеў зноў... пачаць усё спачатку... Але я адмовілася.

Яна расказвала яму ўсё шчыра, не стараючыся выставіць сябе ў выгадным святле, нібы нават кідаючы яму нейкі выклік.

Наогул яны былі вельмі шчырыя і адкрытыя адно перад адным, разумелі, што хлусіць ім зусім не патрэбна, хлусня ім нічога не дасць, самая маленькая можа толькі ўсё сапсаваць.

— Ну, а ты? Раскажы і пра сябе... Часта возіш вось так, як мяне, жанчын на палянкі?

Падзьмуў ветрык, здаецца, шпарчэй паплылі па небе воблакі, зашумелі вакол паляны бярозы, сосны. Надрывалася зязюля:

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку...

— Ці часта важу? — перапытаў ён.— Зусім не вазіў... Да цябе... Вайна пачалася — я пацаном быў... Потым падрос і пайшоў дабравольцам. Там сустрэўся з

Валюшаю, яна была медыцынская сястра, зусім дзяўчынка, таксама дабраволка... А пасля вайны вучыліся — і я, і яна. А потым я пісаў дысертацыю. Дзяцей гадавалі... Некалі было раманы вадзіць.

— Можа, таму і пасівеў рана, жыццё меў нялёгкае,— дакранулася яна да яго сіваватай скроні.

— Пасівеў,— усміхнуўся ён, прытуліў яе далонь да сваёй скроні.— Не, гэта не ад клопату, гэта ад генаў, у мяне бацька вельмі рана пасівеў. Калі табе нехта скажа, што пасівеў ад гора,— не вельмі вер, маладыя сівеюць ад генаў, старыя — ад гадоў.

— А хіба ж ад гора не сівеюць? — здзівілася Таня.

— Можна сказаць — не.

Ён расказваў ёй пра свае клопаты — піша доктарскую дысертацыю, але не мае добрай базы для доследаў, не мае часу ездзіць на сімпозіумы, навуковыя канферэнцыі, даўно ляжыць даклад па тэме і не можа яго прачытаць на людзях — вельмі шмат работы ў аддзяленні. Нядаўна быў усесаюзны з'езд хірургаў яго профілю, але яго не паслалі, паехаў той, каму там няма чаго рабіць.

Скардзіўся на іншыя клопаты:

— Я магу зрабіць вывалачку доктару, медыцынскай сястры, але баюся зачапіць нянечку — кіне анучу, венік, і будзь здароў. Перад міністрам не прыніжаюся, а перад нянечкаю — бывае.

— Ты мне падаў цудоўную ідэю,— смяялася Таня.— Пасваруся з рэдактарам, пайду да цябе ў бальніцу нянечкаю, калі на іх у вас такі дэфіцыт.

Ён павярнуўся да яе, абняў, пачаў цалаваць.

Бывалі вечары, калі ён, заняты сваімі клопатамі, не прыязджаў да яе і яна сядзела адна дома, думаючы толькі пра яго, кожную хвіліну чакаючы яго званка. Аднойчы ўявіла сябе яго жонкаю, нібы яна з ім, з іхнімі дзецьмі каля мора... Гэта здалося такім невераГодным шчасцем, такою нязбытнаю052 марою, пра якія і думаць страшна, адагнала ад сябе насланнё.

Неяк душным надвячоркам ён сказаў:

— Праедзем крышку далей, там возера, пакупаемся.

— Але ў мяне няма з сабою купальніка,— сказала яна.

— У горадзе сёння было так горача, што я цэлы

дзень марыў пра гэта возера... І табе прывёз купальнік...

Таня здзівілася:

— Мне купальнік?

Потым спужалася, падумала, што ён прывёз жончын купальнік, не, яна ні за што не надзене купальнік яго жонкі.

— Заехаў у магазін і купіў,— нібы зразумеў ён, што магла падумаць Таня.

Яны паехалі да возера, яно ляжала, як круглае люстэрка, у аправе густой травы, у вадзе адбіваліся сіняе неба і белыя аблачынкі, можна было падумаць, што гэта выразалі кавалак неба і паклалі пасярод травы, Таня аж глянула ўгору, ці няма ў небе дзіры, але неба было цэлае.

Валюхаючыся, паехалі яны па няроўнай зямлі да вады. На беразе возера, там і там, далёка адны ад адных, ляжалі людзі. Сяргей знайшоў зручнае месца, спыніўся.

Таня за кустамі надзела купальнік, адарваўшы папяровы цэтлік, што вісеў, зачэплены за шлейку. Купальнік быў акурат, каб сама купляла, то, можа, так не ўгадала б.

Вада была чыстая, цёплая, дно цвёрдае, не ўзнімалася ад ног каламуці, як часта бывае ў азёрах. Таня акунулася і паплыла па-сабачы, як ні вучылася, не магла адолець ніякага стылю, падграбала пад сябе ваду рукамі, адпіхалася нагамі, толькі што не пляскала імі па вадзе. І ён паплыў — кролем, аж на сярэдзіну возера. Яна глядзела, як ён плыў — па-спартыўнаму, прыгожа, і думала: «Усё ён умее, ва ўсім ён таленавіты...»

Ён паплыў некуды і знік, Таня стаяла ў вадзе, азіралася, яго нідзе не было відаць. Пачала ўжо хвалявацца, ды ўбачыла белаватую яго галаву амаль на другім канцы возера. Яшчэ крыху паплёхалася і выйшла на бераг, пачала чакаць яго. Ён вяртаўся і нешта трымаў у руках. Падплыў бліжэй, і Таня ўбачыла цэлае бярэмя белых, з жоўтымі сярэдзінкамі, гарлачыкаў-лілей.

Выйшаў на бераг і паклаў кветкі да яе ног.

Яна была шчаслівая. Яна папрыгажэла, увесь час свяцілася — вачыма, усмешкаю. На рабоце заўважылі

гэта. Не было чалавека, які не сказаў бы ёй: «Вы вельмі папрыгажэлі...»

Разумная Люба здагадалася:

— Ты што, закахалася?

— Ага,— прызналася Таня.

— Хто ён?

— Якая розніца... Ты яго не ведаеш...

— Ну, хоць па прафесіі хто?

— Доктар, хірург.

— Халасцяк?

— Жанаты.

Люба пакруціла галавою.

— Глядзі, дзеўка... Табе трэба нешта сур'ёзнае, нежанатага трэба, не век жа адной.

— А дзе ты возьмеш нежанатага? Нежанатыя пад Курскам, пад Сталінградам...

Люба, як ніколі сур'ёзна, сказала:

— Ты цяпер проста п'яная, глядзі, надыдзе пахмелле.

Пахмелле надышло.

Ён, як звычайна, пазваніў ёй пад вечар, а потым пад'ехаў на машыне. Яна выбегла — бяздумна шчаслівая, села ў машыну, пачала нешта вясёлае расказваць яму, ды раптам заўважыла, што твар у яго не такі, як звычайна, вельмі ўважліва сочыць ён за дарогаю, не адказвае ўсмешкаю на яе вясёлае апавяданне. І яна прыціхла, падумала: можа, нечым яго пакрыўдзіла? Толькі цяпер заўважыла, што неба нахмурылася, на ветравое шкло ўпалі тонкія касыя рысачкі дажджу. Машына, што ехала спераду, пакідала за сабою цёмныя палосы на асфальце.

— Дождж пайшоў,— сказала яна ціха.

— Ага, гэта кепска,— адказаў ён.

Можна было б вярнуцца ў горад, запрасіць яго да сябе, але прыехалі з дачы суседзі з чарапахаю — саромелася суседзяў.

Ён павёў машыну шпарчэй, неяк ліха абмінаў тых, што ехалі наперадзе. Але Тані не было страшна.

— Добра ты водзіш машыну,— сказала яму, каб пахваліць і, можа, пахвалою вывесці з панурага настрою.

— Дык я ж да машыны дзесяць гадоў на матацыкле ездзіў,— сказаў неяк нявесела.

Дождж пайшоў мацнейшы, а ён усё гнаў машы-

ну — далей, далей ад горада. Куды, навошта, дзе знойдуць яны прыстанак, вакол мокра. Але яна прывыкла падпарадкоўвацца яму. Калі ён едзе, значыцца, так трэба.

Ён павярнуў на тую дарогу, на якую збочылі некалі, першы раз. Спыніўся на той самай паляне — гэта было іх любімае месца. Паляна цяпер была зусім іншая — блішчала абвіслае лісце арэшніку, сплюшчылі свае вянкі рамонкі, абвялі сінія званочкі — усё вакол было мокрае, шэрае. Па даху машыны барабаніў дождж, праз адчыненае бакавое шкло цягнула вільгаццю.

— Не пашанцавала,— сказаў ён.— А сёння я асабліва хацеў сонца.

— Чаму сёння?.. Асабліва?..— нядобрае прадчуванне ўжо варушылася ў ёй.

— Бо сёння наша апошняе спатканне... Заўтра прыязджае жонка з дзецьмі...

«Ну, так, што ж тут нечаканае... Усё мае свой канец»,— думала Таня, а сама адчувала, як камянеюць мышцы твару, застываюць у робленай усмешцы. Ён паглядзеў на яе, адвёў вочы.

— Мне таксама цяжка, разумееш... Але я не магу... Я не магу хлусіць жонцы, кідацца ад яе да цябе...

— Ну, так, так,— згаджалася Таня. А што яна магла яшчэ сказаць? Не кідай мяне, любі мяне, а не жонку?

— Можа, з майго боку гэта непрыстойна... У адносінах да цябе... Ну, усё, што было паміж намі... Можа, я павінен быў сябе стрымаць, даруй мне...

— Не, што ты, не апраўдвайся, я сама вінавата, я ж ведала, што ты жанаты... Для мяне гэта быў месяц шчасця.

— І для мяне...

Ён прыгарнуў яе да сябе. Дождж стукаў у іх над галовамі, а яны сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, і маўчалі. Таня ніяк не магла паверыць, што траціць яго назаўсёды,— вось жа ён, тут, з яго цяплом, з яго дыханнем... Няўжо гэта можа знікнуць так проста, знікнуць, і ўсё...

— Я асуджаў людзей, якія, маючы жонак, заводзяць раманы... Аказваецца, усе мы чалавекі... І гэта цяжка... За ўсё добрае ў жыцці трэба плаціць... Пакутаю, пакаяннем...

— Трэба,— згаджалася яна, а сама думала, што ён — у сям'і, з дзецьмі скора забудзе яе, а яна... У суме, у адзіноце вечароў і выхадных дзён... Не скора перагарыць у ёй гэта каханне, ёй прыйдзецца дорага заплаціць.

— Не крыўдзіся, калі я не буду табе званіць... Я буду цябе помніць, але трэба адразу, як хворы зуб вырываць.

— Хірургічны падыход,— сказала з іроніяй.

— Іначай нельга... Я не магу крыўдзіць жонку, мы разам перажылі шмат цяжкага... Даруй мне...

І нават гэтае жорсткае расстанне, калі рвалі, рэзалі па жывым, не зменшыла павагі да яго, наадварот, яшчэ больш узвысіла ў яе вачах. Ну так, ён не хоча хавацца са мной пазавуголлі, хлусіць і жонцы, і мне, ён не баіцца рэзаць па жывым. Можа, так і лепей, бо ўсё роўна канец быў бы адзін, навошта ж запускаць хваробу, даводзіць адносіны да таго, што ўзненавідзяць адно другога і ў памяці ад кахання застанецца толькі прыкрасць, лепей так, хоць і моцна баліць.

Яны вярнуліся ў горад, ён завёз яе дадому. І гэта быў канец. Ён знік, нібыта болей не існавала яго ні ў гэтым горадзе, ні наогул на зямлі — ні званка, ні паштоўкі.

Таня як захварэла — нічога не ела, пахудзела, яна пастарэла, пабрыдчэла, на скронях убачыла некалькі сівых валасоў. «Ад гора сівых не бывае, значыцца, ад гадоў»,— падумала з горкім сумам, успамінаючы іх размову.

Часам адчай пачынаў так душыць, што думала накласці на сябе рукі — навошта далей жыць, чаго? І нават думала — як гэта зрабіць. І агортваў страх, падступалі млоснасць, мутарнасць, калі ўяўляла сваю смерць. Не, нялёгка гэта зрабіць нават у хвіліну самага горкага адчаю.

Дзівілася сама з сябе — думала пра смерць, хацела смерці, а хадзіла на работу, абедала ў буфеце, размаўляла і нават смяялася.

А цераз месяц пасля іх развітання, калі Таня пачала ўжо пакрысе супакойвацца, аказалася, што яна цяжарная.

Таня выйшла з паліклінікі як аглушаная, з хвіліну стаяла на тратуары, успамінаючы, у які бок ёй трэба ісці дадому, пабрыла па тратуары, між людзей, якія,

як і ўчора, і пазаўчора, ішлі, спяшаліся са сваімі клопатамі, безуважныя да іншых, безуважныя да яе. Як і ўчора, і пазаўчора ехалі па вуліцы аўтобусы, тралейбусы, стаялі чэргі каля латочкаў, дзе нешта прадавалі, экскаватар капаў пасярод тратуара яму. Жыццё ішло, такое жорсткае ў сваім няспынным руху, у сваім імкненні ў невядомае, у будучае, якое праз хвіліну зробіцца мінулым, зноў у будучае, далей, далей, і што б ні здарылася з чалавекам, яно не спыніцца ні на хвіліну — у здзіўленні, спачуванні, адчаі.

Яна прыйшла дадому, замкнулася ў сваім пакоі, лягла на ложак. Потым злавіла сябе на адчуванні, што ёй хочацца моцна зарагатаць. Ці не пачынае яна вар'яцець? І ўсё ж ёй хацелася зарагатаць, і яна села на ложку, закрыла твар далонямі, засмяялася.

Яна была ўпэўнена, што такое з ёю здарыцца не можа — чаму ж раней не было, у гады маладзейшыя? І раптам... Во фокус, як сказала б Люба. І што цяпер рабіць? Страшна, непрыемна, але прыйдзецца зрабіць тое, што робяць у такіх выпадках многія жанчыны, не я першая, не я апошняя.

Першая, апошняя... Але гэта са мною здарылася першы раз у жыцці, першы раз і апошні... Смешна было б у маім узросце строіць ілюзіі, спадзявацца на цуд — што яшчэ сустрэну чалавека, палюблю, выйду замуж і нараджу... Хопіць з мяне кахання, сытая па макаўку. А дзіця? Што, калі нарадзіць дзіця?..

Яна ўстала, пачала хадзіць па сваім невялічкім пакойчыку. «Вось тут пастаўлю ложачак... Будзе дзяўчынка, вядома, дзяўчынка, у яе будуць белыя валаскі і сінія вочкі... Я ж так хацела некалі мець дзіця, і вось яно, і што ж яго — забіць?»

Таня хадзіла па сваім пакойчыку, як ваўчыца, замкнёная ў клетцы. Жаданне мець дзіця і страх, што прыйдзецца перажыць — сорам, адказнасць перад тым, невядомым яшчэ жыццём, ды і цяжкасці, звычайныя цяжкасці, ёй жа зусім няма адкуль, ад каго чакаць дапамогі, сястра з мужам на Далёкім Усходзе, ды каб і тут была — у яе свая сям'я, дзеці.

Ну, сорам, гэта глупства, разважала Таня. Цяпер не той час, як некалі, ды яшчэ ў вёсцы, дзёгцем вароты такім жанчынам не мажуць. Вунь тая, архітэктарка, успомніла Таня адну жанчыну, замуж не выйшла, а бачыла, што старэе, і нарадзіла... А Верына сяброў-

ка, Нэла, успомніла яшчэ адну жанчыну, якая нарадзіла без мужа. Бо кожная жанчына хоча мець дзіця... І страх адзіноты... Каб не застацца пад старасць з адной чарапахаю...

Яна ўвесь вечар праседзела ў замкнёным пакоі, то ляжала, то хадзіла, то сядзела, упершы галаву на рукі. Нехта званіў, але яна не пайшла да тэлефона, прытопала суседка, пашкрэбла ў яе дзверы:

— Танечка, вас да тэлефона...

— Мяне няма дома,— гукнула, не адчыняючы дзвярэй, не баючыся, што там, на провадзе, пачуюць, здагадаюцца — яна проста не хоча браць трубкі.

Ёй трэба было разабрацца ў тым, што з ёю здарылася, абдумаць з усіх бакоў. І яна зноў думала, ужо ў вечаровых прыцемках, не запальваючы святла.

«Ну, так, давай спакойна, без хвалявання... Што са мною здарылася? Бяда? Аперацыя — гэта, вядома, аперацыя, і ўсё можа быць, можна нават і памерці. Але памерці можна і ад грыпу, і ад ледзяша, што ўпадзе з даху на галаву. Цяпер такія аперацыі рабіць не забараняюць, хоць і не раяць, усё будзе прафесійна, так што не памру. А калі нават і так, то няхай, нядаўна ж сама хацела смерці... Толькі шкода забіваць таго... Больш ніколі, ніколі ў мяне не будзе, гэта факт... І ў перспектыве чарапаха... А так — будзе родная душа, свая крывінка... Людзі з прыютаў бяруць, да чужых душою прырастаюць, а тут будзе сваё...

Але каб была замужам, хоць які месяц, а потым разышлася, колькі цяпер разведзеных і самі гадуюць дзяцей... Усё-такі ў дзіцяці прозвішча бацькі і імя па бацьку... А так... Прыйдзе час, і яно спытае: «А дзе мой тата?»

На кожнае «за» знаходзілася дзесяць «супраць», і задачу гэту рашыць было немагчыма, тым больш што разбалелася галава, агарнула слабасць. «Ну вось, куды табе дзіця заводзіць, не ў твае гады, дзяцей трэба раджаць у маладосці»,— падумала з горыччу. «Але арганізм, мусіць, ведае, што робіць, калі выкінуў такую штуку, то, мусіць, спадзяецца на свае сілы...» І на кожнае «супраць» знаходзілася «за».

Усё гэта немагчыма было перамолваць у галаве, нікому не даверыўшыся, ні з кім не параіўшыся, і назаўтра вечарам яна пайшла да Веры.

Вера была дома адна — у паркалёвым халаціку, з

касою, закручанаю ззаду абаранкам, утульная, будзённая — не імянінніца і не начальніца на сваёй рабоце, звычайная жанчына. Веры таксама не вельмі пашанцавала ў жыцці — была замужам, развялася, жыла з маці і гадавала дачку — дзяўчынцы ўжо трынаццаць. Поўная жыццёвай энергіі, душэўная, добразычлівая, Вера, здаецца, зусім не перажывала сваёй сямейнай няўдачы, была шчаслівая работаю, дачкою, вельмі клапацілася пра маці, у яе было шмат родзічаў — братоў, сёстраў, і родных, і стрыечных, і ўсе грэліся каля яе дабраты — таму яна даставала дэфіцытныя лякарствы, таго аглядала дома як доктарка, таго бегла павіншаваць з днём нараджэння.

— Танечка! — узрадавалася Вера.— Сто лет, сто зім, як той казаў, прапала ты з майго гарызонта, учора я табе ўжо званіла, але цябе не было дома.

— Была я дома,— адказала Таня, праходзячы з калідорчыка ў пакой,— не хацелася ісці да тэлефона.

Круглыя Верыны вочы яшчэ больш пакруглелі.

— Гэта ўжо нешта новае, раней такога за табою не заўважала, сядай,— паказала яна на крэсла, пакрытае тканаю накрыўкаю.

Верына кватэра напомніла Тані той дзень, ці хутчэй вечар, калі тут было весела, гаварыліся тосты, сыпаліся жарты, калі яны з Сяргеем сядзелі побач і з дотыку рук, невыразных адчуванняў нараджалася тое, што цяпер абрынулася на яе такой бядой. Было дзіўна, што не стаіць пасярод пакоя доўгі стол з батарэяю бутэлек, з закускамі, што ў кватэры прасторна.

— Ну, расказвай, як жывеш, якія навіны і чаму гэта табе раптам не хочацца браць тэлефонную трубку? — спытала Вера.

Таня крышку памаўчала, паглядзела на свае пазногці з ружовым аблупленым манікюрам, сказала, стараючыся пабароць хваляванне і сорам:

— Я зацяжарала...

Бровы над круглымі Верынымі вачмі паплылі ўгору, некалькі хвілін моўчкі глядзела яна на Таню, можа, чакаючы, што тая засмяецца, скажа, што пажартавала, ды разумела — такім не жартуюць, і па Тані было відаць — ёй не да смеху.

— Гэта сапраўды навіна,— апусцілася на крэсла Вера.— Толькі... Толькі... Хто ён?..

Так і ведала Таня, гэта пытанне будзе цяпер кру-

ціцца над ёю, вакол яе, усе будуць пытацца, гадаць: хто? Але яна не скажа, яна не можа гэтага сказаць, не мае права.

— Гэта няважна, Вера, ты яго не ведаеш,— сказала назнарок, што не ведае, хто-хто, а Вера яго ведала выдатна, бачыла, мусіць, кожны дзень.

— Дык я думаю... Калі так здарылася... Ён возьме цябе замуж,— цвяроза разважыла Вера. Сумленная, наіўная сяброўка, яна не магла дапусціць, што Таня завяла раман з жанатым чалавекам.

— Ён не можа ўзяць мяне замуж, бо ён жанаты,— адказала Таня.

Абурэнне, шкадаванне, папрок — усё адбілася на Верыным твары, але ў добрай душы пераважыла, мусіць, шкадаванне. Вера паднялася, выйшла на кухню, вярнулася са шклянкаю вады, падала Тані.

— Але я не хачу піць,— сказала Таня.

Вера выпіла сама, уздыхнула, пакруціла галавою, спытала:

— І што ты думаеш рабіць?

Таня развяла рукамі.

— Не ведаю, вось прыйшла да цябе параіцца... Можа, пакладзеш у сваю бальніцу?

Таня бачыла, што Веру ўразіла яе прызнанне, разумела Таня і тое, што сяброўка цяпер хоча аднаго — памагчы ёй, як зможа і чым зможа.

— У бальніцу я цябе магу пакласці,— сказала Вера, круцячы ў руках шклянку з рэшткамі вады.— Але ты падумай...

— А што думаць, што думаць! — горача загаварыла Таня.— Каб людзі пальцамі тыкалі — без мужа нарадзіла!

Вера так махнула рукою, што рэшткі вады са шклянкі выплеснуліся на падлогу.

— Гэта глупства, мяшчанства, мы жывём не ў сярэднія вякі, цяпер шмат такіх, і жанчын гэтых паважаюць, ніхто іх не асуджае!

— А само дзіця? Ці маю я права, ці не асудзіць яно мяне потым?

Таня ставіла перад Верай пытанні, якімі перамучылася сама — што скажа Вера, а значыцца, і людзі.

— Дзіця? — Вера задумалася.— Ну, ты дасі яму жыццё... Можа, яно будзе нялёгкае, як кожнае чалавечае жыццё... Але яно ўзбагаціць свет...

— Філосаф! — засмяялася Таня. Яна магла смяяцца і здзівілася таму.

— Падумай, Таня...

Яны некалькі хвілін маўчалі, Вера паглядзела на пустую шклянку, што дасюль трымала ў руцэ, паставіла на стол. На кухні нешта зашыпела, і яна выбегла, загрукала там начыннем, вярнулася з ручніком на плячы.

— Можа, ты есці хочаш, у мяне рыба смажаная.

— Не, дзякуй,— пакруціла галавою Таня.

Зноў нейкі час маўчалі, потым Таня сказала:

— Калі ты такая разумная, маеш адказы на ўсе пытанні, то скажы мне... Ці павінна я... Ну, расказаць таму чалавеку?

Яна перамучылася і гэтым пытаннем, і тут знаходзілася на кожнае «за» сваё «супраць», яна так заблыталася ў гэтых «за» і «супраць», што і іх павінна была вынесці на людзі.

Вера задумалася.

— Ну, каб я ведала гэтага чалавека,— пачала разважліва.

— Ведаць яго не трэба, чалавек як чалавек, прыстойны сем'янін... Будзем лічыць яго абстрактным мужчынам...

— Ну, я думаю так,— Вера пачала няўпэўнена, потым усё з большым перакананнем: — Каб ты збіралася пазбавіцца, то, відаць, можна было б і не гаварыць, а калі будзеш пакідаць, то...

Прыйшлі Верыны маці з дачкою, і маці і дачка вельмі падобныя на Веру, здавалася, вось такая будзе Вера ў старасці — ахайная сівая бабулька з добрым тварам, а такая была некалі — цыбаты падлетак з пяшчотнаю акругласцю падбародка, з мяккай ружовасцю чыстых шчок.

— Вячэра на пліце, калі астыла — падагрэйце, а я пайду з цёцяй Таняю, прайдуся,— сказала ім Вера.

Канечне, цяпер, пры дачцэ ды пры мацеры, не пагаворыш.

Лета канчалася, і хоць днямі яшчэ прыгравала сонца, вечарамі наплывалі вільготныя туманы, рабілася золка і холадна. Пахла цвіллю ад гародчыкаў, якія атулялі дамы, загаралася чырванню лазіна вінаграду, што плялася з зямлі па сцяне да балкона.

Яны гаварылі пра тое, што здарылася з Таняй, і Ве-

ра нарэшце заахала, завохкала, так здзівіла яе Таня, не чакала такога ад яе — гэта ж трэба, звязацца з жанатым мужчынам. Яна то ўшчувала Таню, то зноў угаворвала пакінуць дзіця, прыводзіла довады, якія прыводзіла сама сабе і Таня — аб адзінокай старасці, аб блізкім чалавеку, якога сама сабе павінна стварыць.

— Што б я цяпер рабіла, як бы я жыла, каб не было ў мяне Ірынкі? Не было б сэнсу жыць...

— А ці не будзе гэта эгаістычным? — пыталася Таня.— Думаць пра сябе, пра сваю старасць... Можа, лепей падумаць пра дзіця, пра яго лёс?

Вера раптам спынілася, стала насупраць Тані, замахала перад яе тварам рукамі. Здаецца, ніколі не бачыла Таня ў такім гневе заўсёды дабрадушную Веру.

— Раней трэба было думаць! Тожа мне! Разважае пра эгаізм! Што лепей для дзіцяці — каб яго забілі ці каб яно ўбачыла свет? Тожа мне!

Таня толькі міргала вачыма, прагаварыла, апраўдваючыся:

— Там жа яшчэ не дзіця, эмбрыён...

— Сама ты эмбрыён! — абняла яе Вера.

— Я падумаю,— апусціла Таня галаву.

— Думай, Таня, думай, ніколі не шкодзіць падумаць, сем разоў адмерай...

І Таня думала. Разумела — адкладваць нельга, мае значэнне кожны дзень, каб не аказалася позна,— і ўсё ніяк не магла прыняць рашэння. А над тым зачараваным колам, як стрэмка ў мазгах, у сэрцы — сказаць яму ці не сказаць... Пасля доўгіх хістанняў у той і ў другі бок вырашыла, што трэба сказаць. А можа, на вагі лягло і перацягнула жаданне ўбачыць яго яшчэ хоць раз, бо ў душы разумела — ён нічым не дапаможа, усё роўна будзе так, як вырашыць яна, сустрэча з ім прынясе толькі крыўду, ён, вядома, не ўзрадуецца такой навіне.

І ўсё ж не стрымалася.

Таня ведала, што работу ён канчае ў чатыры гадзіны. Каля чатырох падышла яна да брамы клінічнай бальніцы. Паміж высокіх карпусоў па асфальтавых дарожках хадзілі хворыя ў цёплых бальнічных халатах, як белыя гускі, прабягалі сёстры, нянечкі, хадзілі там і звычайныя людзі, мусіць, адведвалі хворых. Уявіла яго ў тым далёкім ад яе свеце — у белым халаце, з

марлевую павязкаю на твары, за аперацыйным сталом. Чаго яна ўварвалася ў яго свет?.. І чаго ён уварваўся ў яе жыццё?.. Няўжо не маглі размінуцца, разысціся, столькі ў жыцці сцежак, дарог, столькі людзей на зямлі. І ўсё ж Таня адчувала — не шкадуе яна, што скрыжаваліся іх дарогі, можа, і жыць было варта для гэтай сустрэчы і для таго, што яна пакінула.

Збіраючыся сюды, спадзеючыся яго ўбачыць, Таня і апранулася, і прычасалася харашэй, і вочы падвяла. Яе часам крыўдзіла несправядлівасць — колькі непрыгожых, неахайных, ды і неразумных жанчын — шчаслівыя жонкі, маткі, і чаму іншых — і прыгожых, і не дурных — абдзяляе лёс. А яна сябе лічыла іменна такою — прыгожаю і не дурною.

У грудзях трымцела ад хвалявання — зараз ён выйдзе, яна яго ўбачыць, што ён скажа... Крыху абражала, што павінна хадзіць, чакаць яго, можа, павярнуцца ды пайсці, усё роўна гэта спатканне нічога не дасць, акрамя прыкрасці. І ўсё ж хадзіла, як прывязаная да гэтай брамы, не могучы адмовіцца ад прынятага рашэння, быццам запраграмавала сабе, як машыне, гэту задачу — сустрэцца з ім, і зараз, каб і хацела, закрэсліць праграмы не магла.

Глянула на гадзіннік — дваццаць мінут пятай. А можа, ён адразу не пойдзе дадому, можа, пойдзе рабіць свае доследы... А можа, ён у камандзіроўцы, на якім сімпозіуме — не мог ніяк вырвацца, ды нарэшце вырваўся... А можа, проста захварэў і ляжыць дома, а яна тут сноўдаецца, як дурная.

Праходзілі хвіліны, напятыя нервы павольна адпускаліся, ужо не верыла, што сустрэне яго, але не магла адарвацца ад гэтай брамы. І калі зусім страціла надзею на спатканне, убачыла знаёмую сіваватую галаву — ён ішоў энергічнаю паходкаю, без шапкі, у караткаватым шэрым плашчы, з партфелем у руцэ. Кальнула ў сэрца, аслабелі ногі. Стаяла ўбаку, каля жалезнай агароджы, глядзела, як ён ішоў цераз двор, набліжаўся да брамы. Выйшаў на вуліцу, павярнуў налева.

Таня пакіравалася за ім. Цераз некалькі крокаў дагнала, але не адважвалася гукнуць, ішла, гледзячы на яго патыліцу, на каўнер плашча, адчуваючы, якое ўсё гэта блізкае, роднае і — забароненае.

Можа, ён сам адчуў яе, бо раптам азірнуўся і спы-

ніўся. Здзіўленне... Радасць... Таня магла пабажыцца, што была на яго твары радасць...

— Адкуль ты?

Яна глядзела на яго, нічога не адказваючы, удзячная яму за гэту радасць, яна была гатова і да халоднага позірку, і да сухога слова — дамовіліся ж болей не сустракацца.

— Я рады цябе бачыць... Ты вельмі добра выглядаеш...

І яна ўглядалася ў яго твар — нешта ў ім змянілася, няўлоўна змянілася. А можа, проста не прывыкла яго бачыць у гэтым плашчы, у гэтай кашулі з гальштукам. Божа мой, ён жа ўвесь гэты час, пакуль яна яго не бачыла, жыў на свеце, іншыя людзі сустракаліся з ім кожны дзень, і гэта для іх было звычайна.

Яны стаялі на тратуары, іх з двух бакоў абміналі людзі, зачапілі яго партфель, і ён пераклаў партфель у другую руку.

— Што ж мы стаім пасярод тратуара, давай адыдземся ўбок,— узяў ён яе за локаць.

Яны адышлі пад агароджу клінікі, за якою, у двары, раслі старыя ліпы з цёмнымі кронамі, сталі пад тыя ліпы.

Першы парыў — здзіўленне, радасць сыходзілі з яго аблічча, на іх месца прыходзіла заклапочанасць, ён ужо не вывучаў Таніпага твару, некалькі разоў кінуў позіркам навокал, нібы баючыся, што яго ўбачыць нехта знаёмы.

— Як ты жывеш? — спытаў ужо, здаецца, толькі з далікатнасці, так пытаюць у чалавека, калі не вельмі і цікавяцца, як ён жыве.

Яна нічога не адказала, усім сваім жаночым інстынктам разумеючы, што калі тая, першая радасць, была і шчырая, то ён ужо перамог яе, цвярозы розум паклаў ужо шурпатую далонь на пачуцці, яго намер — больш не мець з ёю ніякіх кантактаў — застаецца нязменным, і лепш за ўсё сказаць яму, што жыве яна добра, і пайсці, пакуль не позна, пакуль не абразіў яе сваім раўнадушным холадам. Думала адно, а гаварыла ўжо другое.

— Сустрэча наша не выпадковая,— паднялася на пальчыкі, сарвала з ліпы круглы, з зубчыкамі па баках, лісток.— Я цябе чакала... Хачу з табой пагаварыць.

— Што-небудзь здарылася? — спытаў ён заклапочана.

Побач з імі шумела вуліца — ішлі людзі, з гулам праязджалі тралейбусы, з грукатам — аўтобусы, недалёка ад іх адбойным малатком збівалі асфальт з тратуара. Месца для размовы не самае лепшае.

— Давай сядзем у тралейбус, праедзем пару прыпынкаў, зойдзем у парк,— сказала Таня.

Ён, вядома, не планаваў гэтай сустрэчы і тым болей паездкі ў парк, з хвіліну маўчаў, нібы думаючы — згаджацца ці не, і Таня ўжо чакала, што ён пачне адмаўляцца — «няма часу», «спяшаюся», але ён, хоць і не вельмі ўпэўнена, сказаў:

— Давай...

Яны селі ў тралейбус. Ён купіў два білеты, але ехалі, як незнаёмыя, ні пра што не гаварылі.

Выйшлі каля парку, цераз браму зайшлі ў яго сыраватую прахалоду.

Па баках шырокай цэнтральнай алеі на лавачках сядзелі пажылыя людзі, няйнакш, пенсіянеры, стаялі калясачкі з немаўляткамі, большыя дзеці забаўляліся гульнямі, бегалі адно за адным.

Таня з Сяргеем збочылі на вытаптаную ў траве чорную сцежку, пайшлі па ёй поплеч.

— Дык што здарылася? — спытаў ён, павёўшы на яе запытальным позіркам.

Таня набіралася духу. Набралася.

— У мяне павінна быць дзіця...

Адчула гаркату ў роце, і дробненька закалола ў скроні, і аслабелі ногі, аж захацелася ўзяцца за яго руку, але не ўзялася.

Ён маўчаў. Што было ў яго маўчанні? Здзіўленне? Абурэнне? Прыкрасць?

Нарэшце ён сказаў крыху хрыплаватым голасам:

— Я б вельмі хацеў табе памагчы... Скажы, чым я магу табе памагчы?..

Яна сама не ведала, што хацела пачуць ад яго, яна вельмі баялася, каб не падумаў ён, што яна цяпер будзе нечага ад яго патрабаваць, ёй проста важна было, каб ён зразумеў — у яе жыцці гэта як бомба...

— Разумееш... У мяне да цябе... Я да цябе,— пачала яна збіўчыва,— не маю ніякіх прэтэнзій... Я сама вінавата, і я думала — гаварыць табе ці не, вырашы-

ла, што павінна сказаць, ці, можа, я не павінна была гаварыць?..

— Добра, што сказала, але чым я магу табе памагчы?..

— Я не чакаю ніякай дапамогі, я проста табе сказала...

Яе крыўдзіла гэта пытанне пра дапамогу, быццам яна, як жабрачка, прыйшла прасіць у яго міласціны. Зноў доўга ішлі моўчкі, потым ён сказаў, не вельмі ўпэўнена:

— Я магу арганізаваць... Ну, будзе прафесійна, без рызыкі, на самым высокім узроўні, праз тры дні будзеш здаровая, і ведаць ніхто не будзе...

Усё, што пакутліва ціснула ў грудзях, быццам абарвалася, абвалілася, і там утварылася пустата, быццам яна нечага чакала, на нешта спадзявалася, а яе ашукалі, паперка была складзена пад цукерку, а ўсярэдзіне — пуста.

Яны зайшлі ўжо глыбока ў парк, рудыя голыя камлі хвой з абламанымі сукамі ўскідалі ў неба калючыя парасоны кронаў, праз іх прасвечвала шэрае неба, а ўнізе сцежку ўкрывала ржавая хваёвая ігліца. На кустах каліны, што расла справа ад сцежкі, ярка спелі чырвоныя ягады.

— А калі я вырашу пакінуць? — спытала Таня.

Цяпер ён спыніўся, стаў насупраць яе — высокі, шырокі ў плячах, і блізкі ёй, і далёкі, і свой, і чужы. Бровы яго хмурыліся, вочы шукалі яе позірку і быццам прасілі зразумець яго, зразумець і дараваць.

— Пры нашым развітанні... Я папярэджваў... Нічым не змагу памагчы... Танюша, у мяне сям'я,— ён узяў яе за руку, і Таня здзівілася, якая яго рука халодная,— і я не магу яе пакінуць... І я не магу пакрыўдзіць жонку, а калі яна даведаецца пра гэта, то цяжкі ўдар... Я не змагу памагаць табе нават матэрыяльна, бо ўсе грошы аддаю жонцы... Калі я вінаваты перад табою — даруй мне, але...

Яна не адбірала ў яго рукі, хоць тое, што ён гаварыў, абражала, крыўдзіла. Гэты дотык вяртаў у мінулае, у тое, што было, ад чаго ён цяпер адракаецца і ад чаго ніяк не можа адрачыся яна.

— Сярожа, няўжо ты падумаў, што я прыйшла прасіць цябе пакінуць жонку... Ці шантажыраваць цябе... Ці прасіць матэрыяльнай дапамогі... Барані божа...

Мне нічога гэтага не трэба, я сама не дазволіла б табе кінуць сям'ю... І зарабляю я сама няблага... Я прыйшла да цябе, бо гэта і тваё... Каб ты ведаў... Я, хутчэй за ўсё, яго пакіну, бо...

Ён выпусціў яе руку, стаяў, пазіраў сабе пад ногі, і твар у яго быў вінаваты.

— Не крыўдзіся на мяне... Далібог, я не нягоднік... Але часта бываюць сітуацыі... Ну што, што я магу зрабіць для цябе?

Таня ўздыхнула.

— Самае лепшае, што ты мог бы зрабіць, гэта сказаць мне, што ты мяне яшчэ хоць крышку любіш...

Ён усміхнуўся, абняў яе, але тут жа апусціў руку.

— Я цябе яшчэ люблю... І часта ўспамінаю... Але я нічога не магу зрабіць... Я табе ўжо казаў — не магу разрывацца паміж жонкаю і каханкаю, хлусіць адной і другой, я прымусіў сябе адрэзаць раз і назаўсёды...

— Ці прывыкаць табе рэзаць...— усміхнулася Таня.— Але прабач... Твая праўда... Жыві шчасліва... Больш я цябе не патрывожу.

Ёй трэба было набрацца сілы, каб апошні раз глянуць яму ў твар, павярнуцца і пайсці, пакінуўшы яго на дарожцы, усланай іржавай хваёвайігліцай. Пайсці, ведаючы, што ён там стаіць і пазірае ёй услед, і стрымаць сябе, не азірнуцца, і пастарацца ўкласці ў паходку як мага больш незалежнасці.

Дома яна не плакала, а неяк уся сцялася. Зноў хадзіла па пакоі, як ваўчыца, і на злосць яму, на злосць яшчэ невядома каму вырашыла пакінуць дзіця. Няхай прыйдзе на свет, няхай гадуецца, будуць удваіх, не адзінокія.

## 6

Прыняўшы рашэнне, Таня паспакайнела, хадзіла на работу, заказвала і рыхтавала да друку рэцэнзіі, артыкулы, часам цэлыя літаратурныя старонкі, адказвала на пісьмы. Гэта была, бадай, самая цяжкая работа ў аддзеле, і выконвала яе Таня, Люба як загадчыца толькі падпісвала лісты.

Рэдакцыю завальвалі вершамі, але толькі іх наіўныя аўтары маглі лічыць, што гэта вершы, з паэзіяй рыфмаваныя радкі, што грудзіліся на Таніным стале, не мелі нічога супольнага.

І трэба было цярпліва, не абражаючы найлепшых намераў і пачуццяў аўтараў, растлумачваць, чаму гэтыя вершы нельга надрукаваць, а растлумачыць было цяжка. У адказ на свае пісьмы яна часта атрымлівала гнеўныя папрокі — «А вы навучыце мяне пісаць так, каб можна было друкаваць!». Іншыя скардзіліся ў вышэйшыя інстанцыі, былі ўпэўнены, што вершы іх не горшыя за тыя, што друкуюцца ў газеце, рэдакцыя проста зацірае невядомых аўтараў.

Рэдактар выклікаў Таню, паказваў такія скаргі, патрабаваў, каб яна пісала аўтарам больш падрабязныя лісты, з падрабязным разборам вершаў, больш аргументаваныя.

— Міхаіл Арсенавіч,— гаварыла Таня,— пераканаць каторага з іх проста немагчыма, ёсць такія графаманы, што ў іх хоць кол на галаве чашы.

— А вы тлумачце, тлумачце,— гаварыў рэдактар.— Гэта ваша работа, на тое вас ва універсітэце вучылі.

Таня абяцала:

— Добра.

Яна, як і да гэтага часу, сумленна, шчыра працавала, але ад усяго іншага быццам адгарадзілася, быццам стварыла вакол сябе паветраную падушку, якая павінна была абараняць ад непатрэбнага. Прыходзячы дадому, яна пагружалася ў сябе, нібы прыслухоўвалася да таго, што адбывалася ў ёй самой.

«Няхай бы была дзяўчынка... Ах, няхай бы была дзяўчынка»,— думала Таня. Яна так хацела, каб нарадзілася дзяўчынка, што нават імя ёй прыдумала — Даша. Ёй падабалася гэта імя — Даша.

У рэдакцыі пакуль нічога не заўважалі, а Таня нікому нічога не расказвала, нават Любе. І ўсё ж — шыла ў мяшку не схаваеш. Першая зноў-такі заўважыла Люба. Яна сядзела за сталом, праз свае круглыя акуляры ўважліва сачыла, як Таня падыходзіла да тэлефона, вярталася на сваё месца. Таня адчувала на сабе гэты дапытлівы позірк і думала: «Няхай сабе... Усё роўна ўсе даведаюцца».

— Слухай, дзеўка,— загаварыла Люба,— гляджу я на цябе, гляджу і гатова аб заклад пабіцца, што ты цяжарная.

Таня пераклала паперы з аднаго боку на другі, памаўчала.

— І выйграла б заклад,— сказала спакойна.

Люба адкінулася на спінку крэсла.

— Ад каго?

Невядома, чаго больш было ў Любіных вачах — ашаламлення, цікаўнасці, спагады.

Таня чакала гэтага пытання.

— Ты яго не ведаеш.

— Разумею, хаваеш... Тваё дзела... Не буду дапытвацца. Да-а...

Люба кінула аловак, адсунула ад сябе рукапіс, было ясна, што працаваць яна больш не можа, так уразіла яе навіна.

І Таню ўзрушыла размова, круціла ў руках аловак, стукала ім па стосіку чыстай паперы, што ляжаў перад ёю,— збіралася пісаць адказ чарговаму паэту.

— Значыцца, думаеш адна гадаваць дзіця... А ты ведаеш, як цяжка гадаваць дзяцей, у мяне мама, муж і то...

Канечне, Люба была адна са шчаслівых жанчын, яна мела клапатлівага мужа — ідучы з работы ён заходзіў ва ўсе магазіны, што былі па яго дарозе, і прыносіў дадому цэлы партфель прадуктаў, ён па начах уставаў да дзіцяці, мяняў пялёнкі і падаваў малое Любе ў пасцель — толькі пакарміць, ён ніколі не сказаў Любе грубага слова. З імі жыла Любіна маці, якая вяла ўсю гаспадарку, і то Люба гаварыла, што другое дзіця нарадзіла зусім выпадкова, а болей, прабачце, ні за што на свеце.

— Цяпер ужо нічога не зробіш, буду гадаваць,— сказала Таня.

Люба сашчапіла рукі.

— Танька, ты гераіня... Канечне, вырасце дзіця, нідзе не дзенецца, я ведаю такіх кабет, родзяць сабе дзяцей і гадуюць... Ты — гераіня!

Яны доўга гаварылі. Люба то пужала Таню цяжкасцямі, то захаплялася яе смеласцю, абяцала і маральную, а калі спатрэбіцца, і матэрыяльную падтрымку.

Таня была ўдзячная Любе за тое, што не асудзіла, не пачала выпытваць лішняга, што прыняла блізка да сэрца.

Хутка даведаліся ўсе супрацоўнікі рэдакцыі. Здаецца, ніхто не асуджаў яе, наадварот, людзі зрабіліся больш уважлівыя, мужчыны на лятучках наперабой

падстаўлялі крэслы, жанчыны частавалі цукеркамі, яблыкамі.

Хіба адзін Кулік часам паглядаў з яхідствам, з маслянаю ўсмешачкаю, але Таня рабіла выгляд, што не заўважае ні таго яхідства, ні ўсмешачак, ні самога Куліка.

А хутка яна пайшла ў дэкрэт і два месяцы адпачынку была спакойная, чытала, напісала тры рэцэнзіі, каб мець грошай у запас. Люба дамовілася з некім у выдавецтве, і ёй далі на пераклад некалькі апавяданняў — таксама будзе капейка. Хадзіла па магазінах, купляла пялёнкі, кашулькі. Ложак, каляску вырашыла купіць потым, кажуць, нядобрая прыкмета, калі купляюць малому ўсё загадзя. Пра Сяргея старалася не думаць, ды і ён не падаваў пра сябе знаку, толькі месяцы тры таму назад адзін раз пазваніў. Таня зразумела, што звоніць ён з аўтамата — блізка гудзела машынамі вуліца. Спытаў, як яна жыве. Таня адказала, што жыве добра. Абодва памаўчалі ў трубку. Ён сказаў, што рады пачуць яе бадзёры голас. І яна адказала нешта падобнае. Развіталіся. Той званок усё-такі выбіў яе з раўнавагі, успаміналіся іх спатканні і апошняе, як хадзілі яны па дарожцы, усыпанай іржаваю ігліцаю хвоі. Успамін выклікаў шкадаванне, тугу, але старалася ні ў чым не вінаваціць Сяргея, старалася пераканаць сябе, што павінна быць яму нават удзячная — якніяк, ён даў ёй магчымасць зведаць невядомае. Ці ж ведае сам, што яна пакінула дзіця, можа, думаў, што яна яго там, на той дарожцы ў парку, толькі пужала?

А ў красавіку, калі па-вясноваму звонка заціўкалі пад акном вераб'і, забуркавалі на балконе галубы, калі прадаваліся ўжо першыя, звязаныя ніткамі, букецікі пралесак, Таня нарадзіла сына. Яна так чакала дзяўчынку, так пераканала сябе, што будзе дачка, што сын здаўся нечаканым. Яго прынеслі ёй — маленькі белы скрутачак, з якога вытыркаўся ружовы тварык з носікам, нібы абсыпаным манными крупамі, з прыпухлымі зажмуранымі вочкамі, з маленькім роцікам, які крывіўся, моршчыўся, і Таня ніяк не магла паверыць, што гэта яе дзіця, яе сын. Шукала падабенства — на Сяргея ці на сябе — і не знаходзіла. Можа, пераблыталі ў бальніцы? На ўсякай рабоце бываюць памылкі, чаму не можа быць і тут, але доктарка пераканала, што памылкі быць не можа.

У палаце было чацвёра парадзіх, яна сярод іх — самая старэйшая, тры іншыя — зусім маладыя жанчыны. Тым траім мужы прыносілі кветкі, запіскі, перадачы. І на Танінай тумбачцы ў бутэльцы з-пад кефіру стаялі чырвоныя цюльпаны, і ёй прысылалі запіскі, перадачы, але ўсё гэта было ад жанчын з рэдакцыі, ад Веры, ад Ларысы Пятроўны. Яна ведала, што будзе толькі так, і старалася не зайздросціць тым траім жанчынам, хаця нешта падобнае на зайздрасць часам падступала да сэрца. Як ні дзіўна, але першыя дні тры да дзіцяці была амаль раўнадушная, не выклікала яно ніякага асаблівага пачуцця, акрамя хіба здзіўлення, што вось яно, новае жыццё, з'явілася на свет. А на трэці ці чацвёрты дзень хлопчыка з раніцы прынеслі карміць, і ён раптам каля яе грудзей заплакаў. І Таню разануў па сэрцы такі жаль. Яна села на ложку, пачала гушкаць дзіця, даваць яму грудзі. Хлопчык нібы папярхнуўся плачам і сціх. І Таня ледзь не заплакала ад вялікага да яго шкадавання. «Бедны мой, маленькі,— шаптала яна ў думках,— я цябе буду любіць, буду моцна любіць...» Потым ёй здавалася, што хлопчык заплакаў тым разам ад крыўды на яе.

Увайшла нянечка — пажылая поўная жанчына ў белым халаце, у белай марлевай хустачцы, завязанай пад падбародкам, збірала з тумбачак, з падаконнікаў парожнія бутэлькі з-пад малака і гаварыла:

— Каб яны пагарэлі, такія маткі, каб іх зямля не насіла, народзяць дзіця, а потым кідаюць, браць не хочуць...

— А хто кідае, хто браць не хоча? — спытала маладая жанчына, што ляжала насупраць Тані.

— Ды вунь, у пятай палаце,— кіўнула нянечка на дзверы.— Выпісваецца, а дзіця браць не хоча... Дактары ўгаварваюць, угаварваюць, а яна — што сцяна...

Нянечка сабрала бутэлькі, прыціснула іх да грудзей, панесла з палаты, а жанчыны сядзелі на сваіх ложках як знямелыя.

— Як гэта — браць не хоча, хіба так можна? — спытала жанчына, што ляжала каля акна.

— Мусіць, можна,— сказала тая, што ляжала насупраць Тані.

— Мусіць, нагуляла,— падтрымала размову трэцяя.

Парадзіхі загаварылі наперабой, асуджаючы такую

матку, яны не выбіралі слоў і выразаў, вочы іх гарэлі абурэннем, твары расчырванеліся ад гневу і хвалявання.

— Гэта пайсці ды валасы ёй павыдзіраць,— гаварыла тая, што ляжала каля акна.

— Судзіць такіх трэба... Гэта ж і бацька недзе ёсць, і матка, а дзіця будзе з пялёнак сіратою расці,— падтрымала тая, што ляжала насупраць Тані.

Потым гнеў з жанчыны, якая не хоча браць дзіця, перакінуўся на бацьку таго дзіцяці, лаялі ўвесь мужчынскі род. І такія яны і сякія, гэтыя мужчыны, ім хоць бы што, з іх як з гусі вада, а па справядлівасці, дык і яго судзіць трэба, бо і ён вінаваты, скалечыў жыццё і дзяўчыне, і дзіцяці, а сам недзе хвастом накрыўся.

Кіпела ўся бальніца — парадзіхі, нянечкі, сёстры, дактары. Не часта бывае такое — дзіця для кожнай мацеры шчасце, радасць, а тут раптам знайшлася такая — вылюдак.

Вельмі хацелася Тані паглядзець на тую кабету, уяўляла яе брыдкаю, ледзь не з рагамі. Яна магла ўжо хадзіць і папрасіла нянечку, каб тая паказала ёй гэту страшную жанчыну. Дзверы ў пятую палату былі адчынены, і нянечка паказала:

— Вунь, у куце, коўдраю прыкрылася...

Таня глянула і як спужалася. Не магла адарваць вачэй ад таго кутка, хоць і разумела — няёмка так стаяць і разглядаць. Ды жанчына гэтага, здаецца, і не заўважала, а можа, прывыкла ўжо да такіх і недаўменных, і поўных асуджэння позіркаў.

На ложку ляжала нават не жанчына, а дзяўчынка, дзіця, гадоў не болей як семнаццаці, яна ўтулілася ў кут, прыкрыўшыся да падбародка коўдраю, нібы хаваючыся пад ёю ад балючых, як удары камянёў, позіркаў. Твар у яе быў зусім белы, у вялікіх цёмных вачах застыў не то страх, не то адчай, тонкія сіняватыя вусны шчыльна стулены і апушчаны куточкамі ўніз. Яна была падобна на звярка, загнанага ў кут і гатовага прыняць удар. «Божа мой,— жахнулася Таня,— няўжо ў яе няма маткі, сястры, каб памаглі... Божа мой...»

Яна вярнулася ў палату, лягла на свой ложак. З вачэй не сыходзіў твар маладзенькай парадзіхі. «Колькі трагедый схавана ў жыцці,— думала Таня.—

І чаму так несправядліва... Кожная жанчына за шчасце лічыць выйсці замуж, гадаваць дзіця, чаму адным так проста ўсё даецца, а другая ў жыцці павінна прайсці праз усе кругі пекла... Што гэта, як хвароба, перадаецца разам з генамі? Можа, гэта і няправільнае назіранне, але Таня часта заўважала, што ў няшчасных матак і дочкі няшчасныя, часта дочкі нібы паўтараюць лёс сваіх матак. Вядома, тут не гены, а ўмовы жыцця... Кепская матка дабру не навучыць, а добрая матка, разумная паможа свайму дзіцяці і з пекла выбрацца».

У душу Тані зноў лінула пяшчота да свайго дзіцяці, не магла дачакацца, калі зноў прынясуць карміць.

З бальніцы выпісвалася напярэдадні мая. Горад быў як вымыты на свята, чырванню гарэлі сцягі, пупышкі на ліпах набрынялі ліпкім сокам, кроны бяроз агортваў жаўтаваты празрысты пух, і неба было як вымытае, празрыста-блакітнае, ляжала на ім адно белае воблачка, як анучка, якою яго толькі што старанна выцерлі.

З бальніцы яе забіралі Люба, Вера і Клава — худзенькая ціхая кабетка, стылістка з іх рэдакцыі, з якою Люба і Таня сябравалі. Жанчыны адна за другою адхіналі рог коўдры, глядзелі на дзіцятка і хвалілі — які прыгожы хлопчык і як падобны ён на Таню. Вера пабегла па таксі.

Таня пасля бальнічнай палаты ледзь не на смак адчувала свежае паветра. Незвычайна лёгкая пасля цяжарнасці і крыху няўпэўненая ад слабасці, якая яшчэ не зусім пакінула яе, яна адчувала сябе нібыта ў іншым свеце. І сябе адчувала іншаю, нібыта абноўленаю, і замірала сэрца: чаго больш чакае яе ў гэтым новым свеце — радасці ці гора...

## 7

На свята Першамая Таня не магла ўжо пайсці куды-небудзь у госці, сядзела з малым дома. Званілі Вера, Люба, Клава, Ларыса Пятроўна, жадалі ёй і сыну здароўя, шчасця. Кожны раз, як званіў тэлефон, Таня ў душы спадзявалася — а раптам Сяргей, можа, як даведаўся? Але ён не званіў з той далёкай зімы. Ведае ён ці не ведае, што ў яго нарадзіўся сын? Адкуль яму ведаць...

Хлопчык, якому яшчэ так і не прыдумалі імя, спаў

у калясачцы, падоранай супрацоўнікамі рэдакцыі. Ён ляжаў ва ўсім беленькім, чысценькім, сам чысценькі, толькі што выкупаны з дапамогаю суседкі. Таня і не ведала, што гэта такі радасны занятак — купаць дзіцятка, паліваць яго, загорнутага ў пялёнку, прыгаршчамі цёплай вады, намыльваць кволыя, растапыраныя ва ўсе бакі ручкі, ножкі, глядзець, як ён недаўменна лыпае вачанятамі, разяўляе раток, зусім не разумеючы, што з ім робяць. Увогуле ўражвала бездапаможнасць дзіцяці — як хочаш яго загарні, куды хочаш пакладзі — нічым, ніяк не можа абараніцца.

Таня перабірала мужчынскія імёны, думаючы, як назваць сына, і нічога іншага не прыдумала, як назваць яго Сашам, Аляксандрам. Той год ледзь не кожнага другога хлопчыка называлі Сашам, няхай і ў яе будзе Саша. Імя па бацьку запісала дзедава, свайго нябожчыка бацькі Максіма, і прозвішча дала сваё — Каштанаў. На свеце з'явіўся новы чалавек — Аляксандр Максімавіч Каштанаў.

Тыдні тры Аляксандр Максімавіч спаў, набіраў вагу, круглеў. Таня паспявала ўсё зрабіць у кватэры — пялёнкі памыць, прыбраць, зварыць есці, папрасіўшы суседку, каб павартавала малога, бегала ў магазін. Паспявала нават крыху папрацаваць — перакладала для выдавецтва апавяданні.

А потым хлопчыка нібы падмянілі. Як толькі надыходзіла ноч, ён пачынаў плакаць, плакаў голасна і аднастайна:

— Куга, куга, куга!..

Таня і насіла яго, і гушкала ў калясцы, салодкай вады з бутэлечкі давала — нічога не памагала. Дзіця плакала і плакала — адну ноч, другую, трэцюю.

Таня панесла яго ў кансультацыю. Маладая чарнявая доктарка разгарнула на Сашу пялёнкі, агледзела, прыцмокнула малому языком, і той разявіўся ва ўсмешцы, паказваючы голыя дзёсны.

— У вас цудоўны хлопчык,— сказала доктарка Тані.— У яго ўсё нармальна, ён добра прыбывае ў вазе і на свой узрост нармальна развіты.

— Але ён плача, кожную ноч плача,— гаварыла Таня.

Доктарка паціснула плячыма.

— Бываюць такія дзеці... Крыклівыя... Хаця такое малое капрызнічаць яшчэ не можа, нешта яму не так,

калі крычыць, але ў вашага хлопчыка ўсё нармальна.

Таня панесла Сашку дадому. Дзень ён пражыў нібыта і нішто, спаў, гуляў, а ноччу зноў пачаў крычаць. Таня зноў яго насіла, гушкала, плакала разам з ім.

І так пайшло — амаль кожную ноч. Таня зусім выбілася са сну, удзень хадзіла як самнамбула, работу сваю закінула. А Саша хоць начамі і крычаў, развіваўся нармальна, круглеў, таўсцеў, рабіўся падобным на чалавека.

Канчаліся тры месяцы адпачынку — два дэкрэтнага і чарговы. Таня ўзяла яшчэ месяц, за свой кошт. Па закону яна магла не выходзіць на работу, пакуль дзіцяці не споўніцца год, але без аплаты. Праўда, у яе быў такі-сякі грашовы запас, спецыяльна яго нарыхтавала, але грошы плылі як вада. Трэба было аддаваць дзіця ў яслі. Толькі як ты яго панясеш, зусім маленькага, бездапаможнага, на кожную нянечку ў тых яслях дваццаць такіх крыкуноў, тут з адным не справішся, ці ж хапае той нянечцы часу дагледзець за кожным, недзе ляжаць будзе ў мокрым і плакаць.

Шкода было малое.

Таня вырашыла неяк перабіцца, пакуль малому не споўніцца год.

Пасля бяссоннай ночы яна хапала Сашку на рукі, бегла з ім у малочную кухню па бутэлечкі з кашаю, кісялём, потым разам з ім заскоквалі ў магазін, несла на адной руцэ дзіця, у другой — сумку з прадуктамі, з бутэлечкамі. А Саша, дай яму бог здароўя, цяжэў з кожным днём.

Дома, наскора прыбраўшы, памыўшы пялёнкі, зварыўшы яды, укладвала малога спаць, а сама садзілася за работу. Мазгі ў галаве варочаліся, не раўнуючы, як каменныя жорны, вочы зліпаліся — надта хацелася спаць, але перамагала сябе, працавала. На самым цікавым месцы Саша пачынаў пакрэктваць у сваёй калясцы, а потым падаваў басавіты голас:

— Ку-га!

Трэба было бегчы да яго, мяняць пялёнкі, карміць, гуляць з малым на вуліцы.

А час ішоў, непрыкметна мінула лета, жоўтымі кронамі бяроз дагарэла восень, укрыла белым покрывам дахі зіма, ды і на яе знайшлася ўправа — зноў засвяціла сляпучае сонца. Пара было несці Сашу ў яслі.

І панесла, хоць аказалася гэта не так і проста, колькі трэба было папабегаць з малым на руках, каб здабыць месца, дзяцей было ў горадзе нашмат болей, чым месцаў у тых яслях.

Цяпер Таня раніцою будзіла Сашу, які ў гэту пару акурат соладка спаў, яшчэ соннага апранала, хапала на рукі, уціскалася з ім у перапоўнены тралейбус — везла ў яслі. У яслях Саша крычаў, чапляўся за яе спадніцу, не пускаў, каб адыходзіла. Нянечка брала яго на рукі, але хлопчык цягнуўся да мацеры, адчайна плакаў. Таня бягом уцякала з ясляў, каб не бачыць гораснага тварыку сына, не чуць яго крыку, а на рабоце разрывалася сэрца — так шкадавала малога.

Наступным летам яслі на цэлых два месяцы выехалі на дачу. А ў Таніным доме пачаўся капітальны рамонт. Прыйшлося выцягваць з пакоя рэчы, мыць і перамываць у кватэры пасля водаправодчыкаў, атынкоўшчыкаў, маляроў. Шчасце яшчэ, што жыла ў кватэры не адна, ключ ад свайго пакоя аддавала суседцы — як зробяць той рамонт без яе, так і зробяць, ліха з ім. А потым сама захварэла, прастудзілася на скразняку, мыючы вокны пасля пабелкі столі, злягла з моцнаю ангінаю. А Саша быў за горадам, без яе, амаль месяц не бачыла, і сэрца рвалася да малога.

Як крышку палепшала, купіла цукерак, піражных — паехала да Сашы.

Дача стаяла на ўскраі хваёвага лесу — свежа пафарбаваны ў зялёны колер дом з вялікімі, чыста памытымі вокнамі. У двары, у скрынцы з пяском, валяліся цацкі — лялька без нагі, жоўтае пластмасавае гусянё, мячык, напалову сіні, напалову чырвоны. Па драўляным ганку паднялася да дзвярэй, адчыніла, увайшла ў цемнаваты вестыбюль. З калідора ў гэты вестыбюль выбегла некалькі нагола стрыжаных дзяцей, уставіліся на яе, потым выйшла нянечка — маладая жанчына ў белым халаце, з-пад якога была відаць квяцістая шаўковая сукенка.

Таня павіталася. Нянечка ветліва адказала на прывітанне.

— А дзе мой Саша? — абводзячы позіркам дзяцей з аднолькава стрыжанымі галоўкамі, спытала Таня.

— А які Саша, у нас некалькі Сашаў,— сказала нянечка.

— Саша Каштанаў.

Нянечка павяла вачыма па стрыжаных галоўках.

— А во ён... Во,— нянечка паказала на хлопчыка, які стаяў у куточку і глядзеў на госцю.

— Гэта?.. Саша Каштанаў?..— заікнулася Таня.

— Ну канечне,— упэўнена сказала нянечка.

Таня нясмела пайшла да хлопчыка.

— Саша... Сашачка,— паклікала слабым голасам.— Ідзі сюды...

Хлопчык недаверліва глядзеў на яе.

— Саша... Сашачка...

Ён падрос, папраўіўся, загарэў, яго сапраўды было цяжка пазнаць. Ды і ён, мусіць, забыў яе, не кінуўся ж з радасцю, з плачам, як некалі дома ў яслях.

Таня ўзяла хлопчыка на рукі — і пахла ад яго ўжо не пялёнкамі, не кашаю, пахла чалавечкам — Сашам Каштанавым.

Яна выйшла з ім у двор, на святло, на сонца, дастала з сваёй сумачкі піражнае, дала яму. Хлопчык узяў піражнае дзвюма ручкамі, пачаў есці, але без усялякай радасці і без усялякай спробы хоць што-небудзь сказаць, на сваёй, дзіцячай мове, як звычайна робяць гэта дзеці.

Яна гладзіла яго стрыжаную галоўку, туліла да сябе, цалавала, а ён сядзеў у яе на руках абыякавы, безудзельны, маўчаў. У Тані балюча, трывожна сціскалася сэрца.

На двор выйшла нянечка, сказала, што зараз у іх абед, а потым будзе «мёртвая» гадзіна, яна мусіць забраць Сашу.

І Таня аддала сына, разумеючы, што гэта нянечка тут мае большае права на яго, чым яна, маці.

Не магла адразу пайсці на станцыю, вярнуцца ў горад, вырашыла пачакаць, пакуль дзеці адбудуць і абед, і «мёртвую» гадзіну.

Выйшла з двара дачы, пакіравалася да ўзлеску. Вакол расла густая высокая трава, у якой цвілі рамонкі, чырвоныя пеўнікі. Сярод зелянiны мільганула чырвоная суніца, адна, другая. Таня нахілілася, сарвала. Чым бліжэй падыходзіла да лесу, тым больш было ў траве суніц.

«Назбіраю Сашу»,— падумала Таня.

Яна выняла з сумкі папяровы пакецік, у якім было піражнае, пачала ў гэты пакецік збіраць суніцы.

Дзень выдаўся вельмі гарачы, няшчадна паліла

сонца, і пасля хваробы Тані пад яго пякучымі праменнямі рабілася аж млосна, але яна хадзіла па ўзлеску, збірала ягады, ніводнай не паклаўшы сабе ў рот. Сэрца сціскала туга — чаму Саша такі маўклівы, ціхі, дома быў не такі. Не пазнала яго — і ён не пазнаў, адвык... Кінула дзіця, як адраклася, можа, ён пакрыўдзіўся на матку, таму гэтакі маўклівы.

Скора яна адчула, што абпаліла ногі, абгарэлі рукі ў сукенцы з кароткімі рукавамі.

Суніц было многа, яна назбірала ледзь не поўны пакецік, і ўсё буйныя, сакавітыя. Тым часам павінна была скончыцца «мёртвая» гадзіна.

Дзеці сапраўды паўставалі ўжо, хадзілі па двары, і тут Таня заўважыла, што ўсе яны, як і Саша, маўклівыя, не бегаюць, не крычаць, не смяюцца, кожны корпаецца сам сабе, сам з сабою забаўляецца.

Знайшла Сашу, пасадзіла сабе на калені, трымала перад ім пакецік з суніцамі. Хлопчык двума пальчыкамі браў з пакеціка ягады, клаў у рот, еў, прыжмурваючы вачаняты,— і зноў маўклівы, абыякавы.

Гэтыя адведкі засталіся ў душы, у сэрцы Тані на ўсё жыццё як дакор сумленню, як вялікая яе віна перад сынам. Толькі потым яна зразумела, чаму Саша, чаму ўсе дзеці былі ў тых яслях маўклівыя. Яны проста не ўмелі яшчэ гаварыць. Дзяцей вучаць гаварыць тыя, хто ўвесь час побач з імі, гудзе і гудзе над вухам дзіцяці, як матка, з самага маленства. А тым нянечкам у яслях хапала работы абмыць дзяцей, накарміць, яны не гаварылі з дзецьмі, і дзеці між сабою не гаварылі, бо яшчэ не ўмелі.

На ўсё жыццё запомніла Таня, як не пазнала яна ўласнага сына і як ён яе не пазнаў, як моўчкі сядзеў у яе на каленях, браў двума пальчыкамі ягады з пакеціка і клаў у рот. І потым, калі Саша ўчыняў якую прыкрасць, калі свярбела рука пляснуць па азадку, успамінала тую дачу на ўзлеску, маўклівага стрыжанага хлопчыка, і рука не ўзнімалася, і Таня ішла на кухню, каб супакоіцца.

А колькі адабралі ў яе здароўя Сашавы хваробы — адзёр, кохлік, свінка, колькі папасядзела на бюлетэнях, колькі папанасілася з ім па дактарах.

Але як ні было цяжка, Таня ніколі не пашкадавала, што нарадзіла дзіця. Калі Саша, зусім яшчэ маленькі, абвіваў яе шыю мяккімі цёплымі ручанятамі,

слінявіў ёй твар — цалаваў — для гэтай хвіліны варта было жыць на свеце; калі ён зрабіў першы крок, а потым са страхам, растапырыўшы пальчыкі, пратопаў да яе і ўпаў на яе далоні — дзеля гэтай хвіліны варта было жыць; калі ён вырываўся з гурбы дзяцей у садзіку і з крыкам «мама!» бег ёй насустрач — дзеля гэтай хвіліны варта было жыць; калі яна купляла яму новую цацку і ўяўляла, як ён будзе скакаць ад радасці, а потым засяроджана, ціхенька з ёю забаўляцца — дзеля гэтай хвіліны варта было жыць на свеце. Ды ці мала іх было яшчэ, хвілін, дзеля якіх варта было жыць на свеце, варта было ісці вёрсты па сыпучым пяску, несці на сабе пуды жалеза, стаяць, як тая блудніца, пад градам камення. Яна часам успаміналa тую дзяўчынку-маці, укрытую да падбародка коўдраю, і думала — гэта ж тая пазбавіла сябе такога шчасця... Хаця... Маладая, яшчэ, можа, выйдзе замуж, народзіць дзяцей, будзе жыць, як людзі... Але жыццё жорсткае, можа і пакараць, можа, і той было наканавана толькі адно дзіця... Ды і як жыць з такою ношкаю, кожную хвіліну памятаючы, што недзе па зямлі ходзіць тваё дзіця, а ты не можаш яго нават і ўбачыць.

## 8

Час ішоў, Саша ўсё цвярдзей станавіўся на ногі, усё больш сур'ёзна і разумна разважаў, задаваў тысячы пытанняў, на якія Таня павінна была адказваць. Аднойчы ён прыйшоў з пытаннем, якога і чакала і баялася Таня.

— А чаму гэта ў Колі дзве таты, а ў мяне ніводнага?

Маці таго Колі, Сашавага равесніка, разышлася з Колевым бацькам і выйшла замуж за другога. Айчыма свайго Коля называў татам, а прыходзіў да яго і родны бацька.

Чакаючы пытання «дзе мой тата?», Таня падрыхтавала і адказ: няма яго... Памёр... Што іншае магла сказаць яна чатырохгадоваму чалавечку? Але цяпер, пад шчырымі, недаўменнымі вачанятамі ёй зрабілася няёмка хлусіць. Узяла Сашу за руку, павяла ў ванную — памыць яму рукі, твар. Хацела адцягнуць той момант, калі будзе маніць. Саша падстаўляў пад яе

мокрую руку твар, заплюшчваў вочы, але ўсё роўна дапытваўся:

— У Колі дзве таты... А дзе мой?

— Няма... Памёр,— Тані лягчэй было гэта сказаць, не гледзячы сыну ў вочы.

— Яго забілі фашысты на вайне? — пытаўся Саша.

— Не... Вайна была даўно. Ён так памёр...

— Ён быў старэнькі і хворы?

Саша шукаў тлумачэння такой бядзе ў межах свайго жыццёвага вопыту.

— Паміраюць, сынок, не толькі старыя...

— І дзеці паміраюць?

Таня памыла ўжо сыну рукі, твар, выцірала ручніком. Саша памагаў ёй, потым адвёў ручнік, глянуў на маці чыстымі, нібы таксама толькі што памытымі вачамі, чакаў адказу на пытанне.

— І дзеткі, сынок, паміраюць.

Саша правёў далоняй па шчацэ, дзе, мусіць, яшчэ заставалася вільгаць.

— Але я не памру, праўда?

— Не, сынок, ты не памрэш, ты вырасцеш вялікі, прыгожы, разумны. Хадзем на кухню, я цябе пакармлю, ты, мусіць, прагаладаўся, я табе смачных аладак напякла.

Едучы аладкі, Саша ўжо расказваў, як яны з Валеркам гушкаліся на арэлях і як Валерка гушкаў яго высока-высока, пад самыя дрэвы, а ён не баяўся.

Калі Сашу споўнілася пяць гадоў, Таня вырашыла адзначыць яго дзень нараджэння. Сказала сыну, каб паклікаў сваіх сяброў, што жывуць у іхнім двары, і прыйшоў той самы Коля, у якога «дзве таты», прыйшоў Валерка, што высока гушкаў на арэлях, дзяўчынка Іра — з пышным блакітным бантам на галаве. Коля прынёс у падарунак Сашу кнігу «Мыйдадзір», Валерык — мячык, а Ірачка — шакаладку.

Таня спякла пірог, уваткнула ў яго пяць тоненькіх свечак і паставіла на стол. Яшчэ наклала ў вазачкі пячэння, цукерак, яблыкаў, варэння, купіла ліманаду, гэтага любімага дзіцячага напітку. Дзеці пілі і елі салодкае ад пуза, павыпэцквалі варэннем твары і толькі тады адваліліся ад стала, калі ён апусцеў. Заявілі, што пойдуць гуляць на двор. Таня загадала ім памыцца, адчыніла ім дзверы, і яны з грукатам, смехам пабеглі

па лесвіцы ўніз, на хаду пытаючыся ў Сашы, калі ў яго зноў будзе дзень нараджэння.

А вечарам прыйшлі Люба, Вера, Клава, Ларыса Пятроўна.

Таніны госці віншавалі, цалавалі Сашу, прынеслі яму кветкі, падарункі, Ларыса Пятроўна прысвяціла юбіляру верш:

Пяць гадоў сягоння Сашы,
Мы віншуем з гэтым днём,
Еш, Каштанаў, болей кашы
І расці багатыром!

Люба прынесла ў падарунак Сашу пісталет, і хлопчык аж заскакаў, запішчаў ад радасці. Саша даўно прасіў маці купіць яму пісталет ці аўтамат, але Таня знарок не купляла, ёй чамусьці страшна рабілася, калі бачыла ў двары дзіцячыя гульні з аўтаматамі, пісталетамі, як бегалі хлопчыкі, крычучы: «Та-та-та! Лажыся, ты забіты!» Дзеці гулялі, а яна ўспамінала вайну, і ёй страшна рабілася, калі ўяўляла ў руках гэтых самых дзяцей, але ўжо дарослых, сапраўдную зброю.

— Дарэмна ты яму пісталет прынесла,— сказала яна Любе.

— А што, усе хлопчыкі гуляюць з пісталетамі, ты бачыла, як Саша ўзрадаваўся?

— Я знарок не купляю яму такіх цацак, не хачу патураць гэтым хлапечым інстынктам,— сказала Таня.

І тут на яе навaліліся ўсе.

— А ты што, хочаш выхаваць яго мамчыным сынком? — напала на яе Ларыса Пятроўна.

— Што за пацыфісцкія настроі! — здзівілася нават дабрадушная Вера.

— А калі радзіму трэба будзе абараняць, тады што! — з запалам гаварыла Люба.

— Нічога вы з гэтым не зробіце, мой унук таксама толькі з пісталетамі ды з аўтаматамі гуляе,— сказала Клава.

— Я ўсё разумею,— апраўдвалася Таня,— усё разумею, але як успомню вайну... Я хачу, каб мой сын вырас сапраўдным мужчынам, але няўжо нельга без гэтага, без зброі,— паказала яна на пісталет у Сашавых руках. Хлопчык не чуў, пра што гаварылі госці, ён так захапіўся цацкаю, што, акрамя яе, нічым не цікавіўся, націскаў і націскаў на курок, страляў са свайго пісталета.

Выпілі па кілішку віна, закусілі салатамі, халадцом, катлетамі. Вера і Ларыса Пятроўна пасядзелі нядоўга, у іх былі нейкія свае справы, а Люба і Клава засталіся.

Стомленага радасцю, падарункамі Сашу Таня ўлажыла спаць, патушыла верхняе святло, прысунула да стала таршэр, завесіла яго з боку Сашавага ложка ручніком. Зеленаватае святло таршэра падала на кубкі, з якіх яны пілі чай, на рэшткі пірага з уваткнутымі ў яго абгарэлымі свечкамі, на букецік чырвоных гваздзікоў, якія ў гэтым святле здаваліся амаль чорнымі.

Клава расказвала:

— У мяне айчым быў, нягодны чалавек, зямля яму пухам. У сорак другім мне было чатырнаццаць. Маці пайшла ў вёску мяняць адзежу на хлеб. А айчым мяне нечага пакрыўдзіў. Апранула я пальцечка — і ў вёску, да мацеры — ведала, куды тая пайшла,— на сваю радзіму. Дарога вяла цераз Дзяржынск. А зіма, холад, мароз. Іду, іду па шашы, дзе які добры дзядзька ў санках крыху падвязе, ды зноў тупаю. Прыйшла ў Дзяржынск — ужо сцямнела. А ў тую вёску, куды мама пакіравалася, яшчэ столькі гопаць, колькі прагопала. Нічога не зробіш, трэба начаваць.

Пастукала я ў нейкія дзверы, адчыніла мне кабета — яшчэ даволі маладая, нават на тыя мае гады я бачыла, што маладая. Я і прашуся:

— Пусціце пераначаваць...

Завяла мяне тая кабетка ў пакой, а пакой той зусім маленечкі, адзін ложак у ім стаіць ды столік, адзежа на сцяне нейкая вісіць, на стале капцілка чадзіць... Але раем здаўся мне той куточак — акалела за цэлы дзень на марозе ды галодная.

І што вы думаеце? Накарміла мяне тая жанчынка, цяпер ужо не памятаю чым, і спаць паклала разам з сабою, у адну пасцель...

Не ведаю я, як звалі тую кабетку, можа, і не спыталася ў яе, але буду памятаць яе ўвесь век — як яна мяне ў свой ложак, да сябе паклала, ад свайго хлеба адарвала і мяне накарміла. Уяўляеце цяпер, нашы мадамы — багатыя, сытыя, у шыкоўных сваіх кватэрах — пусцяць яны нанач незнаёмую дзяўчынку?..

Памаўчалі.

— У цябе, я бачу, ваенная настальгія, ці што,— сказала Люба.

— Ну і прыдумала,— здзівілася Клава.— Не дай бог вайны, самае большае гора для людзей — вайна, але самі людзі, людзі... Чаму цяпер нейкія злосныя, нядобразычлівыя...

— Бо шмат дэфіцыту развялося,— падтрымала Клаву Таня.— У час вайны адзін дэфіцыт быў — хлеб... А цяпер... На месцы ўрада я хлеб нашмат у цане падняла б, бо ён у нас амаль дармовы. Вы падумайце толькі — букецік кветак, во гэты, што вы Сашу прынеслі, пяць гваздзікоў,— Таня паказала на кветкі, што стаялі ў шкляной вазачцы на стале.— Ведаеце, колькі ён каштуе, калі перавесці на хлеб?.. Больш чым трыццаць кулідак украінскага хлеба!..

Мусіць, ні Люба, ні Клава не пераводзілі раней цану кветак на хлеб, бо з дзівам паглядзелі на тыя гваздзікі, на Таню.

— Во, во,— заківала галавою Клава.— Нам, хто памятае вайну, голад, пра гэта і падумаць страшна. А цяпер хлеб не ў цане... Розныя дэфіцыты ў цане... За іх людзі не тое што грошы, сумленне апошняе гатовы аддаць.

— Што так, то так,— уздыхнула Люба.— Мне казалі... Праўда ці не, што наш Кулік... А, не ведаю нават, ці гаварыць...

— Заікнулася, то гавары ўжо, а то дзеці заікамі будуць,— сказала Таня.

— Ну, што ён у магазіны заходзіць... З чорнага ходу... Паказвае сваё рэдакцыйнае пасведчанне — быццам хоча пісаць пра гэты магазін... І яму даюць розныя дэфіцыты, каб задобрыць...

Таня не заўсёды верыла розным нагаворам, людзі часам могуць наплесці на чалавека такога, у чым той ні сном ні духам не вінаваты, але пра Куліка паверыла. Нешта ў яго хамелеонавым позірку, маслянай усмешцы было нячыстае. Ды гаварыла гэта Люба, якая наогул не любіць плётак.

Падзівіўшыся з такога спрыту Куліка, загаварылі, як гэта часта бывае, і пра іншых сваіх супрацоўнікаў. Пра тое, які харошы ў іх Віктар Паўлавіч, які недаступны часам бывае рэдактар.

— Мне здаецца, дзевачкі,— сказала Люба,— што наш рэдактар, як айсберг, тое, што відаць на паверхні, невялічкая яго частка, астатняя, галоўная — пад ва-

дою... Толькі я не ведаю, якая частка пад вадою — лепшая ці горшая...

Таня падумала, што такі, мусіць, не адзін рэдактар, такія, мусіць, усе людзі, тое, што на паверхні,— невялічкая частка душы кожнага: а нешта, можа, самае важнае, схавана ў глыбіні.

— Ну, а як жа ты тады дабралася да маткі? — спытала Люба ў Клавы.

Размова даўно перайшла на іншае, і Клава, мусіць, забылася, што расказвала, паглядзела крыху няўцямна на сяброўку.

— Якую матку?

— Ну, калі ў Дзяржынску начавала...

— А-а,— усміхнулася Клава.— Не, не пайшла далей... Пераначавала ў той добрай жанчыны, за ноч крыху астыла ад крыўды і назад патупала. Падумала, што не найду і ў маткі спачування, толькі сварыцца будзе, што кінула хату, дзяцей... Я ж дома за гаспадыню была, пада мною яшчэ чацвёра насамі шморгалі, матка на мяне іх пакінула, айчыму і яго ўласных дзяцей баялася даверыць.

Клава памаўчала, быццам успамінаючы той далёкі час. Сумныя вочы, немалады ўжо твар са зморшчынкамі каля вачэй, з крыху абвіслымі ўжо шчокамі — не шкадуе час жанчын, проста не верыцца, што некалі і яна была маладая, была дзяўчынка.

— Далася ў знакі нам вайна... З'ела наша дзяцінства, маладосць... І хопіць пра яе, не будзем успамінаць напроціў ночы,— сказала Люба.

— І праўда,— падтрымала яе Таня.— Давайце лепей чаю яшчэ выпʼем, пірог во застаўся, я сёння два пірагі спякла, адзін дзеці ўмялі, а мы што — другі не здужаем?

— Ідзі ты са сваім чаем,— адставіла Люба ўбок кубак.— Давай лепей яшчэ віна па чарцы возьмем.

— І то праўда,— згадзілася Таня.

Яна ўзяла высокую зялёную бутэльку, з якой не было выпіта і палавіны, наліла гасцям у чаркі. Люба заявіла, што хоча сказаць тост. Ёй дазволілі.

— За тваё здароўе, Таня,— падняла чарку Люба.— І за здароўе Сашы, імянінніка... І каб не было вайны... І яшчэ — за чалавечнасць... Каб вакол чалавека былі чалавекі, каб не галёкаў ён, як у пустыні, шукаючы жывую душу... За сяброўства, дзевачкі... Па-мойму,

сяброўства, дружба — гэта нават важней, чым каханне... Каханне — хвароба, наляціць, як тайфун, можа і скалечыць, а сапраўднае сяброўства ніколі не скалечыць... Да дна! — І Люба падняла свой кілішак, адчайна ўсё выпіла. І Клава, і Таня выпілі сваё віно.

— Дзякуй табе, Люба,— сказала Таня.— Сяброўства, гэта сапраўды вельмі важна. Што б я рабіла без сяброў, без цябе, Люба, без Клавы, без Веры. Ты не ведаеш, якая Вера харошая, яна ж дзе апельсіны ўбачыць, купляе і на нашу долю, Сашу нясе, кілбасы добрай дастане — нам з Сашам нясе, хварэў Саша — яна лякарства даставала.

— Ага, яна і мне падабаецца,— сказала Люба.

Сядзелі позна, і не хацелася жанчынам развітвацца, і добра было ім пры цьмяным святле прыкрытага ручніком таршэра, пры гэтым стале з недаедзеным пірагом, у якім тырчала пяць абгарэлых свечак, з вазачкаю, у якой стаяла пяць гваздзікоў. Нешта добрае лунала над імі, і не хацелася з гэтым добрым разлучацца.

## 9

У дзверы моцна пазванілі, і Таня, з нажом у руцэ — наразала хлеб, збіраліся снедаць,— пайшла адчыняць. Каля дзвярэй стаяла пажылая жанчына ў форменнай куртцы, з сумкаю цераз плячо, з канвертамі ў руцэ — паштарка. Яна падала Тані жаўтаваты квіток — грашовы перавод. Таня ніадкуль не чакала грошай і здзівілася, падумала — ці не памылілася паштарка, але адрас быў яе і прозвішча яе — Каштанавай Таццяне Максімаўне. Таня распісалася і з перaводам у руцэ пайшла ў кухню, дзе круціўся ўжо Саша — чакаў сняданку. Перавод быў на дзвесце рублёў, грошы немалыя, прысланыя з Масквы. Ад каго? Гэта магла даведацца толькі атрымаўшы грошы і прачытаўшы лісток, адведзены для пісьма.

Была субота, выхадны дзень, яна збіралася з Сашам у парк, той даўно прасіўся на каруселі. Яны паснедалі, апрануліся і пакіраваліся ў парк, а па дарозе зайшлі ў паштовае аддзяленне. Пастаяўшы крышку ў чарзе, Таня атрымала дзвесце рублёў і лісток.

Грошы былі ад Сяргея, прысланыя з Масквы.

Як варам абдало Таню, аж слёзы падступілі да ва-

чэй. «Як ён мог! Нібы адкупнога! Нібы падачку! Ні разу не пазваніў, нават не пабачыў сына, і грошы!» Захацелася кінуць тыя дзесяткі на зямлю, але ведала, што гэта неразумна.

Яна не распытвала Веру пра Сяргея, баялася, каб не ўзнікла ў сяброўкі падазрэння, нават ёй не хацелася адкрывацца да канца, Вера магла, жадаючы Тані толькі добрага, прагаварыцца. Аднак тады-сяды, нібы выпадкова, задавала пытанні і ведала, што Сяргей жывы і здаровы, абараніў доктарскую дысертацыю і цяпер загадвае кафедраю хірургіі пры медінстытуце, але па-ранейшаму працуе і ў клініцы. Можа, так даведаўся пра яе ад Веры і Сяргей? Даведаўся, што ў Тані гадуецца сын, і прыслаў грошы. Чаму з Масквы? Каб замаскіравацца? Ён некалі казаў, што не зможа дапамагаць матэрыяльна, бо ўсе грошы аддае жонцы... Што ж гэта? Утаіў ад жонкі? Прыслаў яе сыну крадзеныя грошы?

Яна ішла шпарка, Саша ледзь паспяваў за ёю, кацiўся подбегам, трымаючыся за яе руку, і пытаўся:

— Мы бяжым на каруселі? Каб не спазніцца? І ты мне купіш марожанае? Табе цёця дала многа грошай і ты мне купіш марожанае?

Таня паглядзела на сына — твар у яго быў радасны, натхнёны, яснай шчырасцю свяціліся вочы.

Часам яна, баючыся, каб сын не прастудзіўся ад марожанага, казала яму, што ў яе няма на марожанае грошай, часам іх і праўда не было. Цяпер угледзеў у мацеры дзесяткі і зразумеў, што такой адгаворкі быць не можа.

— Гэта не нашы грошы, чужыя,— сказала Таня.

— А чаму цёця дала табе?

— Яна памылілася.

— То чаму ты ўзяла?

— Я іх аддам назад.

— І не купіш мне марожанага?

— Куплю, сынок, але не за гэтыя грошы, за нашы.

У парку іграла музыка, круціліся каруселі, гушкаліся арэлі, лёталі размаляваныя самалёцікі. На асфальтавай дарожцы стаяў маленькі чорны конік, запрэжаны ў павозку, у павозцы сядзела многа дзяцей у нецярплівым чаканні радасці. Прыбраны ў стракатую, з мядзянымі бляшкамі, са званочкамі, збрую, конік быў падобны на цацку, аж не верылася, што ён жывы.

І нібыта для таго, каб давесці недаверлівым, што ён не цацка, конік пераступаў нагамі, круціў галавою, паводзіў сваім круглым фіялетавым вокам, у якім адбіваліся арэлі і каруселі. Катацца на коніку стаяла вялікая чарга, і Таня сказала Сашу, што ён пакатаецца, калі чарга паменшае, купіла білеты на чароўнае кола, села разам з Сашам у калысачку.

Пад імі нешта загуло, потым калысачка павольна гайданулася і паплыла — шыбчэй, шыбчэй, пачала ўзнімацца ўгору. Саша схапіўся рукамі за матчыну сукенку.

— Не бойся, сынок, мы не звалімся, глядзі, як цікава ўнізе, вунь як высока мы ўзняліся.

Чароўнае кола сапраўды ўзняло іх высока, Тані аж самой зрабілася крыху вусцішна, здавалася, яны плылі пад самым небам, парк застаўся далёка ўнізе, не відаць было камлёў соснаў ды ліп, адны пышныя, раскідзістыя кроны. Людзі ўнізе здаваліся зусім маленькімі, як стракатыя мурашкі ў сваіх сініх, жоўтых, чырвоных шапачках бегалі па алеях дзеці. Калысачка пачала апускацца, і набліжаліся дрэвы, людзі — усё рабілася звычайнае.

Зноў паехалі ўгору, зноў уніз, Саша ўжо не баяўся, ужо не хапаўся за матчыну сукенку, размахваў рукамі, смяяўся, крычаў:

— Мы ляцім! Мы ляцім!

І гэта для Тані была хвіліна, дзеля якой варта было жыць на свеце, забылася нават пра грошы, якія нядаўна сапсавалі настрой. А калі ўспомніла, то вырашыла, што абавязкова аддасць, не патрэбны ёй яго грошы.

Як аддаць? Можна даведацца яго адрас і паслаць дадому, але яна не хацела рабіць яму непрыемнасці — раптам перавод убачыць жонка і спытае, ад каго. Паслаць на работу? А можа, сустрэць каля бальніцы, як той раз, і аддаць?

За ўсе гэтыя шэсць гадоў Таня ні разу яго не бачыла, не сустрэла нават выпадкова. Праўда, аднойчы ёй здалося, што праехала знаёмая «Волга» і ў ёй мільганула сіваватая галава, але яна не была ўпэўнена, што гэта ён. Ды, уласна, чаго было сустракацца, паміж імі даўно ўсё ясна, і ад пачуцця ў Тані нічога не засталося. Успамінаць яго прымушаў хіба Саша, калі пачынала думаць пра сынаў лёс. І ўсё-такі ёй хацелася яго

пабачыць, хацелася паказаць перад ім сваю незалежнасць, свой жаночы гонар, сказаць, што ёй непатрэбны яго падачкі, што ён гэтымі грашыма пакрыўдзіў, абразіў яе.

Яна хадзіла каля бальніцы больш чым гадзіну і не сустрэла яго. Другі раз таксама доўга пільнавала і не ўбачыла. І трэці раз збіралася ісці ўжо дадому, так яго і не пабачыўшы, але азірнулася на браму бальніцы і спынілася.

Яна не бачыла яго амаль шэсць гадоў. Галава яго, здаецца, яшчэ больш пасівела, ён крыху папаўнеў, быў у новым, з іголачкі, светлым касцюме, з партфелем і выглядаў салідна. Відаць было, што з клінікі выходзіць не звычайны які-небудзь ардынатар, а няйнакш прафесар. Ён пакіраваўся да ўзбочыны тратуара, і толькі тут Таня пазнала яго «Волгу». Хвіліна, і ён сеў бы ў машыну, Таня шпарка падышла да яго. Ён, мусіць, пачуў яе скорыя крокі, што спыніліся за яго спіною, азірнуўся. І застыў, трымаючы ў адной руцэ ключы ад машыны, у другой — тоўсты партфель.

— Дзень добры,— сказаў спакойна, нібы і не здзівіўся, што яе ўбачыў. Адчыніў заднія дзверцы машыны і запрасіў:

— Сядай.

Таня паслухмяна села. Ён зачыніў за ёю дзверцы, абышоў машыну, сеў за руль. Уставіў у шчыліну ключ, уключыў паварот — паехалі. Нейкі час маўчалі, быццам было зусім звычайна, што яна едзе з ім па горадзе. Ён старанна сачыў за дарогаю, спыняўся каля светафораў, абганяў тралейбусы, аўтобусы. У машыне знаёма пахла, і яна ўспомніла, як некалі ездзіла з ім, толькі тады сядзела спераду, побач...

— Ты далёка не едзь, я скора выйду,— старалася гаварыць спакойна.— Я толькі аддам табе грошы, прысланыя з Масквы...

Глядзела на яго збоку і бачыла, як ружавелі яго шчака, лоб, яшчэ болей адцяняючы сівыя валасы.

— Дарэмна,— сказаў ён, не азіраючыся.— Я разумею, можа, я раблю не тое, але я хацеў...

— Не трэба,— перабіла яго Таня.— І больш ніколі гэтага не рабі... Мне ад цябе нічога не трэба... І прабач, але я сказала сыну, што яго бацька памёр... Я нічога лепшага не магла прыдумаць.

Ён вёў машыну і маўчаў. У яе круціліся на языку

яшчэ нейкія словы, хацелася яму яшчэ нечым дапячы, можа, нават пасмяяцца, што ён утаіў грошы ад жонкі, але чамусьці расхацелася смяяцца, падумала, што гэта было б вельмі па-бабску. І потым — у яго спіне, у павароце галавы яна ўбачыла нешта вінаватае, бездапаможнае, куды дзеўся салідны чалавек, прафесар, які нядаўна ішоў да машыны, зрабілася шкода яго, быццам яна і праўда хацела яго пахаваць і ён быў на гэта згодны.

— Спыні машыну... Грошы ў канверце я пакідаю на сядзенні... І больш ніколі гэтага не рабі,— паўтарыла яна.

Ён паслухмяна падвёў машыну да тратуара, спыніў. Таня пачала тузаць дзверцы — не магла сама адчыніць. Ён перахіліўся цераз крэсла, дапамог ёй. На міг яго рука, яго твар наблізіліся да яе, і на яе дыхнула родным, сваім, падобным на Сашку... Цясней зрабілася ў грудзях.

Яна трымала ўжо дзверцы адчыненыя, але не выходзіла з машыны, быццам чакаючы ад яго нейкага слова ці збіраючыся нешта на развітанне сказаць яму.

— Што я павінен зрабіць? — спытаўся ён, павярнуўшыся да яе тварам.

Таня паглядзела яму ў вочы.

— Нічога... А ты б не хацеў пабачыць свайго сына?

— Не,— адвярнуўся ён ад Тані, узяўся дзвюма рукамі за руль.

— Чаму?

Ён памаўчаў.

— Бо тады б ён стаяў перад маімі вачыма... І я, магчыма, не змог бы стрымацца...

— Шкадуеш сябе,— сказала з іроніяй.

Ён нічога не адказаў.

— Як хочаш,— Таня выйшла з машыны, бразнула дзверцамі, пайшла не азіраючыся.

Было крыўдна, да слёз крыўдна, што не захацеў пабачыць Сашку. Беражэ спакой сваёй сям'і... Беражэ свой аўтарытэт — перад дзецьмі, на рабоце, бо, калі дазнаюцца дзеці, на рабоце — спадзе арэол непагрэшнасці... І было крыўдна, надта крыўдна, што для спакою сваёй сям'і, для свайго аўтарытэту так лёгка ахвяруе сынам, няхай і пабочным.

Думаць так было страшэнна цяжка, Тані наогул было цяжка адчуваць сябе несправядліва пакрыўджанаю, заўсёды шукала і сваёй віны, лягчэй было адчуваць несправядлівай сябе, чым без віны пакрыўджанай. Вось і цяпер пачала шукаць яму апраўдання: а якое, уласна, я маю права выстаўляць да яго прэтэнзіі? Ён мае права берагчы сваю сям'ю, берагчы свой аўтарытэт, я не менш вінаватая за яго, ведала, што жанаты... А сёння... Не, што грошы аддала, гэта правільна, але трэба было больш тактоўна... Трэба было пагаварыць па-чалавечы, павіншаваць яго з доктарскай дысертацыяй, спытаць, як дзеці, як той, што часта хварэў, пісаў яму пісьмы з берага мора: «Даплываю ўжо да буйка...» Колькі ж гэта яму ўжо? Шэсць ды восем — чатырнаццаць... Калі ўжо Сашу будзе чатырнаццаць?.. Не, я зусім не так сябе з ім трымала. Заднім розумам моцная, хоць пабяжы ды дагані тую «Волгу», пачні ўсю размову спачатку.

І яшчэ, як ні дзіўна, трохі шкода было грошай — яны былі б ёй зусім, зусім не лішнія. Але не ўяўляла сабе, як магла б імі пакарыстацца.

Аднак сустрэча, якой яна так чакала, якую рыхтавала, якая так доўга была для яе ў будучым, адышла ўжо ў мінулае, як і ўвесь сённяшні дзень, і перажыць яго нанова, нешта ў ім паправіць было немагчыма.

І зноў пабег час — у рабоце, клопаце. Кожны дзень выходзіла газета, і ў кожны нумар, хоць ты памры, павінен быў паступаць матэрыял і з іх аддзела. Ён паступаў бы, каб Таня і сапраўды памерла, як не спынілася б ад гэтага выходзіць і газета, як не спынілася б ад гэтага наогул жыццё на зямлі, яе работу выконваў бы нехта іншы. Але пакуль Таня жыла, пакуль працавала ў аддзеле, то гэты клопат ляжаў на ёй і на Любе, але кожны ведае, што начальнікі заўсёды робяць менш работы, чым падначаленыя, так што большая доля грузу клалася на Таню.

Ёй далі асобную аднапакаёвую кватэру, і Таня ўпершыню ў жыцці адчула сябе гаспадыняю, быццам нават цвярдзей усталявалася на зямлі. Праўда, кватэра была не новая, на пятым паверсе, людзям, якія ў ёй жылі, далі лепшую. Кватэра не мела тэлефона, да якога так прывыкла Таня і які быў ёй вельмі патрэбны, але ўсё роўна гэта была першая ў яе жыцці кватэра, яна магла рабіць у ёй што сама хацела, адчуваць

сябе гаспадыняй, як хацела магла карыстацца кухняю і калідорам.

Потым надышоў дзень, калі Сашу, у новенькай школьнай форме, з кветкамі ў руках, з ранцам за плячыма, завяла яна ў першы клас. І гэта была хвіліна, дзеля якой варта было жыць на свеце.

А потым Саша прынёс першую пяцёрку — радасць мацеры, а потым першую двойку, якая прывяла Таню ў адчай.

Новая кватэра з усімі выгодамі паказвала і свае невыгоды. На старой кватэры разам з ёю жылі пажылыя людзі, і часам можна было іх папрасіць, каб прыгледзелі за Сашкам, тут Сашка быў аддадзены самому сабе. Адпраўляючы сына ў школу, Таня вешала яму на шыю, на шнурку, каб не згубіў, ключ ад кватэры. Пасля школы загадвала ісці дадому, есці тое, што пакідала яму на стале ў тэрмасах, і нікуды не хадзіць, пакуль яна не вернецца з работы.

Калі быў меншы — слухаўся, а далей Таня вярталася з работы і бачыла, што тэрмасы стаяць на стале некранутыя, Саша не еў, а, кінуўшы партфель у калідоры, пабег на вуліцу, часам забыўшыся нават замкнуць дзверы. Яна лётала па двары, шукала яго, знаходзіла, ушчувала. Нейкі час Саша зноў слухаўся, а потым мацнейшымі за матчын загад аказваліся двор, сябры.

Вучыўся ён някепска, каб гэта было каму за ім пасачыць, прымусіць зрабіць усе ўрокі, ды ў час накарміць, ды паглядзець, з кім там гуляе,— залаты быў бы хлопец.

А Тані на ўсё не хапала. Яна думала — вось падрасце сын, паразумнее, будзе лягчэй. Трэба было на сваім уласным вопыце дайсці да таго, што даўно спасцігла народная мудрасць: «Малыя дзеткі, малыя бедкі...», «Растуць дзеткі, растуць бедкі...», «Малыя дзеці смокчуць грудзі мацеры, вялікія дзеці смокчуць яе сэрца...»

Трэба было на сваім жыццёвым вопыце пераканацца, што найбольш шчасця даюць мацеры малыя дзеці, пакуль яны належаць ёй, сталеюць, і забірае іх жыццё, усмоктвае ў свой вір, гоніць цераз вадаспады і парогі, усё далей адносячы ад мацеры, і ўсё больш гаруе яе сэрца, сумуе па бездапаможнасці, па кволасці таго, далёкага, маленькага дзіцяткі.

Перажытае за дванаццаць гадоў можна ўспомніць за адну гадзіну, бо ўспамінаецца яно не паслядоўна, не падрабязна, успамінаецца ўрыўкамі, малюнкамі, словамі, сказанымі табою і сказанымі табе, успамінаецца эмоцыямі — крыўдаю, тугою, радасцю.

Апошнія дні, бяссонныя ночы Таню апаноўвалі гэтыя малюнкі, словы, уваскрашаліся то радасць, то туга, то прыкрасць. Усё гэта было выклікана тым вялікім для яе патрасеннем — Саша і міліцыя. Прайшоў ужо тыдзень з таго дня, а яна ніяк не магла супакоіцца, не магла прыдумаць — як аберагчы сына ад новых неразумных учынкаў, ад небяспекі, ад страшнага, што можа падпільнаваць яго ў жыцці. Але не мучылася сумненнямі — ці добра яна зрабіла, што свядома без мужа нарадзіла дзіця. Саша жыў — са сваімі вачыма, непаслухмянымі валасамі, худымі лапаткамі, і хіба магла разважаць Таня — а ці не лепей было б, каб усяго гэтага не існавала.

## 10

Кабінет рэдактара быў метраў на пяцьдзесят, прадаўгаваты, з вялікімі вокнамі справа і насупраць уваходных дзвярэй. Да рэдактарскага стала, тарцом, быў прыстаўлены яшчэ адзін стол, доўгі, паліраваны, з крэсламі паабапал. Стаялі крэслы і ўздоўж сцен — каб у час лятучак, сходаў можна было збіраць сюды ўвесь калектыў. Калі ў кабінет сыходзіліся работнікі, ён нібы меншаў, а калі заставаўся адзін гаспадар, адчувалася яго вялікая прастора.

Пасярод кабінета ляжаў дыван, які ўсе ў рэдакцыі называлі па-руску — кавёр. Часам на гэты «кавёр» выклікалі супрацоўнікаў, каб давалі тлумачэнні за дапушчаныя памылкі, за не ў час здадзены матэрыял — ды ці мала за што можна прапясочыць работніка, асабліва маладзейшага, які не спасціг яшчэ мудрасці журналісцкай работы.

У Тані рэдактарскі кабінет выклікаў не тое каб страх, але нешта падобнае на трывожную пачцівасць. За дзвярыма, абабітымі жоўтым дэрмацінам, сядзела сіла, якая магла альбо памілаваць, альбо пакараць. Асабліва страшным здаваўся ёй гэты кабінет у гады маладосці, калі толькі прыйшла сюды з універсітэта. Ёй тады наогул здавалася, што ў рэдакцыі ўсе вельмі

разумныя людзі, вельмі вопытныя журналісты, а яна — сляпое кацяня, няўмека, і вельмі скора ўсе гэта ўбачаць, і ёй будзе сорамна, што яна, маючы універсітэцкі дыплом, нічому не навучылася.

Старэйшыя работнікі рэдакцыі па чарзе трымалі дзяжурства над кожным нумарам. Памылка ў газеце была з'яваю незвычайнаю. Тэкст кожнага матэрыялу чытаўся і перачытваўся — у аддзеле, начальствам, стылістамі, карэктарамі, дзяжурным па нумары. І ўсё ж, бывала, памылка ўлазіла на паласу. Бывала, што ў рэдакцыі яе ніхто так і не заўважаў, але газета трапляла чытачам, і там ужо знаходзіліся ўважлівыя. У рэдакцыю званілі, пісалі: «Куды глядзяць работнікі газеты!..», «Ці там у вас сядзяць непісьменныя?..»

За кожную памылку вінаватага моцна крытыкавалі. Моцна крытыкавалі нават тады, калі памылка даходзіла да дзяжурнага па нумары. Дзяжурны дакладваў рэдактару, і тады вінаватага выклікалі на «кавёр», пясочылі на лятучцы.

Надта баялася Таня, каб не праскочыла памылка па яе віне, заўсёды вельмі ўважліва чытала матэрыялы. І ўсё ж прапусціла.

Машыністка, перадрукоўваючы артыкул, перакруціла літары, ды так перакруціла, што слова набыло зусім іншы і вельмі несімпатычны змест. І ніхто не заўважыў — ні сама Таня, ні стылісты, ні карэктары. Дайшло да дзяжурнага па нумары — Віктара Паўлавіча, сакратара рэдакцыі. Той ціхенька паправіў. І нікому нічога не сказаў. Толькі назаўтра прыйшоў да Тані з паласою, паказаў тое слова.

Таня ледзь не самлела.

І як жа была яна ўдзячная Віктару Паўлавічу, што нікому не сказаў пра яе памылку... А некаторыя дзяжурныя не так рабілі. Той жа Кулік, рады выслужыцца перад рэдактарам, паказаць, які пільны, з кожнаю не там пастаўленаю коскаю бег скардзіцца на аддзел. Віктар Паўлавіч пашкадаваў яе, зялёную, нявопытную.

Яшчэ больш уважліва пачала Таня чытаць матэрыялы, і больш памылак па яе віне не было.

Люба тады не загадвала яшчэ аддзелам, яе месца займаў Алесь Жумар, малады паэт, які потым перайшоў на работу ў выдавецтва, на яго месца і паставілі Любу. Таня да таго часу так паднатарэла ў рабоце і

сама пачала пісаць рэцэнзіі, друкавацца, што ў душы нават крышку пакрыўдзілася на начальства — не маглі хіба яе паставіць загадчыцаю?.. Але крыўда скора прайшла, мусіць, нечага ёй не хапае, каб зрабіцца хоць маленькаю начальніцаю, мусіць, вышэй за літработніка яна ў сваёй кар'еры не паднімецца.

А ў чалавечнасці Віктара Паўлавіча ёй яшчэ не раз даводзілася пераконвацца — і ў адносінах да сябе, і ў адносінах да іншых.

Сёння яна з раніцы вырашыла, што зойдзе да рэдактара, папросіць паперку наконт тэлефона, але вось ужо хутка дванаццаць, а яна яшчэ не зайшла, усё адцягвае — зараз, зараз... Нарэшце вырашыла, што раней ці пазней зайсці давядзецца, і рашуча пакіравалася ў прыёмную.

Сакратарка Света — зусім маладая дзяўчынка з моднаю стрыжкаю, з блакітнымі павекамі, закладвала ў карэтку пішучай машынкі чысты ліст паперы. Таня спытала ў яе, ці рэдактар адзін у кабінеце. Тая кіўнула галавою — адзін.

Адчыніла дзверы.

Рэдактар сядзеў далёка, на другім канцы кабінета, доўга ішла да яго стала. Ён падняў вочы ад паласы, нядаўна прынесенай з друкарні. У руках у яго быў чырвоны аловак, гэтым алоўкам ён звычайна падкрэсліваў у матэрыялах месцы, якія яму не падабаліся. І на свежай паласе Таня ўбачыла ў адным месцы след гэтага алоўка.

— Прабачце, калі ласка, вы заняты,— пачала Таня,— але вы на рабоце заўсёды заняты, а мне вельмі трэба...

Рэдактар трымаў аловак над паласою напагатове, сесці Таню не запрасіў, паказваючы, што не мае часу на доўгую размову.

— Міхаіл Арсенавіч, мне вельмі патрэбен тэлефон, а на тэлефоннай станцыі вельмі вялікія чэргі, я некалькі гадоў ужо чакаю... Ці не маглі б вы... Ад рэдакцыі... Даведку... У мяне сын, няма за хлопчыкам кантролю, хоць бы па тэлефоне,— збіўчыва тлумачыла Таня сваю просьбу. Але рэдактар адразу зразумеў, чаго яна хоча. Ну так, абанентных нумароў на станцыі не хапае, паставіць тэлефон складана, але просьбу рэдактара газеты могуць улічыць, калі напісаць, што тэле-

фон патрэбен не так супрацоўніку, як газеце, каб можна было пры патрэбе выклікаць...

Таня была, вядома, не такі вялікі работнік у рэдакцыі, каб ёй спецыяльна ставіць тэлефон, і яна разумела незаконнасць сваёй просьбы, але што ёй рабіць. Пакуль не здарылася гэтай гісторыі з Сашам, яна і не прасіла, але цяпер...

— Дык вы што, па тэлефоне будзеце выхоўваць сына? — падняў рэдактар на Таню вочы, па якіх яна ніяк не магла здагадацца — ці рэдактар ёй спагадае, ці насміхаецца з яе.

— Як адзін са сродкаў кантролю,— вінавата ўсміхнулася Таня.

Напружанасць пачала яе адпускаць, падступіла нават крыўда: божа мой, колькі балабонак гадзінамі сядзяць на тых тэлефонах, гавораць абы пра што, а ёй трэба выпрошваць, прыніжацца.

— Калі гэта няможна, то няможна,— суха сказала яна, паварочваючыся, каб ісці. Гонар, шмат перашкаджаў ёй у жыцці гонар, але найцяжэй, амаль немагчыма змагацца з самой сабою.

— Скажыце Віктару Паўлавічу, няхай напіша, я падпішу,— сказаў рэдактар і апусціў вочы на паласу.

— Дзякуй,— сказала Таня. І яшчэ раз шчыра паўтарыла: — Дзякуй.

Яна адразу пайшла да Віктара Паўлавіча, растлумачыла, чаго прасіла ў рэдактара і што рэдактар накіраваў да яго.

— На рэдакцыйным бланку напішыце,— папрасіла Таня.

— Вядома,— кіўнуў галавою Віктар Паўлавіч.— Даўно трэба было гэта зрабіць.

— Ды няёмка,— сказала Таня.

Віктар Паўлавіч выглядаў сёння кепска — бледны твар, цёмныя кругі пад вачыма, вусны сіняватыя.

— Вы, можа, нездаровы,— са спачуваннем спытала Таня.

— Я, дзевачка, даўно нездаровы,— прызнаўся Віктар Паўлавіч.— А сёння ноччу і праўда... Сардэчны прыступ, «хуткую дапамогу» выклікалі.

— То чаго вы прыйшлі на работу! — абурылася Таня.— Ідзіце дадому, думаеце, без вас газета не выйдзе? — сказала і тут жа зразумела, што ляпнула не тое, не трэба было так казаць, можа, чалавек прыхо-

дзіць, бо адчувае сваю неабходнасць на рабоце, а яна яму — так нетактоўна...

— Газета выйдзе і без мяне,— не пакрыўдзіўся Віктар Паўлавіч.— Не так я ёй патрэбен, як яна мне...

— Даруйце,— папрасіла Таня.— Ды яшчэ з гэтым маім тэлефонам... Кіньце, іншым разам... Ачуняеце, тады напішаце...

— Ды нічога, я пайду прадыктую машыністцы.

Таня вярнулася ў аддзел, села на сваё месца. Любы не было — недзе пайшла. Зазваніў тэлефон. Аўтар рамана пытаўся, ці хутка пойдуць яго ўрыўкі. Таня сказала, што пачнуць друкаваць з наступнага нумара.

Скора Віктар Паўлавіч прынёс ёй падпісаную рэдактарам паперу.

— Толькі ці паможа яна,— сказаў Тані.— Там такіх просьбаў — горы. Ну, але жадаю ўдачы.

Таня пакінула Любе запіску, што пайшла выбіваць тэлефон, і, узброеная паперкаю з рэдакцыйным бланкам, пабегла на тэлефонную станцыю.

Сакавік сёлета выдаўся халодны, за цэлы месяц якія тры цёплыя дні, астатні час дзьмуў вецер, ішоў дождж, нават са снегам, сонца калі і свяціла, то не магло прагрэць тоўсты пласт халоднага паветра. Цяпер сакавік быў на зыходзе, і нарэшце пацяплела, сонца адбівалася ў шыбах вітрын, клалася пад ногі, на сухі чысты асфальт. Людзі адразу павесялелі, папрыгажэлі, з’явілася шмат дзяўчат, маладых жанчын у светлых палітонах і пілотках, модных гэтым сезонам. У куртках, без шапак, з доўгімі валасамі і барадамі спяшаліся маладыя мужчыны.

Таня апошнім часам пачала заўважаць, што ўжо не хвалююць яе, не цікавяць модныя строі, ды ў яе гады і смешна было б, мусіць, надзець такую пілотачку. Яна і маладая не вельмі ганялася за ўборамі, не было на што купляць строі, маці памерла скора пасля вайны, бацька яшчэ перад вайною, вучылася і працавала, грошай ледзь хапала на жыццё, мела якіх дзве сукенкі і адно паліто на ўсе сезоны. Ніхто ёй не загадваў вучыцца, ніхто не абяцаў, ды і не было каму абяцаць дапамогі, яна пайшла вучыцца, бо не ўяўляла, як гэта можна — не вучыцца. І ў галаве ў яе не было, што вось дыплом забяспечыць ёй бязбеднае жыццё. Былі ў сэрцы ідэалы, голас душы клікаў рабіць нешта добрае, высокае, неабходнае ўсяму чалавецтву. Яшчэ блізка

была вайна з яе горам, пакутамі, калі ўсё каштоўнае і некаштоўнае вымяралася не грашыма, а чалавечымі жыццямі, калі ўсе грэліся ў праменнях перамогі і здавалася — наперадзе вечнае шчасце і вечная маладосць.

Але вось і мінула яна, Таніна маладосць, ужо маладзенькія модныя дзяўчаткі глядзяць на яе са скептычным недаўменнем — няўжо і гэтай кабеціне патрэбен новы капялюш? Што наогул ёй патрэбна тут? Часам Тані робіцца вусцішна каля іх — высокіх, дужых акселератак, упэўненых у сабе і ў тым, што свет належыць толькі ім, вусцішна ад іх практыцызму, ад іх пагарды да старэйшых, якую яны ўмеюць схаваць за з'едлівым гумарком. Якія ў іх думкі, ідэалы?

Голас душы, які кіраваў Таняю ў маладосці, не заглух і цяпер, і цяпер хочацца ёй служыць дабру і праўдзе, але цяпер яна не заўсёды ведае, як гэта рабіць, яе палохае нейкая апантанасць, сквапнасць многіх людзей, выстаўляюцца адно перад адным — багаццем, пасадаю, поспехам. Бескарыслівых энтузіястаў робіцца ўсё менш, ды і тыя, што спачатку здаваліся бескарыслівымі, аказваліся не такімі ўжо і бессярэбранікамі, падабалася, што іх на ўвесь свет праслаўлялі за энтузіязм і бескарыслівасць, часта гэтым праслаўленнем псавалі сапраўды працавітых, сціплых людзей. А якія жорсткія людзі адзін да аднаго — у магазінах, тралейбусах, няўжо вайна нічому не навучыла, не навучыла людзей дабрыні?

Дабрыня... Каб хто сказаў, калі яна сябар, калі вораг. Вось што рабіць ёй з Сашам — яшчэ трымаць пад гневам ці дараваць ужо? Не, дараваць яна не даруе, але ці трымаць яго і далей у такой строгасці — не пускаць на вуліцу, не дазваляць уключаць тэлевізар? Каб не набралася ў сынава сэрца злосці...

Адчувала на твары цёплы прамень, з ледзь прыкметнай шчылінкі паміж домам і тратуарам прабіваліся, зелянелі сакавітыя пер'і травы. Прырода рабіла сваё.

Вечарам Саша яшчэ ўсё вінавата папрасіў:

— Мама, я ўключу тэлевізар, там кіно пра вайну...

Таня сама ўжо думала сёння — ці не парушыць ёй паласу адчужанасці з сынам, каб не перабаршчыць у сваёй строгасці, але зрабіла выгляд, што думае — дазволіць ці не дазволіць.

— Уключай,— сказала стрымана.

Узрадаваны хлопец падбег да тэлевізара, уключыў. Матчына згода дазваляла яму зрабіць вывад, што гнеў яе мінуўся, і ён, радасны, як сабачанё, прылашчанае гаспадаром, закруціўся вакол мацеры, загаварыў:

— Валерка бачыў гэта кіно, казаў, што міравое кіно, а я тады не бачыў, я на двары гуляў.

— Вось то-та, табе то ў двары гуляць, то кіно глядзець, калі ты за розум возьмешся,— не стрывала, папракнула Таня.

Але ў гэты час на экране замільгалі цітры фільма, Саша плюхнуўся на крэсла, застыў у чаканні асалоды. Таня, хоць і не бачыла гэтага фільма, не мела часу глядзець, пайшла ў кухню, распакавала сумку з прадуктамі, якіх накупляла ў час абеду,— трэба было згатаваць вячэру ды які суп зварыць на заўтра.

Яна поркалася на кухні і чула, як з пакоя далятала да яе страляніна, выбухі, задыханыя галасы салдат, нямецкае гергетанне. Потым пайшоў дыялог, які Таня чула не вельмі выразна, потым з экрана заплакала дзіця.

Яна нечага зайшла ў пакой, кінула вокам на экран — па дарозе, запыленыя, стомленыя, ішлі бежанцы — з клункамі, з чамаданамі, нехта вёз дабро на калымажцы, нехта вёў на вяроўцы казу; націскаючы на клаксон, просячы дарогі, праз натоўп бежанцаў прабіраліся грузавікі.

Таня прыпынілася на хвілінку ды так і засталася, прымасцілася на крэсле каля сына, і ўдваіх яны прагледзелі фільм.

Толькі тады, калі на экране выплыла слова «канец», Таня заўважыла, што сядзела, абняўшы Сашу. «Ну што ж... Хто яго і пашкадуе, калі не я,— апраўдвалася сама перад сабою.— А пакараць заўсёды знойдзецца каму, хто ведае, што ў яго наперадзе, мы вунь якую вайну перажылі...»

— Міравы фільм, праўда? — падняў на яе вочы сын.

— Ага, харошы фільм... І мы вось так некалі ў бежанцы хадзілі,— пачала яна ўспамінаць сваё,— мая мама — твая бабка — я і цёця Лена... Ад немцаў уцякалі... Мама несла чамадан і клунак, звязаныя ручніком, перакінула цераз плячо — на спіне чамадан, на грудзях клунак,— паказала Таня рукамі, дзе быў ча-

мадан, дзе клунак.— І ў мяне быў клуначак за плячыма... Цёця Лена зусім малая была, шэсць гадоў ёй было, то яна нічога не несла, сама ледзь ішла... Немцы на нас налятаді, бамбілі, як у гэтым фільме,— паказала Таня на цёмны цяпер экран.— Мы з цёцяю Ленаю наламалі бярозавых галінак і, як бачылі, што ляцяць самалёты, збягалі з дарогі, прысядалі і над сабою галінкі выстаўлялі — маскіраваліся.

— Усё роўна ў вас магла папасці бомба, вы ж былі каля дарогі, і яшчэ шмат людзей было, немцы ж з самалёта ўсё бачылі,— разважаў Саша.

— Цяпер і я разумею, што тыя галінкі нас не ўратавалі б, а тады страшна было, хаваліся пад галінкамі. Ад нас і другія дзеці навучыліся, і тыя наламалі галінак, і як налятаді самалёты, то маскіраваліся.

— І ўцяклі вы ад немцаў? — Саша з цікавасцю глядзеў на маці.

— Не, сынок... Немцы ішлі шпарчэй за нас... Дагналі і загадалі вярнуцца.

— А потым?

— А потым мы жылі ў чужой кватэры, бо нашу разбілі бомбы, а потым у горадзе голад пачаўся і мы пайшлі ў вёску, да цёці Стэфы, жылі ў тым доміку, які я табе паказвала, калі мы ездзілі да цёці Стэфы.

— Дык там жа не дом, а хлеўчык,— успомніў Саша той будынак, які быў прытулкам яго бабцы з дзецьмі ў час вайны.

— Цяпер-то ён і праўда хлеўчык, а тады быў нішто... Хаця, і тады быў хлеўчык,— згадзілася Таня.

Хлопчык памаўчаў, задуманы, потым спытаў:

— А ты бачыла партызанаў?

— Канечне, бачыла, яны да нас часта заходзілі.

— А чаму ты не пайшла ў партызаны?

Таня сядзела на крэсле насупраць тэлевізара, цяпер выключанага, Саша з нагамі ўзлез на сваю канапку, заціснуўся ў куток, глядзеў адтуль на маці жывымі, поўнымі цікавасці вачыма, як нядаўна на экран.

— Ну, сынок, ты ж ведаеш, я была яшчэ малая, амаль такая, як ты цяпер, які з мяне быў бы партызан.

Саша змераў вокам матчыну постаць, быццам не верачы, што яна некалі была малая, сказаў з перакананнем:

— А я ўсё роўна пайшоў бы... Як той хлопчык у

гэтым фільме... Ён таксама быў малы, а пайшоў у партызаны... І ў разведку хадзіў.

— І загінуў,— сказала Таня.

— Ну дык і што! — аж прыўзняўся Саша на сваёй канапцы.— Ён жа загінуў за радзіму!

Святыя, чыстыя парывы хлопчыка...

— За радзіму, за праўду, калі трэба, то можна і памерці,— сказала Таня.— Але вайна — гэта не гульня, гэта страх, гэта пакуты, гэта смерці нявінных людзей... Дзеці ў вайну — пакутнікі, і фільм гэта паказаў... Таму гэты фільм і харошы, і праўдзівы.

Саша зноў задумаўся. Таня збіралася ўжо пакіравацца на кухню, але сын спыніў пытаннем:

— А бываюць фільмы няпраўдзівыя?

Ну вось, новая задача, паспрабуй адкажы правільна. Вырашыла не крывіць душою перад сынам:

— Бываюць...

— То чаму іх робяць?

Пытанне зусім лагічнае.

— Чаму робяць няпраўдзівыя фільмы? — перапытала яна.— Ну, разумееш... спецыяльна ніхто не хоча зрабіць дрэнны фільм, няпраўдзівы, але часам людзі, якія іх робяць, кепска ведаюць вайну... Выдумляюць... Ну, і выходзіць кепскае кіно, як ты кажаш.

— То чаму яго паказваюць па тэлевізары?

— Ты, Саша, задаеш столькі пытанняў... Я і сама не ведаю, чаму яго паказваюць па тэлевізары... Вырасцеш, сам разбярэшся, можа, сам будзеш кінарэжысёрам.

— Не,— пакруціў галавою Саша,— я буду доктарам.

Таню гэта прызнанне сына амаль спужала. Доктарам... Як бацька... Няўжо нешта перадалося ў генах? Не падала выгляду, што сынавы словы ўразілі, сказала:

— Каб доктарам быць, трэба добра вучыцца, а ты ад троек ніяк адчапіцца не можаш. Вучыцца трэба, каб троек не было.

— От ты, мама,— на Сашавым твары адбілася прыкрасць.— Пра што б ні загаварылі, ты ўсё на вучобу перавернеш, падумаеш, дзве тройкі будзе ў чвэрці... На наступны год, калі захачу...

Гэта размова магла б цягнуцца бясконца, і, каб перапыніць яе, Таня махнула рукою, пайшла ў кухню.

— Праз тваё кіно я вячэры не зрабіла, суп на заўтра не зварыла, пойдзем хоць чаю вып'ём, ды спаць кладзіся, раніцою цябе не дабудзішся.

Ставіла на пліту чайнік і думала:

«Гэта ж трэба — буду доктарам... Няўжо гены?..»

## 11

І рваліся бомбы, і гарэў горад, імчаліся немцы на матацыклах — не ў кіно, у Танінай памяці. Растрывожаная фільмам, размоваю з Сашам, яна абвальвалася ў мінулае, у сваё дзяцінства і, здаецца, зноў адчувала мукі голаду, цела скоўваў ледзяны холад страху. Яны нічога не маглі вырашыць самі, Тані было дванаццаць, а Лене, меншай сястры, усяго шэсць. Вырашыць павінна была маці, і яна вырашыла — уцячы ад голаду ў вёску. Маці ўмела шыць, мела ручную швейную машынку, спадзявалася, што ў вёсцы будзе зарабляць шытвом.

Не то хлеўчык, не то лазня ў двары цёткі Стэфы — жонкі матчынага роднага брата. Сама цётка Стэфа з чатырма дзецьмі жыве ў хаціне, не нашмат лепшай за іх прыстанішча: маленькія вокны — у гарадскіх дамах форткі большыя, земляная падлога.

Мамін брат, муж цёткі Стэфы, вельмі добра іграў на мандаліне, і перад самаю вайною яго паслалі ў Мінск на нейкі канцэрт калгаснай самадзейнасці. Пачалася вайна, і дзядзька з таго канцэрта не вярнуўся. А праз некалькі дзён па вёсцы пайшла пагалоска, што дзядзьку ў Мінску за нешта арыштавалі, нехта бачыў, як ён ехаў з міліцыянерам у машыне.

Цётка не так шкадавала дзядзьку, як злавала на яго — за тую самадзейнасць, за тую мандаліну. Як цяпер, чуе Таня цётчын голас:

— Ён век не так да работы рваўся, як да гуляў... Дагуляўся...

Як бачыць Таня перад сабою і цётчыну постаць — высокая, жылістая, у доўгай цёмнай спадніцы, у хустцы, завязанай пад падбародак, у каптане з закасанымі рукавамі. Твар абветраны, цёмны, жывыя разумныя вочы, у якіх упартасць, цвёрдасць, папярок ілба — дзве звілістыя зморшчыны.

Немцы калгас раскідалі, зямлю падзялілі, і лягчэй

аказалася тым, у каго ў хаце быў хоць лядашчы, ды мужчына.

Цётцы не было ад каго чакаць дапамогі — дзеці малыя, адно пад адным, трэба было ўсё рабіць самой.

Прадаўшы палатно, што бераглося ў куфры, яшчэ і матчына, і бабчына (былі там такія абрусы ды ручнікі, якія цяпер толькі б у музей), мужаву адзежу, пайшла яна ў Заходняю Беларусь і купіла там каня. На выгляд конь быў не вельмі — маленькі, нейкі кудлаты, з наіўным позіркам лупатых вачэй, але аказаўся цягавіты. Цётка на ім арала, баранавала, вазіла гной, сена, збожжа, дровы. Але сама працавала нашмат больш за свайго каня. Загнаўшы Сіўку ў хлеў і даўшы яму корму, сама ўгіналася ў новую работу, якую не мог памагчы зрабіць ніякі конь — паліла ў печы, мыла бялізну, палола грады, карміла скаціну, дзяцей. Былі дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі, блізняты, Мішка і Грышка. Усё жыццё, нават і цяпер, Таня блытае — дзе Мішка і дзе Грышка, такія яны падобныя.

У вёсцы гаварылі пра лістоўкі, што скінуў савецкі самалёт, пра партызан, што недзе блізка аб'явіліся. Цётка ад усякай палітыкі адмахвалася.

— Мне трэба дзяцей карміць,— казала яна.

Аднойчы маці не вытрывала:

— Што ты ўсё тыцкаеш — дзяцей карміць, дзяцей карміць, ува ўсіх дзеці, не толькі ў цябе, усім трэба карміць, ды трэба падумаць, каму ты іх гадуеш... Парабкаў выгадуеш... Будуць выжыльвацца, як ты цяпер выжыльваешся, ды не на сваіх дзяцей...

Цётка памаўчала, плюнула сабе пад ногі:

— То што я з тымі немцамі зраблю... Што я табе, мацнейшая за фронт?..

Скруціла з газеты цыгарку, закурыла — у вайну цётка навучылася курыць, смаліла махорку, як мужчына.

І ўспомніла Таня, як наехалі на іхнюю вёску карнікі, паліцаі з мястэчка — у іхняй вёсцы не было ніводнага паліцая,— пачалі хапаць людзей з тых сем'яў, чые мужчыны былі ў партызанах. І як бегла з малым дзіцем на руках Волька Герасімовых, муж якой, Федзька, быў у лесе. Паліцай шапнуў Вольцы — бывае ж і такое — «Уцякай»...

Волька бегла, і целяпалася ў яе на спіне белая хустка, што спаўзла з валасоў, скочыла ў іхні двор,

кінула малое на рукі цётцы Стэфе, крыкнула: «Ратуй!» — а сама пабегла загуменнямі, па бульбе, што цвіла сінімі кветачкамі.

Цётка стала з тым дзіцем пасярод двара, а спадніцу яе абляпілі Мішка з Грышкам ды дзяўчаткі — Валя і Жэня. У двор увайшло двое немцаў і паліцэйскі, паглядзелі на цётку, абвешаную дзецьмі ды з малым на руках.

Немец агледзеў цётку з усіх бакоў, спытаў нешта ў паліцэйскага, паказваючы на такую маляўнічую карціну.

— Гэта ўсе твае дзеці? — спытаў паліцэйскі.

— А чые ж? — дзёрзка адказала цётка.

— А муж дзе?

Сама не ведае цётка, як выскачыла ў яе:

— Мужа савецкая ўлада арыштавала!

— То адкуль дзіця малое?

Скамянеў цётчын твар, але толькі на якое імгненне, тут жа зноў зрабіўся дзёрзкі.

— А ты, гіцаль, не ведаеш, адкуль бяруцца дзеці? Дапытваць мяне прыйшоў? Ану, марш са двара!

Паліцэйскі задам, задам падаўся да варот, на хаду нешта тлумачачы немцам.

Потым Волька плакала, дзякавала цётцы.

— А я, цётачка, кінулася ў баразну і сплю... Ведаю, што трэба бегчы, уцякаць, а не магу скрануцца з месца, сплю, і ўсё,— расказвала Волька.— Каб малое было пры мне, то заплакала б, выдала б, прапалі б мы... Дзякуй вам...

— Чаго там дзякаваць, я на таго гіцля як сыкнула, дык ён з тымі немцамі ад мяне ўцякаў, больш як ад твайго Федзькі ўцякаў бы.

Таніна маці баялася, каб не пачалі гаварыць у вёсцы, што вось, гарадская сваячка з дзецьмі села на шыю братавай, і яна не брала ў той дарма нават каша бульбы, абшывала Стэфчыных дзяцей, з большай адзежы рабіла меншую, з дзвюх адзежак — адну. Ды, можна сказаць, усю вёску абшывала маці, бо на ўсю вёску, здаецца, толькі ў яе была швейная машына.

І ўспомніла Таня, як прыйшлі ў іхнюю хату-лазню двое партызан, як цяпер бачыць іх Таня перад сабою — адзін у кажушку, у шапцы з вушамі, з вусікамі, пажылы, другі ў світцы, падпаясанай рэменем, у пілотцы з зоркаю, з-пад якой кучаравіўся светлы чуб. Памяліся

партызаны каля парога, потым пажылы і кажа маццеры:

— Ці не аддалі б вы, гаспадынька, нам у атрад вашу швейную машынку... Надта нам трэба...

Ні хвіліны не вагалася маці, сказала:

— Бярыце...

Яна падышла да машыны, зняла з яе паліняляую сукенку, якую ёй далі перашыць, выцерла шматком з машыны пыл, зачыніла драўляным футаралам, адышла ўбок — бярыце.

Старэйшы ўзяў машынку пад паху, падзякаваў, пайшлі.

Маці апусцілася на лаўку.

Лена, якая з маладых гадоў вылучалася практыцызмам, спытала ў мацеры з папрокам:

— Навошта аддала? На чым будзеш шыць?

Нічога не адказала маці.

А дні праз тры тыя самыя партызаны прывалаклі машынку назад. Той, які здаваўся Тані пажылым, апраўдваўся:

— Вы ўжо нас прабачце, мы не ведалі, што вы з машынкі жывяце...

Партызан з чубам смяяўся:

— Камандзір загадаў занесці назад, знайсці іншую машынку, у каго багацейшага.

Маці радавалася, і партызаны радаваліся, як забіралі машынку, былі хмурныя, а як аддавалі — вясёлыя. А Тані было крыўдна, што прынеслі назад машынку, няхай бы служыла партызанам, не яны, дык іхняя машынка была б у партызанах.

Таня стаяла, прыхіліўшыся спіною да ледзь цёплай, крывой, абмазанай глінаю печы, глядзела на партызан.

Быў позні вечар, гарэла капцілка ў чарнаце хаты, і яснаю чысцінёю свяціўся ў гэтай чарнаце твар маладога партызана, задзірыста кучаравіўся светлы чуб з-пад яго пілоткі. Хлопец весела пазглядаў на Таню, і пад яго позіркам Таня сарамліва апускала вочы. Ёй было тады ўжо каля чатырнаццаці — і ў вайну растуць дзеці. Позірк партызана дакрануўся да нечага ў ёй, раней невядомага, упершыню адчула ў сабе дзявочае.

— Во, ёй пашыйце новую сукенку,— кіўнуў малады партызан на Таню.— Пакуль вайна скончыцца, яна

яшчэ крышку падрасце, і прыйду сватацца. Добра? — гэта ён спытаў ужо ў Тані.

Здаецца, ім не хацелася ісці ў ноч, у холад з іх хаціны, здаецца, хацелася пабыць у іх яшчэ, і яны прыдумлялі нейкія словы, смяяліся.

З таго дня Таня пачала прыглядацца да сябе як да дзяўчыны, у адбітым кавалку люстэрка разглядала свой твар — бровы, вусны, нос. Часам ёй здавалася, што яна нічога сабе, прыгожая нават, а часам здавалася сама сабе брыдкаю. Пачала часцей мыць, прасаваць сукенку, спадзявалася, можа, што яшчэ прыйдзе той малады партызан.

А потым на Крывой Губе быў бой партызан з карнікамі. Трое сутак грымела зямля, лопаліся стрэлы, трашчалі кулямёты. Казалі, што партызаны там паклалі не адну сотню карнікаў, але і партызан шмат палягло.

Дык, можа, Танін нарачоны ляжыць не пад Сталінградам і не пад Курскам, а на Крывой Губе, дзе цяпер над брацкаю магілаю стаіць белы абеліск і золатам напісаны прозвішчы партызан, што ляжаць пад ім? Але Таня не ведала прозвішча таго, бялявага, у пілотцы, што ўпершыню абудзіў у ёй дзявочае.

І яшчэ мроіліся Тані вялікія груды жоўтай зямлі на зялёнай траве — гэта ўся вёска капала зямлянкі. Усе жыхары пакінулі свае хаты, пайшлі жыць у лес. Гарэлі суседнія вёскі — Каменка, Забалоцце, Зарэчча, дым хмарамі курыўся ў небе, вецер прыносіў пах гары. Каб не партызаны, згарэла б і іхняя вёска, але як толькі соваліся да яе карнікі, партызаны пачыналі біць па іх з гармат.

Вёска стаяла — пустая, бязлюдная, і па вуліцах, паміж хат, хадзілі буслы. Таня з Вераю, старэйшаю дачкою цёткі Стэфы, пайшла ў вёску па харчы і бачыла на свае вочы, як важна, павыстаўляўшы наперад чырвоныя доўгія дзюбы, высока паднімаючы ногі, па пустой вясковай вуліцы хадзілі белыя буслы.

Гады тры таму назад, гарачым ліпенем, Таня з Сашам паехалі туды. У Тані быў адпачынак, вырашыла прабавіць яго з сынам у вёсцы.

Халупка, у якой яны жылі вайною, зусім урасла ў зямлю, пакрывілася, цётка зрабіла ў ёй кладоўку, там стаялі кашы, пустыя запыленыя бутэлькі, жорны, зробленыя з распіленай напалову бочкі — служылі

цётцы ў вайну. І Таня з маткаю не раз перацірала тымі жорнамі цвёрдыя зерні жыта. Падышла да тых жорнаў, пакруціла — знаёма паддаваліся руху цяжкія камяні.

А цётчын дом паднавіўся, у ім прарэзалі большыя вокны, наслалі падлогу.

Дзядзька, мамін брат, пасля вайны аб'явіўся. Ніхто яго не арыштоўваў, гэта нехта бачыў, як ён з міліцыянерамі ды з артыстамі таго канцэрта выязджаў з ахопленага агнём Мінска. Жыццё пасля вайны ў калгасе было цяжкае, дзядзька пакруціўся, пакруціўся дома і паехаў у горад, уладзіўся на работу ў пякарню.

Жыццё пайшло на лепшае, і ён вярнуўся дадому. Пагадавалі дзяцей, усіх, як гэта кажуць, вывелі ў людзі, усе ў горадзе жывуць, цётка з дзядзькам засталіся ўдваіх і з раніцы да вечара сварацца. Сварацца таму, што цётка і цяпер не разгінаючы спіны працуе, а дзядзька не хоча працаваць не разгінаючы спіны. Мандаліны, праўда, няма, згубілася на ваенных дарогах, але ёсць тэлевізар, які прыслала старэйшая дачка, сабе купіўшы каляровы. У тым тэлевізары відаць толькі цені, але дзядзька можа гадзінамі сядзець, уставіўшыся на экран, глядзець і слухаць. А цётка з раніцы да вечара поркаецца ўградах, матычыць бульбу, корміць скаціну.

Дзядзьку ўжо за восемдзесят, але ён яшчэ моцны, яшчэ даволі энергічна ходзіць. Носіць ён увесь час ваенныя гімнасцёркі, штаны, якія адслужылі ўжо лейтэнанту, мужу малодшай дачкі. Цётка, як і ўсё жыццё,— у доўгай спадніцы, у кофце з закасанымі рукавамі — каб ямчэй рабіць работу, у белай хустцы пад падбародак. Цёмны абветраны твар яе пабаранавалі маршчыны, у роце засталося мала зубоў.

Люба-дарага было паслухаць, як цётка з дзядзькам сварацца. Цётка ўспамінала дзядзьку ўсе яго грахі, аж з самай маладосці, калі той на другіх дзяўчат паглядаў. Не магла дараваць яму канцэрта, праз які засталася адна з малымі дзецьмі.

— Гэта ж трэба, людзі, як вайна пачалася, дзе каторы аказаўся, дадому дабіваліся, а гэты — з артысткамі! — Цётка смешна выгіналася, растапырвала рукі, паказваючы, якія яны, тыя артысткі.

— Ні з якімі я не артысткамі, я ваенкамат дага-

няў, думаў, усё роўна мяне ў армію забяруць,— каторы раз тлумачыў дзядзька.

— Калі цябе ваенкамат на фронт не паслаў, то хоць бы навучыў работаць!

Дзядзька аж задыхаўся ад крыўды.

— Табе тут і не снілася, колькі я там нарабіў! А цяпер хіба не раблю? Вунь травы трусам накасіў, ваду нашу, табе, канечне, каб жылы рваў!

— А чаму я рву? У вёсцы жыць, то трэба рабо-о-таць!

— Калі я табе мала раблю, то кіну ўсё, паеду да дзяцей, адна тут заставайся!

— Трэба ты дзецям! Там паркеты, дываны, заваліш ім усю хату!

— Не завалю, гэта ты не хочаш ехаць да дзяцей, бо курыш, а там не захочуць, каб прасмярдзела ўсю хату!

Калі Таня была ў іх, яны ў сваіх сварках часта звярталіся да яе як да суддзі, і Таня не ведала, каго з іх абараняць, як іх мірыць. У душы яна больш была на баку цёткі, можа, таму, што памятала па вайне, як тая выжыльвалася, як гаравала з тымі дзецьмі.

— Вы павінны быць шчаслівыя, што да старасці дажылі разам, павінны шанаваць адно аднаго,— гаварыла ім Таня.

Цётка насцярожвалася.

— А як гэта — шанаваць? Цалавацца?

— Ды не,— адказвала Таня.— Не абавязкова цалавацца... Шкадаваць адно аднаго, памагаць адно аднаму ў рабоце...

— Во! — хапалася за апошнія яе словы цётка.— Памагаць! Рабо-о-таць! А ён толькі цілявізар глядзіць, газет вунь пад цілявізар наскладаў, нашто яны яму, усё роўна сляпы ўжо, нічога не бачыць.

— А што, аддаць табе, каб ты скурыла? — кідаўся ў спрэчку дзядзька.

— А табе шкода?

— Шкода! Бо я газеты люблю, цілявізар люблю, а ты грубая, курыш, лаешся, як мужык.

Цётка скручвала з газеты новую цыгарку, прыкурвала, кідала абгарэлую запалку на прыпечак.

— А я і ёсць мужык! Ведаеш, як бабы ў вайну спявалі? «Я і лошадзь, я і бык, я і баба, і мужык!» Добра бабе, якая жыве за мужавай спіною, яна можа быць

і далікатная, і мякенькая, а мяне жыццё карчом зрабіла!

Сваркі былі доўгія, зацятыя, цётка і дзядзька нават грошы клалі на асобныя ашчадныя кніжкі, і ў цёткі было больш. Дзядзька ўсё страшыў цётку, што кіне яе адну, паедзе жыць да дзяцей, і цётка, здаецца, упатайне баялася гэтага, бо сама, мусіць, была разумнейшая за мужа, разумела, што найлепей быць гаспадыняю ў сваёй хаце, і часам казала яму:

— Чаго табе тут не хапае? Жыві вось!

— А чаго ты сварышся?

— Ат, ад языка шчэ ніхто не паміраў...

Дзядзька адчуваў нейкую сваю перамогу, садзіўся да тэлевізара, цётка ішла акучваць бульбу.

Таня старалася нечым памагчы цётцы — у тых жа градах, у бульбе, але цётка не давала.

— Ат, ідзі...

Яны з цёткаю часта ўспаміналі вайну, як гаравалі, бедавалі, цётка расказвала, як цяпер жывуць людзі ў вёсцы.

— Ва ўсіх грошай поўна, ва ўсіх цілявізары, сярванты, у мужчын матацыклы, а ў каго і машыны. Але ты скажы, што будзе далей, вёска пусцее, маладзёж у горад ірвецца, калі каторы ў вёсцы застаецца, то ўжо самы нягеглы, да навукі няздатны. Налета школы ў вёсцы ўжо не будзе, мала дзяцей, у Забалоцце дзеці будуць ездзіць у школу, на аўтобусе. Хто будзе хлеб рабіць?

— Горад, мусіць, будзе памагаць,— гаварыла Таня.

— Горад табе наробіць... Да нас вунь шэхвы прыязджалі, дык глядзяць — абы дзень да вечара, бульбу толькі зверху збіраюць, усярэдзіне зямлю і не калупнуць, уся бульба ў зямлі застаецца. Хіба тыя шэхвы так зямлю любяць, як мой бацька яе любіў, як я яе люблю?.. Тыя, што зямлю любяць, скора зусім павыміраюць, як тыя маманты.

Цётка не чытала ні кніг, ні газет, але ўсё яна ведала, пра ўсё ўмела разважаць.

Заснула Таня, і праплываюць перад ёю ў сне — ясны твар партызана з бялявым чубам, горы жоўтага пяску на зялёнай траве, буслы на вуліцы пустой вёскі. І будуць турбаваць яе мроі, пакуль не зазвоніць будзільнік, не верне з дня мінулага ў дзень наступны.

## 12

Укрыўшы хусткаю ногі, Таня сядзела на сваёй канапцы, прыхіліўшыся спіною да цвёрдага холаду сцяны. На каленях трымала кнігу, у руцэ — аловак, чытала зборнік апавяданняў, на які збіралася пісаць рэцэнзію. Саша сядзеў за пісьмовым сталом, рабіў урокі. У іх кватэры быў толькі адзін пісьмовы стол, для другога не знаходзілася месца, і Таня аддала яго сыну, сама, калі трэба было пісаць, садзілася за кухонны столік. Але цяпер прымасцілася на канапцы.

Яна любіла гэтыя хвіліны іх сцішанасці за работаю. Хлопчык соп над сшыткам, шамацеў старонкамі падручніка, нешта шкроб, часам стукаў крэслам, і гэтыя гукі клаліся на Таніну душу спакоем, пяшчотаю — сын тут, каля яе, адгароджаны сценамі ад вялікага шумнага горада, дзе так шмат людзей і ўсе чужыя, у яе сваё гняздо, і яно не пустое, яна мае для каго жыць, не марна мітусіцца на гэтым свеце.

У Сашы нешта ўпала, ён палез пад стол, пачаў шукаць. Лазіў пад сталом, падпоўз на карачках да Танінай канапкі, нагнуўся, выставіўшы худы востры азадак, зазірнуў пад канапку.

— Што там у цябе? — спытала Таня.

— Гумку згубіў...

Таня павяла вачыма па падлозе.

— Вунь яна, каля дзвярэй,— паказала сыну на круглы жоўты камячок.

— Во адляцела,— здзівіўся Саша, падпоўз на карачках да гумкі, узяў яе, падскочыў, як мячык, вярнуўся да стала.

Таня думала аб тым, што прачытала: хлопчык распятага Хрыста прымае за партызана, закатаванага немцамі... Біблейская легенда і трагедыя вайны... І скалечанае маленства... Шмат пішуць пра вайну, але шмат яшчэ не сказалі... Забітыя, спаленыя, знішчаныя... Хіба толькі гэта? А скалечаныя душы, што пакіраваліся з вайны ў свет, а дзеці... Ці не скалечыць такая душа другую, толькі дакрануўшыся да яе... І колькі пакаленняў будзе несці на сабе, як праклянцце, крыж вайны?

Павяла вачыма на Сашу. Той нешта адчайна сціраў гумкаю. Галава нахілена да стала, з каўняра тырчыць тонкая шыя, пасярод шыі равок з клінком светлых валасоў — пара стрыгчы. Тырчаць вушы, ружова-

празрыстыя на сонцы, што б'е ў акно... Няўжо і на яго яна абрынула вайну? «Твой нарачоны ляжыць пад Курскам, пад Сталінградам?» — пытаўся Сяргей. А можа, не пад Курскам і не пад Сталінградам, а на Крывой Губе?..

Яна абрынула вайну на Сашу, а той, можа, і на сваіх дзяцей абрыне? Можа, усё-такі бязбацькаўшчына... Цяжарам ляжа... На характар...

Уздыхнула, чытала далей. Ставіла птушачкі там, дзе асабліва падабалася, дзе бачыла цікавыя дэталі. А далей зачыталася і забывалася ўжо ставіць птушачкі, бачыла, як ішлі, ішлі сотнямі, тысячамі салдаты ў шынялях, абсыпаных снегам, як выцягвалі з сыпучага снегу ногі, як згіналіся пад цяжарам паклажы і ішлі, ішлі, на агонь. Гэта была рэальнасць таго дня, кожнаму салдату з тых сотняў, тысячаў было невыносна пакутліва нават проста ісці марозам, у завею пад цяжарам сваёй паклажы, а яшчэ ж трэба было кідацца пад кулі, падаць у снег ад смяротнай раны альбо ляжаць, сплываючы крывёю, чакаючы, пакуль знойдзе яго і завалачэ ў паходны шпіталь сястрычка, якой яшчэ ў лялькі гуляць, а не хадзіць па чорнай бездані пекла.

Ці ж маглі ўсе гэтыя салдаты ісці, ісці па зямлі і перастаць існаваць, загінуць назаўсёды? Помнікі, абеліскі? Але ўсё гэта халодныя камяні, а дзе тыя, што ішлі, ішлі, патанаючы ў снезе, няўжо іх нідзе так і няма? І Тані раптам здаецца, што яны ёсць, іх не можа не быць, усе яны з зямлі, са снегу, з агню рушылі ў космас, у вечнасць, пакіраваліся да зор. І яны, і тыя, што ішлі, таксама праз снягі, балоты, яшчэ ў тую, першую Айчынную вайну, дванаццатага года... І тыя зніклі ў космасе, у вечнасці... Уся гісторыя зямлі — там, у бязмежнай прасторы галактык...

Ды раптам схамянулася — куды гэта яе завалакло? Ці не так прыйшлі людзі некалі да думкі пра той свет? Ідэалізм нейкі...

І ўсё ж хацелася, каб было так, каб мінулае не знікла без следу, каб па промню месяца ці зоркі, як па чароўнай сцежцы, адыходзіла, адыходзіла ў космас. Хаця б тое, што варта вечнай памяці.

Цямнела, чытаць рабілася цяжэй, і Таня ўстала, запаліла святло, падышла да сына.

— Што ты робіш? — нахілілася, абняла. І раптам

уразіў пах. Ад сына пахла Сяргеем, замільгалі, як у калейдаскопе, промні сонца, што клаліся, як грэбля, пад колы машыны, круг возера, нібы выразаны з неба, белыя гарлачыкі каля ног. Усё гэта таілася глыбока, у космасе яе душы, на хвілінку выплыла і зноў знікла.

Матчына ласка ўзрадавала Сашу, пачаў ажыўлена ёй расказваць:

— Гэта я малюю, бачыш, во партызаны, яны ідуць на заданне, праз лес, і нясуць ПТР,— паказаў ён на дула, як у гарматы, што тырчала з-за спіны аднаго партызана,— яны будуць страляць з ПТР па нямецкім эшалоне.

Таня, уражаная, глядзела на малюнак сына. Светлыя фігуры партызан — усе ў белых, для маскіроўкі, халатах — ішлі па дарозе, за якою сінела зубчатая сцяна лесу, белая дарога вяла да чорнага неба, абсыпанага зоркамі. Ці пад уражаннем сваіх думак, ці Саша па няўменню і праўда так намаляваў, але Тані здалося, што дарога, па якой ішлі партызаны, вяла да неба, да зор. Яна некалькі хвілін глядзела на малюнак.

— А куды ж ідуць твае партызаны?

Пытанне было правакацыйнае.

— Я ж сказаў — ідуць на заданне, нясуць ПТР, будуць страляць па цягніку...

— Але твая дарога вядзе не да чыгункі, а на неба...

Саша прыгледзеўся да свайго твора.

— Не,— незадаволена сказаў ён.— Дарога ідзе да гарызонта, а за гарызонтам — чыгунка... Але я магу паправіць, магу чыгунку зрабіць бліжэй, зраблю шлагбаум,— з гатоўнасцю ўзяў ён пэндзаль, пачаў боўтаць ім у шклянцы з ружова-сіняю вадою.

Таня спыніла яго руку:

— Не трэба... Няхай будзе так... Мы павесім твой малюнак на сцяне...

Саша любіў маляваць, і гэта ёй падабалася, можа, у хлопчыка здольнасці? Яна паказвала некаторыя яго малюнкі знаёмаму мастаку. Той паглядзеў, сказаў, што цікава, аддаў Тані Сашавы малюнкі. Далікатна, каб не пакрыўдзіць матку, сказаў:

— Усе дзеці любяць маляваць. Дай бог, каб у вашага сына любоў да гэтага занятку не прапала з гадамі... Не прымушайце яго маляваць, бо можаце адбіць ахвоту.

І Таня не прымушала і лішне не захвальвала, але цяпер захацелася сказаць сыну добрае слова:

— Малайчына, добра намаляваў... І не трэба папраўляць... А ўрокі ты зрабіў?

— Ага, зрабіў, нам задалі толькі паўтарэнне.

— Малайчына,— яшчэ раз пахваліла сына, нахілілася і пацалавала ў макаўку, якая пахла тымі белымі гарлачыкамі.

І Саша, узрадаваны, абняў яе, прыхінуўся носам да рукава яе жакета.

## 13

У канцы рабочага дня, калі галава была перапоўнена ўжо чытаннем, чутым, гавораным, больш нічога не прымала і яны з Любаю сядзелі за сваімі сталамі, чакаючы, калі стрэлка гадзінніка падпаўзе да той рыскі, пасля якой ужо можна ўстаць, замкнуць кабінет і пакіравацца дадому, дзверы іх пакоя адчыніліся і ў іх прасунула галоўку з моднаю стрыжкаю Света — сакратарка рэдактара.

— Аддзел літаратуры і культуры — да рэдактара,— сказала Света і, пакінуўшы дзверы прачыненымі, нібы паказваючы гэтым, што зачыняць іх няма патрэбы, жанчыны зараз жа мусяць пакіравацца да начальства, затупала абцасікамі па гулкім паркеце калідора.

Люба і Таня паглядзелі адна на адну, быццам пытаючыся адна ў адной — чаго гэта кліча іх рэдактар на схіле рабочага дня, зразумелі, што ні адна, ні другая не ведаюць, паўставалі з-за сваіх сталоў.

Акрамя рэдактара, які сядзеў за сваім сталом і так уважліва чытаў матэрыял, што не падняў вачэй на Любу з Таняю, у кабінеце быў яшчэ намеснік рэдактара, высокі, з густым стогам рудых кучаравых валасоў Сцяпан Кузьміч Буркевіч. Заклаўшы рукі за спіну, ён хадзіў па кабінеце.

За сталом, тарцом прыстаўленым да рэдактарскага, сядзеў Кулік, якога летась выбралі старшынёй мясцкома. Апошнія гады ён яшчэ болей патаўсцеў, і здавалася, што за кожнай яго шчакою паўспухалі флюсы.

У Тані нядобра варухнулася ў грудзях — чаго гэта сабралася тут начальства і іх выклікала?..

Рэдактар дачытаў матэрыял, падпісаў і нібыта толькі цяпер убачыў Любу з Таняю.

— Сядайце,— паказаў рукою з шарыкаваю ручкаю на пустыя крэслы ўздоўж стала. Сказаў гэта «сядайце» холадна, афіцыйна, і Таня зразумела, што чакаць дабра не варта. Часам рэдактар, выклікаючы да сябе ў кабінет, хоць і рэдка, але ўмеў быць і прыязным, і нават вясёлым, гэтым разам выглядаў надта строгім.

Яны з Любаю селі насупраць Куліка. Намеснік рэдактара таксама сеў насупраць іх, рэдактар застаўся за сваім сталом. Ён пераклаў паперы з аднаго боку на другі, далоняй правёў па блішчастай паліраванай паверхні, быдта змятаючы са стала парушынкі, сказаў:

— Калі ласка, Пятро Пятровіч.

Кулік заварушыў тоўстымі пальцамі з шырокім залатым пярсцёнкам, перабіраючы паперы, што ляжалі перад ім, шукаючы сярод іх нейкую адну, знайшоў, выцягнуў наверх. Загаварыў голасам са строгімі інтанацыямі:

— Нам сёння трэба разабраць прыкры выпадак...— кашлянуў.— Прыкры выпадак. Калектыў адказвае за кожнага свайго члена, і мы абавязаны... А калі справа ідзе аб выхаванні... Аб адказнасці бацькоў за сваіх дзяцей...

Таня яшчэ не магла разабрацца, што хоча сказаць Кулік, чаго паклікаў іх рэдактар, хоць нешта цьмяна варушылася ўжо ў яе грудзях, у галаве, не набіраючы яшчэ акрэсленай думкі. Яна толькі глядзела на Куліка, на яго тоўстыя шчокі, якія то абвісалі да папер, то трэсліся ад гаворкі.

— Карацей кажучы,— Кулік узяў у рукі паперку, якую выцягнуў і паклаў зверху,— рэдакцыя атрымала пісьмо з міліцыі... На таварыш Каштанаву... Аб тым, што яе сын зрабіў злачынства. Разам з іншымі хуліганамі яны збілі замок з дзвярэй склада, улезлі ў склад і зрабілі пакражу на суму...— Кулік глянуў у паперку.— На вялікую суму... Міліцыя разбірала гэты выпадак, на таварыш Каштанаву накладзены штраф... Справа абышлася без суда толькі таму, што сын Каштанавай непаўналетні, каб быў паўналетні, яго судзілі б як злодзея, а так за злачынства сына павінна адказваць матка...

Першыя ж словы пра міліцыю, пра Сашу аглушылі

Таню, яна адчула, як запульсавала ў скронях, у патыліцы кроў. Сорам перад рэдактарам, перад намеснікам рэдактара, перад Любаю, што яе сын — злачынец, а са слоў Куліка выходзіла іменна так — злачынец, бо ён не сказаў, у які склад улезлі дзеці і што ўкралі, і разам з тым прыкрасць, да болю, да слёз, што яе выставілі на ганьбу, што яе абмяркоўваюць, быццам таксама нейкага злачынцу, быццам і яна разам з Сашкам лазіла ў той склад.

А Кулік гаварыў:

— Мы, работнікі рэдакцыі, павінны ўказаць таварыш Каштанавай на тое, што яна кепска выхоўвае свайго сына, мы сабраліся тут... Яна павінна...

Намеснік рэдактара сядзеў, апусціўшы галаву, і нешта чыркаў на паперы, што ляжала перад ім, рэдактар, паклаўшы на стол рукі, слухаў Куліка, гледзячы не на яго, а некуды паўзверх яго галавы, Люба аглядала свае пазногці са свежым, нядаўна зробленым манікюрам.

Кулік усё гаварыў, што — Таня ўжо не чула, сядзела аглушаная, яна нават не заўважыла, калі той скончыў, убачыла толькі, што ўсе маўчаць, глядзяць на яе, быццам нечага ад яе чакаюць.

Рэдактар зноў зрабіў рукою жэст, нібы змятаючы са стала смяцінкі, загаварыў, надзіва Тані, даволі мякка.

— Разумееце, таварыш Каштанава... Мы атрымалі ліст з міліцыі... І мусім на яго рэагаваць... Мусім у міліцыю даць адказ... Спачатку мы хацелі абмеркаваць гэты ліст на сходзе, потым вырашылі ў цяснейшым коле... Так што просім вас даць тлумачэнне...

Можа, гэты голас, нечакана спакойны, мяккі, дапамог Тані саўладаць з сабою, яна адчула, што паступова перастае біць у скроні, у патыліцу кроў, пачынае вяртацца здольнасць думаць, не ведала толькі, ці зможа гаварыць.

— Я... Канечне,— голас быў глухі і хрыплы,— канечне, я вінавата, недагледзела... Сама на рабоце, а ён сам па сабе... Хто захоча, той павядзе... Але ён сам... Зразумеў ужо... Перажывае... І я разумею, разумею... Рэдакцыя атрымала пісьмо і мусіць... Але... Але...

Яна глянула на Куліка, на яго задаволена-сур'ёзныя тоўстыя шчокі, і раптам зноў забунтавала ў грудзях кроў. «Добра яму гаварыць,— думалася з крыў-

даю,— калі яго жонка, такая самая тоўстая куча, ніколі нідзе не працавала, сваю дачушку да пятага класа за ручку вадзіла і ў школу, і са школы... Добра яму гаварыць, таптаць яе нагамі, а сам не даў пуцёўку Сашу ў піянерскі лагер, спаслаўся на тое, што Саша летась быў, узяў пуцёўку сваёй дачцэ, якую ўжо замуж трэба аддаваць, а не пасылаць у піянерскі лагер. Віктар Паўлавіч хварэе, не быў на тым пасяджэнні мясцкома, не змог падтрымаць...»

Яшчэ ўспомнілася Тані, што расказвала Люба пра Куліка, ды не ад адной Любы яна ўжо гэта чула — Кулік выкарыстоўвае сваё службовае становішча, ходзіць з рэдакцыйным пасведчаннем па магазінах, і там яму даюць дэфіцыты...

Яна так захлынулася абразаю, крыўдаю, што больш не магла гаварыць, а калі прадыхнула, сказала дзёрзка, ледзь не груба:

— Больш нічога я не скажу...

Рэдактар, намеснік рэдактара паглядзелі на яе са здзіўленнем.

— Чаму гэта вы больш не будзеце гаварыць? — спытаў рэдактар.

— Бо не хачу,— таксама дзёрзка адказала Таня.

Кулік заёрзаў на сваім крэсле:

— Бачыце, бачыце, як прымаюць у нас крытыку!

— Не вам мяне крытыкаваць! — не магла ўжо стрымацца Таня.

— А чаму гэта я не магу? — наліўся крывёю, як бураковым сокам, твар Куліка.

— Не можаце!

— Таварыш Каштанава! — строга заўважыў Тані рэдактар.— Я папрашу!..

Невядома, чым скончылася б гэтая перапалка, у якой і сама Таня адчувала сябе брыдка, каб не выратавала яе Люба.

— Дазвольце мне,— падняла яна, як школьніца, руку.

Рэдактар глянуў на яе з-пад нахмураных броваў, дазволіў.

— Бачыце, я... Я ведаю сына Таццяны Максімаўны з пялёнак, ён харошы хлопчык, і тое, што здарылася,— проста няшчасны выпадак. Большыя дзеці яго падбілі, ды і пакража была — ракеты... Яны хацелі салют зрабіць на Першае мая...

— Не абараняйце,— перабіў Любу намеснік рэдактара.

— Я не абараняю,— жыва адазвалася Люба.— Ён вінаваты, канечне, вінаваты, але Таццяна Максімаўна вельмі стараецца, і я ўпэўнена, што больш нічога падобнага не здарыцца, Саша харошы хлопчык,— зноў паўтарыла яна.

Таня была ўдзячна Любе за тое, што абараніла і яе, і яе Сашку, сабою, сваімі паводзінамі яна была незадаволена, яна разумела, што ўсё гэта Кулік, ён вінаваты, каб не ён, а хто іншы гаварыў пра пісьмо з міліцыі... А так... Мараль чытае той, хто не мае на гэта права...

Яна маўчала.

Намеснік рэдактара папракаў яе за нястрыманасць, за тое, што не ўмее слухаць крытыку, сказаў, што яна павінна быць удзячная рэдактару — не пачаў абмяркоўваць пісьмо з міліцыі на сходзе, пры ўсім калектыве, зрабіў гэта, так сказаць, паміж намі...

— Вы павінны быць удзячны рэдактару, удзячны рэдактару, ён такі чалавек, такі чалавек,— затрос сваімі шчокамі і Кулік, яўна стараючыся паддобрыцца да начальства.

Дадому Таня прыйшла зусім разбітая. Сашка выбег да яе ў калідор з папрокам — чаму так позна, але ўбачыў шэры матчын твар і адступіўся, пабег, выключыў тэлевізар, які грымеў на ўсю кватэру.

Яна нічога не сказала сыну пра пісьмо з міліцыі, гэта абмеркаванне выклікала чамусьці жаданне рабіць некаму, невядома каму, наперакор. Нібы гэта пісьмо паможа ёй выхоўваць сына, яна сама больш за тую міліцыю, больш за тых рэдактараў хоча, каб яе сын вырас чалавекам. Толькі як гэта зрабіць, як, ох, ці мела яна права пусціць на свет чалавека, калі не можа абараніць яго ад зла ў гэтым свеце?

А чалавек спаў на сваёй канапцы, па макаўку ўкрыўшыся коўдраю, толькі тырчаў з-пад белага чахла непаслухмяны русявы віхор, і віхор гэты раптам выклікаў у Тані такую любасць, такое шкадаванне, што аж зашчымела ў грудзях, заліло іх пяшчотаю, незразумелаю, нечаканаю радасцю.

## 14

Клава зайшла ў іх пакой, павіталася стрымана, стала спіною да акна, хутаючы плечы ў вялікую вязаную хустку. Ацяпленне ў горадзе ўжо не працавала, а вясна выкідвала конікі, апошнія дні дзьмуў вецер, сыпаў дождж, тэмпература паветра апускалася ледзь не да нуля, і ў рэдакцыі стаяў сабачы холад. Але Тані здалося, што Клава хутаецца не ад холаду, вочы яе пазіралі з трывожным сумам, каля вуснаў закамянелі зморшчынкі, увесь твар, здавалася, выдаваў бездапаможнае недаўменне.

— Што з табою? — спытала Таня.

— А вы хіба не ведаеце? — сказала Клава такім тонам, што жанчыны адразу зразумелі — нешта здарылася, і ўставіліся на Клаву, чакаючы тлумачэння, як удару.

І Клава сапраўды ўдарыла:

— Віктар Паўлавіч памёр...

Першае Таніна адчуванне — нязгода з тым, што пачула,— няпраўда, немагчыма, не можа быць. Віктар Паўлавіч хварэў, ну, так, але ці мала хто хварэе, людзі хварэюць, потым ачуньваюць, а Віктар Паўлавіч жа малады, яшчэ не дайшоў да пенсіі.

— Хто сказаў, адкуль ты ведаеш? — спытала Люба, паволі скідаючы акуляры.

— Уся рэдакцыя ўжо ведае, сёння ноччу памёр... Інфаркт... У яго ж увесь час было слабое сэрца,— Клава шчыльней затулілася ў хустку.

Рэакцыя Любы аказалася нечаканай. Яна надзела акуляры, якія толькі што скінула, заявіла:

— Скажыце, чаму добрыя людзі паміраюць, а нягоднікі жывуць?

— І нягоднікі паміраюць,— ціха сказала Клава.

— Так, паміраюць,— ужо спакайней згадзілася Люба,— але... Але яны больш жывучыя...

А Тані здалося, што да яе дакранулася нешта вялізнае, шурпатае, страшнае і абыякавае ў сваёй жорсткасці. Людзі перад гэтым вялікім і шурпатым бездапаможныя, смешныя ў сваіх страсцях. Здаецца, кожнаю смерцю жыццё вучыць нечаму, вучыць і ніяк не навучыць.

Зайшоў намеснік рэдактара, выгляд у яго быў пануры. Па тым, як маўчалі яны ўтраіх, здагадаўся, што

і сюды прыйшла ўжо вестка пра смерць. Загаварыў да Любы, паглядаючы і на Таню, што павінна было азначаць — звяртаецца да абедзвюх.

— З'ездзіце, калі ласка, у пахавальнае бюро, закажыце вянок ад рэдакцыі...

Нельга было не паслухацца, адгаварыцца якой прычынай, трэба было хоць як паслужыць Віктару Паўлавічу, яго памяці.

Ехалі на тралейбусе, потым ішлі пехатою. Таня ніколі не была ў пахавальным бюро, калі памерла маці, усё зрабілі добрыя людзі — маміны супрацоўнікі, суседзі, яны з Ленаю толькі плакалі. І цяпер яна баялася заходзіць у гэтую ўстанову, думала, што там стаіць плач. Нясмела, услед за Любаю, пераступіла парог.

У невялікім пакоі было даволі многа людзей, некаторыя, сабраўшыся групкамі, гаварылі між сабою, другія сядзелі вакол круглага стала, нешта пісалі. За перагародкаю з вялікаю дзіркай-акном стаяла поўная жанчына ў выцертым чорным халаце, у квяцістай хустцы, завязанай пад падбародак. Жанчына прымала заказы, і да яе стаяла чарга ў некалькі чалавек.

Таня з Любаю сталі ў тую чаргу. Яны чулі, як голасна, па-дзелавому распытвала жанчына заказчыкаў, выпісвала квітанцыі, брала грошы і пасылала ў другі пакой, да мастакоў, што пісалі тэксты на жалобных стужках.

Таня з Любаю схамянуліся, што і ім трэба скласці тэкст, параіліся, як напісаць, і Люба села за круглы стол, узяла лісток паперы. «Дарагому Віктару Паўлавічу Захарчуку ад супрацоўнікаў рэдакцыі...»

Вярнулася да Тані ў чаргу, сказала з недаўменнем, са здзіўленнем, паказваючы лісток:

— Ніколі ў жыцці не думала, што сваёю рукою буду пісаць яму вось гэта...

У перагародцы адчыніліся дзверы, і з іх выйшаў высокі мужчына ў чорным халаце з плямамі бронзавай і сярэбранай фарбы, з сівымі растрэсенымі валасамі. У руках, запэцканых такою самаю бронзаваю і сярэбранаю фарбамі, ён трымаў стужку са свежанапісаным тэкстам. Таня паспела на ёй прачытаць: «Дарагой Аксане...»

— Хто тут Перабінос? — спытаў густым голасам.

Да яго падбег невысокі худзенькі мужчына ў сіняй балоневай куртцы.

Таню разанула па сэрцы гэта смешнае прозвішча побач з трагічным, што вісела тут, здаецца, у самім паветры. Ёй здалося, што і чалавек, які стаяў перад імі ў чарзе, ухмыльнуўся.

Мужчына ў балоневай куртцы асцярожна, стараючыся не пакамячыць, не пашкодзіць фарбы, браў у мастака стужку з надпісам: «Дарагой Аксане...», гаварыў голасам, поўным шчырасці:

— Дзякуй вам... Вялікі дзякуй...

Пачуццё трывогі і страху, з якім Таня пераступала гэты парог, пастунова праходзіла, вельмі будзённая, звычайная была тут абстаноўка, і ніхто тут не галасіў, не плакаў. Падышла іх чарга, і жанчына прыняла ў іх заказ, узяла грошы. Пакуль Люба вяла дзелавую размову, Таня глядзела, як там, за перагародкаю, жанчыны ў чорных халатах рабілі вянкі з хвоі, са штучных кветак. Некалькі гатовых стаялі, прыхіленыя да сцяны. Жанчыны, што рабілі вянкі, спакойна перагаворваліся паміж сабою, усміхаліся.

«Ну так, канечне,— думала Таня,— у іх жа тут работа, звычайная работа, не могуць жа яны з дня ў дзень бедаваць чужою бядою...»

Труну з целам Віктара Паўлавіча паставілі ў клубе журналістаў. Над труною, на сцяне, вісеў яго партрэт. Чорная стужка апаясвала правы рог. На партрэце Віктар Паўлавіч быў малады, прыветлівы позірк скіраваны на людзей, на вуснах ледзь прыкметная ўсмешка. Не верылася, што воскова-жоўты твар з сіняватаю плямкаю на скроні належаў таму самаму чалавеку. Таню вельмі ўразіла гэта сіняватая плямка — жыццё не спынялася ні на міг, яно ішло, ішло далей і пасля смерці, хоць і ў іншых цяпер формах.

На балконе клуба паставілі магнітафон з запісанаю на стужку жалобнаю музыкаю, і яна бесперастанку плыла, залівала залу ціхім смуткам. Тужліва спяваў жаночы хор.

Ішлі і ішлі людзі, неслі кветкі, вянкі. Вянкі былі ад усіх рэдакцый горада, прывезлі нават з вобласці, з той газеты, дзе некалі Віктар Паўлавіч пачынаў сваю работу журналіста.

Аднойчы Таня бачыла, як хавалі таксіста, забітага бандытамі. За труною ехалі сотні машын-таксі, увесь парк выйшаў праводзіць свайго таварыша ў апошнюю дарогу. Хоць Віктар Паўлавіч памёр і сваёю смерцю,

нешта падобнае адбывалася і тут — усе журналісты горада ішлі развітацца са сваім калегам.

Усё большала кветак у труне, усё больш вянкоў выстрайвалася вакол пастамента, на якім узвышаўся нябожчык. З боку труны стаялі крэслы, на якіх сядзелі родныя, сваякі. Справа, з чорнаю хустачкаю на галаве, не адымаючы белай насоўкі ад сплаканага твару, сядзела жонка. Каля яе дзве дарослыя дачкі, таксама з чорнымі хустачкамі на валасах, адна ў чорнай сукенцы, другая ў чорным світэры.

Пасля кароценькага перапынку зноў зайграла жалобная музыка, і дачка, што была ў чорным світэры, мусіць, меншая, раптам упала лобам на край труны, голасна заплакала. І дзіўна было, што бацька ляжаў — зусім спакойны, безудзельны да гэтага плачу, не супакойваў, не суцішаў дачкі.

Да Тані раптам нібы падступіла вечнасць, агарнула таямнічасцю, веліччу, і хацелася перад яе тварам быць лепшаю, адкінуць дробязнае, не вартае таго касмічнага, што ўбірае ў сябе жыццё чалавечае.

З чырвона-чорнымі павязкамі на рукавах стаяла ганаровая вахта. Мянялася цераз кожныя дзве хвіліны. І Таня з Любаю надзелі чорныя павязкі, і яны падышлі да труны. Таня стаяла ў нагах, глядзела на васковы твар, на якім так мала засталося ад жывога Віктара Паўлавіча, цяжка пазнаць, на васковыя рукі, складзеныя на грудзях, і ўспамінала, калі ж яна бачыла яго апошні раз жывога. Успомніла — калі пісаў ёй даведку на тэлефон... Ну так, яна тады яшчэ сказала так па-дурному: «Хіба без вас газета не выйдзе?» А ён адказаў: «Не столькі я газеце патрэбен, як яна мне...» Ой, адчуюць яны цяпер, як і ён быў патрэбен газеце, і як работнік, і як чалавек...

Нехта дакрануўся да пляча, схамянулася. Ага, прайшлі тыя дзве мінуты, што паложана стаяць каля труны. Адышлася.

Потым казалі прамовы — выступалі тыя, хто найбольш ведаў Віктара Паўлавіча, выступіў і рэдактар, і Таня ўбачыла на яго твары непадробны чалавечы смутак. Усе гаварылі пра нябожчыка, які ён быў сумленны работнік і сціплы, харошы таварыш, выказвалі жаль з яго заўчаснай смерці.

Пад жалобную музыку духавога аркестра выносілі труну на вуліцу. Сыпаў дождж, было холадна, людзі

раскрывалі парасоны, і ад іх за труною рабілася страката. Пад ногі тым, што неслі труну, кідалі жаўтавата-празрыстыя нарцысы, яркія барвовыя цюльпаны, блакітныя гіяцынты — вясновыя кветкі, і яны падалі на мокры, забруджаны асфальт. Вельмі скора па гэтай вуліцы паедуць машыны, пойдуць людзі, зусім не ведаючы, што нядаўна тут, пад халодным росным небам, на людскіх руках плыла труна, толькі расплюшчаныя на доле кветкі, можа, затрывожаць незнарок кінуты на іх позірк, але і кветкі ўжо будуць не кветкі, а нябожчыкі, нельга будзе даць веры, што яшчэ зусім нядаўна яны лашчылі вока.

Сыпаў дождж, і людзі, правёўшы труну да жалобнага аўтобуса, патрошку разыходзіліся, але Таня з Любаю і падумаць не маглі, каб не паехаць на могілкі.

І вось яны каля апошняга прыстанку Віктара Паўлавіча. Зеўрае жоўтай зяпай магіла, гатовая паглынуць сваю ахвяру, побач жоўтая горка пяску, гатовага легчы ў дол, адкуль яго нядаўна выграблі пад гэтыя вецер і дождж, пад ногі людзям.

Калі пачалі развітвацца з нябожчыкам родныя і заплакалі жонка, дзеці, Таня адышла, каб не чуць, не бачыць гэтага — апошняга. Вакол магілы, вакол нябожчыка цяпер густым чорным кругам, з парасонамі над галовамі, стаялі людзі, яны ўсе цягнуліся тварамі туды, да цэнтра, нібы баючыся прапусціць нешта цікавае і важнае. Таня апынулася ў баку ад іх, цяпер каб і хацела, яна б не вярнулася назад, да труны, так густа абступілі яе людзі. Яна стаяла ўбаку, чакаючы, калі скончыцца тое, калі ўдары малатка па цвіку абвесцяць — усё.

Недалёка ад іх таксама ішло пахаванне, магіла была выкапана на невялічкім узвышшы, і Таня бачыла каля яе, на жоўтай горцы пяску, пастаўленую на памост труну, абабітую чырвоным крэпам, шмат вянкоў, якія трымалі, стоячы вакол труны, маладыя хлопцы і дзяўчаты. Сваімі дальназоркімі вачыма Таня разгледзела ў труне, сярод мноства кветак, маладое аблічча. Над белым застылым ілбом юнака ляжала светлая хвалька валасоў, чорны гарнітур з бялюткай кашуляй і гальштукам надавалі яму ўрачыстасці, быццам прыйшоў сюды хлопец са свята, а можа, і з вяселля.

«Божа мой, які малады,— падумала Таня.— Што з ім магло здарыцца?..»

Калі памірае пажылы чалавек, то менш узнікае пытанняў — чаму? Смерць... Раней, пазней падкралася да чалавека. Ніхто яшчэ не ўратаваўся ад яе касы, але малады, хлапчук... Позірк мімаволі пайшоў па тых, што стаялі каля труны, і спыніўся, застыў — уражаны. Нізка схіленая да нябожчыка, пад дробнай морассю дажджу, бялела знаёмая сівая галава... Як асляпіла Таню, па сэрцы ўдарыла страхам. Сяргей...

Паволі пайшла туды. Наўрад ці думала яна — навошта ідзе, павяло мімаволі. Абрыўкамі мільгалі думкі — а можа, не яго... А можа, не ён? Але добра бачыла, што — ён, і сэрца адчувала — яго. Толькі ў бацькі можа быць так горка схіленая галава, закамянелая ў болю і жальбе спіна, так бездапаможна абвіслыя рукі.

Яна падышла да таго круга людзей, што таксама шчыльна абступаў труну, магілу. Адсюль ёй не было відаць, што рабілася там, пасярод гэтага круга, а ісці туды не адважвалася. Можа, ён і не ўбачыў бы яе, можа, і не пазнаў бы, але ёй самой страшна было глянуць на яго зблізку, быць сведкаю яго тугі, адчаю. І ўсё ж нешта вяло туды, нешта прымушала зірнуць — хоць раз.

Сярод людзей, што стаялі не вельмі шчыльна, яна бокам прайшла крышку наперад. На яе азірнуліся і перад ёю расступіліся. Гэта спалохала яе, быццам яе пазналі і зараз у нечым абвінавацяць. Спынілася, не пайшла далей. З парасона, якім укрывалася жанчына, што стаяла наперадзе, капала Тані на валасы, на твар, нехта паслізнуўся на мокрай траве і наступіў ёй на нагу, нехта побач паціху шморгаў у хустачку.

Да яе пляча дакрануліся. Яна спужана азірнулася і ўбачыла сплаканы Верын твар.

— Адкуль ты тут? — спытала Вера.

Таня раптам затрывожылася — Вера можа падумаць, што яна прыйшла на гэта пахаванне, што яна мае дачыненне да гэтага гора, і паспешліва паказала ў бок магілы Віктара Паўлавіча.

— Я адтуль, памёр наш сакратар рэдакцыі...

— А ў нас такое гора, такое гора,— Вера выняла з кішэні скамечаную хустачку, прыклала да вачэй.— Сын Сяргея Кірылавіча... Малодшы... Ты павінна ведаць Сяргея Кірылавіча, ён да мяне прыходзіў... Падумаць страшна, такое гора.

— А што здарылася, чаму?

Было цяжка здавацца староннняй, раўнадушна зацікаўленай чужым горам, вельмі баялася нечым сябе выдаць.

— Матацыкл... Я наогул не разумею — навошта бацькі купляюць дзецям матацыклы, я нават глядзець баюся, як яны на іх лётаюць, і вось...

«Матацыкл... Дзесяць гадоў ездзіў на матацыкле»,— успомніла Таня, як расказваў ёй пра сябе Сяргей. Ёй страшна было цяпер яго ўбачыць, баялася, што не вытрывае, падыдзе, каб сказаць хоць слова ў суцяшэнне. Гэта ж падумаць, сын, той, што пісаў: «Я даплываю ўжо да буйка, напішы маме, каб не прымушала есці моркву...» Яна запомніла тое пісьмо, бо зайздросціла ўсім, хто меў дачыненне да Сяргея, хто мог быць каля яго, з ім, не хаваючыся ад людзей, зайздросціла жанчыне, якая недзе там, каля мора, была з яго дзецьмі, зайздросціла сыну, які пісаў яму пісьмы, а ён, бацька, так гэтым пісьмам радаваўся. Як ляціць час... Толькі што быў хлопчык, дзіця, цяпер дарослы... І такая недарэчнасць... Такая жорсткасць...

Яе абыходзілі людзі, чаплялі локцямі, плячыма, а яна стаяла, баючыся скрануцца з месца.

Гулка ўдарылі па веку труны земляныя груды. Там, на ўзгорку, ішла ўжо работа, мільгалі рыдлёўкі, сагнутыя спіны магільшчыкаў, рабілася ўсё вельмі скора, надта скора, яшчэ некалькі хвілін, і курганок, абкладзены вянкамі, кветкамі, навекі пахавае жыццё, што не паспела яшчэ ўвабрацца ў сілу і так недарэчна загінула.

Вакол магілы было ўжо вальней, людзі разыходзіліся, нерухома стаяла некалькі чалавек, і Таня зноў убачыла яго. Зусім белы... У чорным плашчы... Да яго пляча прыпала жанчына ў чорнай гіпюравай хустачцы на светлых валасах, і ён трымаў яе, абняўшы рукою. З цяжкасцю пазнала ў ёй Таня мілавідную Сяргееву жонку, з якою некалі сустракаліся ў Веры. Побач з імі стаяў высокі малады чалавек, постаццю падобны на Сяргея, мусіць, старэйшы сын.

«Сярожа, Сярожа»,— шаптала ў душы Таня.

— А я цябе шукаю, з ног збілася,— пачула каля сябе голас Любы. Пацягнула Таню за руку.— Там машыны ад'язджаюць, і жонка Віктара Паўлавіча прасіла зайсці, памянуць...

Трэба было вяртацца ў сваё, на што мела права, і

Таня, яшчэ раз глянуўшы на тых, што ў балючай жалобе стаялі каля магілы, пайшла за Любаю.

— А што тут, каго хавалі? — спытала Люба.

Людзей хвалюе, цікавіць смерць. Палохае і цікавіць.

— Так, чалавека,— адказала Таня.

— Тут цэлая вытворчасць,— азіралася Люба па баках.— Нясуць і нясуць нябожчыкаў, магілы капаюць экскаватары, падумаць страшна... Хаця, мільённы горад, кожны дзень нараджаюцца і кожны дзень паміраюць...

У вялікім пакоі прасторнай кватэры Віктара Паўлавіча быў накрыты доўгі, ад сцяны да сцяны, стол з багатымі закускамі, бутэлькамі гарэлкі і віна. За такім сталом толькі святкаваць, гуляць вяселле, хрэсьбіны, а не спраўляць сумны рытуал апошняга развітання.

Людзей у кватэры сабралася многа, але гаварылі ўсе паціху, стараліся моцна не стукаць, не грукаць крэсламі. Без лішніх размоў і запрашэння садзіліся за стол. Таня апынулася чамусьці побач з рэдактарам і непрыемна ўспомніла тое, што нядаўна адбывалася ў яго кабінеце. Але на той успамін наплыло толькі што бачанае, чутае — васковы твар Віктара Паўлавіча з сіняю плямкаю на скроні, светлая хвалька валасоў над белым скамянелым ілбом юнака, кветкі, кветкі, іх магільна-салодкі пах, жалобная музыка, гулкія ўдары зямлі па веку труны, і захацелася дараваць рэдактару, дараваць усім іх зло і несправядлівасць. Здаецца, каб змагла ўсім усё дараваць, то і зніклі б з зямлі — нянавісць, зло.

— Вы павінны хоць крышку выпіць і закусіць... І вось гэтага хоць крышку,— паказаў ёй рэдактар на рысавую кашу з цёмнымі ягадкамі ізюму.— Такі рытуал...

У голасе рэдактара спагада... Можа, пахаванне, магілкі і ў яго абудзілі сусветны жаль, усведамленне роўнасці ўсіх перад магілаю прывяло да такога дэмакратызму — сядзіць побач са звычайным літсупрацоўнікам ды яшчэ паказвае яму сваю ўвагу.

Таня абвяла вачыма стол. Толькі цяпер, здаецца, пачула пах смажанага мяса, і ад гэтага паху занудзіла.

— Вось ваша чарка, я наліў, выпіце, так трэба,— гаварыў рэдактар.— Што вам пакласці закусіць?

— Дзякуй, нічога не трэба, я сама.

Яна з'ела лыжку несалёнай саладкаватай кашы. Напарола на відэлец скрылёк агурка. Калі пасля памінальнага слова ўсе паднялі чаркі, і яна прыгубіла, заела агурком.

Доўга за сталом не сядзелі, трэба было даць адпачыць сям'і, якая змучылася за гэтыя дні. Пачалі патроху паднімацца.

Таня здзівілася, калі і на вуліцы ўбачыла каля сябе рэдактара, ці яму сапраўды трэба было ісці ў яе бок, ці спецыяльна пайшоў за ёю? Машыну сваю адпусціў, як толькі вярнуліся з могілак.

Дождж перастаў, і на вачах пачынала падсыхаць, здавалася, аж пара ўзнімалася ад асфальту, і большалі на ім сухія плямы. Тралейбусы, аўтобусы, пырскаючы рэшткамі вады, што пазаставалася ў выбоінах, беглі і беглі па вуліцы, у паветры вісеў пах перагарэлай саляркі, асабліва едкі ў вільготным яшчэ паветры. Густым шэрым натоўпам ішлі людзі, іх вельмі многа цяпер у горадзе, і з кожным годам большае. Таня памятала яшчэ разбураны, пасляваенны Мінск з гарамі друзу, разбітай цэглы, з абгарэлымі сценамі дамоў, праз пустыя праёмы вокнаў якіх лёталі вароны, з градкамі бульбы, буракоў на пустырах, абгароджаных спінкамі абгарэлых ложкаў. Тады на вуліцах горада было мала прахожых, а вечарамі яны амаль пуставалі. Часам, ідучы дадому пасля заняткаў у вячэрняй школе, Таня за ўсю доўгую дарогу не спатыкала ніводнага чалавека. З яе дзівіліся — як не баіцца хадзіць поначы адна, як не баіцца «Чорнай кошкі» — казалі, што такая банда шнырыць цяпер па гарадах, але за ўсю доўгую зіму сорак пятага года яе на тых вуліцах ніхто не напалохаў, ніхто не пакрыўдзіў.

Таня памятала першы экскаватар на Савецкай вуліцы, успоўзшы на гару друзу, што застаўся ад будынка, ён чэрпаў каўшом зямлю, і ўсё шырэйшая, глыбейшая рабілася пад ім яміна, а вакол стаялі разявакі — дзівіліся з яго сілы і спрытнай работы. Калі б не праходзіла Таня каля экскаватара, вакол яго стаяў народ, адны, налюбаваўшыся, адыходзілі, другія падыходзілі, глядзелі — такім цудам здаваўся тады экскаватар. Людзі прыкідвалі, колькі часу, нават з такімі машынамі, трэба на горад, каб разабраць увесь друз ды накапаць катлаванаў пад новыя будынкі, і ў самых вя-

лікіх аптымістаў выходзіла, што на гэта спатрэбіцца не менш чым пятнаццаць гадоў. А праз пятнаццаць гадоў стаяў ужо новы горад. Праўда, ён быў яшчэ далёка не такі, як сёння, але ўсё роўна гэта быў горад з новымі дамамі, шырокімі вуліцамі, горад-юнак. Цяпер ён, як той юнак-акселерат, расце непамерна, не паспяваючы як след забяспечыць свой арганізм вадою, газам, электрычнасцю, не паспяваючы апранаць свае новыя вуліцы асфальтам, не паспяваючы будаваць, будаваць, каб пасяліць усіх сваіх жыхароў у новыя кватэры. Кожную вясну Таня бачыць, як, нібы пасля зімовай спячкі, усё гусцейшы натоўп высыпае на вуліцы, стаіць на скрыжаваннях, чакаючы зялёнага святла, больш нецярплівыя кідаюцца ледзь не пад машыны, іх прымушаюць трымаць дысцыпліну свісткі міліцыянераў і дружыннікаў.

Людзі, людзі, людзі, кожны як сусвет, бяздонны, непазнавальны, кожны сам па сабе, сам па сабе і не могучы сам па сабе, бо што ён, адзін, без людзей, без тых, што навокал, і злых, і добрых. Цягнуцца адзін да аднаго, а потым адскокваюць, як начыненыя токам, апякаючыся, калечачыся.

Сум, жаль не пакідалі Таню. Яна моўчкі ішла па шумнай вуліцы, і таксама моўчкі ішоў побач з ёю рэдактар.

Была так званая гадзіна «пік», аўтобусы, тралейбусы ішлі перапоўненыя, і яна не захацела лезці ў духату. Дадому было не вельмі далёка, можна дабрацца пехатою.

Дайшла да скрыжавання, дзе ёй трэба было збочваць, спынілася, каб развітацца са сваім спадарожнікам, але той сказаў, што і яму ў гэты бок.

У завулку было спакайней, цішэй, менш тут ехала машын, менш ішло людзей. Пачало праясняцца неба, паміж разрывамі аблокаў прабівалася ўжо сонца, блішчалі чысцінёю маладыя, кволыя лісткі на ліпах, густою шчоткаю паднялася трава на газонах.

У тралейбусе, які праязджаў па вуліцы, сыпануўшы наўкола іскры, зляцелі з правадоў дугі. З пярэдніх дзверцаў выскачыла маладзенькая вадзіцелька ў сініх штанах і жоўтай кофтачцы, спрытна забралася на дах тралейбуса, прысела там, як канарэйка, пачала зачышчаць дугі. Міма праходзіла двое хлопцаў, адзін з іх, па-вясковаму ладны, прыгожы, крыкнуў дзяўчыне:

— Кідай ты гэтую машыну, лепей сходзім у кіно!

Дзяўчына з даху тралейбуса заўсміхалася хлопцу, сказала, як добраму знаёмаму:

— Ага, добра табе... Сам гуляеш...

Жыццё ішло сваім парадкам.

— Вось вы, цяперашнія, асабліва моладзь,— загаварыў раптам рэдактар,— дзёрзкія, смелыя... А калі я пачынаў, было не так... Я студэнтам яшчэ прыйшоў працаваць у газету — мусіў зарабляць, памагаць не было каму... Рэдактар у нас быў... Ну, няважна, як яго прозвішча... Навыцяжку перад ім стаялі... Калі што, як гаркне... З ім не спрачаліся, выконвалі загад...

Таня павяла на рэдактара позіркам — чыста пагpackленыя шчокі яго нібы пацвярдзелі, патанчэлі, як ад гневу ці хвалявання, вусны, а ў зморшчынах каля вачэй, здаецца, застыла няёмкасць, якую ён стараўся перасіліць.

Таня яму нічога не адказала, ішла моўчкі, думаючы — чаму ён пра гэта загаварыў?

— Паслаў ён мяне, вясною сорак шостага, па калгасах... Каб падрыхтаваць цэлую старонку — «Датэрміновае завяршэнне сяўбы». Паехаў я па вёсках, а там насення — кот наплакаў, кабеты на сабе плугі цягаюць, якое там датэрміновае... Не зрабіў я паласы. Дык рэдактар мне вымову закаціў і камандзіроўку не аплаціў — не выканаў задання рэдакцыі... І я тады не пакрыўдзіўся на яго, палічыў, што рэдактар зрабіў правільна, што я проста кепскі работнік, не здолеў знайсці добрага калгаса... У нашага пакалення была дысцыпліна, мы вельмі верылі — усё, што робіцца, так і трэба, начальства не памыляецца.

Было падобна, што рэдактар ёй у нечым спавядаецца і нібы хоча гэтым спавяданнем папрасіць прабачэння... Але чаго яму прасіць прабачэння, ён, уласна, ні ў чым перад ёю не вінаваты... Яна не ведала, што яму адказаць.

— Ну, вашы гады... Я не вельмі далёка адышла ад вашага пакалення... І, паверце, дысцыпліну я таксама цаню, да яе прывучаная...

— Не, вы ўжо не тое пакаленне, вы бліжэй да маладзейшага, да новага...

Таня ніяк не магла ўлавіць настрою, галоўнай думкі таго, што вярэдзіла душу рэдактара і ў гэты сумны дзень, пасля пахавання, шукала выйсця. Было падоб-

на, што рэдактар са сваёй недасяжнай рэдактарскай вышыні набліжаўся да яе, рабіўся не начальствам, а чалавекам, якому таксама патрэбны спагада, звычайная чалавечая дабрыня.

— Ведаеце, мне здаецца, справа тут не ў пакаленнях і не ў часе,— загаварыла Таня.— А больш за ўсё ў самім чалавеку... Ведаеце, ёсць людзі, якія ў маладосці засвоілі нейкія думкі, формулы і не перараслі іх, ці што, нясуць іх праз усё жыццё... Не таму, што яны засталіся верныя тым думкам, формулам, а таму, што не перараслі, іначай ужо думаць не ўмеюць... Ёсць людзі вельмі кансерватыўныя ў сваіх поглядах, застылі ў іх, закасцянелі... Не бачаць ці не хочуць бачыць, што жыццё выстаўляе новыя задачы, новыя праблемы.

— Мажа быць, можа быць... А вы не дапускаеце, што гэтыя людзі, пра якіх вы гаворыце, вельмі шчыра вераць у тое, што засвоілі ў маладосці, што гэта іх прынцыпы?..

Апошніх слоў рэдактара Таня амаль не пачула, усплыў перад вачыма воскова-белы твар юнака, сівая галава, схіленая над труною, у грудзях заныла жалобная музыка. Стала дзіўна, амаль кашчунна, што яна, толькі адышоўшы ад труны, гаворыць пра нешта староннее, такое цяпер не важнае. Уявіла, як прыехаў Сяргей з жонкаю дадому, у апусцелую кватэру, як сядзіць недзе, скурчыўшыся ад болю.

Рэдактар яшчэ нешта гаварыў, а яна ўжо не чула — што.

— Прабачце, калі ласка,— сказала ціха.— На мяне сённяшнія могілкі зрабілі такое ўражанне...

— Так, так,— скоранька згадзіўся рэдактар,— я гэта бачу, я таму і пайшоў з вамі... Вы, мусіць, вельмі любілі Віктара Паўлавіча. Ён і праўда быў харошы чалавек...

Тані раптам зрабілася сорамна, што ў гэтую хвіліну яна акурат не думала пра Віктара Паўлавіча, але тут жа ўспомніла і яго, успомніла, як галасіла яго дачка над труною, а ён ляжаў — спакойны, безудзельны, абыякавы да яе плачу.

— Ага, Віктар Паўлавіч,— сказала яна.— Мне яго вельмі шкода.

Рэдактар ішоў, гледзячы сабе пад ногі. На тратуары ад дажджу расплылася лужына, ён прапусціў Таню

наперад, каб яна абышла яе па вузкай сухой палосцы каля самага будынка, прапускаючы наперад, лёгка дакрануўся да яе локця. Цераз плашч адчула Таня дотык яго цвёрдых пальцаў. Калі зноў пайшлі поплеч па сухім тратуары, рэдактар сказаў:

— Мне таксама шкода Віктара Паўлавіча... Гэта страта для ўсёй рэдакцыі.

Больш ні пра што не гаварылі, нібы вычарпалі ўсё, што маглі сказаць адно аднаму, дыстанцыя, якая на нейкі міг нібы скарацілася, набліжаючы іх як чалавека да чалавека, раптам зноў пачала расці, аддаляючы іх адно ад аднаго, ставячы кожнага на сваё месца.

— Дзякуй вам, што вы мяне праводзілі,— сказала Таня.— Я ўжо дома, вось тут я жыву,— паказала яна на аблуплены шэры пяціпавярховы дом з блокаў, нараджэння тых гадоў, калі не так будавалі, як ляпілі дамы, бо трэба было рассяліць бараки, цесныя камунальныя кватэры, калі кожны новы дом, нават вось такі нягеглы, з нізкімі столямі, з кепскай планіроўкай даваў людзям шчасце.

Рэдактар падаў ёй руку. Яна была цвёрдая і халодная.

— Не гаруйце... Мёртвых слязьмі не паднімеш, а жывым трэба жыць. Ісціна не новая, банальная, але часам і без банальнага не абысціся.

— Так, так,— згаджалася Таня.— Дзякуй вам.

Ёй хацелася ўжо скарэй развітацца, скарэй пайсці, застацца са сваім смуткам, каб ніхто не перашкаджаў думаць пра тое, як жыць далей, сённяшні дзень быў нібы пераломны і ў яе лёсе, пасля сённяшняга дня нешта павінна змяніцца, не можа застацца ўсё, як і было.

## 15

Гэтым разам яна спаткала яго выпадкова — не шукала, не чакала сустрэчы, выйшла з рэдакцыі і, як заўсёды, у тэмпе, пакіравалася да прыпынку тралейбуса. Стаяў ужо чэрвень, цвілі таполі, і белы пух лётаў па горадзе, ласкотна садзіўся на твар, на бровы, на вейкі, яго надзімала пад сцены будынкаў, на ўзбочыны тратуара, як снегам асядаў на клумбах, на свежаскошанай траве газонаў. Пасля душнага пакоя рэдакцыі Таню агарнула цеплыня летняга надвячорка, пах

пылу і бензіну ўладна перабіваўся водарам скошанай травы. Людзей у горадзе паменшала — скончыліся заняткі ў інстытутах, тэхнікумах, і студэнты выехалі на канікулы, у будаўнічыя атрады, надышла пара адпачынкаў, і шмат гараджан пакіравалася за горад, на поўдзень. Павальнела ў магазінах, у транспарце, здаецца, у горадзе цяпер толькі і адпачываць, чаго рвацца ў Крым, на Каўказ, у тую спёку, у шматлюддзе — бо цяпер жа ўсе, з усяго Савецкага Саюза — туды. І ўсё ж Тані вельмі хацелася туды — надта вабіла мора, паплюхацца ў яго тугіх салёных хвалях, паляжаць на гарачых, абкатаных прыбоем камянях, пакрыць цела загарам, бо дасюль не скідае панчохі, саромеецца агаліць белыя, як смятана, ногі.

Да мора хацела з Сашам, ды яна і не паехала б без Сашы, не толькі таму, што не магла аднаго пакінуць у горадзе, хацелася радасці не толькі сабе, а і сыну, і, можа, найбольш сыну. Другія бацькі цяпер сваіх дзетак гадоў з трох да мора возяць, а яна дасюль ні разу не звазіла, кепская матка. Але пра мора можна было толькі марыць — не па зубах.

Яна ішла скора, задумаўшыся, бачачы перад сабою шырокі марскі абсяг і белы, як пялёстак магноліі, ветразь на яго сіняй роўнядзі, залаты круг сонца ў сінім небе, аблітыя ім пальмы, кіпарысы, густы цень пад імі, у якім так свежа і лёгка дыхаецца. Яна так задумалася, што не адразу пачула, як яе гукнулі. Увогуле яна пачула сваё імя, але не падумала, што клічуць яе, цяпер так шмат развялося Тань. Але імя яе паўтарылі, паўтарылі зусім блізка, за спіною, і яна азірнулася. І ўбачыла яго. Ён ішоў, можа, які крок за ёю, можа, даўно ўжо ішоў, а яна не заўважала. Ён быў зусім белы, зусім сівы, і не існавала ўжо кантрасту паміж яго сівізною і тварам, ужо не выглядаў ён маладжавым пры сівых валасах. Вочы яго запалі, пазіралі, як з глыбокага калодзежа, застылым шэрым холадам. На ім быў чорны касцюм, шэрая кашуля без гальштука, у руцэ — партфель.

— Добры дзень, Таня, ты так скора ідзеш, я ледзь дагнаў цябе.— Ён усміхнуўся, і Таня заўважыла каля яго вуснаў незнаёмыя раней тугія зморшчынкі.

Як толькі ўбачыла яго, сэрца тарганулася, потым завухала ў грудзях, абліваючы цела слабасцю. Сама сабе здзівілася — чаго так... І яшчэ падумала — як яна

выглядае, не хацела, каб убачыў яе растрапаную, механічна паправіла рукою валасы. Адказала, стараючыся гаварыць спакойна, роўна, каб не выдаць свайго хвалявання:

— Дзень добры, Сяргей... Я заўсёды скора хаджу, павольна хадзіць не ўмею...

— То, можа, ты спяшаешся, можа...

І голас яго змяніўся, зрабіўся глухаваты, ці што.

— Не, Сярожа, я нікуды не спяшаюся... Я іду з работы дадому, іду да тралейбуса.

Яны стаялі пасярод тратуара, яўна замінаючы прахожым, але не заўважаючы гэтага, быццам апынуліся на бязлюдным востраве, быццам, акрамя іх, нікога наўкруг не існавала. Першая, здаецца, апамяталася Таня, яна зрабіла адзін крок, другі. Сяргей пакіраваўся за ёю.

— Як ты апынуўся ў гэтым баку? — спытала яна. Ёй на міг здалося, што Сяргей спецыяльна чакаў яе, як некалі чакала яна каля бальніцы, каб убачыць, каб сказаць, а галоўнае, каб убачыць.

— Заходзіў тут у аптэку... Толькі ў гэтай аптэцы ёсць патрэбнае мне лякарства.

Таня ведала, што ён сказаў праўду, яны ніколі адно аднаму не хлусілі, і ўжо каб Сяргей спецыяльна чакаў яе каля рэдакцыі, то знайшоў бы ў сабе смеласці і сказаць пра гэта.

— Ты хварэеш? — спытала Таня.

— Не, не я, жонка.

Ну, так, быў і застаўся клапатлівы муж, шукае лякарства жонцы, падумала Таня і тут жа папракнула сябе за нядобрае, што варухнулася ў грудзях, успомніла апухлы ад слёз твар яго жонкі, чорны гіпюравы шалік на яе валасах, як прыпала яна, не могучы трымацца на нагах, да Сяргея.

— Я ведаю пра тваё гора, Сяргей,— ціха сказала Таня.— Я была ў той дзень на могілках... Гэта вялікае гора...

Ён спыніўся, і яна спынілася. На яго чорны касцюм упалі пушынкі таполі, вецер дзьмуў, зганяў іх, а яны не адляталі, нібы ўчапіліся ў касцюм маленькімі кіпцюрыкамі. Таня ўзяла іх двума пальцамі, скінула на зямлю. І гэты яе дотык да яго касцюма вярнуў у былое, у далёкае, ён зноў зрабіўся блізкі, родны, свой, забалела яго болем.

— Я вінаваты перад табою,— глуха сказаў ён.— Але віны той не паправіш... Самая страшная віна гэта тая, якой не паправіш...

Яны зноў стаялі між людзей, як на бязлюдным востраве, зноў нібы адны на люднай вуліцы, але Таня разумела ўжо, што гэта іх блізкасць, гэты іх бязлюдны востраў можа існаваць толькі імгненне, толькі ў хвіліну забыцця, і блізкасць, і бязлюдны востраў знікнуць пасля наступных слоў. І ёй доўга не хацелася нічога гаварыць, але імгненне ўжо мінула.

— Што цяпер — вінаваты, не вінаваты... Нічога ты не вінаваты, не муч сябе... Наадварот... У мяне ёсць Саша...

Можа, яна нетактоўна сказала — у мяне ёсць Саша, Саша, уласна, і яго сын... Брат таго, што пайшоў з жыцця... Дзіўна... Саша нават не ведае, што тут, па вуліцах горада, ходзіць яго бацька, што ў яго было два браты і што аднаго ўжо няма... Добра, што ён не ведае пра смерць брата, але кепска... Ну, тут нічога не зробіш...

— Сяргей, я вельмі спачуваю твайму гору, пасля тых могілак я проста не магла... Ну, гэта цяжка выказаць словамі... Я не маю на цябе ніякага зла... Вельмі спачуваю...

Нешта ў яго твары тарганулася, застыла. На чорны касцюм зноў упалі пушынкі таполі, і Таня зноў пачала іх знімаць, счышчаць далоняй.

— Дзякуй табе,— ціха сказаў ён.— За ўсё дзякуй... І няхай расце Саша... Беражы яго...

Ён раптам павярнуўся і пайшоў — высокі, з жоўтым партфелем у правай руцэ, доктар навук, прафесар, упэўнены ў сабе, моцны чалавек, якога жыццё раптам так ударыла.

І Таня павярнулася, пайшла ў свой бок, да тралейбуса, пайшла павольна, адчуваючы слабасць ва ўсім целе, жаль і пачуццё нейкай страты, нейкага канца.

## 16

Мусіць, каб жыццё складалася з адных толькі трывог і непрыемнасцяў, то чалавек не вытрываў бы, не вытрывалі б яго мазгі, нервы, але жыццё хітрае, яно выкруціць цябе навыварат, патаўчэ ў ступе, а потым падорыць і радасць, каб не зняверыўся ты і ў радасці,

каб завабіць цябе ахвотаю — жыць далей. Так як не можа лёс дарыць і адно толькі шчасце, бо тады чалавек страціў бы здольнасць пакутаваць, гараваць, без чаго не ўтрымаўся б на той вышэйшай ступені развіцця, на якую ўзнесла яго прырода як гомо сапіенса.

Радасць выпала гэтым летам і Тані.

Ёй на работу пазваніла Вера, загаварыла бадзёрым голасам:

— Слухай, ты не хочаш паехаць да мора?

Ад аднаго толькі слова «мора» Тані зрабілася свяжэй на сэрцы.

— Ты чаму пра гэта пытаешся?

— А таму, што хачу табе прапанаваць... Тут ёсць магчымасць... Адзін чалавек з машынаю... Я з ім наперадзе, ты з Сашам ззаду...

Таня падсунула сабе крэсла, села, бо адчувала — аслабелі ногі ад радасці. Люба з падазрэннем паглядзела на яе праз свае акуляры — ці не чарговы ўдар лёсу зваліў Таню з ног.

Але Таня ўсміхнулася Любе, паказваючы ўсмешкаю, што ўсё ў парадку.

— Ты што, анёл з неба? — усміхнулася ў трубку Таня.— Ды гэта мая мара, з Сашам — да мора... А ты не жартуеш? Што там за чалавек з машынаю?

Вера крышку памаўчала.

— Ты сёння вечарам будзеш дома?

— Буду.

— То я зайду, растлумачу.

Вечарам Вера сапраўды прыйшла, і Таня як убачыла яе — ахнула. Вера адрэзала сваю касу, і цяпер на галаве ў яе была модная прычоска, на ёй быў белы імпартны касцюм, туфлі на платформе, уся Вера выглядала як абноўленая, памаладзелая.

— Касу адрэзала! — склала перад сабою рукі Таня.— Але не шкадуй, добра зрабіла, ты цудоўна выглядаеш, божа мой, якія тояцца ў нас, у жанчынах, рэзервы, а мы пра іх і не здагадваемся!

— Праўда?

Здаецца, Веры гэта было вельмі важна, хоць раней Таня не заўважала за ёй какецтва.

— Кепска, што ў цябе няма тэлефона,— гаварыла Вера, праходзячы ў пакой.

Сашы не было дома, недзе бегаў па двары. Яны ўселіся на Таніну канапку, і Вера загаварыла:

— Я па тэлефоне з табою не жартавала, ёсць магчымасць паехаць на поўдзень... Не буду цябе інтрыгаваць, раскажу, з кім і як...

Вера, здаецца, наважылася нешта расказаць Тані, але раптам запнулася, нібы шукаючы слоў, якімі гаварыць далей, зачыніла і адчыніла белую лакавую сумачку, пакруцілася, шукаючы ёй месца, кінула на стол.

— Адным словам, адзін чалавек хоча выйсці за мяне замуж,— Вера засмяялася,— пардон, жаніцца са мною...

— Дык гэта ж здорава, Верка,— узрадавалася за сяброўку Таня.

— Разумееш?.. Слухай, як мне новая прычоска, ніяк не прывыкну, праўда хораша? — дакранулася Вера пальцамі да сваіх валасоў.

— Цудоўна, ты разам са сваёй касою скінула гадоў дзесяць!

— Значыцца, мне цяпер трыццаць сем, яшчэ можна замуж... Смех смехам,— Вера перастала ўсміхацца,— але разумееш... Гэта ў маладосці выходзяць замуж лёгка, бяздумна, мне мая сяброўка, Оля Гарадзецкая, казала, што яна за свайго Кіма некалі выйшла толькі таму, што на ўсім пляжы ў яго быў самы лепшы загар!..— І тут жа зноў зрабілася сур'ёзная.— Ён удавец, мае дзвюх дачок, адна ўжо замужам, другая жыве з ім... Ну, і ў мяне Ірына... І мая дарослая, не сёння-заўтра замуж...

— Вось бачыш,— перабіла Веру Таня,— замуж выйдзе, ты адна застанешся, так што калі знаходзіцца чалавек, то не ідзі, а бяжы...

Вера ўздыхнула, пакруціла галавою.

— Разумееш, у яго ўжо свае прывычкі, у мяне — свае... Каб на старасці гадоў не апраставалосіцца, не шкадаваць потым... Мы з табою жанчыны незалежныя, не прывыклі, каб намі камандавалі, а там — мала што...

— Нешта ты надта цвяроза разважаеш, ну, а каханне, каханне ў вас ёсць? — спытала Таня.

Вера паціснула плячыма:

— Хто яго ведае... Не ведаю, ці гэта каханне, ці так... Прыемна, што нехта яшчэ глядзіць на цябе...

— Хто ён?

— Выкладае фізіку ў політэхнічным... Кандыдат

навук... Вось ён і заве на поўдзень... Але я не хачу адразу ўдваіх, быццам ужо дала згоду... Хачу больш прыглядзецца да яго... Паедзем з намі... Возьмем дзве палаткі, я буду з табою спаць, а ён — з Сашам.

Таня весела засмяялася.

— А захоча ён? Навошта яму такі баласт — мы з Сашам?

— Захоча, я ўжо з ім гаварыла, каб не захацеў, то я точна за яго не пайшла б, бо гэта значыла б, што ён эгаіст... А так... І ты да яго прыгледзішся, скажаш мне, ці варта...

— Ну, ведаеш...

— Дык згодна?

— Я на поўдзень вельмі хачу, мяне доўга ўгаворваць не трэба, так што...

— Так што!

І яны паехалі.

Верын жаніх, Уладзімір Міхайлавіч, вёў машыну. Быў ён невысокага росту, хударлявы, з вусікамі, у якіх прабіваліся сівыя валаскі, з жывымі цёмнымі вачамі, нейкі надта зграбны — і ў фігуры, і ў вопратцы — джынсы, тэніска,— і ў энергічных, дакладных рухах. З першага знаёмства, з першай размовы Таня зразумела, што чалавек ён разумны. Яна часам задумвалася: а наогул што такое розум чалавечы? Колькі ведала мужчын і адукаваных, і нават таленавітых, відных, часам на высокіх пасадах і, далібог, не разумных. Бо калі мужчына пазёр, калі вельмі нясціплы, калі пашляк, балбатун, хлус, то цяжка назваць яго разумным пры ўсіх іншых станоўчых якасцях.

Уладзімір Міхайлавіч не гаварыў глупства, жарты яго былі прыстойныя і дасціпныя, адчувалася, што акрамя сваёй фізікі ён цікавіцца і іншымі з'явамі жыцця — калі зайшла размова пра раман вядомага пісьменніка, які апошнім часам чытала ўся інтэлігенцыя, ён выказаў пра яго і сваю думку, і, як здалося Тані, даволі арыгінальную.

Таня з Сашам сядзелі на заднім сядзенні, Вера побач з вадзіцелем. Насустрач ім бегла бясконцая стужка шашы, дзе атуленая лесам, дзе на волі адкрытага стэпу, перабягала цераз масты, пад каторымі плылі рэкі, спынялася перад шлагбаумамі, мінала вёскі, невялікія гарадкі і зноў вырывалася на прастор. Насустрач ім імчаліся «Волгі», «Жыгулі», гружаныя

самазвалы, рэфрыжэратары, некаторыя машыны іх абганялі. Вера з першых кіламетраў паставіла перад Уладзімірам Міхайлавічам умову — ехаць спакойна, ні з кім не спаборнічаць у скорасці.

— Добра, буду абганяць толькі веласіпедыстаў,— згадзіўся той, але не заўсёды выконваў сваё абяцанне, часам і набіраў разгон, на радасць Сашу, які аж павіскваў ад захаплення.

Яны ехалі ў Піцунду, дзе бываў ужо Уладзімір Міхайлавіч і ведаў добрыя мясціны для «дзікага» адпачынку.

Каўказ наплываў на іх сіняватым хрыбтом далёкіх гор, водарам цёплай вільгаці, яркім сонцам, якое залаціла паласу шашы, біла ў вокны машыны. На сцежках, што беглі ўсцяж дарогі, пачалі трапляцца смуглыя мужчыны з чорнымі вусамі, у вялікіх, як рэшата, шапках, жанчыны, нягледзячы на гарачыню, апранутыя ва ўсё чорнае.

Пасля Сочы горы падступілі зусім блізка, а справа, на ўсю неабсяжную далеч, раскінулася мора. Таня смяялася, што ў Сашы скора адарвецца галава, так круціў ён ёю, пазіраючы на ўсе бакі.

Вузкая палоска шашы вывівалася серпанцінам, аббягаючы падножжа гор, якія ўзвышаліся злева пакрытымі лесам схіламі, скалістымі вяршынямі, падступаючы блізка да абрываў, парослых кустамі, пад якімі, нібы вылітая з серабра, ляжала паверхня мора, адбіваючы ў сабе чыстае сіняе неба і распалены круг сонца. Здалёк наплывала цёмная сцяна высокіх стройных кіпарысаў, пальмы з камлямі, нібы абкручанымі кудзеляю, паказвалі на прасвет свае веерныя лісты.

«Дзікі» бераг Піцунды быў забіты машынамі, застаўлены палаткамі — сінімі, жоўтымі, чырвонымі і нагадваў цыганскі табар, уплішчыцца сюды, здаецца, было немагчыма, але Уладзімір Міхайлавіч пахадзіў, пагаварыў з адным, з другім чалавекам, і нехта крышку пасунуўся, нехта нешта прыбраў — знайшлося месца і для іх «Жыгулёў», для іх дзвюх палатак.

Тэрыторыя іхняга «дзікага» берага была даволі вялікая, ад мыса, які зялёным паўвостравам выступаў у мора, да агароджы, за якою пачыналіся «культурныя» пляжы. На мысе размяшчаўся пасёлак, дамы якога хаваліся ў густой зеляніне кустоў і дрэў, сярод якіх выступала адно — высокае, з раскідзістаю кро-

наю. Сярод іншай зеляніны яно ўзвышалася, як Гулівер над ліліпутамі. Мусіць, шмат гадоў стаіць яно вось так, пазіраючы з сваёй вышыні на мора, слухаючы плёскат яго несціханых хваляў.

Стомленыя ад дарогі, гарачыні, потныя, запыленыя, яны ўсе першым чынам кінуліся ў мора. Вада тут была чыстая, ад самага берага глыбокая, салёная, тугая, яна вяртала целу дужасць, маладосць, і скора яны, сабраўшыся ўсе ўчацвярых на плытчэйшым месцы, смяяліся, пырскалі адно на аднаго, дурэлі, былі як дзеці, што вырваліся на свабоду, дарваліся да асалоды.

Так пачаўся іхні адпачынак. Цяпер кожную раніцу, як толькі ўзыходзіла сонца, яны беглі ў мора. Уладзімір Міхайлавіч заплываў далёка, бераг быў «дзікі», без буйкоў, і плыўца ніхто не спыняў, не вяртаў. Таня з Верай далёка плаваць баяліся, плёхаліся па-сабачы метраў за дваццаць ад берага, не пускалі і Сашу далёка адплываць, але той часта вырываўся з-пад іх апекі і сігаў за Уладзімірам Міхайлавічам. Таня сварылася на сына, гразіла, што больш ніколі не возьме з сабою на мора, калі ён такі неслух, і хлопец нейкі час слухаўся, а потым зноў як зрываўся з прывязі, плыў у адкрытае мора. Дні за тры ён загарэў, яго худзенькая, кволая постаць нібы пацвярдзела, ён бегаў на сваіх цыбатых нагах па беразе, адчайна, з галавою, кідаўся ў хвалі, плыў пад вадою, і Таніна сэрца замірала і радавалася, калі яна бачыла, як вынырвае з хваляў яго макаўка, як пачынае ён біць сажонкамі па вадзе, рады прасторы, волі, куды вырваўся з каменю горада.

І самі яны, і ўсе «дзікія», што сабраліся на гэтым беразе, цешыліся свабодаю. Мужчыны цэлыя дні хадзілі ў адных плаўках, жанчыны ў купальніках, увесь быт ва ўсіх быў на віду, кожны ведаў, што ў каго варыцца на абед, і кухні, і сталовыя ва ўсіх размяшчаліся пад адкрытым небам.

Побач з іхнім пляжам узвышаўся высокі будынак пансіяната на трынаццаць паверхаў. Таня бачыла, як выплывалі з гэтага пансіяната на свой «культурны» пляж жанчыны ў доўгіх халатах, мужчыны неслі за імі гумовыя матрацы, лежакі, подсцілкі, жанчыны ўмошчваліся на гэтых матрацах і ляжалі пад тэнтамі, пад вялікімі расквечанымі парасонамі. Вечарамі кабеты выходзілі ў доўгіх сукенках, мужчыны — у скураных пінжачках, вельветавых касцюмах, што былі ў той

сезон вельмі модныя, чынна гулялі па сваім надворку. Таня не зайздросціла ім, куды мілей была ёй іхняя воля, без шыкоўных туалетаў, якіх яна і не мела, без надакучлівага распарадку дня са сняданкамі, абедамі, вячэрамі.

Уладзімір Міхайлавіч на машыне ездзіў па прадукты ў пасёлак, Таня з Вераю гатавалі яду на газавай пліце, якую прывезлі з сабою,— невялічкай, белай, з маленькімі чырвонымі балонамі. Таня старалася як мага болей прадуктаў купіць за свае грошы: мяса, вінаграду, памідораў. Уладзімір Міхайлавіч і Вера сварыліся на яе за гэта.

— Мала таго, што я ў вас наезніца, дык яшчэ хочаце, каб была і нахлебніца? — спрачалася Таня.

— Кіньце вы пра гэта,— гаварыў Уладзімір Міхайлавіч,— мы вельмі рады, што вы з намі...

Таня з кожным днём усё больш захаплялася ім. Уладзімір Міхайлавіч быў з тых мужчын, якія ўсё ўмеюць, не саромеюцца ніякай работы. Ён умеў сам гатаваць і часам вызваляў Таню і Веру ад пліты, сам неяк па-хітраму, адмыслова смажыў мяса, і яно было — хоць пальчыкі аблізвай, пазнаёміўся з мясцовымі рыбакамі і разам з імі ездзіў вудзіць рыбу і прыносіў серабрыстую кефаль, сам чысціў яе, смажыў. Ён не дазваляў ні Веры, ні Тані мыць яго кашулі, шкарпэткі, усё рабіў сам.

— І ты яшчэ думаеш, ці выходзіць за яго замуж? — гаварыла Таня сяброўцы.— Гэта скарб, табе моцна пашанцавала.

— Я сама не ведала пра такія яго здольнасці,— дзівілася Вера.

— Глядзі, бо, калі ты адкінеш, я падбяру,— жартавала Таня.

Яна жартавала, а ў душы ёй было крышку зайздросна, калі бачыла, з якою любасцю глядзеў на Веру Уладзімір Міхайлавіч, як выбіраў ёй прыгожы яблык, прыгожую ягаду з гары прывезеных з базару, зайздросна было глядзець, як яны ўдваіх вечарамі гулялі берагам мора.

Таня лічыла, і, можа, не без падстаў, што яна прыгажэйшая за Веру. У яе і праўда была прыгажэйшая фігура — стройная, без лішняй паўнаты, цяпер пакрытая роўным залацістым загарам. А Вера не магла схаваць свайго даволі поўнага жывата, была нашмат ні-

жэйшая за Таню, ад сонца ў яе лупіўся нос і выгаралі бровы, вейкі. Дык чаму так часта выпадае шчасце непрыгожым і абмінае тых, якім, здаецца, яно павінна належаць па праву?

Часам яны ездзілі ў пасёлак Піцунда — і на базар, і пагуляць па тым, цывілізаваным беразе, каб лішні раз пераканаць сябе, што на іхнім, «дзікім», лепей. У высокіх прыгожых пансіянатах Піцунды адпачывала шмат іншаземцаў — балгараў, палякаў, чэхаў. Часам сярод іншых моў чула Таня і нямецкую. Колькі часу прайшло з вайны, а гэту мову яна дасюль не можа чуць спакойна. Ніяк не можа прывыкнуць, што нямецкая мова можа быць моваю і жанчын, і дзяцей, здавалася, гэта мова толькі салдат... І дзіўна было ёй, і непрыемна чуць, як гаварыла па-нямецку пажылая кабета з акуратнаю сівою прычоскаю, у шортах, што агалялі яе рыхлыя, з сінімі венамі ногі, як гаварыла гэтаю моваю цыбатая дзяўчына з распушчанымі па плячах валасамі, у джынсах, што шчыльна аблягалі яе круглыя маладыя ягадзіцы, як балбатаў па-нямецку хлопчык, меншы за Сашу — у вяснушках, з рудымі валасамі, акуратна зачэсанымі набок. Разумела, што гэта не тыя ўжо немцы, што гэта нашы сябры, і не магла пераадолець таго, што запала ў душу з маленства.

Пансіянаты стаялі на ўскраі хваёвага рэліктавага лесу, цяпер абгароджанага сеткаю, каб захаваць яго ў першабытным стане. Водар хвоі змешваўся з водарам мора, утвараючы тут непаўторны мікраклімат.

Пры ўваходзе на тэрыторыю пансіянатаў стаяла арка са скульптураю мужчыны, які ныраў у ваду, побач з ім застыў у палёце дэльфін, увасабляючы сілу, маладосць, прыгажосць, спрыт, рамантыку мора.

Усё ўзбярэжжа да самага пляжа было забрана ў бетон і служыла месцам прагулак, вечарамі тут густа гуляў прыбраны натоўп, водар мора і хвоі перабіваўся пахам дарагой парфумы.

Пакідаючы гэты райскі куток, хто-небудзь з іх чатырох кожны раз гаварыў:

— У нас усё роўна лепей.

Яны вярталіся да сваіх палатак, чакалі заходу сонца, каб палюбавацца, як будзе апускацца і большаць, налівацца чырванню яго круг, як дакранецца распалены дыск да роўнай, нібы шкляной, паверхні мора,

як пачне пунсавець неба і задрыжаць, замітусяцца, быццам залатыя рыбкі, малінавыя сполахі на вадзе. Сонца апускаецца вельмі скора — вось ужо да паловы ўтапіла свой каравай у ваду, вось ужо адзін маленькі акрайчык застаўся, адна дробачка, вугельчык, і той патух, толькі большая, большая чырвань залівае неба, ваду. Пачынала цямнець, але не тухла чырвань, мора доўга ляжала сярод чорных абрысаў берага, як вялізная міса, поўная ружовай вады. Усе жыхары «дзікага» берага кідаліся ў гэту ружовую місу, лічылася, што найпрыемней купацца іменна цяпер, у цёплай, як сырадой, нагрэтай за дзень, спакойнай, без хваль, густой і тугой, як ртуць, вадзе, лавіць у ёй водбліскі сонца, якое ўжо недзе там, за гарызонтам, і бачыць яго цяпер можна хіба з вялікай вышыні, хіба з таго вунь самалёціка, што ляціць у недасяжнай вышыні, яшчэ пазалочаны яго праменнямі.

Пазіраючы на ўсё гэта, Таня хацела верыць, што ўсё ў жыцці падпарадкуецца самым лепшым законам, гармоніі, логіцы, усё, што мучыць нас — выпадковае, не вартае ўвагі, ёсць найвышэйшы сэнс жыцця, і ўсе яны ідуць да гэтага найвышэйшага сэнсу, і некалі дойдуць, а раней за ўсіх, напэўна, той, хто здолее ўзняцца над дробным, нікчэмным. З высокай вышыні сонца відаць нават тады, калі на зямлі ўжо цёмна.

Яна абірала бульбу на абед, Вера ляпіла катлеты з купленага фаршу, Уладзімір Міхайлавіч рыхтаваў свае рыбацкія прычындалы — зноў збіраўся ісці ў мора з рыбакамі, як да іх падбег хлопчык гадоў пяці, у квяцістых трусіках, аб'явіў Тані задыхана:

— Цёця, вашага Сашку б'юць!

Яна кінула нож, падхапілася, пабегла за малым у бок зялёнага мыса. Чула, што і Уладзімір Міхайлавіч бяжыць за ёю. Скора ён перагнаў яе, раней, чым яна, апынуўся на пустым беразе і ўжо хапаў, лавіў за рукі высокага бамбізу, які выкідаў наперад кулакі, стараючыся дастаць імі Сашку. Саша не кідаўся на свайго ворага, а толькі ўхіляўся ад удараў, засланяючы локцямі твар. Пакуль Таня падбегла, Уладзімір Міхайлавіч ужо моцна трымаў бамбізу, не даючы вырвацца і ўцячы, а Саша размазваў па твары кроў, якая цякла з носа.

— За што, чаго, за што ты яго! — крычала Таня ў твар высокаму хлопцу, якога трымаў Уладзімір Мі-

хайлавіч. Хлопцу было гадоў шаснаццаць, ён быў на галаву вышэй за Сашу, у сініх плаўках, загарэлы, з непатухлай яшчэ злосцю ў зялёных вачах. Ён задыхана вырываўся з моцных рук Уладзіміра Міхайлавіча, але той не выпускаў яго.

— За што пабіліся? — напусцілася Таня на Сашу, думаючы, што зрабіў ён нешта кепскае, калі ўвёў у такую злосць бамбізу.

— Ён згубіў ласту,— паслужліва растлумачыў хлопчык, які паведаміў Тані, што б'юць Сашу, і прывёў іх на месца бойкі.

— Якую ласту? — павярнулася да хлопчыка Таня.

— Во такую,— паказаў той на зялёную, як у жабы, гумавую лапу, што ляжала на камянях.

Скора Таня і Уладзімір Міхайлавіч высветлілі прычыну бойкі.

Гэты вялікі хлопец меў ласты і маску, Сашу вельмі хацелася паплаваць з гэтаю маскаю і ластамі, хлопец даў яму сплаваць, і вось Саша згубіў ласту.

— Дык ты за гуму! Біць чалавека! — Уладзімір Міхайлавіч выпусціў рукі хлопца, нібы яму агідна зрабілася да іх дакранацца.

Прыбег бацька гаспадара ластаў — у майцы і шараварах, якія звісалі ніжэй тоўстага круглага жывата.

— Што такое, што такое,— накінуўся ён на Уладзіміра Міхайлавіча.— Сталы мужчына і біць хлапца.

— Ніхто не біў вашага хлапца, гэта ён... вунь, меншага за сябе скрывяніў,— стрымліваючы гнеў, адказаў Уладзімір Міхайлавіч.

— За што, чаго біўся? — напусціўся бацька на сына, але той толькі шморгаў носам.

— Саша ласту яго згубіў, ён за ласту біў Сашу,— зноў ахвотна растлумачыў пяцігадовы сведка ў квяцістых трусіках.

Толькі цяпер, здаецца, убачыў бацька высокага хлапца маску і адну ласту, якая ляжала на камянях.

— Забірай,— загадаў ён і замахнуўся на сына. Хлопец адхіліўся, сагнутаю ў локці рукою закрыў твар, абараняючыся ад удару, але бацька не ўдарыў, і сын хуценька падняў з камянёў сваё дабро.

— Марш дадому!

Хлопец патупаў у бок сваёй палаткі, бацька — за ім.

— Колькі гаварыў — не давай нікому,— пачулі яны злосны голас гаспадара шараварау і майкі.

— За гуму!.. Біць чалавека!..— не мог супакоіцца Уладзімір Міхайлавіч. Ён абняў Сашу, які ўсё яшчэ размазваў кроў па твары.— Ідзі ўмыйся,— павёў яго да мора.— І пакажы, дзе ты плаваў.

Больш чым гадзіну нырaў Уладзімір Міхайлавіч там, дзе плаваў Саша, і знайшоў тую ласту, занёс гаспадару. А назаўтра паехаў на машыне ў Піцунду і прывёз Сашу маску і ласты — новенькія, прысыпаныя нечым белым, як талькам.

У Тані ўсё перавярнулася ўсярэдзіне.

— Уладзімір Міхайлавіч, колькі гэта каштуе, я заплачу,— палезла яна ў свой кашалёк.

— Кіньце,— узяў яе за руку Уладзімір Міхайлавіч.— Гэта мой падарунак Сашу.

Таня стрымлівалася, каб не заплакаць. Яна бачыла, як радаваўся Саша, як вачыма, поўнымі любові і адданасці, глядзеў на Уладзіміра Міхайлавіча. Здаецца, яна толькі цяпер зразумела, чаго пазбаўлены яе сын,— вось такой мужчынскай абароны, такой мужчынскай увагі, ласкі, адчувала сваю віну перад сынам, што сама не магла як след яго абараніць, даць яму ўсё, што неабходна хлопчыку ў яго ўзросце.

— Чаму ты мне не сказаў, што табе так хочацца тыя ласты, хіба я табе не купіла б? — папракала яна Сашу, абсалютна ўпэўненая цяпер у тым, што каб сын папрасіў, то і купіла б.

— Ага, у цябе заўсёды няма грошай,— сказаў Саша.

Таня і праўда ўспомніла, як часта на розныя просьбы сына адказвала — «няма грошай», як папракала апошнім часам за той штраф, што давялося заплаціць.

А Саша, схапіўшы ласты, маску, бег ужо да мора.

— Калі хто будзе прасіць — не шкадуй! — кінуў яму наўздагон Уладзімір Міхайлавіч.

Таня паглядзела на яго вачыма, поўнымі ўдзячнасці і любові. І тут жа спалохалася, спалохалася таго, што адчула яе сэрца да гэтага чалавека. Яна ўстала, пайшла, нібы за Сашам, да мора, а на самай справе, каб пабыць адной, адной з тым, што заліло сэрца.

Тое новае, што з'явілася ў яе да Уладзіміра Міхайлавіча, спалохала, ашаламіла. Падумала: можа, і ён да мяне... Але тут жа адагнала такое падазрэнне. Ён

шчаслівы каханнем да Веры і хоча, каб усе былі шчаслівыя...

Але што б ні адчуваў ён, Таня спужалася таго, што адчула яна. Вера — яе сяброўка, і яна не можа, не можа зрабіць ёй прыкрасці. Яе ўзялі з сабою, без іх яна ні за што не трапіла б сёлета на мора, ёй не прыйшлося плаціць за дарогу, за жыллё, а яна... Не, яна не можа нічога сабе дазволіць. Яна не будзе скідаць цёмных акуляраў, каб не выдалі яе вочы, яна будзе стараніцца яго, засталося якіх дзесяць дзён... Хутчэй бы яны мінулі... Не, няхай бы цягнуліся бясконца... Кінь, дурная, вазьмі сябе ў рукі...

Калі вечарам Вера і Уладзімір Міхайлавіч паклікалі яе разам пагуляць па беразе, яна адмовілася. За імі хацеў увязацца Саша, але і Сашу Таня не пусціла.

— Няхай яны ўдваіх,— сказала сыну.

Саша з недаўменнем паглядзеў на маці, ён зусім не быў упэўнены, што Уладзіміру Міхайлавічу будзе весялей хадзіць з адною цёцяй Вераю, быў перакананы, што з ім гуляць было б куды весялей.

Некалькі дзён у іхнім, нядаўна такім дружным, лагеры панавала разгубленасць. Таня больш не смяялася, была змрочная, увесь час старалася застацца адна. І ў Верыных круглых вачах з'явілася нешта новае. Зніклі радасць ад прысутнасці іх аднаго пры адным, непрымушаны смех. Уладзімір Міхайлавіч заўважыў, што іхні карабель даў трэшчыну, пацёк, але ніяк не мог разабрацца, у якім месцы тая аварыя. А можа, і здагадваўся, ды не ведаў, як рамантаваць. І роспытамі не надакучаў, не лез у душы — ні адной, ні другой жанчыне. Адзін Саша нічога не бачыў, купаўся, плаваў са сваімі ластамі і маскаю, а потым з захапленнем расказваў:

— Плывеш так і не бачыш, якая пад табою глыбіня, а як глянеш цераз маску, во здорава! Прорва! Падводнае царства! Як у кіно! Горы там, горы, а на іх — зялёныя водарасці, гайдаюцца пад вадою, як ад ветру. І рыбы плаваюць, і медузы — сінія, як з кісяля. І светла там, сонца зайчыкамі, зайчыкамі. Ты, мама, сплавай, сплавай, паглядзі!

— Толькі гэтага мне і не хапала,— адказвала Таня,— цераз маску на тваіх зайчыкаў глядзець.

Саша хвосцікам бегаў за Уладзімірам Міхайлавічам, круціўся ў яго пад рукамі, цягаў пластмасавым

белым вядром ваду з мора, мыў разам з Уладзімірам Міхайлавічам машыну.

Таня разумела, што прычына аварыі карабля ў ёй, і не ведала, як усё паправіць, як вярнуць усё ў мінулае. Кожны дзень яна ўнушала сабе: я да яго нічога не адчуваю, нічога не адчуваю, і ў яго да мяне толькі таварыскія адносіны, таварыскія, але варта было ёй паглядзець на худую Сашаву спіну з калючымі лапаткамі, як энергічна варушыліся яны, калі той цёр анучаю крыло машыны, а побач з ім — цвёрдую, мускулістую спіну Уладзіміра Міхайлавіча, як сэрца яе пачынала ныць, ныць, такім блізкім, такім патрэбным здаваўся ён і ёй, і Сашу.

Вера апошнім часам пачала больш увагі аддаваць свайму туалету — на ноч закручвала валасы на бігудзі, мазала твар крэмам, раніцою пачала бегаць — каб збавіць вагу.

— З самага пачатку трэба было бегаць, дык тады ленавалася, а цяпер — што, калі тыдзень застаўся,— бурчала Таня.

— Адзін дзень можа вырашыць лёс чалавека, адна гадзіна, не тое што тыдзень,— загадкава адказвала Вера.

Таня ляжала на гумовым матрацы ў сваёй палатцы, Вера з Уладзімірам Міхайлавічам пайшлі гуляць перад сном па беразе мора, звалі і яе, ды яна адмовілася. Яна глядзела на ружовы брызент палаткі, на ручнік, што вісеў, зачэплены за кручок. Здаецца, ні пра што не думала, толькі часам уяўляла ў зеленаватым вячэрнім прыцемку, на фоне серабрыстай паверхні вады, іх сілуэты, і ад гэтага малюнка рабілася сумна. Часам выплывалі, як з небыцця, як з далёкай далі, бледны твар, сівыя валасы Сяргея. Уяўляла такім, якім бачыла апошні раз, і гэты вобраз таксама выклікаў смутак. Хацелася ўжо, каб скарэй скончыўся адпачынак, скарэй на работу, дадому. Добра-добра на прыродзе, але засумавала ўжо і па выгодах — па сваёй мяккай канапцы, па ваннай,— усяго добра ў меру. Хацелася, каб хутчэй прыйшла Вера, хутчэй, хутчэй. Глянула на гадзіннік — дванаццаць. Устала, выключыла святло — Уладзімір Міхайлавіч правёў электрычнасць у іх палатκі ад нейкіх там акумулятараў, ці што,— выйшла на бераг.

«Цыганскі табар» спаў, толькі далёка, каля край-

ніх палатак, паблісквалі яшчэ рэшткі вогнішча, кідаючы ружовае святло на твар барадатага мужчыны. З другога боку, як навагодняя ёлка, свяціўся яшчэ вокнамі высокі будынак пансіяната.

Мора не было відаць, толькі ціха і раўнамерна плёскала хваля. Неба хмурылася, не свяцілі зоркі, можа, сапсуецца пагода? Тады будзе зусім кепска.

Зайшла ў мужчынскую палатку, з хвіліну стаяла, думала — ці ўключаць святло. Уключыла. Саша спаў, уткнуўшыся носам у падушку, яго загарэлая, аж чорная, спіна з вострымі лапаткамі была голая, і тырчалі з-пад тонкай коўдры голыя ногі. Таня раптам убачыла, якія вялікія ўжо ў сына ногі — трэба будзе купляць новыя чаравікі, старыя ўжо не ўзлезуць, і сам які доўгі, на ўсю пасцель. Вырас за гэты месяц, ці што? Прысела перад Сашам на кукішкі, выцягнула з-пад яго жывата скамечанаю коўдру, укрыла спіну, ногі. Азірнулася, глянула на пасцель Уладзіміра Міхайлавіча. Яна была пустая, акуратна засланая клятчастым пледам, у галавах ляжала маленькая падушачка ў квяцістай наўлечцы. Дакранулася да гэтай падушкі і адхапіла руку, быццам апёкшыся, пачырванела, нібы зрабіла нешта непрыстойнае, злосная на сябе, выйшла з палаткі.

Вакол яшчэ пацямнела, паменшала светлых вокнаў у будынку пансіяната, патухла і вогнішча каля крайніх палатак. Таня прыслухалася — ці не чуваць крокаў, можа, вяртаюцца гулёны, але вакол было ціха, толькі ўсё таксама раўнамерна, безудзельна плёскала марская хваля.

Раптам аднекуль, здалёк, пачулася музыка. Таня прыслухалася. Паланез Агінскага... Сумная і ўрачыстая мелодыя плыла здаля, з цямна, нібы нараджалася недзе ў глыбіні мора і ўзнімалася адтуль, поўная любові і трагізму, нязбытных мар. Альбо лілася з неба, з нябачных цяпер зорак, адтуль, куды адыходзіць вечнасць і вяртаецца на зямлю, каб паведаміць нам нешта важнае, невядомае дагэтуль, каб папярэдзіць на будучае, але не мае мовы, не мае слоў, і мы не маем сілы яго зразумець. Толькі нешта адчуваем... Як тугу па невядомым, нязбытным, чаго чакаем усё жыццё, з чым так і не спатыкаемся, але мару пра тое спатканне нясем да апошняга дня. Музыка, прыплыўшы з вечнасці, клалася на душу супакаеннем. Вось варухнулася

ўжо, як дзіця пад сэрцам, кволая радасць. Ад таго, што пад брызентам палаткі спіць сын і ў яго ўжо такія вялікія ногі, ад таго, што побач дыхае хвалямі мора, ад таго, што заўтра будзе новы дзень, усё роўна, ці хмарны, ці сонечны, калі нават і хмарны, то не навек, усё роўна вернецца сонца.

Чамусьці супакоеная, як скінуўшы цяжкую ношу, вярнулася яна ў палатку, зноў лягла на сваю пасцель, але ўжо хацелася ёй не стагнаць, а ўсміхацца.

Скора вярнулася і Вера. Крадком заходзіла ў палатку, старалася нічым не грукнуць, не разбудзіць Тані.

— Хадзі смялей, я не сплю,— сказала Таня.

— Не спіш? — у Верыным голасе чулася радасць. Шапацела сукенкаю, распранаючыся, потым па шоргату Таня здагадалася, што пачала закручваць бігудзі.

— Ну, дык што... Прыгледзелася да свайго Уладзіміра Міхайлавіча? — з ноткамі нейкага папроку сказала Таня.

Вера ўздыхнула, перастала накручваць валасы.

— Я закаханая ў яго, як дзяўчынка, я не ведала, што ў нашы гады яшчэ можна так кахаць,— прызналася Вера.

— Значыцца, у вас усё нармальна?

— Ага... Пра ўсё дамовіліся... Вернемся дадому, і я пераеду да яго, сваю кватэру пакіну Ірынцы...

— Ну вось, бачыш,— Таня старалася надаць голасу радасці і раптам адчула, што сапраўды радуецца, радуецца, што ўсё займае сваё месца, што ёй не трэба будзе пакутаваць, што зноў будзе адчуваць сябе чыстаю перад сяброўкаю, і перад ёю, і перад ім, і перад самою сабою...

Прабоіна ў караблі залаталася, ён шчасліва даплыў да канца свайго падарожжа, развіталіся ў горадзе, як найлепшыя сябры.

## 17

І вось — зноў шумныя вуліцы горада, перапоўненыя тралейбусы, аўтобусы, натоўп на скрыжаванні перад светафорам — вярнуліся студэнты, настаўнікі, скончыўся сезон адпачынку. На схіле быў жнівень, і хоць халады з дажджамі яшчэ не абрынуліся на зямлю, у паветры ўжо адчувалася набліжэнне восені —

жаўцелі ліпы на праспекце, вецер прыносіў з палёў пах сухой травы, ускапанай зямлі, вітрыны магазінаў упрыгожвалі дары прыроды — пірамідкі чырвоных памідораў, белакачаннай капусты, яблыкаў.

У Тані заставалася яшчэ тры дні адпачынку, і яны аказаліся вельмі патрэбныя дома. Па-першае, пераканалася, што ўсю Сашаву адзежу можна выкінуць на сметнік — усё не лезла на яго, трашчала па швах — так ён вырас за гэта лета, а праз некалькі дзён у школу, і Таня кінулася па магазінах. А там, здаецца, і забіты паліцы рознымі таварамі, і адзежы поўна, а як прыйдзецца нешта купіць, то таго, што трэба, і не знойдзеш — то памерам не падыходзіць, то цаною, то Сашку, такому кавалеру, не падабаецца. Цягала хлопца па магазінах, чапляла на яго, як на манекен, адзін касцюм, другі. Нарэшце выбралі. Не меншы клопат быў і з чаравікамі. Паліто вырашыла пакуль не купляць, адпусціць рукавы, унізе, можа, яшчэ зіму праносіць. Ды і Саша новага паліто не хоча, падавай яму куртку. Трэба будзе прыглядацца, шукаць тую куртку. Сама, дзякуй богу, са сваіх сукенак не вырасла, не патаўсцела і не пахудзела, абыдзецца пакуль тым, што мае, хоць і хацелася б набыць якую абнову. Ды ліха з імі, з абновамі.

Пасля адпачынку трэба было яшчэ і прыбраць кватэру, і сябе дагледзець — пастрыгчыся, зрабіць прычоску, скончылася «дзікае» існаванне. Так і пракруцілася тры дні, часам на міг спынялася — не магла паверыць, што зусім нядаўна была каля мора, здавалася, яшчэ пахлі морам валасы.

Але вось скончыўся і апошні дзень адпачынку.

— Таццяна Максімаўна, віншую з выхадам на работу!

— А памаладзелі, а папрыгажэлі!

— О, каго я бачу! А загар! Загар! — так сустракалі яе ў калідоры супрацоўнікі, і Таня радавалася, адчувала — тут яе дом, яе сваякі, людзі, без якіх яна не магла б жыць.

Люба сядзела ў кабінеце адна, за сталом, заваленым паперамі,— такі заўсёды аказваўся яе стол падчас вяртання Тані з адпачынку.

— О-о! Нарэшце! — бліснула яна сваімі акулярамі.

Таня села за свой, вольны ад папер, стол, паклала на яго сумку.

— Ну, як гулялася-адпачывалася? — узлакацілася Люба на паперы, аглядала Таню, нібы па выгляду яе хацела атрымаць адказ на сваё пытанне.

— Ды ведаеш, добра, з мора, можна сказаць, не вылазіла, у адным купальніку ўвесь месяц прахадзіла.

— Па табе бачу, што добра... Так што... З новымі сіламі,— Люба паляпала рукою па стосе папер.

— Ды ўжо ж... Бачу,— усміхнулася Таня. Але не кінулася пераносіць тыя паперы з Любінага стала на свой, адхінулася на спінку крэсла.— Расказвай, якія тут навіны.

Люба пацiснула плячыма.

— А якія навіны... Ніякіх навін...

— З'едзеш з горада на месяц, здаецца, тут ужо ўсё дагары нагамі, навін поўна, а вернешся — усё так, як і было,— сказала Таня нібы са шкадаваннем, што ўсё тут так, як і было.— А хто на месцы Віктара Паўлавіча? Яшчэ не знайшлі?

Загадчыца аддзела хітра памаўчала, прыжмурылася. Потым адказала:

— Знайшлі...

— Каго?

— Век не ўгадаеш...

— А ўсё-такі?

— Куліка...

Усмешка памалу сыходзіла з Танінага твару, уважліва паглядзела на Любу — ці не жартуе? Здаецца, не жартуе, для жарту такое і ў галаву не прыйшло б.

— А ты кажаш, няма навін... Хіба гэта не навіна?

— Для нас ужо не навіна, мы пачынаем прывыкаць, яго паставілі праз тыдзень пасля твайго ад'езду,— абыякава адказала Люба.

— Н-да...

Мусіць, у Танінай інтанацыі Люба ўлавіла папрок, бо пачала гаварыць, як апраўдвацца:

— А што нам было рабіць, што мне было рабіць, бегаць па начальству, нагаварваць на Куліка? А якія ў мяне факты? Што пра яго кепскае гаворaць, што яго ў рэдакцыі не любяць? Скажуць, не любяць, бо прынцыповы...

Таня маўчала. Шчаслівы настрой, з якім выйшла на работу, згас. З'явілася адчуванне, быдта яе абразілі.

— Не скісай.— Люба ўстала з-за стала, паправіла

спадніцу, якая чамусьці перакруцілася ў яе веерам набок.— Тут гара пісем, пакуль ты ў моры купалася, яшчэ «геніяў» нарадзілася, вершамі рэдакцыю засыпалі.— Люба ўзяла пачак распячатаных, счэпленых з канвертамі, пісем, паклала на стол перад Таняю.— І гэта на, і гэта,— паперы з Любінага стала перабіраліся на Танін, там меншала гара, у Тані — расла.

— Пасля тваёй навіны працаваць не хочацца,— сказала Таня, але палезла ў сумку, выняла ручку, акуляры, якімі апошні час пачала карыстацца. Хочаш не хочаш, але пакуль не звольнілася альбо цябе не звольнілі, то трэба рабіць работу. І на нейкі час яна забылася пра тое, што яе засмуціла, бо трэба было думаць — як адказаць аўтару, каб не пакрыўдзіць, каб растлумачыць, чаму яго вершы нельга надрукаваць і разам з тым каб не адбіць ахвоты да паэзіі, бо хто ведае, можа, сярод дзесяткаў гэтых рыфмаплётаў і сапраўды хаваецца таленавіты чалавек, каб не прапусціць таго, не выліць разам з мыльнаю вадою і дзіця, каб не смяяўся потым некалі той таленавіты чалавек, прызнаны на ўвесь свет, з Танінага ліста, у якім яна забракавала яго верш, як смяюцца цяпер з няўдалых экзаменатараў, што некалі не прынялі вучыцца вакалу Шаляпіна, а прынялі Горкага, не прынялі вучыцца спевам нашу славутую Абразцову.

Таня напісала некалькі адказаў на пісьмы і панесла ў машыннае бюро. Ішла па доўгім калідоры з аднаго канца ў другі, адказваючы на прывітанні тых, каго сустракала. На фоне акна ў канцы калідора ўбачыла знаёмы сілуэт — круглы калабок на кароткіх ножках, гарбуз-галава — Кулік. Імпэтна часаў па дывановай дарожцы, крочыў на Таню, як танк на варожы дзот. Але і тая вырашыла не саступаць дарогі. І не вітацца першай. Няхай ведае, што яго партфель не засціў ад яе яго натуры.

Яшчэ трошкі, і сутыкнуліся б ілбамі. Кулік першы прытармазіў. І павітаўся, падаў руку:

— Добры дзень, віншую з выхадам на работу.

І вочы... Чаго ў іх толькі не было... Захаваная пагарда... Гонар... Задавальненне... І страх... Так, так, сярод усіх гэтых адценняў быў і страх, ён мільгануў на нейкую долю секунды і схаваўся на самым дне.

— Добры дзень... Дзякую,— і, божа мой, падала руку...

Вярнулася на сваё месца яшчэ з горшым настроем. Адсунула ўбок работу, падперла галаву рукою.

— Ну, што яшчэ здарылася? — насцярожылася Люба.

Таня ўхмыльнулася.

— Куліка сустрэла...

— Абразіў?

— Не, павітаўся, руку падаў, павіншаваў з выхадам на работу.

Люба ўздыхнула, быдта цяжкую ношку з плячэй скінула.

— Дык чаго ты? Чаго кіснеш?

— Бо адказала на прывітанне... Руку падала!

Люба зняла акуляры, выцерла іх белаю хусцінкаю, зноў надзела, уважліва праз іх паглядзела на Таню.

— Цябе бывае цяжка зразумець. Радавацца павінна, што канфлікт ліквідаваны, што, магчыма, не будзе чапіцца, перашкаджаць...

Таня маўчала. А сама думала. Разумная Люба... Яна заўсёды асцерагаецца канфліктаў. Але чаму?.. Чаму мы такія добранькія?.. Чаму не можам сказаць у вочы нягодніку, што ён нягоднік, чаму, ведаючы, што ён нягоднік, падаем яму руку?.. І я не лепшая... І я падала... Абы ўсё было ціха... Не хапае сілы на барацьбу... Ды каб і пачала шабуршыцца — хто б мяне паслухаў.

Ад некага яна чула, ды ў адно вуха заляцела, праз другое вылецела, быдта рэдактар некаму сказаў: «Мне не патрэбны таленавітыя, мне патрэбны старанныя». Кулік-то ўжо будзе старацца, будзе выпінацца, каб дагадзіць.

Зазваніў тэлефон, Люба ўзяла трубку, паслухала, падняла на Таню вочы:

— Цябе...

Таня падышла да тэлефона.

— Мама, угадай, адкуль я званю? — у сынавым голасе звінела радасць.

— Не ведаю, сынок... Можа, з Палаца піянераў?

— З дому! — пераможна заявіў сын.

— З якога дому? — не зразумела Таня.

— Во бесталковая, не можа зразумець — з нашага дому, з нашай кватэры, прыйшоў дзядзька з чамаданчыкам і паставіў нам тэлефон, чырвоненькі... Ты мяне чуеш?

— Чую, чую,— адказала Таня.— Дык ты не смяешся з мяне, у нас тэлефон?

— Добрыя смешачкі, адкуль жа я табе званіў бы... Слухай, мама, цяпер ты мне пазвані, я паслухаю, ці добра ён працуе, можа, толькі ў адзін канец звоніць?

— Пазваніць табе? А які наш нумар?

Саша на тым канцы дроту засоп, трубка звякнула аб нешта, але скора зноў зазвінеў сынаў голас.

— Во тут напісана...

Саша назваў нумар тэлефона, Таня набрала яго і пачула поўнае захаплення:

— Алё! Мама! Гэта ты?

— Я...

— Калі ты прыйдзеш дадому?

Таня паглядзела на гадзіннік.

— Скора ўжо, яшчэ гадзіна засталася.

— Скарэй прыходзь!

— Добра, сынок, а ты пакуль будзь дома, нікуды не бяжы, я скора прыйду, і мы з табою сходзім да цёці Веры і дзядзі Валодзі.

— Ага, добра,— ахвотна згадзіўся сын.

Таня паклала трубку, паглядзела на Любу, якая слухала размову па тэлефоне.

— Павінны ж быць у нашым жыцці хоць маленькія радасці,— сказала яна.

— Павінны,— згадзілася Люба.

І пайшло далей жыццё — дзень за днём, дзень за днём, паскараючы і паскараючы свой бег. Не агледзелася Таня, як мінуў верасень, надышоў кастрычнік, часцей зацерусіў дождж, вецер агаляў гарадскія скверы, паркі, усцілаючы дол жоўтым лісцем бярозы, клёнаў, раніцою над зямлёй падоўгу віселі белыя туманы, карацейшым і карацейшым рабіўся дзень, работу цяперканчалі пры электрычным святле, дадому Таня ішла цёмначы і ўставала, на работу ехала цемнатою, уціскаючыся ў перапоўнены, яшчэ не адышоўшы ад сну тралейбус.

У рэдакцыі ў яе ўсё было нібыта нармальна, Кулік не чапіўся да яе матэрыялаў, але яна не магла слухаць яго выступленняў на лятучках, такія яны былі напышчаныя і няшчырыя. І іншыя ў рэдакцыі пасмейваліся, але маўчалі.

Яе неяк сцішвала, супакойвала сёлетняя восень з гэтымі кароткімі днямі, здавалася, цемната затуляе ад

нечаканай прыкрасці, цясней звязвае з сынам — болей трымае яго пры доме. Яна кіравала цяпер Сашам па тэлефоне, правярала, ці ў час вярнуўся ён са школы, казала, што вымаць з халадзільніка на абед, давала яму гадзіну часу на гульню ў двары і праз гадзіну правярала па тэлефоне — ці дома ўжо, ці сеў за ўрокі. Вельмі баялася, каб зноў не ўлез у якую бяду, не нарабіў шкоды і ёй, і сабе, а галоўнае — сабе. Яна старалася падсоўваць яму цікавыя кнігі, каб прывіць любоў да чытання, каб менш вабіла вуліца, а больш кніга, запісала яго ў гурток малявання пры Доме піянераў.

Жыццё ўступіла ў тую паласу, калі ўсё ідзе нармальна, роўна, калі нішто не выбівае з каляіны, калі здаецца, што так ужо будзе бясконца, бо як ні ўглядайся ўдаль, у будучае, нічога там не ўбачыш, нічога не ўгадаеш. Што тоіцца там, як сыходзяцца абставіны, падзеі, што снуюць са сваіх нябачаных ніцяў — новую радасць? Новую бяду? Здаецца, усё перадумаеш, што з табою можа здарыцца, але таго, што здарыцца, ніколі не ўгадаеш, бо жыццё не кепскае і не добрае, як сказаў адзін пісьменнік,— яно арыгінальнае.

Мінуў лістапад з халоднай морассю, вільготным ветрам, надышоў снежань. Белым пухам пасыпаўся з неба першы снег, укрыў зямлю сляпучаю беллю, а назаўтра растаў, ператварыўся ў балота. Потым зноў падаў снег, і зноў раставаў. У канцы месяца падмарозіла, зямля застыла цвёрдымі грудамі, лужыны зацягнула белым лядком.

І зноў нясмела ўпала сняжынка, нібы прыляцела ў разведку — як сустрэне яе зямля, ці не знішчыць, не праглыне, як праглынула раней яе сёстраў? Але зямля ўжо спала, і сняжынка апусцілася ёй на грудзі. Нібы гукнула сваіх сяброўак — ляціце, усё ў парадку! І тыя пасыпаліся на зямлю, укрываючы яе пухам — каб цяплей спалася.

Прыбіраўся горад. На вітрынах універмага з'явіліся выразаныя з фольгі сняжынкі, са столяў звісалі залатыя, сярэбраныя ніці «дожджыку», на паліцах, апранутыя ў аднолькавыя чырвоныя зіпуны, з аднолькавымі белымі барадамі, стаялі адзін пры адным дзяды-марозы, дзяўчаткі, прыбраныя пад снягурачак, прадавалі ёлачныя цацкі. Гусцей, шумней зрабілася на вуліцах, людзі неслі спавітыя вяроўкамі елкі — горад рыхтаваўся сустракаць Новы год.



# ФІМКА

**Аповесць**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Матылёк рабіў кругі над рамонкам, то ўзлятаў, то апускаўся, нарэшце зачапіўся тонкімі і моцнымі лапкамі за жоўтую сярэдзінку, стуліў крылцы, упіўся ў кветку доўгім тонкім хабатком. Смактаў салодкі сок і то складаў крылцы, то расхінаў, быццам даючы палюбавацца яркім узорам з аранжавых, жоўтых і чорных крапінак. Ён стаяў на рамонку, ледзь дакранаючыся да яго лапкамі, быдта балерына на кончыках пальцаў, якую Фімка бачыла на малюнку ў кніжцы, і крылцы ў яго былі падобныя на сукенку ў той балерыны.

Матыль пасядзеў, паківаўся разам з рамонкам на тонкім сцябле і паляцеў, а на кветку з гулам апусціўся, закруціўся па ёй тоўсты паласаты чмель. Ён поўзаў, гудзеў, быдта бурчаў, што мала тут яму яды пакінулі. А потым узняўся і таксама паляцеў. Фімка глядзела яму ўслед, дзе ж ён сядзе, але чмель знік, як растаў у празрыстай сіні дня, і Фімка пайшла па высокай траве, шоргаючы па ёй пагнутым, з дзіркамі ў дне, вядзерцам. Скора яна ступіла ў халадок лесу, на доле зарослага папараццю. У гэты лес рэдка хто хадзіў і з вёсак, і з лагера, не відаць тут было ніводнай сцежкі, і Фімка церабілася цераз папаратнік, які даставаў ёй ледзь не да пояса. Нарэшце выбралася з той гушчэчы, убачыла пакрытую чарніцамі лапіну, прысела на кукішкі, паставіла каля сябе вядзерца.

Спачатку збірала ягады адной рукой, потым пачала дзвюма. Пераходзіла з адной лапіны на другую, з другой на трэцюю. Праўду казала цётка Вера, што ягад у гэтым лесе аж чорна, вядро можна назбіраць раздва. Каб гэта цукру яшчэ, то кісялю б наварыць, з хлебам можна і наесціся.

Збірала ягады, і аж спяваць хацелася, і не было страшна адной. А чаго баяцца — немцы сюды не патыкаюцца, партызанская зона, ваўкоў тут, мусібыць, няма, колькі вясною па лесе пабрындала, ніводнага не спаткала. І ўсё ж не загалёкала на ўвесь голас, заспявала ціхенька, сама сабе. Не разумела, не ведала, што цягнула з душы той спеў, ён выплываў сам, ці недзе чуты, ці самою выдуманы. А пад той спеў яшчэ і мроілася — як прынясе яна чарніц, як паядуць іх параненыя і ўсе адразу ачуняюць. І камандзір скажа — вось вам і Фімка, а вы думалі, што яна так, абы...

Альбо не... Пашлюць яе ў разведку, і дабярэцца яна да самага галоўнага немца, наставіць на яго пісталет і скажа: «Выпускай, гад, з турмы нашых!..» І немец спалохаецца, выпусціць, і хлопцы вернуцца ў атрад, і камандзір скажа: «Вось вам і Фімка, а вы думалі, што яна так, абы...»

Потым сама з сябе смяялася. Не дзіця ж, семнаццаць нядаўна стукнула, а выдумляе...

Але ўсё роўна мроілася, і паціху спявалася, і чарніц у вядры прыбывала.

Пачала адчувацца стома — забалела спіна, зацяклі ногі ад сядзення на кукішках. Каля лапінкі, спрэс чорнай, села на дол. Падумала, што можа спадніцу ўрабіць чарніцамі, але махнула рукой — на гэтай спадніцы ўжо нічога не ўбачыш, цяжка ўспомніць, якога колеру была яна некалі. І мыла яе, і шаравала, але не адмываецца. Новую спадніцу трэба, але дзе ты яе возьмеш — новую.

Заказытала нагу, потым моцна апякло лытку. Лясь рукою па назе, глянула — божачка, па нагах мурашкі бегаюць, ды вялізныя, як коні. Азірнулася, а гэта яна каля самага мурашніка прысела. Падскочыла, пачала абтрасаць спадніцу, ногі, адна мурашка аж на шыю ўспаўзла, скінула і тую. І як гэта яна мурашніку не ўбачыла, а мурашкі, мурашкі... Забылася Фімка і пра кусачы іх нораў, уставілася на гару ігліцы. А мурашкі туды-сюды, адна валачэ сухую травінку, другая — мушынае крыло, трэцяя так бяжыць. Во дзе праца, во работа, і хто іх навучыў?

Загледзелася Фімка на мурашак — не адразу пачула трэск сучкоў пад нагамі, а як пачула — сцялася. Гэтак анямела з жаху, што не дадумалася затуліцца за якое дрэва ці куст, стаяла, як разява, каля мураш-

ніка, а крокі — шах, шах, шах — бліжэй, бліжэй і выйшаў проста на яе — а каб ты спрах, як напалохаў — Ромка-падрыўнік. У чорнай касаваротцы наросхрыст, штаны ў боты запраўленыя, дручок у руцэ, светлая, даўно не стрыжаная грыва над ілбом кучаравіцца, вочы...

Няйнакш і Ромка спалохаўся, на Фімку наткнуўшыся, але тут жа быдта ўзрадаваўся, што Фімку ўбачыў. Канечне, лепей яму было ўбачыць дзяўчыну ў лесе, чым якога немца ці паліцая.

— Ты што тут робіш? — уставіўся на Фімку сінімі вачмі.

— А во... Мурашкі,— паказала Фімка на мурашнік.

— Што — мурашкі? — спытаў Ромка, падышоў бліжэй, глянуў туды, куды паказвала Фімка.

— Поўзаюць,— засмяялася Фімка.

— Ну і што?

— Цікава...

— Тожа мне, цікава,— хмыкнуў Ромка і калупнуў сваім дручком мурашнік, вывернуўшы з яго кавалак зляжалай ігліцы, пад якою аказаліся белыя дробачкі — мурашыныя яйкі.

І што тут толькі пачалося — замітусіліся, забегалі мурашкі, пачалі хапаць яйкі, валачы іх у лапках, на спіне, каб схаваць ад бяды, ўратаваць сваё патомства.

— Нашто ты,— з папрокам сказала Фімка.

Ромка зарагатаў.

— Мурашак пашкадавала... Людзі гінуць... Сёння жывы, а заўтра галаву складзеш...

Тут ён убачыў амаль поўнае вядро чарніц. Запусціў у яго жменю, усыпаў у рот, пачаў жаваць, чэрнячы моцныя белыя зубы ружовым сокам.

Сама Фімка, пакуль збірала, можна сказаць, і ягадкі ў рот не ўкінула, але Ромку чарніц не пашкадавала, наадварот, прыемна было глядзець, як ён есць.

А той запусціў яшчэ руку ў вядро і яшчэ.

— Піць, халера, хочацца,— нібы апраўдваўся ён.

— Ты еш, еш,— сказала Фімка.— Я яшчэ назбіраю.

І Ромка яшчэ раз усунуў у вядро руку, яшчэ выцягнуў жменю ягад, і іх цяпер у вядры добра паменшала.

— Куды ты хадзіў? — спытала Фімка.

Ромка памаўчаў, потым ухмыльнуўся.

— Куды хадзіў? — перакрывіў ён.— На кудыкіну гору... Ваенная тайна.

Ваенная дык ваенная, на гэта нічога не скажаш.

А Ромка раптам сеў на дол, правёў далоняю па твары, па расшпіленай грудзіне, паглядзеў на Фімку, быдта толькі цяпер яе ўбачыў, быдта наогул бачыў першы раз. Абвёў яе позіркам з ног да галавы, і Фімка ад гэтага позірку засаромелася, падумала, што, мусіць, яна брыдкая — у доўгай спадніцы невядома якога колеру, у блузцы з чужога пляча, з носам, падобным на бульбіну.

Але Ромка раптам усміхнуўся ёй, і ўсмешка гэта абдала Фімку цяплом.

— Сядзь пасядзі,— паляпаў Ромка рукою па доле каля сябе.

І як жа захацелася Фімцы сесці каля Ромкі, але...

— Дык жа во,— паказала на вядро.— Чарніцы трэба збіраць.

— Ды назбіраеш яшчэ, чарніц, вунь, як гразі.

— Ага, многа,— згадзілася Фімка.

— Дык сядзь,— яшчэ раз ляпнуў Ромка па траве.

І Фімка села, падкурчыўшы ногі і прыкрыўшы іх спадніцаю аж да чаравікаў.

Сядзелі, маўчалі, слухалі, як ціўкае ў лесе сініца, як раптам пачыналі шумець пад ветрам хвоі.

— Як гэта ты ў наш атрад папала? — спытаў Ромка, быдта і праўда ўбачыў Фімку першы раз.

Фімка пазірала на белыя, аблупленыя наскі сваіх чаравікаў, адзін зашнураваны сінім матузком, другі чорным шнурком. Сарвала галінку чарнічніку, узяла ў зубы, адкусіла.

— Як папала... Як усе пападаюць... Каб немцаў лупіць...

Адказ быў кароткі і ясны, як і Ромкава — «ваенная тайна». І сама Фімка была ўпэўнена, што ўсё так і было, што прыйшла яна ў атрад, каб лупіць немцаў, хоць дарога яе ў лес была не такая і простая.

Да вайны Фімка жыла ў горадзе, з маткаю і меншымі братамі, сёстрамі. І перад вайною сям'я іх жыла ў беднасці — бацька хварэў, адна матка на сям'ю зарабляла, а як немцы навалілiся, і зусім з голаду пачалі пухнуць. Вось тады і выправіла маці Фімку ў Заходнюю — там нейкая сваячка аб'явілася, бацькава стры-

ечная сястра, ці што. Паслала маці Фімку да яе — бульбу выбіраць. Было гэта восенню сорак першага года.

Выбірала тую бульбу Фімка шчыра, і пад дажджамі, і пад вятрамі, і прымаразкам. Не толькі цётцы памагала, і да чужых наймалася. Зарабіла чатыры мяхі бульбы, завезла на падводзе мацеры ў горад. Тою бульбаю і перазімавалі. А вясною сорак другога зноў паслала маці Фімку да цёткі, яшчэ чаго зарабіць.

Раскідала Фімка гной, капала агарод, засявала грады. Змалку прывучаная да работы — старэйшая з дзяцей. Лепшы кавалачак — меншым, большая работа — большай. Не бачыла Фімка ў гэтым несправядлівасці, ні на кога не наракала.

Усё лета сорак другога цётчыну карову пасвіла, а восенню зноў бульбу выбірала. Так і засталася ў цёткі — не то сваячкаю, не то парабчанкаю. Хоць цётка ў вёсцы суседзям і казала: «Во, пляменніцу гадую». І ў голасе такая жаласць — бачыце, людцы, якая я добрая, сваіх дзяцей поўна, а яшчэ ўзяла, памагаю.

«Дабрата», мусібыць, давала цётцы права, калі што не так, і пляснуць Фімку па шчацэ, і кухталёў надаваць — «як свайму дзіцяці», а што ўжо да языка, то чаго Фімка ад яе ні чула — увесь набор сялянскай бабскай лаянкі. Але жыла ў цёткі, рабіла — за яду ды за некалькі мяхоў бульбы, што мацеры завозіла.

Вясною сорак трэцяга зноў пагнала Фімка карову на пашу. Стаяла пад морассю, накінуўшы на галаву торбу, складзеную рогам угару. А тут немцы, двое, з аўтаматамі. Адзін худы, высокі, другі ніжэйшы. Каскі пры баках целяпаюцца. Убачылі немцы Фімку з кароваю.

— А, паненка, мільх, мільх...

Ніжэйшы абышоў карову, паляпаў па хрыбце. Потым прысеў, памацаў вымя. Пацягнуў за цыцку, і малако струменьчыкам цыркнула ў траву.

— Што ты робіш, пан, так няможна,— напусцілася на яго Фімка.

А той адчапіў ад рэменя каску і давай даіць малако, ды так спрытна, быдта век такую работу рабіў. Надаіў поўную каску, сам напіўся і другому немцу даў. А потым хоп з Фімкавай рукі пугу, лясь карову па спіне — пагнаў перад сабою.

Фімка падумала, што немец жарты строіць, паганяе

карову ды пусціць, але той гнаў і гнаў скаціну перад сабою.

Фімка бегла за кароваю, за немцам.

— Пан, што ты робіш... Пан, аддай карову,— прасіла яна.

Але немец быдта і не чуў яе і не бачыў.

— Пан! Аддай карову! — памкнулася Фімка вырваць у немца дубец.

— Вэк! Цюрік! — схапіўся немец за аўтамат.

Не збаялася Фімка і аўтамата — хапала за рукі немца, хапала за рогі карову, прасіла, крычала.

І раз стукнуў яе немец прыкладам па спіне, і другі раз, а яна чаплялася за яго цвёрдыя, чужыя рукі, вырывала пугу, заступала карове дарогу. Высокі глядзеў, як бароліся Фімка з малым немцам, і пасмейваўся.

Трэці ўдар зваліў Фімку на зямлю. Завалакло туманам вочы, зазвінела ў галаве. Ляжала на зямлі, раскінуўшы рукі, а калі прыйшла да памяці, то ні немцаў, ні каровы нідзе не было.

Страх Фімку ахапіў. Як вернецца дадому? Немцы не дабілі, дык цётка даб'е. І то сказаць — карову не ўберагла...

Заплакала, загаласіла. І не дадому пайшла — у лес. Няхай яе ваўкі з'ядуць... Усё роўна ёй не жыць... Хадзіла па лесе, блудзіла і дзень, і два. Згаладалася. На партызан натрапіла. У іх і засталася.

Дык хіба раскажаш гэта Ромку? Выйдзе, быццам яна за карову, хоць Фімка зусім не за карову, яна даўно да партызан хацела, даўно хацела нешта рабіць, каб памагаць сваім.

А Ромка глядзеў на яе, усміхаўся, і сінелі яго вочы, у нячэсанай чупрыне заблытаўся сухі лісток.

— Ваяка,— засмяяўся ён і адкінуўся, лёг на спіну, зажмурыў вочы.— А сама ты адкуль, мясцовая ці прыблудная? Я дык прыблудны, родам з Палесся, а сюды вайна загнала, з акружэння выходзіў, ды тут і асеў.

Ромка, мусіць, пытаўся і тут жа забываў, пра што пытаўся, бо толькі сабралася Фімка расказаць, адкуль яна і хто, як Ромка зноў запытаўся:

— А колькі табе гадоў? — і павярнуўся, успёрся на локаць.

Фімка прамаўчала, думаючы, што і пра гэта пытанне Ромка скора забудзе, але той прыгледзеўся да яе.

— Пятнаццаць? Шаснаццаць?

— Во! — пакрыўдзілася Фімка. Ёй заўсёды не падабалася, калі думалі, што яна яшчэ дзіця. Праўда, ростам яна невялічкая і тое, што ў другіх дзяўчат у такія гады пышна расцвітае, у Фімкі толькі завязваецца, але не дзіця ж яна.— Мне скора васемнаццаць! — знарок набавіла сабе, хоць папраўдзе ёй толькі нядаўна мінула семнаццаць.

— Го-о! — ледзь не на ўвесь лес загалёкаў Ромка.— Дык ты ж ужо дзеўка, з табою ж гуляць ужо можна! — І падхапіўся, сеў, аблапіў Фімку, паваліў на зямлю.

Ледзь не задыхнулася Фімка ад такой нечаканасці, ад сораму, уперлася ў Ромкавы грудзі рукамі, пачала адбівацца, выкручвацца, але ён, дужы, як конь, усё навальваўся на яе грудзьмі, цягнуўся губамі да яе шчакі.

Неяк выкруцілася, выслабанілася, падхапілася на ногі, шукала вядро, каб схапіць ды ўцячы, але Ромка ўчапіўся за руку:

— Чаго ты, дурная, не бойся, не ўцякай.

Тузанула Фімка руку, але Ромка трымаў моцна, і вочы сінелі, і было ў іх нешта такое, што супакоіла Фімку, абліло нават нязнанай дагэтуль радасцю.

— Садзіся, дурная,— зноў паказаў Ромка каля сябе на траву.

Але Фімка стаяла, не садзілася.

— Садзіся,— пацягнуў ён за руку, і Фімка плюхнулася, села. Нібы баючыся, каб яна зноў не ўцякла, Ромка абняў яе за плечы. Фімка зноў тузанулася, але Ромка прыціснуў далонь мацней, загаварыў, як да малога дзіцяці:

— Ну чаго ты, чаго? Ці адбудзе цябе, калі я вось так патрымаю? Пасядзі.

— А ты... А мне ягады трэба збіраць,— задыхана адказала Фімка.

— Згарань твае ягады, я табе памагу дазбіраць, пасядзі вось.

І Фімка сцішылася. Ромкава рука абдымала плечы, і яна адчувала яе цяпло, і адчувала цяпло Ромкавага пляча, да якога той прытуліў яе, і чула пах яго валасоў, яго кашулі, яго цела, незнаёмы ёй дасюль пах здаровага маладога хлопца, і нешта рабілася з Фімкаю — не было ўжо ні сораму, ні крыўды, ужо хацелася так сядзець і сядзець. І Ромка прыціх. Каля іх

стаяла няпоўнае вядзерца чарніц, сярод якіх круглелі зялёныя лісткі ягадніку, зверху па ягадах поўзала мурашка, мусіць, шукаючы выйсця з такой прорвы і ніяк не знаходзячы. І калі Ромка асцярожна пацалаваў Фімку ў шчаку, яна ўжо не адбівалася. Потым ён пацалаваў яе вусны, і Фімка зноў не адбівалася, але калі той пасягаў на нешта большае — пачынала бараніцца. І ён зноў супакойваўся, сядзеў сцішаны, а Фімка ўжо хацела, каб ён яе цалаваў.

Нарэшце спахапілася:

— А ягады... Там чакаюць...

Ромка спрабаваў затрымаць Фімку яшчэ, але яна падхапілася, падчапіла вядро за дужку.

Ромка, як і абяцаў, памог ёй дазбіраць ягад. А потым яны пайшлі ў лагер, і Ромка нёс вядро, а Фімка ішла побач, і радасць, трывога, сорам мяшаліся ў душы, але над усім была радасць, і сама сабе здавалася лёгкаю, нават прыгожаю.

## 2

Параненых было трое, ды Святлана, ды доктар, ды цётка Вера, так што яе вядзерца скора апусцела. І сама Фімка з усімі трохі пакіслілася, а што ў лесе ягад не ела, дык было відаць па белых, непачэрненых зубах. Ягады ўсім спадабаліся, і доктар сказаў, што заўтра Фімка зноў пойдзе па чарніцы, яны карысныя, у іх вітаміны і проста грэх, што ягады побач, дармовыя, пад нагамі, а параненыя іх не ядуць.

Пакуль Фімка збірала ў лесе чарніцы, доктар парабіў хлопцам перавязкі і ў пагнутым тазіку, што стаяў каля шпітальнай зямлянкі, грудзілася куча брудных, зробленых з палатна бінтоў. Трэба было іх памыць, ды яшчэ пакіпяціць — так загадваў доктар — і Фімка ўзялася за работу. Святлана падкінула ёй яшчэ пару мужчынскіх кашуль, пару ручнікоў, так што выйшла, як у той прымаўцы — узялася памыць анучу, а назбірала цэлую кучу.

Фімка мыла, кіпяціла, паласкала, і ўсё рабіць было ёй у радасць, у радасць было ёй потым абіраць бульбу, цягаць ваду ў кацёл. Бегала, бегала, рабіла работу, потым на хвіліначку спынялася, а па сэрцы, па грудзях — галубіным крылом, галубіным крылом... І Ромкавы сінія вочы, і кудлатая грыва, у якой заблытаўся

сухі лісток. І не магла дачакацца заўтра — а можа, Ромка зноў на тое месца прыйдзе?..

Па праўдзе сказаць, то яна чакала Ромку ўжо сёння. А можа, у яе з Ромкам будзе так, як у Святланы з Толікам? Той кожны вечар падыходзіць да шпітальнай зямлянкі, кліча Святлану і яны ўдваіх гуляюць па лагеры.

Пачынала цямнець, загулі, завялі сваю песню камары, а яна сядзела на бервяне каля шпітальнай зямлянкі і чакала. Чарнелі камлі хвой, чарнелі іх парасоны пад яшчэ светлаватым небам, нясмела выплывалі першыя драбнюткія зоркі. У тым баку лагера, дзе быў Ромкаў будан, пачуўся гучны мужчынскі смех. Потым рыпнуў баян — яшчэ раз, яшчэ, а далей нібы выдыхнуў з грудзей, завёў мелодыю. Яшчэ ад першага рыпу баяна Фімчына сэрца тарганулася, бо ведала ўжо, ведала, што будзе далей — будуць перакотвацца амурскія хвалі, гуляць вецер у сопках Маньчжурыі, будзе адлятаць у далёкі край, развітваючыся са сваім любімым горадам, сама Фімка.

А ўсё гэта — Роза. Ну і дзяўчына! Высокая, фігурыстая, тонкія чорныя бровы, ружовыя вусны і ўсё сваё, не намаляванае, не завітое, тут, у лагеры, не навядзеш фальшу на твар, на фігуру, тут цябе бачаць з ранку да вечара, ты тут уся перад усімі. А да прыгажосці сваёй, і вясёлая Роза, і добрая. У партызаны прыйшла з баянам. Колькі хлопцаў па ёй сохне, але Роза строгая, нікога да сябе не падпускае, усім кажа: «Маё сэрца занятае, люблю аднаго чалавека, але ён не ў нашым атрадзе».

І чаму ўсё так няроўна на свеце? Адным і прыгажосць, і ўмелыя рукі, а другім — нічога, нават імя нейкае дурное прыдумалі — Фімка. Увогуле-то зваць яе Серафіма, але хто гэта будзе яе так называць, як пайшло змалку — Фімка — так і коціцца.

А Роза і праўда выводзіла ўжо вальс «На сопках Маньчжурыі», і ўжо акрамя яе грання нічога не чулася ў лагеры, і ўсё больш чарнелі, чарнелі сосны, і цямнела неба, і ярчэй, ярчэй загараліся зоры, апускаючыся ўсё ніжэй, ніжэй, ледзь не на самыя вяршыні соснаў.

А потым музыка сціхла, і зноў чуваць былі галасы, і Фімка спадзявалася пачуць сярод іх Ромкаў, і часам здавалася нават, што вылучае яго сярод далёкіх, пры-

крытых цемнатою, мужчынскіх галасоў, а потым зноў губляла.

З неба на чорныя верхавіны хвой ліў ужо святло месяц, як начышчаныя на свята, гарэлі зоркі, асабліва ярка зіхацела адна, у прагале паміж елкаю і высокай бярозай, мігцела, пераліваласся жоўтымі, сінімі іскрамі, дробным пылам курыўся праз увесь небасхіл Млечны Шлях. І не верылася, што заўтра зноў раскінецца над галавою блакіт, засвеціць сонца; нібы чорная посцілка, расшытая залацістым узорам, вісела над лесам, над прыціхлым лагерам неба, толькі зрэдку чуўся прыглушаны чалавечы голас, конскае ржанне, клацаў затвор вінтоўкі. Паветра сцюдзянела, набірала ўсё больш сырасці, недзе блізка нудзеў камар. Змерзла, марыў ужо сон, вярнулася Святлана з гуляння, і Фімка паднялася з бервяна, пайшла ў зямлянку, залезла пад посцілку, прытулілася да гарачага пляча цёткі Веры. Тая на міг прачнулася, павярнулася да Фімкі спіною і зноў заснула. І Фімка заплюшчыла вочы. І раслацерся перад ёю лясны дол, зарослы чарнічнікам, і ягады, ягады, буйныя, чорныя, на кожнай галінцы, вакол, вакол... Лыпнула вачмі, каб адагнаць насланнё, а як заплюшчыла — зноў ягады, ягады і Фімка збірае іх, збірае. І Ромкава аблічча... Зусім блізка каля яе вачэй... І ягады, ягады... «Заўтра зноў пайду»,— падумала перад тым, як заснуць.

А прачнулася ад галасоў, ад стуку ўгары, каля зямлянкі. Падумала, што праспала, што дзень ужо, прачнуўся лагер. Падхапілася, усунула ногі ў чаравікі, адчыніла дзверы.

Сляпуча ўдарылі па вачах касыя промні сонца, што прашывалі лес, іх тут жа засцілі постаці двух партызан, якія знізу, з зямлянкі, здаліся высачэзнымі і чорнымі. Доктар нешта загадваў, камандаваў. І зразумела Фімка — вярнуліся нашы з задання, прывезлі параненых, каго?

А хлопцы заносілі ўжо, трымаючы за ногі і пад пахі, Мішку з разведкі. Твар у Мішкі белы, кашуля на плячы разадраная, плячо няўмела перавязана белай анучай.

— Усіх паклалі, адзін гад застаўся, ён і засеў з аўтаматам, Мішка на яго,— расказваў Павел, таксама з разведкі, і паказваў рукамі — як засеў той, з аўтаматам, як Мішка на яго.

— Фімка! Гарачай вады! — крыкнуў доктар, і Фімка выскачыла з зямлянкі, кінулася да чорнай грудкі, што засталася ад вогнішча, скінула зверху кавалак закуранай бляхі, якою яны прыкрывалі вуголле. Абгарэлым хваёвым сучком разгрэбла белы попел, дабралася да іскраў. З усёй сілы пачала дзьмуць на іх, прымушаючы загарэцца дробныя галінкі, кавалкі кары, што накідала зверху кучкаю.

Чырванела вуголле, на ўсе бакі пырскалі іскры, сухі попел ляцеў у вочы, на твар. Нарэшце чырвоны язычок лізнуў галінку, а далей затрашчалі, займаючыся агнём, сучкі, кара. Фімка паставіла на камяні, што ляжалі абапал вогнішча, закуранае вядро з вадою, пабегла назад у зямлянку.

Мішка, голы да пояса, ляжаў ужо на збітым з дошак стале, закрытым прасцінаю, і паціху стагнаў. Кашуля і скрываўленая ануча валяліся на зямлі, тут жа валяліся кірзавыя боты, якія сцягнулі з Мішкавых ног, і ногі тырчалі цяпер — вялізныя, у падраных шкарпэтках, з якіх вылазілі брудныя пальцы. Доктар над тазікам мыў рукі, Святлана палівала яму са збанка. Святлана, відаць, яшчэ не адышла ад сну, вочы былі прыпухлыя, валасы не прычасаныя.

— Зараз, дзевачкі, будзеце мне памагаць,— сказаў доктар, абтрасаючы ваду з рук.— Ты, Святланка, станавіся ў галовах, а ты, Фімка, у нагах. Калі пачне брыкацца, трымай яго за ногі.

Яны спачатку ўмыліся, паліваючы адна адной з кубка, а потым, следам за доктарам, падышлі да стала, на якім ляжаў Мішка. Сон ужо, здаецца, зляцеў са Святланы, твар ужо быў светлы, чысты, вочы зыркія, уважлівыя.

Фімка крыху зайздросціла Святлане, зайздросціла, што тая вучылася ў медыцынскім тэхнікуме, што ведала, як называюцца розныя інструменты і ўмела доктару памагаць на аперацыях. Фімка, праўда, таксама ўжо запомніла, як называецца якая жалезка, кручок, але ўзяць іх у рукі не адважвалася.

У зямлянку ўсунула галаву цётка Вера, і Фімка папрасіла яе:

— Цётачка, я там ваду паставіла грэць, можа, вы глянеце...

Доктар ужо нешта рабіў каля Мішкавага пляча. Мішка моцна войкнуў — раз, другі.

— Ціха, ціха,— супакойваў яго доктар.— Глянь, якія дзеўкі каля цябе стаяць, сорамна табе, партызану, разведчыку, стагнаць пры іх...

Моцна запахла самагонкаю, гэта доктар абмываў ёю рану, даў крыху глынуць і Мішку, каб не так балела, і той папярхнуўся, закашляўся.

Фімка не першы раз стаіць вось так каля стала, ведае, што і як робіць доктар. І цікава ўсё тут Фімцы, і страшна, і надта шкода хлопцаў, якім так балюча бывае на гэтым стале.

— О-ой! — застагнаў Мішка і дрыгнуў нагою ў падранай шкарпэтцы.

— Ціха, ціха,— прыгаварваў доктар.— Трэба ж мне кулю знайсці, пад якую цябе пагнала... Наўмысля захацеў мне даць работы...

Святлана падавала доктару інструменты — адзін, другі, Фімка паклала рукі на Мішкавы ногі, яны дрыжалі, быдта Мішку было холадна, але ў зямлянцы холадна не было, наадварот, тут сабралася за ноч духаты, у доктара на лобе ўжо выступілі дробныя кропелькі поту, але ў доктара заўсёды так — пакуль зробіць аперацыю — потам абальецца.

На Мішку, на доктара, на Святлану з Фімкаю глядзелі са сваіх палкоў трое параненых партызан, якія сваё ўжо на тым стале адбалелі і цяпер спачувалі свайму таварышу.

— А-ай! — крыкнуў Мішка, вылаяўся і засучыў нагамі. Фімка навалілася на іх грудзьмі, Святлана схапіла Мішку за рукі, якімі той учапіўся за рукаў доктаравага халата.

— Цярпі, цярпі і не лайся,— угаварваў доктар, а пот абрасіў ужо і яго верхнюю губу, цёк па скронях.

Заўсёды дзівілася Фімка — не такая ж гэта цяжкая работа — у ране калупацца, не дровы ж гэта сячы, не зямлю капаць, чаму ж так пацее заўсёды на аперацыях доктар? А ён яшчэ ніжэй нахіліўся над Мішкам, і той яшчэ мацней застагнаў.

Фімка ляжала на Мішкавых нагах, Святлана трымала яго за рукі, а хлопец стагнаў, тузаўся, і Фімцы здавалася, што гэта цягнецца ўжо доўга-доўга, а ногі яго — як жывыя істоты — варушацца, стогнуць пад ёю, яна затуляе іх сваімі грудзьмі і не можа затуліць ад пакуты, ад болю, і самой Фімцы пачынае балець, быдта доктар у яе плячы жалезам калупае.

Нарэшце скончылася. Доктар выцер рукавом халата пот, Святлана перавязала Мішкава плячо бінтом, які ўчора мыла, кіпяціла Фімка. Цётка Вера прынесла гарачай вады, і разам з Фімкаю яны памылі Мішку рукі, ногі, мокрым ручніком выцерлі ўсё яго цела, надзелі яму чыстую бялізну і разам са Святланаю і доктарам памаглі дайсці да збітага з дошак палка, які служыў тут ложкам.

Мішка ляжаў цяпер — сцішаны, памыты, быццам з аднаго свету — чорнага, ступіўшы ў свет белы, спрабаваў ужо і ўсміхацца Святлане, якая папраўляла на ім посцілку.

У той дзень Фімка не пайшла па чарніцы — было шмат работы ў шпіталі, а назаўтра выбралася зноў, і як чорт яе панёс, прашнуравала са сваім вядзерцам каля Ромкавага будана. Ішла па сцежцы, вытаптанай партызанамі, і замірала ўсё ўсярэдзіне ад сораму, ад страху, здавалася, не толькі людзі — сініцы, вавёркі ведаюць, чаму ідзе гэтаю сцежкаю, ці мала іх перасякае лагер, а яна коціцца па гэтай.

Пад высокаю ялінаю хлопцы разбіралі кулямёт. У кузні раздуваў мяхі дзядзька Сцяпан — невысокі, з чорнаю барадою, падобны на цыгана, у яго ў лагеры і мянушка была — Цыган. Некалькі партызан завіхалася каля коней. Ніхто і не глянуў у бок Фімкі, ідзе — няхай ідзе. І Ромкі не ўбачыла. Толькі як апынулася ў лесе адна, пачала супакойвацца, але сорам застаўся ляжаць на душы, быццам яна зрабіла нешта брыдкае.

Ромка ў лесе быдта з-пад зямлі вырас — падняла Фімка з долу вочы, а ён стаіць, і рот да вушэй — усміхаецца. І як засвяцілася ўсё вакол Фімкі — паярчэла сонца, пазелянела трава, пазалацелі хвоі.

— А я і ўчора сюды прыходзіў,— сказаў Ромка.

— Праўда?

І зноў па грудзях — галубіным крылом, галубіным крылом...

Сеў Ромка на дол, паляпаў па траве рукою, як і той раз, запрашаючы сесці і Фімку. І яна села. І зноў Ромка цалаваў яе, і яна не працівілася, а калі дамагаўся большага — адбівалася, вырывалася, і ён сцішваўся, гаварыў:

— Дурніца, сёння жывём, а заўтра...

І Фімка ўспамінала Мішку, як ляжала на яго нагах, як доктар казаў:

«А ты шчаслівы, Мішка, каб крышку ніжэй... Ці правей...»

Ніжэй, правей... А колькі бачыла ўжо Фімка смерцяў... Ходзіць хлопец — здаровы, вясёлы, а назаўтра прыносяць ці прывозяць у лагер, і ўсё... Няма...

Яно-то так, так, сёння жывеш, а заўтра... Але ж брыдка, сорамна... Брыдка тое, чаго дабіваецца Ромка, хіба нельга без гэтага, вось так — рука ў руку, ну цалавацца, але каб без гэтага...

Надзьмуўся Ромка, не абдымае, не цалуе... Горка Фімцы, але што ж зробіш. І ёй няма часу расседжвацца, трэба чарніцы збіраць. Узяла сваё вядзерца, у якім яшчэ і паясок не закрыла. Паплёўся Ромка за ёю — памагаць ягады дазбіраць.

А вярталіся ў лагер — на сцежцы рабы Мурмонь стаіць, лыбіцца, Фімцы і Ромку падміргвае:

— Што, наеліся чарніц? Га-га-га! Во, брат, ціхая, ціхая... А ў ціхім балоце...

Як варам абліло Фімку, у душы чакала, можа, Ромка заступіцца, дасць Мурмоню ў зубы, але Ромку хоць бы што, спыніўся каля Мурмоня, прыкурвае, рагочуць разам. Яна скарэй, скарэй са сваім вядзерцам да шпіталя.

Але крыўда нядоўга трымаецца ў Фімчыным сэрцы, сама яе праганяе — чаго злавацца на дурнога Мурмоня, яму абы зубы пашчэрыць, і на Ромку няма чаго злавацца, што ж ён, біцца з Мурмонем будзе альбо сварыцца, як баба. Прыкрае тут жа знікае, выплывае ласкавая сінь Ромкавых вачэй, мроіцца цеплыня яго рук, і зноў робіцца весела, зноў у радасць цягаць вёдры з вадою, мыць закарэлыя ад бруду партызанскія кашулі.

Мішка ачуньваў, ужо рагатаў, седзячы на палку, успамінаў, як ляжала Фімка грудзьмі на яго нагах, як трымала Святлана за рукі, каторы раз расказваў, як трапіў пад нямецкую кулю, і выглядала ўсё так, што Мішка быў проста героем. І хоць Мішка цяпер быў вясёлы, шмат рагатаў, Фімка ўспамінала яго такога, як прывезлі з разведкі, як ляжаў на стале, і стагнаў, і войкаў, калі доктар калупаўся ў яго ране, успамінала, як дрыжалі пад яе грудзьмі яго ногі, і ёй рабілася шкада Мішку і часам здавалася, што ён і цяпер не так смяецца, як плача.

Доктар, Святлана, Мішка, цётка Вера, параненыя,

а далей рэчка, лес, вогнішча — усё гэта вакол Фімкі, усё гэта яна бачыць вачыма, калі захоча, то можа пакратаць рукамі, пачуць вушамі іх галасы. І бачыць яна — то доктара, то Святлану, то лес, то вогнішча... А ў душы, у сэрцы, не пакідаючы ні на міг — Ромка. Зашумяць пад ветрам хвоі, а ў душы — Ромка. Сыпне ўгору іскры вогнішча, а ў душы — Ромка. Роза на баяне «Амурскія хвалі» выводзіць, а ў душы — Ромка.

Адбуялі, скончыліся чарніцы, толькі дзе-нідзе вісяць ссохлыя ягадкі. Але некалькі дзён запар сыпалі дажджы, і ў лесе аб'явіліся падасінавікі, маслякі. Вызвалася Фімка па грыбы збегаць, грыбнога супчыку параненым наварыць, і доктар пусціў.

Зноў бяжыць Фімка з вядзерцам у лес, ды не іншаю сцежкаю, а каля Ромкавага будана. Бяжыць заклапочаная, не пазіраючы на бакі, але ловячы краем вока, напятым слыхам — ці Ромкаву постаць, ці Ромкаў голас.

У лесе прэлая духата, павучынне чапляецца за рукі, за твар, і глухая цішыня, у якой кожны гук аддаецца пошчакам. Затрашчаць, пачнуць сварыцца сарокі, і здаецца, аж шышкі з елак зараз пасыплюцца. Як з неба падае вуркатлівы голас дзікага голуба. Ногі мякка ступаюць па тоўстай коўдры моху, а ў доле, між траў, між сухіх лістоў і леташняй іглiцы то там, то тут тырчыць руды капялюшык, а часам трапляюць палянкі і спрэс укрытыя маслякамі, сыраежкамі — з вёсак не ходзяць людзі цяпер па грыбы, вось тыя і разрасліся. Вядроназбіраецца скора, не тое што чарніц, Фімка ўжо баіцца, што зараз вядро поўнае будзе, а Ромкі няма, ці не бачыў, як бегла ў лес, ці мо надакучыла ўжо яму. І праўда — такі-та хлопец, высокі, кучаравы, сінявокі... А яна што? Агледзіцца Ромка, якая яна, і кіне. Не навек жа гэта... Не жэніцца ж ён... Ды і сама Фімка ні пра якое замужжа не думае, такая вайна — якое тут замужжа.

Але Ромка прыйшоў, і пасвятлела ў лесе, і весялей адазваліся птушкі, і Фімчына сэрца аж разарвацца гатова з радасці, з любасці. Але чаго Ромка такі хмуры, такі строгі? Дзе яго рогат, дзе вясёлыя чорцікі, што вечна ў вачах круціліся? Можа, яна яго чым угнявіла?

Сеў на купіну, не паляпаў каля сябе рукою, запрашаючы сесці і Фімку, як раней рабіў. Але яна сама

каля яго нясмела апусцілася. Глянула вінавата ў вочы, не словам, душою пытаючыся — чаму не такі, як заўсёды?

А Ромка хмурыў лоб, адводзіў вочы, уздыхаў і рабіўся Фімцы далёкі, як незнаёмы, да якога і падступіцца страшна. Сядзела, маўчала, чакаючы невядома чаго, а ў сэрцы — і няёмкасць, і боль, і жаданне цэлага свету.

Нарэшце Ромка загаварыў, нібы няўпэўнена, вінавата.

— Яно б, можа, і не трэба казаць, але... Не прагаворышся?

Аж задыхнулася Фімка.

— Ды я?!.. Ты што!.. Каб мне язык адсох!..

Ромка скоса глядзеў на яе, маўчаў, быццам яшчэ думаючы — казаць ці не?

— Ну, ды ты ж свая, не фашыст які...

Фімка зноў аж задыхнулася.

— Што ты кажаш, Ромачка!

І той адкрыўся.

— Заўтра ідзём... У Ярцавічы... Склады там... Можа, разам з тымі складамі... Дык во... Развітаемся, ці што...

Лепш бы і не пыталася яна, лепш бы і не чула! Ярцавічы, Ярцавічы! Колькі да тых Ярцавічаў нашы падбіраліся, ды немцы адбівалі — гарнізон там вялікі. Колькі хлопцаў з-пад тых Ярцавічаў прывозілі ў шпіталь, а колькі і да атрада не дабралася. Гэта ж, калі што, то і ёй не жыць... Ды што яе жыццё, каму яно трэба, яна б з радасцю... Замест Ромкі ў тыя Ярцавічы!..

Нічога гэтага не сказала Фімка словамі, толькі вачмі, скамянелым тварам, нямым маўчаннем.

— Вось так,— павесялеў раптам Ромка.— Сёння жывеш, а заўтра... Так што развітаемся! — І ён абняў Фімку.

Усім целам прыпала да яго грудзей Фімка, абвіла рукамі шыю, маўчала, але чаго толькі не было ў тым маўчанні — і любасці, і адчаю, і гатоўнасці на ўсё, на ўсё... «Няхай... Няхай,— білася ў яе сэрцы.— Няхай...» Яна не магла б сказаць, што значыла гэта «няхай», толькі адчувала, што бараніць сябе больш не можа, што ўсё на свеце цяпер няважна, важна толькі адно — каб ён застаўся жывы, каб вярнуўся з тых Ярцавічаў, каб

не прывезлі яго белага, нерухомага, як прывозілі тых.

Потым Ромка ляжаў на спіне, раскінуўшы рукі на ссохлым чарнічніку, глядзеў у неба і ўсміхаўся, і Фімка болей не бачыла на яго твары страху альбо хмурнасці. І такім блізкім, такім родным здаваўся ён цяпер Фімцы, як ніводзін чалавек на свеце, радней, чым маці, браты і сёстры, чым усе жывыя на зямлі. І вызвоньвала, вызвоньвала ў грудзях музыка, нячутая, невядомая дагэтуль, музыка шчасця і радасці, страху і непакою.

— Ромачка, ты беражыся... Беражыся, Ромачка...

— Як ужо там будзе,— ён глядзеў у неба, падклаўшы рукі пад галаву, у вачах у яго адбіваліся кавалачкі блакіту, па твары гуляў цень бярозавага лісця.

— Беражыся, Ромачка...

— Бог не выдасць — свіння не з'есць...

Не, у ім не было страху...

— А калі вы йдзяце, Ромачка?

— Заўтра, з раніцы...

— Заўтра,— выдыхнула Фімка.— І надоўга?

— Пакуль склады ў паветра не пусцім...

Яна падпаўзла да яго на каленях, паклала яму галаву на грудзі, рукою за плечы абняла. Пачула, як вухкала, нібы молат, яго сэрца. Угары свісталі сініцы, а ў елцы буркаваў, буркаваў дзікі голуб.

## 3

Пакуль партызаны, і з імі Ромка, хадзілі ў Ярцавічы, Фімка і жыла і не жыла. Яна, як і раней, рабіла ўсё ў шпіталі — мыла бінты, бялізну, насіла ваду, разам з цёткаю Вераю варыла есці, шаравала катлы, але рабіла ўсё гэта, як заведзеная машына, мала думаючы, а мо і зусім не думаючы пра тое, што робіць. У галаве, як звон, білася адно — Ромачка, Рома... Калі вернецца, калі яго ўбачыць? Важней за ўсё на свеце было адно — каб яго не забілі.

Фімка ведала, што і да таго, як у іх пачалося, хадзіў Ромка на важныя заданні і вяртаўся цэлы, ні разу не трапіў да іх у шпіталь. І старалася Фімка ўспомніць, калі апошні раз хадзіў на заданне Ромка, і дзівілася, што ўспомніць не магла, бо не вылучала яго тады з іншых, бо для яе тады Ромка быў як усе. І дзі-

вілася Фімка, вось жыла, жыла, і Ромка жыў, і ёй было ўсё роўна, што ён жыў, а цяпер, калі не вернецца з Ярцавічаў...

Вярнуўся Ромка з Ярцавічаў, вярнуўся цэлы, і ўсе хлопцы вярнуліся цэлыя. Склады ўзарвалі, і ў атрадзе было свята, і каля вогнішча хлопцы расказвалі, як падбіраліся да тых складаў, як памаглі двое з паліцыі, што служаць у немцаў па заданню партызан. І Фімка падыходзіла да вогнішча — і адзін вечар, і другі, тоячыся за спінамі партызан, глядзела, як вырывала чырвонае полымя з цемнаты знаёмыя твары хлопцаў, Фімка слухала іх галасы і сярод іх голас Ромкі і старалася павярнуцца, сесці так, каб бачыць і чуць Ромку, і рабілася ў яе гэта зусім несвядома, само па сабе, вяла тварам, вачыма за Ромкам, як сланечнік за сонцам.

А потым яшчэ два разы спатыкаліся яны з Ромкам у лесе, і Фімка ўжо не баранілася, чаго ж ужо бараніцца, цяпер Ромка быў для яе найдаражэйшы, важней за ўсё на свеце былі ёй хвіліны, калі яны разам, калі Ромкавы рукі яе абдымалі, а вусны цалавалі.

А тым часам пачынаў дзьмуць ужо халодны вецер, неба хмурылі цёмныя воблакі, з хваёвых ігліц усё часцей сцякалі дробныя дажджынкі, над лесам усплываў пах грыбоў, пах тлену. Цётка Вера ўжо не вылазіла з ватоўкі, галаву абкручвала хусткаю, і Святлана пачала апранацца цяплей, а Фімцы, якая звычайна баялася холаду, усё яшчэ было цёпла, і яна лётала распранутая, без хусткі.

— Застудзішся,— казала ёй цётка Вера.

— А мне не холадна,— жыва адзывалася Фімка.

— Глядзі, дзеўка,— строга пазірала на яе цётка Вера, і голас яе, і словы як апякалі Фімку. Быдта «глядзі, дзеўка» было сказана не на тое, што Фімка голая лётае і можа застудзіцца, а на іншае, на тое, што ў іх з Ромкам... «Няўжо ведае?» — з сорамам, са страхам думала Фімка. Ёй здавалася, што ніхто нічога не прыкмячае, не здагадваецца, яна была як тое дзіця, што заплюшчыць вочы і лічыць — ніхто ўжо яго і не бачыць. А жыццё кожнага было тут навідавоку, тут няможна было глыбока затаіцца, ды і сама Фімка — яе несціханая радасць, яе голас — пасмялелы, пазванчэлы, выдавалі з галавою. Але ніхто нічога не казаў Фімцы. Можа, таму, што не было каля яе чалавека, якога тое блізка абыходзіла б. Святлана не лічыла

Фімку сяброўкаю, вяла кампанію з Толікам, з Розаю. А ў цёткі Веры сваёй бяды хапала, адзін яе сын сядзеў у СД, схапілі немцы, а другога яшчэ раней вывезлі ў Германію. Па сынах бедавала, гаравала цётка Вера, што ёй Фімка. Але вось сказала... А можа, яна нічога такога не думала, можа, здалося Фімцы?..

Адкуль у лагеры аказалася гэта дзяўчына? Ды мала адкуль магла прыйсці, апошнім часам у партызаны ішлі і ішлі, уцякалі ад немцаў, якія палілі хаты, забівалі людзей, маладых вывозілі ў Нямеччыну. І іхні лагер большаў, рос, прыйшла і вось гэта. Можа, яе сярод іншых людзей і не ўбачыла б Фімка, каб не згледзела неяк на сцежцы, між хваёвых камлёў, яе белага кажушка, квяцістай хусткі побач з Ромкавай курткай, яго аблавухай шапкай. Ідуць і быдта нікога на свеце не бачаць. У гэтай, новенькай, шчокі макам цвітуць, а Ромка, Ромка... Ніколі такога не бачыла...

Як перавярнулася нешта ў грудзях у Фімкі, балюча перавярнулася. Потым супакойвала сябе: «Мала што... Ну, спаткаліся, ну, пайшлі разам...» Але сэрца ныла — нездарма, нездарма... Нешта ў тварах у іх было такое, што казала — нездарма...

Назаўтра прачнулася Фімка, і першае, што ўдарыла па грудзях — бяда... Прыйшла бяда... Ромка з гэтаю, вось яна, бяда. Адкуль і хітрасць узялася. Спытала ў Светы, быдта абыякава:

— А хто гэта, новенькая, ў кажушку, у квяцістай хустцы?

— Што з Ромкам ходзіць? — перапытала Святлана.

Бач, і людзі ўжо прыкмецілі — з Ромкам ходзіць... З ёю Ромка па лагеры ніколі не хадзіў.

— Ага...

— Зінка Патапава... Я з ёю ў адным класе вучылася, у Ярцавічах, у сямігодцы... Сама яна з вёскі, у Ярцавічах кватэру наймала.

На ўсё жыццё запомніла Фімка гэтыя імя і прозвішча — Зіна Патапава...

Усім знаходзілася ў лагеры работа, ну, мужчыны то больш на заданні, на дабычу прадуктаў. А жанчыны — іх вечны клопат, такую армію людзей трэба накарміць, абмыць, адзежу палатаць, тут, у лесе, яна так дзярэцца. Толькі Зіна Патапава — рукі ў кішэні свайго кажушка і гуляе-шпацыруе, то тут, то там чуваць яе

рогат. З Розаю, са Святланаю кампанію пачала вадзіць, часам да шпітальнай зямлянкі падыходзіла, але Фімкі быдта і не бачыла, глядзела на яе, як на пустое месца.

Незалюбіла яе Фімка, але хоць незалюбіла, не магла не прызнаць — прыгожая Зіна Патапава. Росту высокага, бровы чорныя, як ластаўкі над блакітам вачэй, шчокі румяныя, а як усміхнецца — зубы белыя і ямачка на шчацэ. І была ў яе твары нейкая чысціня, як у чалавека, які ніколі не знаў голаду, цяжкай працы, крыўды. Бачыла, разумела Фімка — не раўня яна Зіне, не раўня. І Ромка ўбачыў — куды той Фімцы да Зіны. І пякло, і ныла ў грудзях. І да канца не верылася — а можа... Каб пабачыць Ромку, пагаварыць. Але не адважвалася падысці, а сам Ромка болей у лес не прыходзіў. А яна зноў бегала туды штодзень. Дол яшчэ ўсцілалі сыраежкі, падзялёнкі, абваленыя, струхлелыя пні абляплялі апенькі. Фімка вельмі скора назбірвала вядро, потым садзілася на паваленую сухастоіну, слухала знямелы, без птушынага шчогату, лес. Слухала, як шапацелі ўгары пацвярдзелым лістом бярозы, як шумелі іглістымі вяршынямі хвоі, як раптам нудна і жаласна рыпела старое дрэва. І прыслухоўвалася, чакала — ці не трэсне сучок пад нагою, ці не пачуюцца крокі — Ромкавы.

А вярталася аднойчы з лесу і зноў убачыла — ішоў па лагеры з Зінай Патапавай.

Зноў зашкрэбла, заныла ў грудзях, і ўжо ясна было, што бяда. А потым убачыла яшчэ і яшчэ. Неяк спаткалася з імі на сцежцы ў лагеры. Зіна ішла, і шчокі ў яе румянелі, і блішчалі белыя зубы, і ямачка на шчацэ... А Ромка ішоў як дурны і нікога не бачыў. Фімка зусім побач прайшла, а ён і не ўбачыў. А мо не захацеў убачыць, яна для яго цяпер была бы тое дрэва, бы той пень.

А як жа хацелася спаткацца з ім сам-насам.

І спаткалася. Яна цягнула вёдры ад крыніцы, а Ромка вёў каня паіць. І нікога наўкол, ні душы.

Застыла, закамянела Фімка з тымі вёдрамі на сцежцы. Уставілася на Ромку. І той уставіўся на Фімку. З хвіліну, можа, глядзелі адно на аднаго. Чакала Фімка слова, а можа, хоць усмешкі. Усмешкі не дачакалася. Нахмурыўся Ромка, тузануў каня за вуздэчку, павёў проста на Фімку.

— У нас з табою нічога не было... Не было нічога... Ясна? — сказаў хрыпата.

Пачала Фімка з вёдрамі стараніцца, саступаць Ромку з канём дарогу. Ледзяная вада раз, другі раз плюхнула на ногі, налілося ў чаравікі.

Потым каля зямлянкі абірала бульбу і не бачыла той бульбы, вядра, у якое кідала абабраную. Бачыла Ромкаў сухі, чужы твар, вочы, што хаваліся ад яе позірку, конскую храпу, што была перад самым яе тварам і раптам тарганулася, задралася ўгару, быццам конь збіраўся заіржаць, можа, адчуўшы яе боль ці замест Ромкі хочучы папрасіць у яе прабачэння. Але Ромка сцебануў каня вуздэчкаю, пагнаў да крыніцы.

І хоць была, здаецца, гатовая да таго, што з Ромкам — усё, тая сустрэча на сцежцы абвалілася, як яшчэ адна вялікая бяда, і засціўся свет, і несціханым болем пякло ўсярэдзіне. Навошта жыць... Яе душа нікому не патрэбна... Непатрэбная была мацеры, маці не думала пра яе душу, думала пра кавалак хлеба, ды каб ён быў большы, каб хапіла на ўсіх дзяцей. Непатрэбная была яна і цётцы, на чорта была ёй Фімчына душа, трымала Фімку не за душу, а за рукі, што рабілі работу. І тут наканавана ёй толькі шараваць чыгуны, мыць бялізну ды бінты, варыць есці, ляжаць на нагах у параненых, пакуль доктар вымае кулі, ды слухаць іх маты-пераматы. А душа нікому непатрэбная, ніхто не пакладзе на плячо руку, не суцешыць болю. Сабака ў лагеры і то шчаслівейшы, калі хто і прагоніць, нагою капяне, то другі пагладзіць, нальё супу ў міску, слова ласкавае скажа — Шарык, Шарык...

Ніколі так не думалася Фімцы, а сёння вось так пачало думацца — і пра душу, і пра чарнату ўсярэдзіне, і пра сваё адзіноцтва.

## 4

Яна прачнулася ад гулу самалёта і ўся сціснулася, у галаве застукала, як малаточкамі. Яна баялася самалётаў, яшчэ так свежа памяталася іх гудзенне над горадам і потым бомбы, бомбы. І як дрыжала зямля, і ўскідаўся ўгору чорны дым, чорны пыл, узвівалася языкамі ўгору полымя. Самалёт гудзеў праціўна, то набліжаўся і вісеў, здаецца, над самаю галавою, то аддаляўся, потым набліжаўся зноў, быдта кружыў над

лагерам. І раптам выццё пакацілася зверху ўніз, і тут жа засвістала над лесам, і пачала разрывацца зямля, і затрашчаў, падаючы, лес.

Фімка схапілася рукамі за галаву, уціснулася ўсім целам у нары, быдта магла ў іх схавацца ад таго, што рабілася наверсе.

— Аёячкі! — застагнала ў яе пад бокам цётка Вера, прыпала сваім вялікім цёплым плячом да яе пляча.

— Што гэта, цётачка, што гэта? — шаптала Фімка.

— Бамбяць! Лагер бамбяць! Усё, прапала жызня! А сыночкі ж мае! — стагнала цётка Вера.

А бомбы рваліся наверсе, і трашчаў лес, і падалі, гопаліся дрэвы, і выў натужна самалёт, нібыта з радасцю і ненажэрствам. Потым бомбы перасталі рвацца, аддаляўся і цішэў гул самалёта, зусім сціх, і Фімка, не верачы, што засталася жыць, адплюшчыла вочы.

У маленькае, пад самаю столлю, акенца зямлянкі цадзілася світанне. Цётка Вера сядзела на нарах — расхрыстаная, бледная. І Святлана, якая спала каля сцяны, тулілася да бярвення, шырока расплюшчыўшы спалоханыя вочы. Наверсе, у лагеры, загулі галасы, пачуліся крыкі, каманда. Нехта і каля іхняй зямлянкі закрычаў — «Вылазь!». І Фімка, цётка Вера, Святлана пачалі таропка абувацца — спалі заўсёды апранутыя. Выбеглі наверх.

Было падобна, што над лесам прайшла бура і пакалечыла, паламала дрэвы, пазразала вяршыні, абламала галіны, і яны абвіслі, павыстаўляўшы белыя косці. На сцежцы, што кіравалася да іх зямлянкі, ляжала вывернутая з карэннем бяроза, ад яе наадломвалася сучкоў, насыпалася жоўтага лісця. Там і тут відаць былі варонкі, з якіх яшчэ клубіўся чорны дым. Моцна ржаў, мусіць, паранены конь. За лесам, у тым баку, куды паляцеў самалёт, чуліся частыя стрэлы. Яны білі кароткімі чэргамі, захліпаліся і зноў ажывалі. І загучала, паляцела над лагерам — з нянавісцю, з трывогай, са страхам:

— Немцы!

Рабілася ясна, што лагер вынюхалі немцы і цяпер ідуць на іх сілаю.

Фімка стаяла каля зямлянкі і калацілася — ці ад ранішняга холаду, ці ад страху. Яна не ведала — што рабіць, чакала каманды, загаду. І скора пачула голас доктара:

— Выносьце параненых! Усіх наверх!

Загад нібы абудзіў яе, даў задачу, работу рукам, нагам.

У зямлянцы, цёмнай пасля светлага ўжо неба, белымі плямамі свяціліся перавязкі на параненых. Падбегла да першага, што сядзеў на нарах, звесіўшы тоўстую, перавязаную белым, нагу. Гэта быў Колька Верацень. Схапіла яго пад паху, пачала валачыць, прыгаворваючы:

— Наверх... Загадалі ўсіх наверх... Немцы...

Спахапілася, што Колька не абуты, пачала таропка шукаць і памагаць уздзець на адну нагу чаравік. Штаны былі нацягнены толькі на адну нагу, на другую калашына не налазіла. Трымаючы адной рукой пустую штаніну, другою ўспіраючыся на Фімку, Колька паскакаў на адной назе да выхаду. Каля іншых параненых завіхаліся ўжо Святлана і цётка Вера. Партызаны — з кулямётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі беглі ў той бок, дзе стралялі.

Да яе з Колькам падбег доктар — без шапкі, валасы скалмачаныя, світка наросхрыст, вочы цвёрдыя, такія, як бывалі падчас аперацый.

— Раненых на падводу! І далей, далей ад лагера! Туды! — махнуў ён рукою напроціў таго боку, у які беглі са зброяй партызаны.

Фімка цягнула Кольку, той паслухмяна скакаў на адной назе туды, дзе ў лагеры на прывязі стаялі коні. Адзін конь, руды, са светлаю і быдта апаленаю на канцах грываю, ляжаў на зямлі, сучыў нагамі, нібыта спрабуючы падняцца, і голасна ржаў. З храпы яго пухірамі ўздувалася ружовая пена. Усплыло ў памяці, як Ромка з гэтым канём ішоў проста на яе. Працяло жалем да каня, і жаль застаўся ўсярэдзіне ўжо, здаецца, не да аднаго каня, а да ўсіх і да ўсяго — да дрэў, што так пасеклі бомбы, да Колькі з перавязанай нагою, да ўсіх, што пабеглі з кулямётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі ў той бок, дзе стралялі.

Параненых было ў лагеры чатыры, і іх прыладзілі на адну павозку. Колька і яшчэ адзін, Жэнька, маглі сядзець. А Стась і Павел ляжалі, абодва збялелыя, ці то ад страху, ці ад страчанай крыві, з пацямнелымі, як у гарачцы, вуснамі. Да параненых на воз ускочыла цётка Вера, за ёю і Святлана. Цётка Вера крыкнула і Фімцы:

— Садзіся! Скарэй!

І Фімка памкнулася да падводы, але забегла з аднаго боку, з другога — месца не было. Яна махнула рукою, паказваючы — едзьце, скарэй! На што сама спадзявалася? Што будзе яшчэ адна падвода? Што ёй не спатрэбіцца пакідаць лагер? Ды ні на што не спадзявалася, бачыла, што на падводзе няма месца, не сядзе ж яна на параненых. І цётка Вера сцебанула лейцамі каня, пагнала павозку — далей, далей ад лагера.

Над лесам зноў загудзеў, закружыў самалёт, усё ніжэй, ніжэй апускаючыся над лагерам, і Фімка абхапіла галаву рукамі, прысела, прытулілася да камля хвоі. Зноў засвісталі, завухалі бомбы, крышачы лес, узнімаючы груды зямлі, раскідаючы, як гразь, калі ў яе кідаюць каменем. Ляцела ўгару бярвенне ад зямлянак, кавалкі дзёрну, паднялося і закруцілася над зямлёю бляшанае вядро, кавалкі нейкай вопраткі.

Самалёт высыпаў са свайго чэрава груз і зноў узняўся высока ў неба, схаваўся за воблакамі. Цяпер ацішэла вакол, толькі здалёк далятаалі ўсё тыя ж то кароткія, то доўгія чэргі стрэлаў, і яшчэ мільгалі паміж дрэў, беглі ў той бок партызаны, што забавіліся ў лагеры.

Фімка сядзела на кукішках пад хвояй, не ведаючы, што рабіць, ці бегчы за павозкаю з параненымі, ці туды, дзе страляюць. Яна прывыкла да каманды, да загадаў, кожны раз ускідалася, калі нешта камандаваў рабіць доктар, і яна скоранька рабіла. Цяпер доктара блізка няма, схапіўшы аўтамат, ён пабег з партызанамі, а што ёй рабіць?

— А-а! — пачула Фімка чалавечы стогн.

Сцялася ўся, прыслухалася.

— Памажыце! — прасіў нехта.

Павяла наўкруг вачыма, але не ўбачыла таго, хто стагнаў. Тады паднялася. Але і з росту свайго нікога не ўбачыла. А чалавек стагнаў, стагнаў і клікаў. Фімка памалу пайшла на голас. Яна пераступала цераз груды зямлі, цераз абламаныя галіны, цераз раскіданае бярвенне ад зямлянак. Нарэшце ўбачыла. Ляжаў на зямлі і стагнаў рабы Мурмонь, што некалі смяяўся з Фімкі, калі яны з Ромкам з лесу выходзілі. «Што, наеліся чарніц?» — успомніла Фімка, як тады шчэрыў зубы Мурмонь.

Цяпер ён ляжаў збялелы, нават рабаціннe яго пабя-

лела, і стагнаў. Вочы з адчаем, з маленнем глядзелі на Фімку.

— Сястрыца... Памажы...

Фімка прыгнулася.

Мурмонь трымаўся рукою за жывот, і рука яго была ўся ў крыві. Бачыла Фімка, як, бывала, рэзаў доктар на параненых адзежу, як абмываў рану, потым перавязваў. Але сама ніколі не рабіла. Страшна было дакранацца да крыві, да балючага цела, баялася, каб не зрабіць яшчэ бальней. Але тут не было нікога, хто памог бы, а Мурмонь стагнаў.

— Сястрыца...

— Ага,— заківала галавою Фімка.

Яе калаціла. Не мінуў яшчэ страх ад самалётаў, ад бомбаў, і гэта — кроў, збялелы Мурмонь і стрэлы, якія, здалося Фімцы, набліжаліся, ці забабахалі ўжо і з другога боку?

Яна разумела — параненага трэба перавязаць, але чым? У шпітальнай зямлянцы засталіся бінты, вата, нават моцны самагон, якім доктар прамываў раны. Фімка глянула ў бок іхняй зямлянкі. Здалёк, за дрэвамі, не было відаць, ці стаіць яна, ці яе заваліла.

— Я зараз... Пачакай, пачакай, я зараз...

Яна глянула на неба — ці не ляціць зноў самалёт, больш за ўсё яна баялася цяпер самалёта, але ў небе было ціха, і яна падскочыла, бягом кінулася туды, дзе стаяла іхняя зямлянка. На шчасце, зямлянка была цэлая, толькі зверху, на зроблены з дзёрна, дах, насыпалася зямлі, збітага з дрэў жоўтага лісця, хваёвых галін. Па крутых сходках, складзеных з бярвенцаў, спусцілася ўніз, адчыніла дзверы. Уразіла непрывычная пустата. У шпітальнай зямлянцы ніколі не бывала пуста, хоць адзін паранены ды ляжаў на палку. І пахла ў зямлянцы спёртым чалавечым духам, лякарствам. Цяпер і пах быў іншы, хоць зямлянка апусцела зусім нядаўна. Плаваў пах сырой зямлі, тлену, пораху. На земляной падлозе бязладна валяліся кінутыя ў спешцы адзежа, посцілка, падушка.

Фімка ведала, дзе ляжаць бінты, сама іх мыла, скручвала ў трубкі. І цяпер кінулася да шафкі. Шафка была ледзь не поўная гэтых белых скруткаў — і сапраўдных бінтоў, і зробленых з палатна, але намытых, чыстых.

Фімка схапіла два скруткі, крутнулася яшчэ па

зямлянцы, шукаючы бутэльку з самагонам, але яе не было відаць, а шукаць доўга не магла — у вачах стаяў збялелы Мурмонь, скрываўленая рука на жываце. І Фімка выскачыла з зямлянкі.

Мурмонь ляжаў там, дзе Фімка яго пакінула, здаецца, яшчэ больш збялелы. Яна дасюль ніколі не перавязвала параненых, але цяпер разумела, што апрача яе ніхто гэтага не зробіць, і, перамогшы сорам, страх, пэцкаючы рукі ліпкаю крывёю, пачала адшпіляць у Мурмоня набрынялыя крывёю і ўжо нават зацвярдзелыя нагавіцы.

Жывот быў увесь у крыві, не відаць, дзе рана, і Фімка, адарваўшы ад скрутка кавалак бінту, пачала выціраць кроў. Кроў не выціралася, прыліпала да бінту, але скора Фімка ўбачыла, што ў адным месцы яна выпінае, успучваецца бурбалкай, і здагадалася, што рана тут. Спехам пачала перавязваць, падсоўваючы скрутак бінту пад спіну, паварочваючы цяжкое цела. Бінт тут жа намакаў крывёю, і яна ад другога скруткаададрала вялікі кавалак, зрабіла з яго падушачку, паклала туды, адкуль сачылася кроў. Зноў пачала перавязваць, скарыстала ўсё, што прынесла з сабою.

Мурмонь ляжаў цяпер сцішаны, а Фімка сядзела пры ім, зноў не ведаючы, што рабіць. Яна раз-пораз пазірала ў неба, ці не відаць там самалёта, ці не ляціць зноў, але самалёта не было відаць, толькі ў тым баку, куды пабеглі ўсе партызаны, нарасталі і нарасталі, гусцелі стрэлы.

Фімка разумела, што там нашы б'юцца з немцамі, а калі немцы страляюць па нашых, то і там могуць быць параненыя. Мурмоня тут, мусібыць, як і каня з абпаленаю грываю, параніла асколкам бомбы. А там кулі. І, можа, таксама ляжаць параненыя, і няма каму іх нават перавязаць. Туды, праўда, пабег доктар, але доктар не ўзяў з сабою ні бінтоў, ні ваты, пабег туды з аўтаматам, гэта добра бачыла Фімка. Ёй трэба туды. Дзе страляюць. Нікога са шпіталя не засталося, толькі яна, доктар пабег з аўтаматам. Можа, хоць бінтоў набраць ды доктару занесці.

Мурмонь ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і часта дыхаў. Фімка не ведала, што ёй рабіць, не было нікога са старэйшых, каб сказаць ёй: «Рабі гэта!» Каб нехта сказаў ёй такое, яна падскочыла б і пачала рабіць. Хаця нехта як крычаў ёй, як загадваў — бяжы туды,

дзе страляюць, бяры бінты і бяжы... Нешта як крычала гэта ёй, як з сярэдзіны, як з душы.

А Мурмонь? Пакінуць? А што яна можа яшчэ зрабіць Мурмоню? Адаб'юць нашы немцаў, вернуцца ў лагер, тады доктар скажа, што рабіць Мурмоню. Мусіць, прыйдзецца яшчэ паляжаць на Мурмоневых нагах, пакуль доктар будзе вымаць асколак. Парабіўшы ў шпітальнай зямлянцы, яна разумела ўжо крыху, што робіць доктар параненым.

Але і пакінуць Мурмоня проста так, на сырой зямлі, Фімка не магла. Азірнулася — можа, куды зацягнуць, схаваць? Але падумала, што цягнуць цяпер параненага, то яму будзе надта балюча і можа зноў пайсці кроў.

Недалёка ад іх, з расчыненымі насцеж дзвярыма, стаяла цэлая, не разбітая бомбамі, зямлянка. Фімка пабегла туды. Пасля святла і тут здалося цёмна, толькі агарнуў пах тытуню, махоркі — пракурылі мужчыны і сцены, і пасцелі. Праз хвіліну вачам зрабілася відней, і Фімка ўбачыла раскіданыя на нарах пасцелі, падушкі, набітыя сенам. Не доўга думаючы, сцягнула дзве клятчатыя посцілкі, падушку, цяжкую і цвёрдую, выскачыла з гэтым усім назад у лес, падбегла да Мурмоня.

Пад слабую галаву, якая хісталася пад рукамі, падклала падушку. Укрыла дзвюма посцілкамі. Рабіла гэта і прыгаворвала:

— Ты тут паляжы, пацярпі... А я туды...

Мурмонь нічога не адказваў, можа, ён і не чуў, што казала яму дзяўчына. Толькі раз расплюшчыў вочы, павёў позіркам наўкола, ні на чым не затрымаўшы вока. Фімцы здалося, што ён хоць і паглядзеў, але нічога не ўбачыў.

Пасядзеўшы яшчэ з хвіліну каля Мурмоня, Фімка скоранька паднялася, глянула ў неба. Па ім спакойна і безудзельна плылі аблокі, паміж аблокаў раскрывалася глыбокая сінь, не верылася, што нядаўна адтуль, з гэтага неба, чуліся выццё і свіст, сыпалася на галовы смерць.

Прыслухалася да страляніны. Яна не сціхала, чулася то мацней, то слабей, сыпала густымі чэргамі. Крыху прыгнуўшыся, нібы баючыся, што гэтыя стрэлы далятуць і сюды, Фімка пабегла да шпітальнай зямлянкі. Заскочыла ўсярэдзіну, пакруцілася, шукаючы,

у што набраць бінтоў. Пад рукі трапіў мяшок, чысты мяшок, збіраліся набіць яго сенам ды зрабіць падушку, свежую вялікую падушку, каб можна было спаць утраіх. Пачала піхаць з шафкі бінты ў мяшок. Зноў успомніла пра самагонку, але бутэлькі зноў не знайшла, доктар надта хаваў самагонку, ды і не трэба ёй тая бутэлька, яшчэ паб'е.

Трымаючы перад сабою мяшок, выскачыла з зямлянкі, пабегла па сцежцы і твар у твар сутыкнулася з Зінай Патапавай, якая з'явілася невядома адкуль — у сваім белым кажушку, у квяцістай хустцы, задыханая, з поўнымі страху вачмі. Фімка міжволі павяла позіркам наўкол — ці няма паблізу і Ромкі, апошнім часам вакол гэтага кажушка неадступна круцілася і яго куртка. Але Ромкі нідзе не было відаць, і ў далёкай падсвядомасці ў Фімкі гэта адазвалася быдта радасцю.

Фімка і Зіна Патапава стаялі адна перад адной, глядзелі адна адной у вочы. Фімка ўжо хацела абмінуць той кажушок, каб пабегчы туды, куды намерылася, але дзяўчына схапіла яе за рукаў.

— Бомбы, самалёт,— з жахам сказала яна.

— Можа, ён ужо не прыляціць? — паспадзявалася Фімка.

— А ты куды?.. І дзе ўсе вашы? Я тут бегаю... Святланку шукаю...

— Нашы з параненымі, з падводай паехалі... А мне месца не хапіла... І тут адзін... Паранены...

Зіна прыслухоўвалася да стрэлаў. З твару яе не сыходзілі трывога, страх. Паглядзела на неба. Яно было ўсё такое ж безудзельнае, спакойнае.

Фімка зноў намерылася бегчы, але Зіна зноў яе запыніла.

— Пачакай...

Фімка спынілася. Здаецца, яны з Зінаю засталіся ў лагеры адны, ну і яшчэ паранены Мурмонь. Усе партызаны пабеглі адбіваць навалу, нават Роза пабегла, Фімка бачыла, як пабегла з хлопцамі Роза, трымаючы ў руцэ вінтоўку. Але побач з сабою і Зінай Патапавай Фімка адчувала і Ромку. Быдта і той быў побач, паміж імі, хоць Фімка ведала — Ромка там, дзе ўсе, дзе страляюць.

— А што, як немцы забяруць лагер? — са страхам спыталася Зіна Патапава.

Фімка пра гэта не думала. Не магла дапусціць такога. Там жа нашы, адаб'юць немцаў.

— Не пусцяць нашы,— сказала Фімка.

— У немцаў сіла... І самалёты...

— Не пусцяць нашы...

— А параненых вывезлі... Значыць, баяліся...

Не хацелася так думаць, верыць у такое, але на хвілінку ўявілася, як і праўда ў лагер урываюцца гэтыя — у шэра-зялёных шынялях, з аўтаматамі.

— Не,— упарта паўтарыла Фімка.

— Можа, і не... Але давай пабяжым адсюль...

Фімка не зразумела, куды кажа бегчы Зіна Патапава, чаму бегчы, перапытала:

— Куды бегчы?

— Туды,— паказала Зіна ў той бок, куды нядаўна паехала падвода з параненымі.— Бо калі немцы ўварвуцца, нас застрэляць...

Гэта Фімка разумела, калі ўварвуцца ўжо немцы, то адною чаргою іх абедзвюх... Прыбяжыць Ромка і ўбачыць, як яны абедзве тут... Во здзівіцца, што ляжаць разам... Але ўцякаць?..

— Як гэта — мы туды? А ўсе нашы? Там, можа, параненыя?..

— А што мы зробім, што мы зробім,— з адчаем загаварыла Зіна Патапава.— Калі партызаны немцаў не затрымаюць, то хіба мы затрымаем? Там і без нас... Мужчыны...

Праўду казала Зіна Патапава, там мужчыны... І калі яны не затрымаюць, не адаб'юць немцаў... Але Зініна праўда чамусьці не падабалася Фімцы, не хацелася верыць гэтай праўдзе.

— А я ж туды... Во, бінты,— паказала Фімка.

— Заб'юць,— калацілася Зіна Патапава.— Калі нашы адгоняць немцаў, тады можна будзе і параненых падабраць... А калі не адаб'юць?

Зноў праўду казала гэта дзяўчына, але зноў нешта не дало пагадзіцца і кінуцца ўцякаць. А каб гэта кожны партызан спалохаўся і пабег? Немцы даўно былі б тут...

— Не, я туды,— пакруціла галавою Фімка.

— Не ідзі,— схапіла яе за крысо Зіна Патапава.— Я адна баюся...

І невядома, што зрабілася з Фімкаю, век жа была паслухмяная, была як авечка — што загадаюць. А тут

адвяла руку Зіны Патапавай, ямчэй узяла мяшок. Пераступіла цераз паваленую бярозу, можа, гэта бяроза прыняла на сябе бомбу, абараніла каго з партызанаў і цяпер звалілася, лягла на зямлю — паміраць.

## 5

Спачатку Фімка баялася таго бабахання, прыгіналася, а потым убачыла, што стрэлы сюды не трапляюць, і ішла на ўвесь рост, спяшалася. Сцежак пад нагамі не было, і яна то абмінала камлі высокіх хвой, голых, без лісця, бяроз, то церабілася цераз калючы, засохлы ельнік, цераз высокі, пачарнелы, быдта апалены, папаратнік, ішла туды, дзе стралялі.

Першая куля дзінкнула каля вуха, праляцела, Фімка нават не адразу здагадалася, што гэта куля. Толькі калі прасвістала яшчэ адна і стукнула ў камель асіны, прысела, шукаючы вачмі, адкуль мецяць кулі, хто страляе, але нідзе нікога не бачыла, ні сваіх, ні немцаў.

Наперадзе між дрэў пачалі адкрывацца прагалы, няйначай там, за лесам, ляжала поле. Фімка крыху ведала гэтыя мясціны, пацягалася па лясах ды палях, як карову забралі немцы, і ведала, што лес тут скончыцца не можа, лясы тут на шмат кіламетраў, але між лясамі ляжаць плешынамі то палі, то шырокія паляны. Мусібыць, такое поле ці паляна і за гэтым лесам.

І раптам моцна, ледзь не над вухам у Фімкі, засакатаў кулямёт. Густа-густа — та-та-та, та-та-та...

Прыпала да зямлі. Лавіла вухам — куды ляцяць кулі? Здаецца, не сюды, здаецца, у той бок... Значыцца, наш кулямёт страляе, не нямецкі.

І тут жа, у адказ на гэтае та-та-та, пасыпалася, як гарох, крышачы, ссякаючы лісты, галіны.

Фімка прыкрыла галаву мяшком з бінтамі, ляжала, як нежывая, чакаючы, пакуль скончыцца гэты град, гэта бясконцае та-та-та. Апякла нават думка — ці не падхапіцца ды не пабегчы назад, далей ад гэтага страху.

Але нешта не дало падхапіцца і пабегчы, нават тады, калі сціхлі стрэлы, што былі так блізка — як пад вухам.

Цяпер ляскала з бакоў — і справа, і злева, недзе

вухнула граната, але тое здалося ўжо нястрашным, бо было далей.

Фімка падняла галаву. І ўбачыла, як наперадзе, паміж кустоў з пачарнелымі лістамі, што віселі на іх, быдта анучкі, мільганулі, перабягаючы, людзі і цягнучы за сабой кулямёт. Адзін, два, тры чалавекі. Двое ў ватоўках, адзін у кажушку. Здалёк не пазнала, хто, але факт, што нашы. Ды ў немцаў, здаецца, і няма кулямётаў, у немцаў усё аўтаматы. Партызаны беглі з тых кустоў, дзе нядаўна так моцна сакатаў кулямёт, беглі справа налева, мусіць, мяняючы месца, адкуль страляць. І правільна зрабілі, бо скора там, адкуль нядаўна яны выскачылі, вухнула, разарваўшыся, граната.

Фімка зноў уткнула галаву ў сыры дол, а калі ўзняла, то партызан, якія перабягалі, ужо не бачыла, толькі пачула ўжо злева, тое самае — та-та-та...

Цяпер яна зноў не ведала, куды бегчы і што рабіць. Там, у лагеры, здавалася, як прыбяжыць туды, дзе страляюць, так адразу і пабачыць доктара, і перадасць яму мяшок з бінтамі, і будзе сама рабіць — што доктар загадае, а тут не відаць ні доктара, нікога, толькі тыя, што перабягалі, ды кулі, кулі...

Яна цяпер ляжала і старалася ўгадаць па стрэлах, як па галасах, дзе нашы, дзе немцы. Падумала, што, мусіць, немцы на тым полі, што за гэтым лесам... І нашы не пускаюць немцаў у гэты лес. І не пусцяць, вунь як страляюць. І Фімка зноў тулілася галавою да зямлі, ратуючыся ад стрэлаў. Холадам, цвіллю, грыбамі пахла ад старога счарнелага лісця, што ляжала пад самым тварам, пад самымі вачмі. І шорхла скура на спіне, і калола ў ногі, пад каленкамі, і цяжка было падняць галаву ад зямлі, каб зноў агледзецца, нешта ўбачыць.

На полі, за лесам, стрэлы пачалі аціхаць, мацней білі з гэтага лесу, свае. Можа, так, а можа, і не так, Фімка слухала ўсё толькі вушамі, сэрцам, ніколі не хадзіла яна на заданні, ніколі не бачыла бою, ведала толькі, што недзе тут, у гэтым лесе, свае, а там, на полі, сама смерць, іначай і не ўяўляла Фімка немцаў, як саму смерць, ведала, што кожнага партызана, кожнага сувязнога, нават кожнага родзіча партызанскага чакае ад немцаў адно — смерць. Ведала, што калі і сама да немцаў трапіць, то і яе адно чакае — смерць. Але не

верылася, не верылася, што і яе можа напаткаць смерць.

І раптам крыкі:

— Га-а!

— Бі-і-і! — разлягалася па лесе.

І затрашчалі кусты, і затупалі, пабеглі партызаны, туды, дзе канчаўся лес, дзе прасціралася поле. І крыкі і тупат ног далей, далей ад Фімкі, стрэлы — градам, дажджом туды — з лесу на поле, адкуль наступалі немцы. А можа, іх ужо няма на полі, можа, уцяклі, спужаліся партызанскай сілы?

Не стрывала Фімка, падняла галаву, а потым падхапілася і пабегла. Быдта сіла, непадуладная ёй, падхапіла і панесла — туды, за сваімі, за тымі крыкамі, на ўскрай лесу. Ужо відаць было ёй поле з пачарнелым іржышчам і другая сцяна лесу, хмура-зялёная ад старых высокіх елак. Ужо відаць было ёй, як уцякалі шэра-зялёныя шынялі, беглі з поля ў лес, азіраючыся і адстрэльваючыся, страляючы на хаду, а за імі — з крыкам, з гікам беглі партызаны, гналі немцаў, як скаціну ў загон, з якога яна, раз'юшаная, выскачыла і можа нарабіць вялікай шкоды.

Можа, і яна пабегла б цераз поле, за сваімі, у той лес, але на самым ускраі зачапілася нагою за корч, упала з усяго разгону. І як толькі ўпала, лісце над галавою, кара на дрэвах пасыпаліся дажджом на яе галаву, на спіну, на ногі.

Яна зноў прыкрыла галаву мяшком з бінтамі, зноў чакала, сцяўшыся, калі скончыцца гэты жалезны дождж, што зразаў, ссякаў галіны, крышыў камлі над ёю, вакол яе. А калі ацішэла і яна падняла галаву, на полі не было ўжо ні немцаў, ні партызан, толькі засталіся ляжаць цёмныя бугаркі, як наточаныя кратамі купкі. Стрэлы ляскаталі ўжо там, у тым лесе, ужо там ішоў бой. І паміж бабахання, сакатання стрэлаў Фімка пачула стогн. Пачула раз і другі.

Іржышча стагнала.

І не відаць было — ні доктара, нікога са сваіх. Зноў Фімка заставалася адна, як каля Мурмоня ў лагеры. Зноў трэба было думаць самой — што рабіць. Але Фімка і не думала. Тое, што яна перажывала, лежачы на ўзлеску, не было думаннем. Можа, гэта было перажыванне... Можа, голас душы, кліч невядомага ажываў у ёй... Але нешта штурхала, нешта прымушала — ту-

ды... На поле... Да сваіх... Яна разумела — зноў не галавою, а можа, інстынктам, што там, на ржышчы, яна будзе адкрытая ўсім... Таму і пападалі хлопцы, што выбеглі на ржышча, што не было там за што затуліцца, ні бярозкі там не расло, ні хваінкі. Але трэба было гнаць немцаў, і нашы выбеглі з лесу на поле, туды, дзе затуліцца не было за што. А яна... Будзе ляжаць тут, прыкрыўшы галаву мяшком з бінтамі, а нашы на полі стагнаць, сцякаць крывёю.

І яна папаўзла. Упіралася локцямі ў халодную, сырую зямлю, драпаючы рукі, адзежу калючым іржышчам. Чакаючы, што зараз, вось-вось пальне стрэл. Пальне ў спіну. І ўсё... І смерць. Але паўзла, паўзла на голас. Вось наперадзе шэры бугарок. Ён стогне. Адтуль ідзе голас. Яшчэ крышку. Падпаўзла, падняла галаву, скінула мяшок на зямлю, гатовая залезці ў яго рукою і выцягнуць мяккі скрутак. Падняла вочы і скамянела, знямела.

Нямецкая шапка... Пагоны, шынель... Светлыя вочы, поўныя страху, пакуты. Глядзіць на Фімку, а Фімка — на яго... І адвесці не можа позірку.

Задам, задам... Далей, далей... А той паварочвае галаву і быдта просіць нечага ў Фімкі, ды, мусіць, просіць, гергоча:

— Фройлян, фройлян...

Фімка са страхам глядзіць на яго рукі — ці няма ў іх аўтамата, пісталета... Няма... Адна рука ў немца белая, другая ў крыві, як у Мурмоня...

Задам, задам... Не да яго паўзла... Не яму бінты несла. І нешта дзіўнае агортвае Фімку, быдта радасць — ага, не толькі нашы, а і вашы... І яшчэ дзіўна — немец, быдта той Мурмонь... І яму баліць, і ён стогне, і рука ў крыві... Быдта і ён — чалавек... Не смерць, а чалавек...

Зноў папаўзла да купкі, што чарнела на ржышчы. Больш не засланяла галавы, вачэй мяшком. Яшчэ зноў на немца напарацца... Дзіўна, немец, а як Мурмонь... І просіць жаласна.

Далей, далей ад той жаласці... Яшчэ павернецца ды стрэліць... І праўда, каля яго ж аўтамат... Во дурная, трэба было схапіць аўтамат, забраць... І Фімка баязліва азіраецца на немца. Той ляжыць, як і ляжаў, дагары.

Калі дапаўзла да свайго, то не адразу пазнала, хто

гэта. Белы твар, шкляныя вочы, у якіх адбіваецца хмурнае неба, разяўлены, як у крыку, рот. З усяго гэтага праяўляліся, як на даўняй фотакартцы, знаёмыя рысы. Не хацелася верыць. Страшна было паверыць. Святланін Толік... Божа, божа... А Святлана недзе і не ведае... Пакратала Толіка за плячо, быдта будзячы ад сну. Галава хіснулася, але не заплюшчыліся вочы, не падаў голасу рот. Мусібыць, Толіку яна ўжо непатрэбная...

У гэты час здалося, што над галавою прасвістала куля, і Фімка ўпала тварам на Толікавы грудзі, абхапіла рукою яго цела, не то баронячы ад гэтай кулі хлопца, не то сама ім засланяючыся. Застыла, не варушылася. Кулі, здаецца, болей блізка не свісталі. Яшчэ паляжала, абдымаючы Толіка, як брата, адчуваючы лобам яго халодную ўжо, нежывую шчаку. Папаўзла далей.

Зноў пачула стогн. Спалохалася, можа, зноў паўзе да таго немца? Падняла галаву. Не, стагнаў свой, стагнаў і варушыўся, быдта спрабаваў устаць і не мог.

Скарэй, скарэй да яго.

Яна не ведала, як зваць гэтага партызана, але бачыла, што свой, не раз сустракала на сцежках у лагеры, аднойчы ён нават паднёс яе вёдры з вадою, калі валачыла ад крыніцы да шпітальнай зямлянкі.

— Сястрыца,— прашаптаў ссінелымі губамі.— Мусіць, ногі перабіла, не магу ўстаць... І паўзці не магу...

На нагах у хлопца былі боты, і Фімка пашкадавала, што не мае пры сабе нажа, бачыла, як доктар разразаў халяву ў Колькі, калі таго параніла ў нагу. Цяпер трэба было сцягваць боты з параненых ног. Але дзіва, каб былі параненыя ногі, то, мусіць, і боты пасекла б, і кроў бы ў іх была, а так — боты цэлыя і суха ў іх.

— Цэлыя ў цябе ногі,— сказала Фімка і сама здзівілася свайму голасу — такі ён быў пісклявы і як не свой.— Цэлыя... Мусібыць, не ў ногі параніла...

Яна пачала абмацваць хлопца, але нідзе не бачыла, не чула пад рукамі крыві. Павярнула на бок. Ніз хлопцавай суконнай курткі ўвесь быў мокры, на прымятым яго целам іржышчы там і тут чырванелі плямкі крыві.

— У спіну цябе параніла, во дзе,— усё тым жа пісклявым голасам сказала Фімка і пачала таропка выцягваць са свайго мяшка скруткі бінтоў.

Яна і цяпер чула, як часамі бзыкалі над ёю, каля яе кулі, але не звяртала больш на іх увагі. Таропка перавязвала параненага, паварочваючы яго, падсоўваючы пад бок скрутак бінту, які вельмі скора меншаў. Узяла другі скрутак — і другі скора скарыстала. Так-сяк нацягнула на хлопца апратку.

— Памажы мне,— праз стогн папрасіў хлопец,— да лесу дабрацца... Там затуліцца... Бо тут, як на бубне...

Фімка і сама разумела, што пакідаць тут параненага кепска, ёй і самой хацелася ў лес, каб затуліцца, каб не быць і праўда тут, як на бубне.

Яна схапіла хлопца пад пахі, хацела падняць, але не здолела — надта цяжкі. І яшчэ — замінаў мяшок з бінтамі. І яшчэ — валачы хлопца, то трэба было падняцца, а яе хінула, хінула да зямлі.

— Трымай мяшок,— сунула сваю ношку хлопцу.

Той згроб яго збялелаю, слабаю рукою.

Фімка паднялася наколенкі, зноў узяла хлопца пад пахі, каб пацягнуць па зямлі. Але зноў не скранула з месца. Трэба было ўстаць, каб уперціся нагамі, трэба было ўстаць.

І яна паднялася.

Хлопец быў надта цяжкі, а можа, яе нямоцным, амаль дзіцячым рукам ён здаваўся такі цяжкі, можа, усяму яе целу, што расло ў пастаянным недаяданні, была цяжкая гэта ноша. Ад кожнага кроку па зямлі напіналіся і ледзь не лопаліся жылы... І ледзь не вылазілі на лоб вочы... І дрыжалі, падгіналіся ногі.

Хлопец не мог памагчы, ён ляжаў на зямлі, як мяшок, калі Фімка валакла яго, то ногі целяпаліся, быдта страцілі косці, адны анучкі засталіся ў ботах. Ён часта і глыбока дыхаў, але не стагнаў, трываў.

Якое ж ты шырокае, поле з засохлым іржышчам, які ж ты далёкі, лес...

Выгнуўшы спіну, нахіліўшы голаў, упіраючыся нагамі ў дол, Фімка валакла хлопца да лесу. Спынялася на міг, аддыхвалася і зноў валакла. Вось ужо блізка бярозы, ужо чуваць іх безудзельны, звыклы шум, яшчэ трошкі, яшчэ... Хвілінку перадыхнуць.

Яна не адразу зразумела, што гэта. Быдта штурхнуў яе нехта ў грудзі. Так штурхнуў, што яна павалілася на спіну. Але паднялася, схапілася рукамі за хлопцавы плечы — каб самой утрымацца, каб не згу-

біць сваёй ношы... Старалася трымаць тыя плечы як мацней, але рукі не слухаліся, пальцы слабелі. Яна стала наколенцы, павяла вачыма па полі. Яно круцілася, і круціўся разам з полем шэры камячок нямецкага шыняля. Ці здалося Фімцы, ці і праўда... Аўтамат... У руках у параненага, падобнага на Мурмоня, немца, аўтамат... Чаму не забрала, не звалакла?..

Слабелі пальцы, і поле засцілалася, як дымам. Нібыта ўраз звечарэла...

— Што ты, сястрыца? — пачула спалоханы шэпт свайго.

Круцілася, круцілася ржышча. І хацелася за нешта ўхапіцца, каб утрымацца, каб устояць, хоць наколенцах. Падняла рукі, быдта шукаючы той апоры, быдта шукаючы, за што ўхапіцца. Не знайшла. Засталася ляжаць камячком побач з тым, каго валакла да лесу. І не давалакла.

## 6

Зіна Патапава спачатку бегла па лесе, потым, знямогшыся, ішла, ішла, адхінаючы рукамі голыя галіны кустоўя, лапкі ельніку, прабіраючыся без дарогі, куды, і сама не ведала, толькі далей, далей ад стрэлаў, ад таго страху. Ведала, што тут на шмат кіламетраў лясы, хутар ці вёска няблізка, але ёй не было цяпер чаго рабіць, акрамя як ісці, не вяртацца ж назад у лагер, на які наступаюць немцы. І то праўда, у партызанаў аўтаматы, вінтоўкі, гранаты, яны могуць і бараніцца, і нападаць, а што зробіць яна голымі рукамі? Тая дзеўка, праўда, пабегла, але яна санітарка, ці што, у яе свая работа, ды маладая зусім, страху не ведае, жыцця не шкадуе.

Доўга ішла Зіна Патапава па вільготным доле без сцежкі, распараная ад бегу і хуткай хады, ловячы вухам стрэлы, якія цяпер аддаляліся, глухлі. На ўсе бакі разлягаўся хмурны, гатовы да снегу, да маразоў, да доўгай зімы, лес. Часам з дуба, шапочучы ссохлым цвёрдым лісцем, злятала стракатая сойка, пералятала на другое дрэва. Круцілася, ціўкала на голым кусце жаўтабрухая сініца, шмыгала па хвоі — уверх, уніз — вавёрка. Зіна бачыла і не бачыла ўсяго гэтага, і зрок, і слых засланяла трывога, што калацілася ў грудзях, страх перад тым — што цяпер будзе. Зусім знячэўку,

не шукаючы, не чакаючы, напала на дарогу. На ёй, у выбітай у доле каляіне, яшчэ, здаецца, свежа адбіваліся сляды калёс. Ці не сюды выехала падвода з параненымі?

Адразу выйсці на дарогу пабаялася, пастаяла, затуліўшыся за камель асіны, прыслухалася. Нідзе нікога. Дарога прывядзе да жылля. Да вёскі ці да хутара. Трэба трымацца дарогі.

Аддыхвалася, стоячы за асінаю. Паправіла на галаве хустку, падаткнула пад яе валасы, што павыбіваліся на лоб, на шчокі. Зашпіліла на ўсе гузікі кажушок.

Ішла і думала — у якую вёску прывядзе дарога? У Старое Сяло? А можа, у Канюхі? Здаецца, яны ў тым баку. У Старым Сяле жыве цётка — матчына родная сястра. Там можна было б пераначаваць, але заставацца надоўга няможна. Калі немцы дапалі сюды, то ўсе вёскі папаляць. Трэба некуды далей, можа, у горад? Горад увесь не спаляць... Праўда, горад і так разбіты, але жывуць жа там людзі... Каб толькі дапасці да якога жылля, адпачыць, паесці. Сёння ў роце і расінкі не было... З самага світання наляцелі самалёты...

На дарозе ляжаў масток, пад ім, высвечваючы дробныя каменьчыкі, пясчынкі, цёк празрысты ручай. Ён паціху журчэў, быдта падспеўваў свайму бегу, і было дзіўна ўбачыць яго безудзельны спакой, пачуць яго вясёлае булькатанне.

Убачыўшы ваду, Зіна адчула, як хочацца піць. Па цвёрдым тут доле спусцілася да ручая, зачэрпнула ў прыгаршчы чыстай вады. Высмактала ўсю і яшчэ раз зачэрпнула. Вада была вельмі халодная, аж заходзіла ў зубы, але ад яе лягчэла, свяжэла ў грудзях. Абмыла вадою і твар. Сёння ж з раніцы не ўмывалася, сустрэне каго, дык па твары той можа пазнаць, што не з дому ідзе дзеўка — нясвежая, няўмытая. Добра, што натрапілася вада.

Зноў вярнулася на дарогу. Нікога не хацела спатыкаць, ну, а калі хто натрапіць ды спытае, адкуль ідзе, куды, то скажа — з дому ідзе, да цёткі, у Старое Сяло.

Але дарога была пустая, цішыня супакойвала, і трывога ў душы пачынала мякчэць, і сама яна нібы мякчэла, адпускаў страх.

Яшчэ здалёк яна ўбачыла на дарозе вялікую гурбу людзей, спачатку не разабрала, хто там, а калі раз-

гледзела шэра-зялёныя і чорныя шынялі, застыла, як слуп, на дарозе. Душа рванулася — назад альбо ў лес, але было позна, яе ўжо прыкмецілі, і насустрач ёй бег у чорным шынялі паліцай.

— Стой! Сюды ідзі! — крычаў ён на бягу.

Зіна не ведала — што ж ёй рабіць, стаяць на месцы ці ісці да паліцая, ды, скамянелая са страху, не магла, каб і хацела, зрушыць з месца, чакала, пакуль той дабяжыць да яе.

А той — у радаснай злосці ашчэрыўшы зубы, крычаў, падбягаючы:

— Папалася, к... Яшчэ адна! Ну, ну! Рукі ўгору!

Зіна паволі пачала ўздымаць рукі ўгору.

Паліцай піхнуў яе прыкладам аўтамата ў плячо, пагнаў туды, дзе стаяла ўжо шмат — у шэра-зялёных шынялях, у чорных — немцы з паліцаямі.

Падыходзіла Зіна бліжэй да той гурбы і бачыла — пасярод яе стаіць падвода. Яшчэ бліжэй падышла... Святлана... Цётка Вера... Параненыя на падводзе... І вакол іх, у радасці, у злосці — немцы з паліцаямі.

Абамлела душа, зашчымела ў грудзях, агортваючы цела калючым холадам.

— Пабеглі, бандзюгі! Яшчэ адна! Зараз мы вам усім тут капут зробім! — радасна шчэрыўся шчарбаты паліцай.

Да яе падскочыў другі, малы, з доўгім, быдта сплюшчаным, мокрым на дзюбцы, носам, пачаў абмацваць кішэні кажушка.

Як праз сон бачыла Зіна спалоханы твар Святланы ў абадочку сіняй хусткі, здаецца, абыякавы, гатовы да ўсяго, твар пажылой кабеты — цёткі Веры. Двое параненых ляжалі на падводзе, у двух другіх былі закручаны назад і звязаны рукі.

Сутулаваты немец трымаў настаўлены на Зіну аўтамат.

І раптам:

— Пан, пан, гэта мая дзеўка... Не партызанка, мая дзеўка...

Грышка-паліцай...

А той прабіраўся ўжо наперад, да Зіны, і ўсё гаварыў:

— Мая дзяўчына, не партызанка, мая паненка...

Немец, што трымаў аўтамат, недаверліва пазіраў то на Зіну, то на Грышку, паліцай перастаў лапаць.

Нехта з паліцэйскіх зарагатаў:

— Во шчаслівы, сукін сын, хто на дарозе партызанскую кулю спатыкае, а хто дзеўку...

Немец апусціў аўтамат, забалбатаў, мусібыць, пытаючыся ў паліцэйскіх, хто такая гэта дзяўчына. І Грышка, мяшаючы нямецкія, польскія, беларускія словы, пачаў тлумачыць:

— Гэта мая фройлян, мая паненка, нікс партызанка... З адной вёскі...

Сутулаваты немец лыпаў круглымі жоўтымі вачмі, хмурыў бровы. Ці не верыў Грышку, ці не хацеў верыць, больш хацелася, мусіць, яму, каб дзяўчына аказалася і праўда партызанкаю.

— Яго дзеўка, яго,— пацвердзіў другі паліцай. Зіна не ведала, як яго зваць, аднойчы заходзіў да іх, разам з Грышкам.

Яна апусціла галаву, баялася сустрэцца позіркам са Святланаю, з пажылою цёткаю, з параненымі. Але і не ўзнімаючы вачэй, адчувала, бачыла іх поўныя нянавісці твары. І яшчэ баялася, страшэнна баялася, што зараз каторы з іх ад крыўды, ад злосці скажа: і яна з лесу... І яна была з намі... І тады ўсё... Тады ніякі Грышка не паможа.

Але тыя маўчалі, і толькі адчувала Зіна, як плылі, быдта з паветрам, з дыханнем ад іх наплывалі — нянавісць і грэблівасць.

— А калі не партызанка, калі яго дзеўка, то чаго тут швэндаецца? — строга запытаў высокі паліцай з цяжкою сківаццай і вусамі пад Гітлера.

— Да цёткі іду,— залапатала Зіна, апускаючы замлелыя ад доўгага трымання ўгару рукі,— цётка захварэла, адна жыве, іду да цёткі...

— У яе ў Лошчыцы цётка жыве, магу пацвердзіць,— сказаў Грышка высокаму паліцаю, мусіць, старшаму ў іх.— Цётка, цётка кранк,— пачаў тлумачыць ён і немцам.

Значыцца, дарога вядзе не ў Старое Сяло і не ў Канюхі, а ў Лошчыцу... Грышка знарок сказаў, каб я зразумела... І ведае, што ніякай цёткі там няма...

— То чаго цябе тут чэрці носяць, маглі не разабрацца, стрэліць,— сказаў высокі, з цяжкою сківаццай.

— А чаму тут няможна? — прыкінулася дурнічкаю.

— Бо партызанская зона...

Высокі паліцай павярнуўся да немца, пачаў тлумачыць, як і Грышка нядаўна, мяшаючы нямецкія словы з польскімі, беларускімі.

— Паненка нікс партызанка, геен у вёска Лошчыца да цёткі, зброі, аружжа, лістовак нікс... Наша дзеўка...

Немец махнуў рукою.

— Ідзі,— не вельмі ахвотна дазволіў паліцай.

І Грышка ў плячо піхнуў, быдта загадваючы нецярпліва — ідзі, ідзі...

І Зіна пайшла, ледзь пераастаўляючы самлелыя ад страху ногі, чакаючы стрэлу ў спіну. Але не стралялі. І яна пайшла скарэй. Ды раптам:

— Та-та-та... Та-та-та...

Прысела ад страху.

Некалькі разоў прасакатала гэта — та-та-та... І сціхла. Толькі заржаў спалоханы конь.

Што гэта? Спачатку падумала — па ёй страляюць. Не паверылі Грышку. Альбо з тых хто-небудзь выдаў. Але кулі сюды не ляцелі. А ўжо каб хацелі пацэліць па ёй, то пацэлілі б, зусім недалёка адышла.

І раптам — як агнём па ўсім целе... Ды гэта ж па іх... Па Святлане, па хлопцах...

Доўга не адважвалася стаць на ногі. Але аддаляліся галасы, вакол цішэла. Мусіць, немцы, паліцэйскія пайшлі далей. І Зіна паднялася, азірнулася.

Адзінока стаяла пасярод дарогі падвода. І здалёк было відаць, як ляжалі на ёй адзін на адным людзі. Зверху сінела Святланіна хустка. Немцаў, паліцэйскіх не было відаць.

Як не сваімі нагамі ступіла Зіна. Пайшла. Спачатку памалу, потым скарэй, скарэй. Пабегла.

Каб верыла ў бога, падумала б — бог паслаў Грышку, каб яе ўратаваць. І прыдумаў жа — яго дзеўка... Заходзіў, падлазіў, але яна ж не захацела, не захацела гуляць з паліцыянтам. Кпіла з яго... Другі, можа, адпомсціў бы, а гэты...

Стаяла ў вачах падвода. І сінела Святланіна хустка... І шумела, мяшалася ўсё ў галаве... Што Святлана пра яе падумала? У апошні міг? Але не выдала... А Грышка?.. Хто ён такі?

Першы раз ён прыцёгся да іх на пачатку лета. Вінтоўку ў качарэжніку прыткнуў, як качаргу. Сеў за стол. Маўчаў, глядзеў на Зіну. Хоць Зіна і разумела,

што Грышка цяпер — паліцай, не баялася гаварыць яму, што хацела.

— І чаго ты, Грышка, у паліцаі пацёгся? Вернуцца нашы — не даруюць...

Грышка ўсміхаўся, як дурны.

— Сям'ю апаганіў, сёстраў, братоў. Вернуцца нашы, як ім будзе ў вочы людзям паглядзець?

Грышка маўчаў. Паднімала голас матка.

— Чаго ты чэпішся да хлопца?

Калі Грышка адыходзіў, і маці, і бацька на Зіну сварыліся.

— Што ты пры ім язык распускаеш, даложыць немцам, ці доўга цяпер... Гэта ён тут, пры табе ціхенькі, а людзі кажуць...

— Калі ўжо Грышкі баяцца,— смяялася Зіна.

А той заходзіў часцей і часцей, усміхаўся Зіне, за ручку хапаў, але яна вырывала. Пад'ядала Грышку:

— Кажуць, нашы немцаў пад Сталінградам моцна пабілі, гоняць іх цяпер... Што, і ты з немцамі ўцякаць будзеш?

Не стрымаўся і Грышка, упікнуў:

— Калі ты такая савецкая, то чаго дома сядзіш, чаго не ў партызанах?

Засмяялася Зіна.

— Каб я, Грышачка, ведала, дзе тыя партызаны, як да іх дапасці, і дня дома не сядзела б.

— А калі я падкажу?

Уставілася Зіна на Грышку — ці смяецца з яе, ці праўду кажа? А той сядзіць — і кропелькі поту пад носам, на лбе. Упрэў у сваім суконным кіцелі, ці што...

Зіна змоўкла. Зразумела — не на вецер кінуў Грышка такія словы. Нешта яны значаць. Ці падкузьміць яе хоча, ці...

— Калі ведаеш, дзе партызаны, то чаму немцам не даложыш, выслужыўся б,— сказала злосна.

Устаў Грышка, захадзіў па хаце. Дома нікога не было, бацькі сена касілі. Пасярод хаты сядзела рудая котка. Грышка адчыніў дзверы, выгнаў котку.

— Псік...

Быдта і котку не хацеў мець у сведках. І сказаў:

— Калі хочаш ісці ў партызаны, іхняга сувязнога падкажу...

Знямела Зіна.

— Ты знаеш сувязнога?

— Не дапытвайся нічога, а калі хочаш — падкажу.

Па вачах бачыла Зіна, па твары — не хлусіць Грышка, знае сувязнога.

— То... То... Калі сувязнога знаеш і не прадаеш, чаму сам не ідзеш у партызаны?

Грышка шморгнуў носам:

— Не прымуць... Яны паліцаяў ненавідзяць болей, чым немцаў... І грахоў ужо на мне...

Дык, можа, Грышка тым, што яе ўратаваў, ад грахоў сваіх адкупіцца хоча? Але ці адкупішся адною душою за шмат душ? Мусіць, нямала ўжо загубіў са сваімі хаўруснікамі... І гэтых... Святланка... Яшчэ ўчора ў абнімку хадзілі... А цяпер — яе пусцілі, а Святланку, параненых...

Бяжыць Зіна, не ідзе, а бяжыць, быдта ўцякае ад той адзінокай на дарозе падводы, каля якой магла застацца і яна. І радасць, што не засталася, і быццам віна, віна апаноўвае Зіну. Хоць чым жа яна вінаватая?.. Каму было б лепей, каб і яе?..

Як бачыць Зіна — дула аўтамата перад грудзьмі, як чуе — цела разрываюць кулі. І агортвае страх, зноў гоніць з дарогі ў лес, каб затуліцца, схавацца за арэшнікам, за камлямі бяроз, асін. Каб не нахапіцца зноў на якіх немцаў, паліцаяў альбо і на партызан. Бо партызаны, калі спаткаюць, могуць спытаць: «А чаму тых забілі, а цябе не кранулі, пусцілі?» Усіх баіцца цяпер Зіна, але і дарогу згубіць баіцца, каб не заблудзіцца ў лесе. Прабіраецца па гушчары, сучкамі драпаючы рукі, адхінаючы галіны, што сцёбаюць твар, здымаючы з твару праціўнае павучынне.

Аказваецца, Грышка ведаў партызанскага сувязнога дзядзьку Нічыпара. Некалі дзядзька Нічыпар правадніком на чыгунцы рабіў, у горадзе жыў, дадому толькі грошы прысылаў ды наязджаў на вялікія святы. Да яго, бывала, як да чалавека, што цэлы свет з'ездзіў, збіраліся суседзі, пагаманіць, параспытваць, як дзе людзі жывуць, хто пануе, а хто гаруе. Зіна тады яшчэ зусім малая была, на тыя зборышчы не хадзіла, але бацька казаў, што вось, сусед ад сям'і, можна сказаць, адбіўся, бадзяецца па свеце, як цыган, а дабра не нажыў і лепей бы сядзеў пры жонцы, пры дзецях.

Як пачалася вайна, дзядзька Нічыпар знайшоў дарогу дадому, жыў цяпер на гаспадарцы, як і ўсе мужыкі ў вёсцы. І хто б мог падумаць, што ён — парты-

занскі сувязны. Але Зіна не дапытвалася ў Грышкі, адкуль ён ведае такі сакрэт. А самае дзіўнае — дзядзька Нічыпар і не здагадваўся, што Грышка ведае пра яго партызанства.

Думала Зіна — пайсці ў партызаны? А чаму не? Цікава... Вернуцца нашы, а Зіна — во, гераіня! А дома сядзець — што, сумната... Але ўсё не адчайвалася, нечага баялася. Да восені дацягнула Зіна. Можа, і восенню не рашылася б, але пачалі немцы хапаць моладзь у Германію. Пабаялася, што ў Германію звалакуць. І пайшла да дзядзькі Нічыпара...

Спачатку Зіна падумала, што гэта дрэвы неба засланяюць і ад таго ў лесе пацямнела, але скора зразумела, што гэта пачынае вечарэць. Дарога між дрэў прасвечвала белаватаю палосаю. Трэба было выходзіць з лесу, бо скора зусім сцямнее і тады нічога не пабачыш, зусім заблудзішся. Хочаш не хочаш, а трэба выбірацца на дарогу. Толькі прыслухоўвацца, прыглядацца, як убачыць людзей наперадзе — так упадзе на зямлю і папаўзе назад да лесу.

Цямнела вельмі скора, вось ужо пашарэла неба і не відаць за асеннімі хмарамі ніводнай зоркі. Чорнымі сценамі абступае дарогу лес. Здаецца, што лес і наперадзе, перасякае дарогу, дойдзе Зіна да той цемнаты, а там — тупік. Яна не баіцца ўжо дарогі, баіцца, каб тая не скончылася, не ўперлася ў тупік. Колькі адсюль да Лошчыцы? Зіне здаецца, што яна прайшла ўжо адтуль, дзе спаткалася з немцамі, з паліцаямі кіламетраў дзесяць. Можа, заблудзілася? Ці будзе калінебудзь канец гэтаму лесу, дарозе?

Нарэшце лес як абарваўся, скончыўся. Наперадзе ляжала поле, і зусім недалёка горбіліся стрэхамі на ледзь светлаватым небе вясковыя хаты. Але нідзе ніводнага агеньчыку, ніводнага гуку не далятае з вёскі. Ды вось гаўкнуў здушана, нібы вінавата, што парушыў цішыню, сабака, дыхнула гноем ад нечага хлява.

Зіна пастукала ў першую ад лесу хату. Яе паклала з сабою ў ложак старая кабета, а можа, старою яна здалася з маладых Зініных гадоў? Калі развіднела, яна ўбачыла яе сухі, быдта абцягнены зжаўцелаю папераю, твар, глыбока запалыя вочы, якіх і колеру не відаць, худыя, быдта з адных жыл, рукі. Яшчэ па хаце снавала дзяўчынка гадоў сямі, падспеўвала сама сабе, ладуючы з паленца ляльку — спавівала, завязвала на

галаву хустачку з анучкі. Дзяўчынка, мусібыць, спала на печы.

У хаце былі ўбоства, беднасць. Закураныя сцены і столь, даўно не беленая печ, земляная падлога, шыбка ў адным акне выбіта і заткнута падушкаю.

Гаспадыня паклікала Зіну снедаць. Пыталася — адкуль яна, чаго поначы ходзіць. І Зіна нешта выдумляла — быдта забралі каня партызаны, а потым сусед бачыў іхняга каня ў лесе, мусібыць, партызаны пусцілі, каб конь дадому сам ішоў, а ён не прыйшоў, вось Зіна і хадзіла па лесе, каня шукала ды заблудзілася.

Гаспадыня, здаецца, паверыла, пачала расказваць, што і ў іхняй вёсцы так было, забралі каня партызаны — снарад нейкі завезці, ці што, а потым каня пусцілі і той сам прыйшоў дадому. Каб не чула такіх гісторый Зіна, і яна не прыдумала б, што сказаць гэтай кабеце.

Абдзірала шалупінне са зваранай у мундзірах бульбы, макала ў соль, ела, а сама думала — што ж ёй рабіць, куды ісці? Назад у партызанскі лагер? Але там цяпер і лагера, мусібыць, няма... Дадому? Але дадому зноў прывалачэцца Грышка. Хто ён, гэты Грышка? Можа, партызанамі пастаўлены ў паліцыі? А можа, падслужыцца хоча і да нашых? Гэтага Зіна ніколі ў жыцці так і не дазнаецца. Будзе помніць адно — каб не Грышка, ляжаць бы ёй на той дарозе разам са Святланкаю. Жыццём сваім абавязана Грышку... І прыкра рабілася, што ўратаваў яе паліцай, што назваў сваёй паненкай. А можа, яна нечым абнадзейвала Грышку? Вачыма, голасам? Можа, абнадзейвала?

Не хоча думаць пра гэта Зіна, не хоча болей бачыць Грышкі, рада была б пабачыць Ромку, той бы ўсё зразумеў, усё дараваў бы. Толькі ці сустрэне яна калі Ромку? Ці выберацца ён жывы з таго лесу? Чамусьці зноў успомніла дзеўчынёху, што клікала яе туды, дзе страляюць. Можа, і ёй трэба было ісці туды, дзе страляюць, перавязваць раны параненым... Але добра думаць так, седзячы за сталом у хаце, далёка ад смерці, а там, калі і з неба сыплецца, і з бакоў бабахае, то не думаеш, а робіш...

У горад... Усё цвярдзей прыходзіла да думкі Зіна, што трэба ёй цяпер у горад, там шмат людзей, сярод іх згубіцца, закруціцца, перабавіць час да канца вайны, а там вернуцца нашы, немца папруць, гэта факт, а

вернуцца нашы, і можна будзе жыць. Калі сказаць праўду, то Зіна даўно марыла перабрацца ў горад, жыць у горадзе, да вайны нават думала паехаць у горад вучыцца. Толькі да каго ехаць, дзе прыткнуцца, калі ў вёсцы і то голад, вунь, бульбу ў мундзірах ядуць, а ў горадзе і такой бульбы нямашака. Успомніла матчыну стрыечную сястру, што летась з горада да іх у вёску прыходзіла, мяняць адзежу на яду. З голаду людзі заходзяцца ў горадзе. І ўсё-такі — цётка, матчына стрыечная сястра. Як кручком зачапілася Зіна за гэту цётку. Каб да яе... Хоць на першым часе...

Паснедала Зіна, падзякавала гаспадыні, паднялася. Сказала, што пойдзе зноў каня шукаць. Да сваёй вёскі распытала дарогу. І пайшла. Пайшла дадому. Як сцямнела, пастукалася ў шыбу сваёй хаты. Матка выбегла, завохкала, заплакала з радасці. Бацька стаяў, як здань, у споднім бялізне, чакаў, што раскажа дачка. Ведалі дома, што Зіна да партызанаў падалася, але казалі суседзям, што ў горад паехала, да цёткі, як напрарочылі, што такое будзе і праўдаю.

Зіна расказвала коратка:

— Разбілі партызанаў... З самалёта, бомбамі... Усе партызаны разбегліся... Я заставацца дома не магу... Напакуйце яды ў мяшок... У горад пайду... Да цёткі Марусі...

Матка плакала, бацька дыміў скручанаю з газеты цыгаркаю, пакашліваў. Але скора напакавалі Зіне торбу як панесці, і яна пайшла з хаты поначы. Калі каго сустрэне, скажа, у горад ідзе, прадукты сваякам нясе. А яно і праўда. А больш у Зіны нічога няма з сабою — ні лістовак, ні пісталетаў, на лобе таксама не напісана, што нядаўна была ў партызанскім атрадзе. Нічога ні ў кога на лобе не напісана, а ўсярэдзіну не залезеш, там не прачытаеш, цёмна там, усярэдзіне.

## 7

Нічога не паспела падумаць Фімка перад тым, як абвалакло яе цемнатою. Закруціўся свет, памутнела ўвачч у, і звалілася. І скончылася жыццё. Без мук, без болю. Быдта салодкім сном заснула. Рабіце з ёю цяпер што хочаце, куды хочаце валачыце, засыпайце зямлёю, крычыце над ёю, галасіце. І брывом не павядзе, не варухне пальцам. Не паможа нічым, не супакоіць.

— Дзеўка, дзеўка, што ж ты, ах...

Гэта стогне той параненьі, якога яна валакла.

Не чуе Фімка яго стогну, не чуе стрэлаў, не ведае, што адступаюць немцы, гоняць іх партызаны.

Ніколі не дазнаецца Фімка і таго, як падняў яе на рукі доктар, як нёс, нёс цераз лес, як потым вымаў кулі з яе грудзей. Як зрабілі партызаны насілкі і неслі Фімку, быдта якую пані. Не прывыкла Фімка, каб яе насілі, каб ведала, што яе нясуць, засаромелася б, злезла б з тых насілак, нагамі пайшла б.

Але не ведала Фімка, што яе нясуць, не ведала, што партызаны пакінулі лагер, калі ўжо высачылі немцы, то зноў наваляцца, яшчэ большаю сілаю. Ішлі партызаны — праз лес, праз балота і Фімку неслі.

Колькі ж доўжылася для Фімкі гэта салодкая ноч небыцця? Не ведае Фімка. Расплюшчыла цяжкія, быдта склееныя, павекі і не пазнала — дзе яна і што гэта з ёю. Святло... Перад вачыма святло мітусілася, і было яно такое яркае, што Фімка зноў заплюшчыла вочы.

Памалу вярталася да жыцця. І пазнавала, што вяртаецца да жыцця, па болю. У цемнаце, у смерці не балела нічога, цела агортвала спакойная, салодкая пустата... А чым больш прыходзіла да памяці, тым больш балела. Грудзі пякло, быдта распаленым жалезам. І перавязка сціскала, як абцугом.

Яна стагнала. І тады над ёю схіляўся незнаёмы жаночы твар. Вочы з жалем глядзелі на Фімку, ніхто ніколі не глядзеў на яе з такім жалем, нават маці. І Фімка палюбіла жанчыну, і паверыла ёй.

— Пі-і-ць...

І як глытала з мядзянага кубка, быдта ападала нешта ў грудзях і перад вачыма святлела, дыхалася лягчэй. Потым жанчына паіла яе малаком. І давала ў рукі кавалачак хлеба. І Фімка сусліла скарынку, як малое дзіця. І часам на боль забывалася. А потым зноў стагнала.

Да вясны пракачалася Фімка, да вясны сорак чацвёртага года. Вучылася хадзіць, як дзіця. Гаспадыня падтрымлівала пад паху і гаварыла:

— Ну, дзеўка, не думала, што выпаўзеш... Мёртвую прывезлі.

— А хто прывёз, хто? — пыталася Фімка.

— А ці я ведаю хто? Партызаны... А пашпарты не паказвалі. Загадалі — ратуй... Я во і ратавала.

— Дзякуй вам.

На Фімку з цікавасцю глядзелі Паўлік і Насця — гаспадыніны дзеці.

Як навучылася хадзіць сама, як падужэлі крышку рукі, узялася памагаць гаспадыні. Парсючку бульбы натаўчэ, карове пойла зробіць, міскі памые, у хаце папратае, падмяце, а сама думае, успамінае — хто ж гэта яе прынёс і дзе цяпер партызаны, дзе доктар, дзе Святланка, цётка Вера, дзе Ромка? Дзе тая Зіна Патапава? Няма ў яе і дробачкі крыўды ні на Ромку, ні на тую Зіну. У душы нават песціць, як таямніцу — можа, гэта Ромка нёс яе на насілках, ну, не адзін, а з некім... Можа, Ромка і ў гэту хату прынёс?

Пытаецца ў гаспадыні:

— Цётачка, а якія былі тыя партызаны? Ну, што мяне прынеслі?

Гаспадыня на міг адрываецца ад работы, стаіць, успамінае:

— А хто ж іх знае, якія... Хлопцы...

Хацела спытаць: «Можа, высокі быў, прыгожы?» — не ведала, як іначай апісаць Ромку. Ды пасаромелася спытаць.

А сонца ўсё ярчэй, а птушкі ўсё званчэй, і ў паветры стаіць — быдта птушкі тыя прыносяць — гоняць немца, гоняць, скора вернуцца нашы, скора вайна скончыцца.

Муж гаспадыні таксама ў партызанах быў, але дадому даўно не наведваўся, начамі плакала гаспадыня, дзяцей называла ўжо сіротамі, ведалі ж у вёсцы, які бой быў на Евіным полі, як ганялі немцы потым партызан па балотах, колькі хлопцаў палягло. Ды вось і яна, Фімка, таксама адтуль, дзівам уратавалася.

— А мо і жывы недзе,— задумваецца часам гаспадыня.— Можа, недзе так, як цябе... Можа, і яго нехта чужы ратуе.

І падсоўвае Фімцы шклянку малака, быдта ў той час нехта можа і яе мужу шклянку малака наліць.

Начамі плакала гаспадыня, а ўдзень за работаю свету не бачыла. Трэба было сеяць хлеб, садзіць бульбу, рабіць грады.

Фімка дужэла з кожным днём, ужо разам з гаспадыняю ўпрагалася ў цяжкую работу, і хоць стамлялася, вельмі стамлялася, але нейкая жылка дрыжала і дрыжала ў ёй радасцю. Радасцю было сонца, белыя

хмаркі на сінім небе, жоўтыя кветкі малачаю, што ўсцілалі падворак, песня шпака, якою аж заходзілася птушка, трапечучы крыльцамі на сваёй шпакоўні. І ў яе ў грудзях нешта як спявала, невядома адкуль прыплываў гэты спеў — ці то з палёў, з лясоў, ці ў ёй самой нараджаўся і падоўгу не пакідаў, быдта крынічнай вадой абмываючы грудзі.

А вялікая радасць прыйшла летам, калі густа шумеў ужо тугім лістам лес, калі высока ўзнялося жыта, калі цвіла ўжо бульба на агародзе. Пабеглі, пакаціліся назад немцы, адгыркваючыся, кусаючыся, як сабакі, але беглі, уцякалі, як тыя ж сабакі, падцяўшы хвасты. А цераз вёску — савецкія танкі, машыны. Высыпалі людзі на вуліцу, плачуць з радасці. І Фімка выбегла, носам шморгае, кулаком вочы выцірае.

Нашы... Вярнуліся...

І муж гаспадыні вярнуўся — чорны, закарэлы, з бруднаю павязкаю на галаве, але жывы, і гаспадыня расцвіла, памаладзела, не ведае, як прывячаць, чым частаваць свайго героя. Дзеці на бацьку павіслі, пішчаць з радасці. Усё... Адгаравалі, адбедавалі, жывы застаўся, хоць вайна яшчэ і грыміць, яшчэ моцныя ў яе зубы і яшчэ шмат трапіць людзей у яе жорны.

А Фімка ў гэтай радасці, у гэтым сямейным шчасці адчула сябе раптам лішняю, чужою, непатрэбнаю. Хоць і не сказала ёй злога слова гаспадыня, не касавурыўся гаспадар, сама разумела — лішняя тут, чужая.

Ды каб і не пачула сябе чужою — не на век жа заставацца ў добрай гаспадыні, свая сям'я ёсць, ад якой вайна адарвала, нашы вярнуліся, цяпер шлях дадому вольны.

А дарогі звінелі, грымелі. Цягнуліся да сваіх гнёздаў людзі, як і Фімка, выгнаныя стуль вайною. Ехалі на цягніках, на спадарожных машынах, на фурманках, ішлі пехатою, несучы хто вузельчык, хто торбачку, хто чамадан. І Фімчына сэрца пацягнулася — да сваіх, да мацеры, да братоў і сёстраў, дадому.

З вузельчыкам, у які гаспадыня паклала чатыры жытнія бліны, спечаную яечню, мяккі, звялы ўжо салёны агурок, выйшла Фімка на гравейку, што вяла ад вёскі на станцыю. Трэба было адолець вёрст пятнаццаць.

Фімку абганялі машыны з нашымі салдатамі, гры-

мелі па дарозе танкі і браневікі, Фімку абганялі фурманкі, людзі, якія ішлі шпарчэй за яе. Пахла пылам, бензінам, чалавечым і конскім потам, пахла порахам і гарам, якія яшчэ, здаецца, віселі ў паветры. Абапал дарогі стаялі каміны спаленых хат — і хутароў, і цэлых вёсак — гэта немцы лютавалі, палілі вёскі, кажуць, што палілі нават з людзьмі, заганялі людзей у хлявы і палілі. Трапляліся абгарэлыя, скінутыя з дарогі то машына, то матацыкл. Валяліся пагнутыя нямецкія каскі з бяльмом фашысцкага знаку на баку, разарваныя скруткі калючага дроту. А над усім стаяла чыстае сіняе неба, ярка свяціла і аж пякло ліпеньскае сонца, а дарога вяла да мацеры, дадому, і Фімцы нецярпелася — скарэй, скарэй. Як там? Два гады не была дома, ці жывыя ўсе, ці здаровыя?

Ахінаў трохі і страх, калі ўспамінала цётку, карову. Аб'явіцца цётка ў горадзе, пачне крычаць, клясці. Але ці вінавата Фімка, што немцы забралі карову, ды што там карова, колькі людзей палягло, колькі вёсак вунь папалілі, не з коровамі, з людзьмі, ці ўцалела і цётчына хата?

Будынак вакзала быў разбіты, над праёмамі вокнаў чорныя пісягі — знакі пажару,— і людзей, людзей. З торбамі, клункамі, мітусяцца, бегаюць, крычаць — акурат цягнік падыходзіць. Кінуліся людзі гурбамі да дзвярэй таварных вагонаў, лезуць адзін аднаму на плечы, на галовы, перадаюць свае клункі, торбы. Хто дужэйшы — адпіхае слабейшага, а слабейшы таксама пнецца, спрытнейшы ўскаквае ўжо ў вагон, дзе і так поўна людзей, адчайна пнуцца тыя, што засталіся ззаду.

Фімка бегала ўздоўж саставу, шукала, дзе меней людзей, каб уплішчыцца, але ўсюды пры таварных вагонах кішмя кішэла. Яна паспрабавала ўціснуцца ў тугую, як гума, людскую гурбу, але ў той гурбе не было і вузенькай шчылінкі, гурба яе не прымала, адпіхала і адпіхала сваім тугім целам.

У саставе было некалькі і пасажырскіх вагонаў, але ў іх ехалі вайсковыя, цывільных туды не пускалі, пры дзвярах стаялі салдаты з вінтоўкамі. Фімка кінулася да аднаго, папрасіла ўмольна:

— Пусціце...

Маладзенькі салдат сабраў на лбе строгія складкі.

— Нельга, цётка...

«Цётка?» — здзівілася Фімка. Няўжо яна падобна ўжо на цётку? Ёй жа ўсяго васемнаццаць...

Адышла ад вагона. Аббегла цягнік, заскочыла з другога боку, думала, можа, там якія дзверы адчыненыя. Але з другога боку цягніка ўсе дзверы ў вагонах былі пазачыняныя, і ў пасажырскіх, і ў таварных. А паравоз ужо даў гудок, Фімцы відаць, як адчайна затупалі з таго боку вагона людскія ногі, наступаючы адна на адну, грамчэйшы зрабіўся крык. Вось ужо лязгнулі буферы, цягнік скрануўся з месца. Фімку ахапіў адчай. Калі будзе новы цягнік? Можа, цераз суткі, ды і ў той ці ўлезеш?

Яна ўскочыла на падножку. Ухапілася рукамі за поручні. Села на прыступку.

Цягнік ішоў — шпарчэй, шпарчэй. Хістануўся на стрэлках. Адплывала станцыя. Вось закруцілася ўжо перад вачмі зялёнае поле, пні ад спіленага пры чыгунцы лесу — немцы выпільвалі, высякалі лес, што падступаў да каляі. Мільгануў абгарэлы шкілет вагона пад насыпам — скінулі партызаны. Цягнік ужо нёсся на ўсёй скорасці, Фімка моцна трымалася рукамі за поручні. Нічога, не зваліцца.

Зноў мільгалі спаленыя вёскі, хутары, толькі закураныя каміны, як чорныя абеліскі, як помнікі чалавечаму жыллю, узвышаліся ўсцяж дарогі. З-пад вагона клубамі віўся пыл з дробнымі калючымі пясчынкамі, сек шчокі, зацярушваў вочы, часам чорным воблакам агортваў паравозны дым з калючымі дробачкамі незгарэлага вугалю, тугім камяком біў у твар вецер. Вузельчык з рэшткамі яды Фімка павесіла на руку, а пальцамі моцна ўпілася ў поручні. На верхняй прыступцы сядзела, на ніжняй трымала ногі. Спачатку здавалася, што і зручна ўмасцілася, а потым пачалі слабнуць рукі. І нешта цвёрдае ўпівалася ў спіну. І ў вачах пачало мітусіцца, быдта не на цягніку яна ехала, а плыла на каруселі, быдта не поле круцілася перад ёю, а і сама яна на тым полі. Вецер пачынаў забіваць дыханне. Але сілілася, трымалася, разумела — варта аслабіць пальцы, даць перадых рукам і не ўтрымаецца на прыступцы, паляціць уніз, пад калёсы.

Раптам пачула стук над галавою. І спалоханы голас. Што той голас сказаў, не разабрала. І нечая рука моцна ўпілася ў плячо, пацягнула ўгару. Сама не свая падалася за тою рукою Фімка і апынулася ў вагоне.

— З глузду з'ехала, заб'ешся, каб ты згарэла!..

Гэта ўбачыў яе на прыступцы праваднік, адчыніў дзверы і ўцягнуў у вагон. Твар у яго быў спалоханы больш, чым у Фімкі. Замкнуў за ёю дзверы, ківаў перад носам жалезным кручком ключа.

— Куды цябе чэрці панеслі, касцей не сабрала б, куды едзеш?

— Дадому,— ледзь вымавіла Фімка.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Такіх маразоў не было ўжо даўно, год за годам сталі слякотныя зімы з мокрым снегам, з дажджамі, тэмпература рэдка апускалася ніжэй нуля, здавалася, ужо і непатрэбна цёплая апратка, можна і зіму прабегаць у асеннім паліто. І праўда, модніцы з пышнымі футровымі каўнярамі, у пышных зімовых шапках бегалі па горадзе, як мокрыя курыцы — футра ад дажджу зліпалася ў суслы. Людзі пачалі жаліцца, што змяніўся клімат, гэтыя атамы, гэтыя касманаўты перакруцілі ўсё ў прыродзе і там, дзе павінен ісці снег, сыпле дождж, а на поўдні, дзе павінна свяціць сонца, ад холаду гінуць вінаграднікі.

Але вось прыйшла сапраўдная зіма, з маразамі за дваццаць градусаў, са скрыпучым снегам пад нагамі, з празрыстым небам, у якім па начах стыў яркі месяц і дрыжалі ад холаду зоркі. Зіма быдта гаварыла людзям, што дарэмна яны вінавацяць атамы ды касманаўтаў, цяжка змяніць законы вялікай прыроды, які б яна ні выкінула фокус, прачытай — сто альбо дзвесце гадоў назад было ўжо такое.

Цёмнаю раніцою, панастаўляўшы каўняры, выдыхаючы клубы пары, беглі людзі да выстылых за ноч, з замураванымі марозам вокнамі, аўтобусаў, тралейбусаў, трамваяў, уціскваліся, ехалі, яшчэ не адышоўшы ад сну, яшчэ хаваючы пад палітонамі ды хусткамі цяпло пасцелі. Адны выходзілі, другія садзіліся, часам утвараючы ў дзвярах заторы.

Серафіма, выставіўшы наперад сваю сплюшчаную

цыратавую сумку, выбралася з аўтобуса на сваім прыпынку, пабегла. Снег скрыпеў пад нагамі, машыны не паспелі яшчэ расчысціць тратуары, і бегчы па ім было цяжка, як па пяску. Ды ёй тут недалёка, адзін квартал, вось і яе бальніца. Адчыніла цяжкія дзверы.

У калідоры было жоўта ад электрычнага святла і пахла карболкаю, эфірам, неправетраным памяшканнем. Пасля вялікага холаду здалося і вельмі цёпла, узыходзіла на свой трэці паверх і на хаду расшпільвала паліто, адпускала хустку. У сваім катушку распранулася, зняла боты і ступіла ў тапкі, уздзела халат, пакіравалася ў палаты.

У пятай палаце на ложку злева ляжала новенькая, мусібыць, прывезлі ўночы, уночы і парэзалі. Маладая, валасы з прыгожым учасаннем — знянацку навалілася хвароба, не паспела збрыдзіць дзяўчыну. Вочы заплюшчаныя, вусны тонкія, збялелыя, белыя рукі з манікюрам ляжаць паверх коўдры.

Падышла да новенькай, спынілася каля ложка, паправіла коўдру. Дзяўчына паволі расплюшчыла вочы, глянула на Серафіму, як з глыбокага калодзежа.

— Ну, як табе, галубка? — спыталася ў яе Серафіма.

Дзяўчына памаўчала, быццам прыслухоўваючыся да сябе.

— Не ведаю,— прашаптала слаба.

— Нічога, скора ачуняеш, ножкамі пабяжыш...

Дзверы ў палату адчыніла незнаёмая пажылая жанчына — белы халат накінуты на цёмную сукенку, на галаве футровая шапка, твар спалоханы. Абвяла вачмі палату, убачыла новенькую, пры якой стаяла Серафіма. Матлянула лакіраванаю сумачкаю, перакладаючы з адной рукі ў другую, падалася да хворай.

— Дачушка...

Серафіма ёй табурэтку падставіла.

— Дачушка,— толькі і магла сказаць кабета, сумачку расшпіліла, насоўку выняла, прыклала да вачэй.

— Нічога, мама,— прашаптала хворая.

Уздыхнула Серафіма, адышла. Тут, калі што, то ўжо маці паможа, падасць.

— Нянечка,— паклікала хворая, што ляжала каля акна.

Серафіма падышла. Жанчына прашаптала сваю просьбу. Толькі каля той пахадзіла — другая хворая

паклікала. Васьмёра хворых у гэтай палаце, ды пяцёра ў суседняй, ды сямёра яшчэ ў адной, у мужчынскай. А шмат каму няможна ўставаць. Пакуль тых, каму няможна ўставаць, абслужыла, пакуль падлогу ўсюды вымыла, туалет прыбрала — ужо і час абеду. Ішла з вядром па калідоры.

Пры акне, за сваім столікам, сядзела сястра Люся. Павекі падсіненыя, губы намаляваныя, на пальцах дарагія пярсцёнкі. Во якія дзяўчаткі цяпер, як лялькі.

У канцы калідора стаялі двое хворых у бальнічных халатах — мужчына і жанчына. Серафіма часта бачыць іх разам. Ухаджваюцца, ці што? За час работы ў бальніцы чаго толькі не нагледзелася, бывае, тут пазнаёмяцца, палюбяцца, а там, пасля бальніцы, і пажэняцца. Толькі на тым свеце ўсё канчаецца, а пакуль чалавек жывы...

З палаты выйшла матка той, што сёння парэзалі. Во колькі праседзела каля дачкі. Убачыла Серафіму і пачала таропка расшпільваць сваю лакіраваную сумачку. Азірнулася насцярожана і тыц сваю руку Серафіме ў кішэню.

— Нянечка, мілая, вы ўжо маю дачку глядзіце...

Засаромелася Серафіма, зачырванелася.

— Што гэта вы робіце, што, бярыце назад свае грошы, я і так пагляджу, што гэта вы, што...

— Нічога, дзецям.. Унукам на цукеркі... Я вас прашу,— а сама пхае, пхае Серафіміну руку з грашыма назад у кішэню. Паважная, пажылая кабета, а на твары столькі вінаватасці, прыніжэння, просьбы. Шкода жанчыны, ведама, матка, але грошы ўзяць не магла. Як гэта — за людское гора браць грошы.

— Не вазьму,— закруціла галавою Серафіма, сунула грошы назад у сумачку, якую кабета не паспела зашпіліць, пабегла па калідоры.

Ведала Серафіма, што другія нянечкі бяруць. Яе зменшчыца Ванда бярэ і Серафіму называе дурною, што не бярэ. Кажа ўсё: «Якая ў нас зарплата, у людзей пенсія большая, а ім — нічога, калі за сваю і дасць пяцёрку...» І нашто той Вандзе столькі ўжо пяцёрак, адна жыве, у панчоху, ці што, складае.

Не, не можа Серафіма браць у людзей грошы, хоць забіце, не можа. Бегла па калідоры, ледзь палатнага доктара не збіла з ног.

— Ты куды гэтак прытка? — спыніў доктар, узяў-

шы за плячо. Высокі, у белай шапачцы, вочы сінія і вейкі доўгія, быдта ў дзяўчыны.

— А... Так... Бягу...

— Ты пасля работы не ўцякай, мы тут... Адным словам, не ўцякай.

— А чаго? — здзівілася Серафіма.

— Убачыш — чаго.— І пайшоў, як белая здань.

Закралася ў душу падазрэнне. Няўжо помняць? Самой Серафіме толькі ўчора вечарам стукнула ў галаву, што гэта ж ёй сёння пяцьдзесят. Во як гады праляцелі. А ў іх у бальніцы завёўся парадак — як чый дзень нараджэння, у ардынатарскай збірацца і прывячаць. Не кожны год, а на круглую дату. Завёў такі парадак палатны доктар. Летась прывячалі сястру Люсю — дваццаць пяць гадоў. Пазалетась доктарку Марыю Осіпаўну — сорак. Няўжо і яе ўспомнілі? Прыгадалася, што ў ардынатарскай на падаконніку ў крышталёвай вазачцы стаяць чырвоныя гваздзікі. Няўжо ёй? Засаромелася. Хоць ты і праўда пасля работы ўцячы. Хто яна такая — Фімка, каб яе прывячаць? А потым сама з сябе пасмяялася. Што гэта ёй стукнула ў галаву, ці мала чаго сказаў доктар пачакаць, можа, дасць якую работу...

І зноў закруцілася ў сваіх палатах.

Але падазрэнне не пакідала, і, шаруючы ракавіну ў мыцельніку, Фімка лавіла сябе на тым, як нешта наплывала на душу, казытала грудзі — радасна і трывожна.

А пасля работы яе і праўда паклікалі ў ардынатарскую, і калі яна ўвайшла, дактары і сёстры, што сабраліся тут, запляскалі ў далоні. Яны стаялі ўсе — у белых халатах і белых шапачках, усе глядзелі на яе, і ўсміхаліся, і пляскалі, пляскалі ў далоні, а Серафіма саромелася, і здавалася ёй, што не заслужыла яна такой увагі паважных людзей, дактароў і сясцёр. Хіба чалавека, які носіць судны, мые падлогу, чысціць прыбіральні, можна так прывячаць?

Палатны доктар стаў пасярод ардынатарскай і пачаў гаварыць:

— Дарагая Серафіма Гаўрылаўна! Сёння, у такі ўрачысты для вас дзень, мы ўсе хочам вас павітаць... Больш чым трыццаць гадоў вы працуеце ў гэтай бальніцы... Самы старэйшы вы ў нас па стажу работнік... Працуеце сумленна, шчыра... Добрае сэрца...

Фімка чула і не чула, што гаварыў палатны доктар, пад сэрца падкотваў, горла душыў тугі камяк, яна ледзьве стрымлівала слёзы, і хацелася ёй, каб скарэй, скарэй гэта скончылася. А доктар усё гаварыў, гаварыў, потым пачаў чытаць загад па бальніцы, у якім Серафіме Гаўрылаўне Мархель выносілася падзяка за шматгадовую сумленную працу.

Калі доктар скончыў чытаць, ёй падалі пяць чырвоных гваздзікоў — разам з вазачкаю, гэта быў падарунак ад усяго аддзялення. І ўсе зноў запляскалі ў далоні, а Фімка выхапіла з халата шматок марлі, які служыў ёй насоўкаю, і пачала выціраць вочы, нос.

— Дзякуй, дзякуй,— кланялася яна ўсім і больш нічога не магла сказаць, апроч гэтага — дзякуй. Яе сэрца было поўнае любві да гэтых людзей, каб магла, яна кожнага з іх абняла б, пацалавала, яна адчувала сябе зусім маладою і поўнаю жадання рабіць, рабіць нешта для іх, для хворых, для ўсіх людзей на свеце.

Калі скончылася віншаванне і ўсе пачалі разыходзіцца, доктарка Вера Сяргееўна, іхняя мясткомаўка, узяла Серафіму за руку.

— Паслухайце, вось у вас у біяграфіі напісана, што ў час вайны вы былі ў партызанах. Гэта мне наш кадравік сказаў. А дакумента на гэта ў вас ніякага няма... Вы б аформілі сабе дакумент, гэта ж і ўзнагароды палагаюцца, і льготы цяпер, і ваабшчэ...

Фімка шукала, у што схаваць, як данесці дадому кволую прыгажосць, каб не змерзла на марозе. Загортвала ў газету кветкі і гаварыла:

— От, Вера Сяргееўна, няма ў мяне дакумента. Ці думала я там, адразу па вайне, пра тыя дакументы... Дзякуй богу, што жывая засталася. Параненая была...

— От бачыце, і параненая была,— устрэў у размову палатны доктар.— І акрамя дзірак на целе — ніякага знаку... Афармляйце дакумент, Серафіма Гаўрылаўна.

Загарнула ўжо ў газету гваздзікі, узяла ў руку вазачку, пагладзіла тоўстае, з гранямі, шкло, якое іскрылася, адбівала промні дня. Падняла вочы на Веру Сяргееўну, глянула на палатнага доктара, пацiснула плячмі.

— А як жа цяпер аформіш?.. Трыццаць гадоў пасля вайны...

— Шукаць людзей трэба... Што з вамі былі... Свед-

кі трэба... Па сведках можна аформіць дакумент,— сказаў палатны доктар.

— А,— махнула рукою Серафіма.— Столькі гадоў пражыла без дакумента... Што ўжо цяпер...

## 2

Яна ехала дадому, трымаючы загорнутыя ў газету кветкі, абараняючы іх ад штурханіны ў аўтобусе, каб не зламалі, не пакамечылі. Свежыя гваздзікі зімою, гэта ого-го, яны і грошай вялікіх каштуюць. Крыштальная вазачка ляжала ў гаспадарчай сумцы, без якой Фімка ніколі не выходзіла з дому, без сумкі Фімка не ведала б, што рабіць з рукамі, яна быдта прырасла да пальцаў, гэта выцертая ўжо, з зялёнай цыраты, сумка. Пустая яна сплюшчвалася і худзела, напакаваная прадуктамі, напіналася. Калі Фімка адчыняла дзверы ў кватэру, то і Таня, і дзеці найперш кідалі позіркі на сумку, і калі была яна тоўстая, то дзеці не давалі і да кухні данесці, распакаваць, залазілі ў сумку рукамі, шукалі ў ёй сабе радасці. І Фімка ніколі не забывалася купіць малым хоць сто грам ледзяшоў, хоць пачак пячэння, каб не ашукаць іх надзеі на ласунак.

І сёння, хоць вельмі хацелася скарэй дадому, каб расказаць, як яе прывячалі, паказаць кветкі, вазачку, усё ж забегла ў магазін, накідала ў сумку прадуктаў і дзецям, хоць не маленькія ўжо, купіла загорнуты ў цэлафан пачак цукерак.

Жыла Фімка ў тым самым доме, у якім жылі яны некалі да вайны і дзе, вярнуўшыся пасля ранення, знайшла яна сваю, дужа парадзелую, сям'ю. Два гады не бачыла Фімка мацеры, не бачыла братоў і сясцёр. За тыя два гады маці пастарэла, можа, год на дзесяць. Пахавала дваіх дзяцей — хлопчыка Колю і дзяўчынку Валю, памерлі ад нейкай цяжкой дзіцячай хваробы. Не было пры немцах дактароў, не было бальніц, лякарства, каб лячыць. Бацьку схапілі ў аблаву немцы. Пайшоў на базар яды якой расстарацца — дала яму маці дзесяць марак, недзе раздабытых. І не вярнуўся бацька. Усё чакала маці — можа, на якую работу пагналі, можа, пусцяць потым дадому. Але бацька не вярнуўся, хоць маці і не верыла ў яго смерць, да сваёй канчыны ўсё чакала.

Адгаласіла яна і па старэйшай дачцэ, але Фімка

вярнулася. І радасць адплакала матка сваімі чорнымі запалымі вачмі.

Не ў раскошы жыла Фімка тыя два гады — спачатку ў зямлянцы партызанскай, потым у беднай вясковай кабеты, але што ўбачыла дома — жахнула. Чорныя сцены і столь у хаце, брудныя транты на пасцелях, клапы, абадраныя галодныя дзеці — Таня і Косцік. Маці састарэла і хворая зусім — кашляе і кашляе. На адну Фімку цяпер спадзяванне, бо Косціку ўсяго пятнаццаць, а Тані — шэсць.

Зразумела Фімка — на работу ёй трэба хутчэй, на работу. Але куды, што яна ўмее рабіць? Успомніла партызанскі шпіталь. Пайшла ў бальніцу.

— Ці трэба вам санітаркі?..

Санітаркі былі патрэбныя. Фімку ўзялі. Больш чым трыццаць гадоў таму назад. З таго дня і працуе Фімка ў бальніцы.

Яе работа была для сям'і збаўленнем ад голаду. Вышкрабала з катлоў недаедзеныя хворымі кашу, суп, насіла дзецям. Выкідалі, спісвалі ў бальніцы падраныя халаты, просціны, і добрая сястра-гаспадыня аддавала нешта з гэтых трантаў Фімцы. Маці перакройвала тыя выцвілыя драныя халаты на блузкі, сукенкі той жа Фімцы, Тані, на кашулі Косціку. З падраных прасцін нешта выбіралі сабе на пасцелі.

Разам з акрыяўшаю маткай пачысцілі, памылі хату. Здаецца, цяпер можна жыць.

Ды занадта надарвалася матка за гады акупацыі, усяго дзве зімы пражыла яна пасля вайны. Памерла. Засталася Фімка маткаю і Косціку, і Тані. Ну, Косціка скора ў армію ўзялі, а пасля арміі асеў недзе на Далёкім Усходзе. Раней яшчэ пісаў Фімцы, Тані, а вось ужо гадоў дзесяць ні слыху пра яго, ні дыху, адарваўся зусім, адкалоўся. Мусіць, добра недзе яму, калі радню не ўспамінае.

А Таню Фімка так і выгадавала, і цяпер з ёю жыве, як з дачкою. Ваню, мужа Танінага, зяцем лічыць, а дзяцей Таніных — унукамі, хоць і замаладая Фімка для такіх унукаў. Ды і тое шчасце, што ёсць пры кім жыць, ёсць для каго жыць, каго любіць, не дай бог на старасць адной застацца, як тычка ў полі. Як тая Ванда, што пяцёркі з хворых бярэ. На чорта тыя і пяцёркі.

А жылі яны і цяпер у тым самым доме, што і да вайны, за трыццаць гадоў разы два яго рамантавалі,

шпалеры клеілі. Апошнія гады ўжо не рамантуюць, на знос пазначаны іхні дом. І то дзіва, як дасюль уцалеў, з усіх бакоў абкружылі гмахі пад неба, а іхні дом урос у зямлю, вокны, дзверы скасабочыліся. Побач яшчэ дзве такія дапатопныя хаткі стаяць, дык з тых людзі ўжо выбраліся, падавалі ім ужо кватэры, і стаяць тыя хаткі з павыманымі рамамі, праз якія свецяцца сцены з абадранымі шпалерамі, чакаюць хаткі сваёй канчыны, хоць і цяпер яны ўжо як мёртвыя — не чуваць чалавечага голасу, дзіцячага смеху. Некалі так будзе і з іхнім домам, і Фімцы шкода іхняй развалюхі, столькі пражыта ў гэтых сценах, столькі пагрэліся каля гэтай грубкі, а прыйдзе бульдозер — і як языком усё зліжа. Але хоць і шкода трухлявых сцен, пабітай грубкі, хочацца хутчэй займець новае жытло, дзе гатуюць для іх столькі раскошы — і ацяпленне, і гарачую ваду, і газ, і ванну, і ўсе іншыя выгоды.

Шарганула Фімка брамкаю ў пахіленымззелянелым плоце, пайшла сцежкаю між гурбаў снегу, адчыніла дзверы. Ударыла цеплынёй і пахам, які плавае толькі ў гэтым доме, вісіць толькі пад гэтай столлю, якога больш няма ў цэлым свеце.

У зале — так называлі большы, святлейшы, пакой, звінелі галасы Тані і Ларысы, Таня ўшчувала дачку, тая агрызалася. Мусібыць, учулі, што прыйшла Фімка, выбеглі да яе ў калідор. Ларыса, як заўсёды, шась руку ў сумку, абмацала пакет з цукеркамі, выцягнула.

Таня выхапіла з рук у дачкі пакет, замахнулася:

— Не дам! І ты іх не дуры! Распесціла! Такая дзеўка, а талеркі за сабою не памые!

— Ат,— махнула рукою Фімка.— Знайшлі час...

Ёй здавалася, што сёння такі дзень, калі ўсё мусіць быць іначай — Таня не будзе сварыцца ні з мужам, ні з дзецьмі, усе будуць ласкавыя, добрыя між сабою і да яе. І праўда, чаго сварыцца, злавацца, хіба нельга падобраму...

— А што не час, чаму не час, што сёння — дзень святы? — накінулася яна і на Фімку.

Тая трымала перад сабою загорнутыя ў газету кветкі, усміхалася.

— Можа, і святы...

Яна паставіла сумку на падлогу, разгарнула газету.

— А-а! — разявіла рот Таня.— Гваздзікі! Адкуль?

Фімка свяцілася радасцю. Божа мой, якое шчасце, што ёсць каму расказаць пра радасць, гэта ж каб жыла адна, каб прыйшла ў пустую хату...

— На рабоце... Мне сёння пяцьдзесят...

Таня апусціла рукі, заморгала вінавата.

— То чаму не сказала?.. Я і забылася...

— Ат,— зноў махнула рукою Фімка.— Я і сама толькі ўчора ўспомніла. А на рабоце... Так усё хораша абгаварвалі... Благадарнасць напісалі, і вазачка там, у сумцы...— Яна падхапіла сумку, панесла ў кухню. Таня і Ларыса пайшлі за ёю.

Павымаўшы пакеты з крупою, з малаком ды фаршам, Фімка дабралася і да вазачкі. Ларыса схапіла яе, пачала аглядаць на святло. Грані пераліваліся жоўтым, сінім, ружовым колерамі.

— Крыштальная,— сказала з павагаю. Наліла ў вазачку вады, апусціла туды кветкі, панесла, паставіла ў зале на стол.

— Ну, калі так,— сказала Таня, быдта прыняўшы нейкае рашэнне, і пайшла ў спальню. Адтуль пачула Фімка яе голас:

— Ваня... Іван... Падніміся... Збегай у магазін, пакуль сямі няма, купі паўлітра...

Пры слове «паўлітра» Ваню як ветрам падхапіла, падняўся, быдта і не спаў, глядзеў на жонку з дзівам.

— Во як цябе будзіць трэба,— смяялася Таня.— Толькі шапні — «паўлітра»...

Іван выйшаў са спальні, папраўляючы кашулю, штаны, правёў рукою па валасах. На твары яшчэ былі знакі сну, але вочы глядзелі ўжо чыста. Таня калупалася ў сумачцы, шукала грошы.

— А што сёння за свята? — радасна дзівіўся Іван. Ён любіў выпіць, і калі бывалі спрэчкі ў Тані з мужам, то толькі за гэта, за выпіўку. Адным часам ледзь не дайшло да разводу, каб не Фімка, то ўжо выгнала б Таня свайго Івана, Фімка ўлагодзіла сястру.

— Серафіме сёння пяцьдзесят,— сказала Таня, падаючы Івану чырвонец.

З дзяцінства прывыкшы называць старэйшую сястру Фімка, Таня і цяпер яе так называла, толькі зрэдку, у хвіліны якой расчуленасці, дабрыні, якія ў Тані бывалі не вельмі часта, называла яе Серафіма. Вось і цяпер сказала — Серафіме...

Як жа хацела некалі Фімка, каб Таня вучылася,

каб паступіла ў які інстытут, яна сама так шкадавала, што засталася недавучкаю — не было за чыёю спіною вучыцца, сям'ю на плечы ўзяла. Але Таню ніколі не вабілі кніжкі, і на школе яе навука скончылася, працуе цяпер маляром у рамонтнай канторы, прыробак часта мае і зарабляе някепска. Іван токарам на заводзе працуе, таксама добрую капейку мае, каб не выпіваў, залаты чалавек быў бы, але выпівае...

Цяпер, прадбачачы легальную, са згоды жонкі, выпіўку, ён прытка ўздзеў палітон, кінуў на галаву шапку, ступіў у цёплыя чаравікі.

— Каб за бульбаю ці за хлебам пасылала, то гадзіну збіраўся б, а так, бач, як скора,— нязлосна бурчала Таня.

Потым яны сядзелі ўтраіх за сталом — дзяцей не любіла Фімка трымаць пры бутэльцы, накарміла — і марш па сваіх кутках, вучыць урокі. Ларыса ў восьмым класе, дадому чацвёркі, пяцёркі прыносіць, навучылася іграць на мандаліне, хоча паступіць у інстытут культуры. Во каб даў бог! А Мішка яшчэ ў пятым, у таго ў галаве футбол, хакей, чаравікаў не напасешся, кніжку таксама не вельмі любіць. У гэтай сям'і калі хто і любіць чытаць, дык гэта Фімка, то з бальніцы кнігу прынясе, з бібліятэкі, а то і ў магазіне купіць, калі якая спадабаецца. Як вольная хвіліна — так за чытанне і хапаецца. І верыць усяму, што там напісана, верыць, што так і праўда ўсё было.

Яны сядзелі за сталом, закусвалі. Большую долю гарэлкі ўсмактаў, канечне, Іван, Таня выпіла чарачку, ну і Фімка разы два прыгубіла. Закусвалі катлетамі, зробленымі з купленага Фімкаю фаршу, смажанаю бульбаю, капустаю, якую самі ставілі на кожную зіму.

У бутэльцы яшчэ крыху аставалася, і Таня разліла па чарках роўна ўсім, падняла сваю, загаварыла:

— За тваё здароўе, Серафіма... Ты мне была, як матка... І цяпер як матка... І дзецям маім...— Яна шморгнула носам, падняла фартух, выцерла вочы.— За тваё здароўе!

І выпіла да дна. І расчуленая Фімка да дна выпіла, Іван выліў сабе на язык рэшткі. Зноў пачалі закусваць, і зноў Фімка пачала расказваць, як прывячалі яе ў бальніцы, як доктар чытаў падзяку, як падарылі ёй кветкі, вазачку.

І раптам Таню як хто падмяніў. У вачах, толькі

што мокрых, расчуленых, загарэўся нядобры агеньчык, у голасе з'явілася яхідства. Ці гэта гарэлка ў ёй загаварыла?

— Благадарнасць... Вазачку за пятнаццаць рублёў... Гваздзічкі... За тваю работу маглі і большае даць... У нас вунь на юбілеі — і прыёмнікі дораць, і гадзіннікі... А то — вазачку... Благадарнасць...

Фімка глядзела на Таню з дзівам. Чаго гэта яна? Што за шляя пад хвост папала?

— Дасюль у гнілой хаце сядзім! Людзі толькі ў горад прыязджаюць, і ўжо ім кватэры, як палацы, а ты... Яшчэ ў партызанах была... Хлусіш ты, мусіць, ні ў якіх партызанах ты не была, хто быў у партызанах, то цяпер у вялікіх начальніках ходзіць...

Застыла Фімка з відэльцам у руцэ, глядзела на Таню і слова не магла сказаць. Гэта ж трэба выдумаць такое — схлусіла, не была ні ў якіх партызанах.

— Зманіла... Ці я табе калі маніла? На грудзі мае паглядзі, нямецкімі кулямі...

І не магла больш нічога сказаць ад крыўды. Можа, і праўда Таня думае, што яна зманіла пра партызанства... І ў бальніцы, можа, думаюць, што зманіла... Падзівіліся ж, чаму няма дакумента...

— Ды я гэта так сказала, ад злосці на цябе,— пачала апраўдвацца Таня.— Веру я табе... Але ты век дурная была і цяпер засталася дурная... Каб быў у цябе дакумент партызанскі, то не сядзелі б мы столькі гадоў у гэтым хляве, у ванне б ты даўно мылася. І цяпер — кватэры во будуць даваць, то нам бы, як сям'і, асобную, і табе асобную...

— А навошта мне асобную, я ж з вамі жыву...

— От я і кажу — дурная... Ты ж не матка, ты сястра, табе асобная палагаецца, а яшчэ як былой партызанцы...

Зашкрабло ў Фімкі ў грудзях, сумна зрабілася, і быдта стол з Таняю, з Іванам ад яе адсунуўся, быдта тыя ўжо за сталом разам, а яна збоку, адна.

— То вы без мяне жыць хочаце?

Сашчапіла Таня рукі, глядзіць на Фімку, як і праўда на дурную.

— Усе людзі стараюцца як лепей, паглядзі на Кукарэкавых, яны ўсім дзецям асобныя кватэры парабілі і сабе на дваіх — асобную. Мы ж можам і так — пакуль не дадуць, што мы хочам, і не пайсці з гэтай

хаты, а хату трэба зносіць, нам і дадуць, што мы захочам, колькі людзей так робяць... Але я сама не хачу скандалу, каб дакумент у цябе быў партызанскі, то лягчэй, як сям'і партызанскай... Табе далі б асобную, а потым мы памянялі б... Яшчэ лепшую кватэру сабе выменялі б.

Хмель чырвонымі ружамі цвіў на Таніных шчоках, вочы блішчалі азартам, і было ў іх нешта цвёрдае, упэўненае, у Фімкі такога век не было, ніколі не адчувала сябе так цвёрда на зямлі, заўсёды ёй здавалася, што нехта можа піхнуць, пакрыўдзіць. Ніколі Фімка не была ўпэўненая, што трэба та̀к рабіць, заўсёды нечага быдта баялася, а найбольш баялася, каб каго не пакрыўдзіць, каб усё выходзіла па справядлівасці. Па справядлівасці не столькі да яе, як да людзей.

А Таня ўжо не такая, гэта цвёрда ходзіць па зямлі і гаворыць голасна, яна заўсёды ведае, чаго ёй трэба і колькі трэба, гэта ўжо глядзіць, каб справядліва было ёй, а не чужой цётцы, тая хай сама сабе справядлівасці дабіваецца.

— Дык дзе ж я вазьму той дакумент, цераз трыццаць гадоў? — ціха спыталася Фімка.

— Ты вось што,— дзелавіта пачала Таня.— Ёсць такая кантора, такое ўчраждзенія, там запісаны ўсе партызанскія атрады і ўсе партызаны. Можа, і ты там запісаная, ды не знаеш... Трэба туды найперш схадзіць...

— А дзе ж яна, тая кантора? — з цікавасцю спыталася Фімка.

— От, я сама не ведаю, але спытаю, я рамонт цяпер раблю ў аднаго вельмі граматнага чалавека, ён усё знае, у яго спытаю...— Таня на міг задумалася, уздыхнула...— Паглядзела б, як людзі жывуць... Утраіх у кватэры метраў на сто... Паркет кругом, кафля, шпалеры імпартныя... Дзве прыбіральні...

Іван, які дасюль моўчкі сядзеў за сталом, узяў бутэльку, нахіліў, шукаючы, ці не засталося чаго на дне, але бутэлька была пустая. Ён уздыхнуў, паставіў яе, сказаў, як праспяваў:

— От чаго табе не хапае, дык гэта дзвюх прыбіральняў... З адной бы ў другую бегала...

Таня глянула на мужа, як цвіком да сценкі прыбіла.

— А табе нічога не трэба! Апроч бутэлькі нічога

не трэба!...— Яна перадыхнула крышку і ўзяла яшчэ грамчэй: — Снег пры ганку не расчысціш, вады не прынясеш, дроў не напіліш!..

— А хто ж табе ўсё гэта робіць? — падняў голас і Іван.

— Робіш, калі сто разоў носам ткнеш, а сам і не дадумаешся, учора за шафкаю бутэльку віна знайшла, схаваў, думаў, не знайду!..

І павяло... Перакінула Таня свой азарт на мужа, цяпер не скора скончыцца іх перапалка. Паднялася паціху Фімка, пачала са стала прыбіраць.

А ноччу ляжала ў сваёй пасцелі і ніяк не магла заснуць. За акном усчаўся вецер, шастаў, шкроб галінамі голага бэзу па сцяне, па шыбе, грымеў па даху кавалкамададранай бляхі. На міг заціхала ўсё ў двары, і тады чуўся ціхі ход гадзінніка на сцяне, вуркатанне халадзільніка, што даносілася з кухні, ціхае дыханне старога дому, які раптам, бы стары чалавек у сне, пачынаў крактаць, уздыхаць вугламі сцен, што ўсё больш асядалі, улазілі ў зямлю, рассохлаю палавіцаю, крывою столлю.

Акно бялела замерзлаю шыбаю з палоскаю ўзору, падобнаю на лес, на елкі, што стаяць сцяною. Па краях мерзлага ўзору бліскалі, адбіваючы гарадскія начныя агні, дробныя бліскучыя сняжынкі. І не сціхаў, быдта з-пад зямлі, бясконцы гул горада.

Перад Фімкаю адзін за адным усплывалі вобразы дня — то палатны доктар, які чытаў ёй падзяку, і чуліся яго словы — «За сумленную працу...» «Добрае сэрца...». То чырвоныя гваздзікі, як везла яна іх у аўтобусе, каб не пакамечыць, то Танін твар за сталом і яе горкія словы: «Ты век дурная была і цяпер дурная...»

Можа, яна і дурная, але што ж ёй рабіць, які чалавек урадзіўся, такі ёсць... Ну не магло ж ёй стукнуць у галаву тады, адразу пасля вайны, што трэба ісці афармляць дакумент, даказваць сваё партызанства. Нашто ёй гэта было? І ці да таго было? Рабіла, дзяцей ад голаду ратавала, матку хворую глядзела. Ды што яна і рабіла ў тых партызанах — не хадзіла ж у разведку, на заданні, а што параніла, дык кожнага дурня параніць можа, і яе б, можа, не параніла, каб у таго немца аўтамат забрала, дык жа варона была, не забрала...

Часам, між клопату, між работы, успамінала Фімка той час, Святланку ўспаміналa, доктара, думала — дзе яны цяпер, ці жывыя засталіся? Ці выжыў тады Мурмонь? І, як іголка ў сэрца — Ромка... У яе ж пасля Ромкі ніводнага мужчыны не было...

Зноў усчаўся вецер, зноў шкрэблі, стукалі ў шыбу галіны змерзлага бэзу, быдта прасіліся ў хату, у цяпло, зноў грымеў, быдта громам, кавалак ададранай бляхі і шу-шу-шу, шу-шу-шу — шумела, спявала за акном мяцеліца. Застагнаў, скрыпнуў зубамі праз сон Іван — спалі з Таняю за тонкаю перагародкаю. І зноў сцішвалася ўсё, таілася, прыкрытае цёмным полагам ночы.

«Дакумент, дакумент»,— думае Фімка.— На чорта мне той дакумент... Толькі вось людзям, мусібыць, трэба... Доктарцы Веры Сяргееўне... Таксама ж казала — чаму няма дакумента... Тані трэба... Дзецям... Можа, лепшую кватэру дадуць?.. Можа, і праўда дадуць ёй асобную?.. Хоць нашто ёй асобная... Хіба каб потым і праўда памяняць і выгадаць Тані з дзецьмі яшчэ лепшую...»

Павярнулася Фімка на бок, уздыхнула. Заплюшчыла вочы — спаць, спаць. Але сон не прыходзіць. Нешта яшчэ трывожыць, падступае да грудзей. Не выгада, не карысць з таго, што дакумент аформіць... Нешта іншае. Жыла ж яна, усё-такі, у зямлянцы... Мыла бінты, варыла параненым есці... Ляжала на Мішкавых, ды ці толькі на Мішкавых, нагах, пакуль доктар кулі выкалупваў... Была ў партызанах, як ні круці, а знаку, як той доктар сказаў, акрамя дзірак на целе, ніякага... Для душы, для сэрца, для тых жа людзей. Вунь тая, Зіна Патапава, як усюды пра яе пішуць, гавораць... Былая партызанка... Яе фатаграфію Фімка выразала з часопіса, некуды схавала, у некую кніжку паклала. На той фатаграфіі Зіна Патапава — сталая ўжо, у гарнітурчыку і белай блузачцы, з медалямі на грудзях, гаворыць нешта піянерам і ручкаю ўгору паказвае. Пазнала яе Фімка, адразу пазнала, ды і падпісана ж — Зінаіда Юр'еўна Патапава... І пастарэла мала... Такі ж прывабны, ясны твар... Можа, і Ромка недзе жывы, можа, ходзіць па тым жа горадзе, па тых жа вуліцах, ды не спатыкаюцца.

Спакайнее ў Фімкі ў грудзях, пачынае гайдаць на арэлях сваіх дрымота, павалі апускаецца ў мяккі сон.

А назаўтра на вуліцы зноў забівае дыханне мароз, зноў аўтобус з замураванымі інеем вокнамі, жоўтыя ад электрычных лямпачак калідоры бальніцы і вочы хворых, для якіх прыход Фімкі — канец цяжкой ночы, пачатак новага дня, ад якога чакаюць лепшага. Закруцілася ў сваім калаўроце, пабеглі калёсы па сваёй каляіне, быдта і не выбівала іх ніколі лішняя турбота, не заварочваў ніхто яе каня аглоблямі назад, на мінулае. І ўсё-такі, усё-такі... Не-не той конь ды азіраўся, і ўсё ясней бачыла Фімка то Ромкаў твар, то твар той жа Зіны Патапавай, збялелы твар Мурмоня, якога пакінула, укрытага посцілкаю, на зямлі. Усплывала перад вачыма полымя партызанскага вогнішча, чуліся пах самагонкі, што давалі параненым перад аперацыяй, пах скрываўленых бінтоў. Хацелася ўжо, каб нехта пацвердзіў, што ўсё гэта не прыснілася, што было тое наяве, было...

## 3

Кліент, у якога рабіла Таня рамонт, сам некалі быў у партызанах, ён падрабязна растлумачыў, куды павінна пайсці Фімка, дзе шукаць слядоў свайго баявога жыцця.

І Фімка наважылася. Праўда, з дня на дзень адкладала, адкладала, усё не было часу, ды і сорамна чамусьці было ісці, не верыла, што мае на гэта права, не верыла, што і знойдзецца ў той канторы які след.

І ўсё-такі аднойчы сабралася. Па адрасу, які запісала Таня, знайшла дом. Адчыніла цяжкія драўляныя дзверы. Увайшла ў цемнаваты, з высокаю столлю, вестыбюль. Пры лесвіцы, якая вяла на паверхі, за столікам з тэлефонам сядзеў міліцыянер. Фімка спынілася пасярод вестыбюля, не адважваючыся спытаць у яго — куды ёй паткнуцца са сваёю просьбаю. Міліцыянер сам спытаў у яе:

— Вам каго трэба?

І Фімка збіўчыва пачала тлумачыць, што вось, трэба ёй аформіць дакумент... Была ў партызанах...

Міліцыянер паказаў ёй рукою на сцяну, злева, і толькі цяпер Фімка ўбачыла, што гэта не сцяна, а перагародка ў вестыбюлі, а ў ёй, як у касе на вакзале,

ваконца. У гэтым ваконцы Фімка ўбачыла і вяршок светлай жаночай галавы, а потым і цёмнае вока, што глянула стуль раўнадушна.

Фімка нясмела падышла да ваконца. Цяпер добра ўбачыла жанчыну са светлымі, акуратна ўчасанымі валасамі, з цёплаю хусткаю на плячах — мароз даходзіў і сюды. Кабета наставіла на Фімку чакальны позірк, і тая, як нядаўна міліцыянеру, пачала збіўчыва тлумачыць, чаго прыйшла.

Жанчына скора зразумела, што трэба гэтай прасіцельніцы, зашастала перад сабою на стале паперкамі, падала ў ваконца разлінаваны лісток.

— Запоўніце анкету...

Фімка ўзяла лісток. Пакруцілася, азіраючыся, ці ёсць тут дзе прыткнуцца, і ўбачыла каля загародкі столік з плямамі ад чарніла, на ім чарніліцу і ручку, крэсла пры стале.

Апусцілася на тое крэсла, пачала чытаць анкету. Былі ў ёй пытанні, на якія Фімка магла лёгка адказаць — прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, з якога часу па які знаходзілася ў партызанах. Але было і такое, чаго Фімка не ведала. У якую брыгаду ўваходзіў іхні атрад, у якое злучэнне, дыслакацыя... Называўся іхні атрад імя Чапаева, гэта ведала Фімка, а брыгада, злучэнне... А што такое дыслакацыя? Саромеючыся сваёй цемнаты, падышла, спытала ў жанчыны за ваконцам. Тая крышку пагардліва растлумачыла, што дыслакацыя — гэта месца, тэрыторыя, дзе дзейнічаў атрад.

Макаючы пяро ў густое, застылае чарніла, пачала Фімка запаўняць тую анкету. Пяро драпала, за яго нешта чаплялася — не то валаскі, не то шматкі паперы, літары выходзілі непрыгожыя, крывыя. Што ведала, тое напісала, чаго не ведала — пакінула лінеечкі пустыя.

Жанчына за ваконцам пачытала анкету, пакруціла ў руках.

— Зайдзіце праз два тыдні...

І гэта — «зайдзіце праз два тыдні» — напоўніла сэрца надзеяй. З яе не пасмяяліся, што праз трыццаць гадоў прыйшла шукаць сваіх слядоў, не адправілі адразу, заявіўшы — нічога не ведаем, а далі анкету, будуць шукаць. Мусібыць, не адна яна так прыходзіць, мусібыць, яшчэ такія людзі ёсць, што адразу, па вай-

не, свайго партызанства не даказвалі. Можа, у якіх спісках ёсць і яна...

Жыла тыя два тыдні з адчуваннем нечага новага ў сабе... Быдта яна стала крышку інакшай.

Таня сказала, што калі аформіць дакумент, то ёй палагаецца і медаль партызанскі, гэта той кліент ёй гаварыў. А можа, і ордэн палагаецца, яна ж была параненая. Ну, ордэн-то, як лічыла Фімка, для яе занадта, а медаль... Медаль, чаму ж не... І Фімка ўбачыла, як яна з медалём на халаце ўваходзіць у палату да хворых. І хворыя дзівяцца, гавораць: «Мы думалі, што вы, Серафіма, проста нянечка, а вы, аказваецца, ого-го!..»

Не, на халат медаль чапляць няможна, трэба на сукенку ці на кофтачку. Гэта ў ардынатарскую яна зойдзе, скіне халат. І ўсе дактары, сёстры скажуць: «Ну, вось цяпер тое, што трэба... Вы не проста нянечка Серафіма, а былая партызанка, во!»

І саромелася Фімка такой радасці, і жыла ёю. Цэлых два тыдні.

А праз два тыдні жанчына з прыгожа ўчасанымі валасамі сказала раўнадушна, што ні ў якіх спісках Серафіма Гаўрылаўна Мархель не значыцца...

## 4

Перад тым як патушыць святло, Фімка абвяла вачыма хворых, што пасцішваліся на сваіх койках, паўкрываліся коўдрамі, спытала да ўсіх:

— Ну, калі што каму трэба, то кажыце, бо зараз пайду, потым клікаць будзеце...

Гэты тыдзень яна дзяжурыла ўночы. І добрым было начное дзяжурства, і кепскім. Добрым, калі спакойнае, тады і падрамаць крыху можна, саставіўшы два крэслы ў калідоры, на адно прымасціўшы галаву, на другое ногі. І дзень назаўтра вольны, можна і ў хаце папратаць, і бялізну памыць, і абед свяжэйшы зварыць, каб не кіс у каструлі суп дні па чатыры. Бо Таня так нашмаруецца за дзень тым пэндзлем, што дадому прыйдзе — рук падняць не можа. Ды нейкая зайздросная зрабілася, усё болей, болей хоча зарабіць, пасля работы бяжыць на халтуру. Колькі разоў казала ёй Фімка:

— Не рві жылы, усіх грошай не заробіш.

А тая сваё:

— Кватэра во будзе — трэба мэбля новая, не цягнуць жа гэта барахло ў новыя сцены... Тэлевізар трэба каляровы... Ларысе то боцікі дай, то футра... Усе людзі цяпер багата жывуць, чаму нам горай?

Не хоча Фімка, каб Таня з дзецьмі жыла горай, няхай жывуць добра, багата, але нашто так выжыльвацца, здароўе губіць. Хто-хто, а Фімка ведае, куды варты чалавек, страціўшы здароўе. Ляжаць во, як гліна, і не трэба ім ні боцікаў, ні мэблі.

Добра начное дзяжурства, калі спакойнае, але рэдка бывае спакойнае, чамусьці іменна ўначы злыя духі апаноўваюць чалавека. Прывозяць у бальніцу з прыступамі найболей уначы і часта адразу на стол, пад нож. А пасля аперацыі Фімка сядзіць ужо пры хворай, тут не падрэмлеш. І паміраюць часцей уначы, і ў бальніцы, і не ў бальніцы...

— Дзякуй, нянечка, нічога не трэба, ідзіце адпачываць,— за ўсіх адказала жанчына, што ляжала пры дзвярах, цяжка хворая. Яна была прыкрыта коўдраю да падбародка, твар бледны, упалыя шчокі, у вачах быдта бездань і немата. Не спадабаліся Фімцы вочы кабеты. Нешта ў іх было быдта з невядомасці, быдта бачылі яны тое, чаго не зналі іншыя людзі. Ну, ды, можа, у прыцемку... Лямпа свеціць слаба, пад самаю столлю вісіць, маленькая. Ва ўсіх палатах слабыя электрычныя лямпачкі. А што тут хворым — чытаць, пісаць вечарамі? Абы відаць было, куды ступіць, падняўшыся з пасцелі.

Пстрыкнула Фімка выключальнікам, патушыла і гэта слабое святло. Збіралася пайсці ўжо з палаты, як паклікала хворая, што ляжала ў кутку, пры сцяне. Яе прывезлі ўчора з вялікімі болямі, болі ўколамі паздымалі, але назначылі аперацыю, на заўтра.

Як толькі Фімка выключыла лямпачку, у палаце зрабілася цёмна, але цяпер патроху святлела. За акном палаты гарэлі на слупах ліхтары, праз шкляныя дзверы плыло святло з калідора. І Фімка добра бачыла спалоханы твар маладой жанчыны, вочы, поўныя трывогі.

— Пасядзіце каля мяне, нянечка...

Фімка ўзяла табурэтку, што стаяла воддаль, прынесла, села.

— Я так баюся, так баюся,— паднялася жанчына

вышэй на падушцы.— Як падумаю, што заўтра аперацыя, то проста не магу...

Фімка і сама баялася таго вялізнага пакоя са сталом пасярэдзіне, з вялікімі лямпамі, што над ім віселі. Фімка ведала, як ярка гараць тыя лямпы, калі на стале — чалавек. Сама яна ніколі не бачыла тут, у бальніцы, аперацыі, але як жывога ўяўляла таго чалавека... І кроў... І рабілася шкода... Рабілася страшна... Бачыла яна, як часта ішоў у тую аперацыйную чалавек сваімі нагамі, каторы з іх ішоў і ўсміхаўся, а адтуль ужо везлі на каталцы, везлі белага, без крывінкі на вуснах, са спакутаваным тварам. Каторы і вачэй не мог адплюшчыць. Але ведала Фімка, што з таго стала рэдка, вельмі рэдка кіравалася каталка ў морг, а было як закон, што, адбалеўшы сваё, чалавек уласнымі нагамі, здаровы выходзіў з бальніцы. Так што там, на тым стале, ратунак...

— А чаго ж вам баяцца? — нахілілася Фімка над кабетаю.

— Балець будзе...

— І не будзе балець... уколы такія зробяць, што і балець не будзе.— Хацела яшчэ сказаць — гэта не тое што некалі ў нас, у партызанах, ды пасаромелася. «Ваша прозвішча ў спісах не значыцца»,— сказала тая жанчына. А калі не значыцца, то чым дакажаш, што не хлусіш?..

— Мне і цяпер ужо нічога не баліць, можа, адмовіцца ад аперацыі?

Фімка пакруціла галавою.

— Не баліць, бо ўколамі боль знялі, а вернецеся дадому, і зноў схопіць... Тады, можа, і позна будзе...

Жанчына слаба ўсміхнулася.

— Вы гаворыце, як доктар... Мне і доктар так сказаў...

— А што ж вы думаеце... Я тут даўно... усякага нагледзелася, начулася... Адна таксама, так во боль адпусціў, яна і завялá — дадому і дадому, не трэба аперацыі... А праз два тыдні зноў прывезлі... Прабадзенне... Ледзьве ўратавалі...

Жанчына слухала ўважліва і трывожна, хмурыла бровы. Шморгнула носам. Выцерла яго ражком прасціны. Спытала ціхім шэптам:

— Можа, вы малітву якую знаеце? Сказалі б мне... Я б памалілася...

Здзівілася Фімка — маладая жанчына, а такое просіць. Вось ужо праўда, як трывога, дык да бога... Паправіла на жанчыне коўдру, сама не ведае, адкуль такое ўзялося, адкуль стукнула ў галаву.

— А вы прашапчыце тры разы: «Рукі добрыя, рукі белыя, бяду маю вазьміце, нікому не дарыце, на агні спаліце...» Запомнілі?

— Ага... Рукі добрыя, рукі белыя...

Фімка памагла:

— Бяду маю вазьміце, нікому не дарыце...

— На агні спаліце...

— Во так,— шаптала Фімка жанчыне на вуха.— Тры разы скажаце, і ўсё, можаце спаць спакойна, заўтра ўсё будзе на яць...

Жанчына раптам падхапілася з падушкі, нахілілася, палезла ў тумбачку, што стаяла пры ложку. Пачала адтуль вымаць — яблыкі, плітку шакаладу, соваць Фімцы ў рукі.

— Вазьміце, нянечка, вазьміце, мне напрыносілі, а я ж не магу есці, і няможна...

— Ой, не, не,— замахала Фімка рукамі.— Не вазьму!.. Цяпер не з'ясцё, потым адужаеце, а я — не!

— Ды мне яшчэ нанясуць, вазьміце,— умольна, ледзь не са слязьмі, прасіла маладзіца.

— Няможна... Калі вазьму — малітва не паможа,— сказала Фімка.

Жанчына застыла з тымі яблыкамі і шакаладкаю ў руцэ.

А Фімка і праўда не магла, не магла, хоць забіце, браць у хворых пачастункі. Не даваў браць нейкі забабонны страх, быдта ўзяўшы ў хворай яблык ці шакаладку, яна і хваробу возьме на сябе ці на Таню, на дзяцей. У хворай той бяды не забярэ, а сабе таксама наварожыць.

— Дайце сюды,— узяла Фімка ў жанчыны яблыкі, шакаладку.— Самі не з'ясцё, то аддасцё той хворай, якой не прыносяць... Ёсцека тут такія... На тым вунь ложку, бачыце? — Фімка паказала на жанчыну, што ляжала, укрыўшыся з галавою, выставіўшы з-пад коўдры толькі нос.— Ёй ніхто не прыносіць... А мне не трэба... Лажыцеся, спіце.

Укрыла Фімка хворую, пастаяла з хвіліну каля яе, узяла табурэтку, паставіла там, дзе ўзяла. Пайшла з палаты, у душы ўсміхаючыся. Во як прыдумала... Быд-

та хто навучыў... «Рукі добрыя, рукі белыя...» А што, рукі нашага палатнага доктара і добрыя, і белыя... Няхай памоліцца доктару...

Ціха ў палатах, паснулі хворыя. Сястра Люся клюе носам за сваім столікам. Настольная лямпа з-пад цёмнага каўпачка свеціць на паперы, што ляжаць перад Люсяю, на яе белую шапачку, на лоб, на падсіненыя павекі, якія здаюцца цяжкімі і ад свайго цяжару апускаюцца, апускаюцца на вочы. Нялёгка маладым цэлую ноч без сну. Скора Люся пакладзе галаву на сагнутую ў локці руку, павернецца тварам да акна і засне. Ну і няхай паспіць, пакуль не прывезлі каго і не забегалі дактары. А можа, сёння і не прывязуць...

І Фімка прымасцілася на крэслах, прыкрылася бальнічнаю коўдраю, што зняла з пустога ложка. Прыгрэлася, ужо і драмаць пачала, але тую дрымоту перабіла, ступіўшы ў яе, Зіна Патапава. З той фатаграфіі ў часопісе. Узяла Фімку за руку і павяла — назад, назад, у маладосць, у лес, пад бомбы нямецкія, да шпітальнай зямлянкі.

— Пабяжым... Туды, дзе не страляюць... У немцаў сіла... Самалёты...

Паяснела ў Фімкі ў галаве, быдта і не спала. Падумала: мусібыць, тады адбілі немцаў... І Зіна нікуды не ўцякла, у атрадзе засталася... Мусібыць, ваявала добра... І цяпер прызнаная... Партызанка...

Ляжыць Фімка на крэслах, не зварухнецца, паспрабуй варухнуцца, ложа тваё і рассунецца, на падлозе апынішся. Тут ужо так — прыстроіўся, і ляжы ціхенька, спі, пакуль не разбудзяць альбо пакуль бок не адлежыш.

Але не спіцца. Стаіць Зіна Патапава перад вачмі. Можа, яна і пра Ромку знае? Можа, і Ромка жывы? Ходзіць недзе тут па горадзе, можа, і спатыкаліся калі, ды не пазнала.

І чаго так разварушылі старое доктарка і Таня? Выпраўляй і выпраўляй ім дакумент. Столькі гадоў жыла, ні пра які дакумент не думала і была спакойная. А цяпер вярэдзіць і вярэдзіць душу. Яно і праўда — павага цяпер франтавікам, партызанам, ільготы розныя... Праўду кажа Таня — дурная век я была, дурная і засталася... На грудзях знакі ад нямецкіх куль... Была ў партызанах... Тая ж Зіна Патапава можа пацвердзіць... Зіна Патапава...

Паднялася Фімка, села на крэсле, скамечаная коўдра на каленях павісла.

Люся спіць, паклаўшы галаву на сагнутую ў локці руку, у цёмным шкле акна, як у люстэрку, адбіваецца яе твар, белы халат. Святло настольнай лямпы падае на валасы, што выбіліся з-пад шапачкі, і яны здаюцца жоўтымі, як саламянымі. Рыпнулі дзверы ў мужчынскай палаце, і адтуль памалу, трымаючыся рукою за шво на жываце, выйшаў лысы пажылы мужчына ў бальнічнай піжаме, пакіраваўся ў канец калідора.

Канечне, Зіна Патапава можа пацвердзіць,— думае Фімка.— У спісках няма, бо хто мог мяне ўпісаць, хіба доктар, а ці дажыў сам доктар?.. А Зіна Патапава — сведка... І яшчэ каго можа падказаць, з тых, што разам былі ў партызанах... Пацвердзяць... І выпраўлю дакумент... Толькі куды паклала тую фатаграфію? У нейкую кніжку ткнула. Можа, у Ларысіну, ды тая выкінула?

Прыйшоўшы з работы — не ўмылася, сукенкі рабочай не скінула — адразу да паліцы з кнігамі. Пачала гартаць адну за другою. Брала кнігу і распускала лісткі веерам. Чакала, што бліснe між старонак фатаграфія альбо на падлогу ўпадзе. Нямашака. Усю паліцу перабрала — няма. Стала пасярод пакоя, палец да губы прыклаўшы, думаючы, дзе шукаць.

Ляжалі стосікам кнігі на стале — Ларысіны падручнікі. І тыя перагартала. Нават Мішкавы кнігі living ператрэсла. Памятала ж, сядзела ў галаве — у кніжку тую выразку паклала. А там жа было напісана, дзе і кім Зіна працуе... Забылася Фімка, дзе і кім. А вось як Зіну Патапаву па бацьку — запомніла. Зінаіда Юр'еўна... Юр'еўна, гэта точна... Дык, можа, адрасны стол?.. Цераз адрасны стол дазнацца адрас? І схадзіць?

Села Фімка на сваю канапку, рукі на прыпол паклала. Сэрца моцна тахкала. Надумалася ж... А чаго і не? Што яна, прагоніць? Можа, не пазнае? Ну, калі не пазнае, то напомню...

Устала з канапкі, зайшла ў спальню. Там на сцяне люстэрка вісіць, старое, з жоўтымі ржавымі плямамі, яшчэ маміна, даваеннае. Нічога новага не куплялі ў старую хату, чакалі кватэры. Уставілася Фімка на сябе ў люстэрка. Ох, пастарэла. Сівых валасоў колькі... Вочы быдта паменшалі... І шчокі пачынаюць абвісаць...

Адвярнулася ад люстэрка, пайшла пераапранацца. Умылася. І забразгала начыннем на кухні — абед варыць. Скора Мішка прыбяжыць, за ім — Ларыса, а там і Таня з Іванам. Абірала бульбу, смажыла рыбу, а сама ўсё думала, думала. Як яна да Зіны Патапавай зойдзе, як пачнуць яны ўспамінаць... Можа, і Ромку ўспомняць?

Няма ў Фімкі крыўды на Ромку, забылася крыўда, помніць толькі, як абдымаў, цалаваў. Пасля Ромкі ж ніхто... І на Зіну Патапаву крыўды няма. Не вінавата Зіна Патапава, што Ромка яе ўпадабаў. А пра іхнюю з Ромкам любоў, мусіць, і не ведала. Баяўся Ромка, каб да Зіны не дайшло. «У нас з табою нічога не было... Не было нічога...» І конская храпа... А потым каня асколкам... І вочы мокрыя... Быдта конь з болю плача...

Апусцілася Фімка на аблуплены зэдлік і раптам заплакала. Каб хто спытаў — чаго? Не сказала б. Паплылі з вачэй слёзы. Выцірала іх фартухом, які пахнуў рыбаю, цыбуляю, а слёзы ўсё плылі. Не горкія, не балючыя, а нейкія ціхія слёзы.

## 5

Ліфт адчыніўся, і Фімка выйшла на чыстую пляцоўку лесвіцы. Злева і справа былі абабітыя карычневым дэрмацінам дзверы з белымі піпкамі званкоў на касяках. Паглядзела на нумары кватэр. Спынілася каля той, якую шукала. Сэрца білася так, быццам на гэты сёмы паверх не ў ліфце ехала, а ўзбіралася пешшу. Стаяла, чакала, пакуль паспакайнее дыханне. А яно не спакайнела. І абмірала ўсярэдзіне. Захацелася нават павярнуцца і пайсці, ніхто ж не прымушаў яе званіць у тыя дзверы. Жыла трыццаць гадоў...

І ўсё-такі набралася адвагі.

Званок мілагучна затрэнькаў. Нейкі час за дзвярыма было ціха, і яна падумала, што, можа, нікога няма дома, ужо і ўзрадавалася, што нікога няма, але тут у кватэры пачуліся крокі і жаночы голас запытаў:

— Хто?

Фімка не была гатова да такога пытання, сама яна ніколі не пыталася, калі стукалі ў дзверы — хто? Адчыняла, і ўсё. І тут не ведала, як адказаць. Спытала, заікнуўшыся:

— Ц-ці тут жыве Зінаіда Юр'еўна Патапава?

У кватэры памаўчалі, потым забразгалі замком. Дзверы адчыніліся не на ўсю шырыню, а так, крышку. І Фімка ўбачыла твар пажылой жанчыны з рэдкімі сівымі валасамі, у якіх на макаўцы тырчаў грабянец. Жанчына змерала Фімку вокам з ног да галавы. Мусіць, вялікай павагі госця ў яе не выклікала, бо ў кватэру не запрасіла. Чакала, можа, што Фімка яшчэ што растлумачыць, але тая маўчала, і кабета, павярнуўшыся, гукнула:

— Зіна! Цябе пытаюць, ці што...

І не адышлася ад дзвярэй, пакуль з глыбіні кватэры не выйшла жанчына ў даўгім халаце. Святло падала так, што найбольш відаць быў халат, сіні, з чырвонымі райскімі птушкамі, а твар заставаўся ў цяні.

Смешна, калі Фімка ўспамінала Зіну Патапаву, то ўяўляла яе ў белым кажушку, у квяцістай хустцы, з румянымі ад холаду шчокамі. Здавалася, што і цяпер, калі сустрэне Зіну, тая будзе зноў — у кажушку, у квяцістай хустцы, з румянымі ад холаду шчокамі. І калі выйшла гэта — у даўгім халаце, Фімка і расчаравана, і з палёгкаю падумала — не тая...

Жанчына падступіла да дзвярэй. Спытала цвёрдым, упэўненым голасам:

— Вы да мяне?

Цяпер Фімка ўбачыла твар зблізку. За чужымі, незнаёмымі рысамі таілася і даўняе, падобнае... Вусны... Прыпухлыя вусны з роўненькім абрысам... Вочы... Нешта знаёмае ў вачах... І прыбляклы, але ўсё-такі румянец на шчоках. І дыхнула на Фімку — далёкім, здавалася, зусім забытым, але, выходзіць, не забытым, шчымлівым, дарагім.

— Ага, да вас,— шчыра, як сваёй, усміхнулася Фімка. Яна, здаецца, казала ўсмешкаю: я вас успомніла, то, можа, і вы ўспомнілі мяне? Можа, успомнілі?

Але жанчына не адказала ўсмешкаю, ветліва, але холадна запрасіла заходзіць.

Фімка ўвайшла ў калідор. Спынілася, не ведаючы, ці распранацца, ці заставацца ў паліто. Праз усю доўгую прыхожую ляжала зялёная, з жоўтымі паскамі па баках, дывановая дарожка, ступаць на такую ў ботах было няможна, і Фімка нахілілася, пачала разувацца...

Скінуць паліто гаспадыня не запрасіла, і Фімка сама не адважылася, так, у панчохах, у хустцы, толькі

расшпіліўшыся, і пайшла за Зінаю Патапавай у пакой, удыхаючы незнаёмы пах кватэры.

Кожнае жытло мае свой пах, і па гэтым паху Фімка пазнае, што за людзі тут жывуць. Яна памятае яшчэ пах іхняй хаты, які быў адразу пасля вайны, пах неправетраных пакояў, старой, прапацелай, адзежы, беднай яды. Цяпер дух у іхняй хаце інакшы, хоць, здаецца, навек усмакталі сцены і нешта з таго, што было ў пару вялікай нястачы.

Ёсць кватэры, у якіх вечна вісіць дух кіслаты альбо чад тытуню, гарэлкі. І ёсць кватэры — Фімка рэдка бывае ў такіх, дзе паветра, пах адразу гавораць — жывуць тут багатыя, чыстыя людзі. І ў гэтай кватэры на Фімку дыхнула такім — нейкай свежасцю, пахам лімона, ці што, альбо гэта пах парфумы расплываўся па пакоях?

Той, у які прывяла Фімку Зіна Патапава, быў падобны на кабінет. Пры адной сцяне дзве шафы з кнігамі, пры другой — пісьмовы стол, канапка, на сценах карціны ў рамах, на ўсю падлогу — дыван. Цераз панчохі Фімка адчувала яго пушыстую мяккасць.

Зіна Патапава ўзяла крэсла, што стаяла пры пісьмовым стале, паставіла яго пасярод пакоя, запрасіла Фімку сесці. Сама прымасцілася на краёк канапкі, быдта паказваючы такою позаю, што не мае часу расседжвацца надоўга.

— Я вас слухаю...

Не ведала Фімка, з чаго пачаць. Ішла сюды і не верыла, што сапраўды ўбачыць Зіну, жывую Зіну Патапаву. Не падрыхтавала ніякіх слоў. І цяпер быдта забылася, чаго прыйшла, глядзела на Зіну і ўсміхалася. Адразу, як толькі ўбачыла, здалося ёй, што Зіна вельмі змянілася, а цяпер, калі прыгледзелася, то, здаецца, і не, такая, як і была, толькі не кажушок на плячах, а халат з райскімі птушкамі.

— Вы мала змяніліся... Ну зусім не змяніліся, такая, як і былі,— шчыра ўсміхалася Фімка.

Зіна Патапава прыжмурыла вочы, нахмурыла броўкі, прыглядаючыся да Фімкі. Але нічога ў яе вачах, на твары не змянілася. Спытала крыху здзіўлена:

— А вы мяне хіба ведаеце? Раней ведалі?

Фімка ўсміхнулася яшчэ шчырэй:

— А няо ж... Няўжо вы мяне не помніце, хіба я так змянілася, пастарэла?

Зіна Патапава разглядала Фімку, здаецца, яна хацела нешта ўспомніць і не магла.

— Не, не прыпомню...

— Ну, у партызанах разам былі... У атрадзе імя Чапаева... Я-то раней там была, а вы пазней прыйшлі, восенню сорак трэцяга.

Позірк Зіны Патапавай зрабіўся вастрэйшы. На міг быдта засвяцілася нешта ў ім, але тут жа прытухла. Не, здаецца, не магла яна ўспомніць госці.

— Ну, помніце, вы яшчэ да Святланкі нашай забягалі, у шпітальную зямлянку... Можа, ведаеце, як, дзе цяпер Святланка, я дык нікога з нашых нешта нідзе не спатыкала.

У гаспадыніных вачах быццам нешта тарганулася. На нядаўна спакойным, абыякавым твары адбіўся клопат. Фімцы здалося, што Зіна Патапава пачынае ўжо нешта прыгадваць, зараз усё прыгадае, але тая маўчала, і Фімка зноў пачала напамінаць:

— А потым немцы на нас напалі... Бомбы, самалёты... Мы каля шпітальнай зямлянкі з вамі спаткаліся, я па бінты прыбягала...

Яна ссунула з галавы хустку, і тая хамутком упала на каўнер паліто, адкрыўшы рудаватыя, перабраныя сівымі ніцямі, валасы. Ёй было горача — ці ад хвалявання, ці ад таго, што ў цёплай кватэры сядзела ў зімовым паліто. Але не заўважала гарачыні, уся была там, у тым дні, калі біўся, іржаў паранены конь, калі перавязвала параненага Мурмоня, а потым бегала ў зямлянку па бінты. Яна чакала, што зараз і Зініны вочы загарацца ўспамінам, зараз яна скажа: дзіва што помню, было, было...

Але Зінін твар не асвятляўся ўсмешкаю, не загараліся ўспамінам вочы, на твары ўсё больш адбіваўся незразумелы Фімцы клопат.

— Вы помніце, помніце? — дапытвалася Фімка.

Гаспадыня ўздыхнула.

— Ды помніць-то помню... І лагер партызанскі, і самалёты... Вас толькі вось не помню...

Фімка ціха засмяялася.

— Яно-то і не дзіва, столькі гадоў... Я вас дык адразу пазнала... А мяне... Ну, помніце, вы тады баяліся... Баяліся, што немцы ў лагер уварвуцца, казалі — у немцаў сіла, самалёты... Звалі мяне разам куды-небудзь з лагера бегчы...

На твар, на шыю Зіны Патапавай памалу напаўзала чырвань. І вочы халаднелі, нібы заплывалі недзе глыбока, на дне, калючым ільдом. Вусны кранула нядобрая ўсмешка, паказаўшы ямачку на шчацэ.

— Нешта вы, грамадзяначка, блытаеце... Не было ў мяне такога... Каб я так ужо спалохалася... Ды яшчэ каб звала бегчы... І наогул, навошта вам усё гэта, чаго вы прыйшлі, што вам ад мяне трэба?

Каб на Фімку вылілі цэбар ледзяной вады, каб ударылі нечым знянацку па галаве, каб яснае неба ўміг пачарнела, не так здзівілася б Фімка, як здзівілі яе гэтыя словы, тон, якімі гаварыліся. Быдта Фімка прыйшла нешта адабраць, паквапілася на нешта дарагое, і як ёй не сорамна гэта рабіць. І, што самае дзіўнае, Фімка і праўда адчула сябе вінаватаю, быдта і праўда зрабіла непрыстойнасць, нешта неразумнае, дурное. Трэба было давесці і Зіне Патапавай, і сабе, што нічога кепскага яна не думала, не хацела зрабіць гаспадыні ніякай прыкрасці.

— Знаеце, мне-то яно і не трэба... Трыццаць гадоў жыла... Але на рабоце... І дома... Афармі і афармі ім дакумент... А я даўно яшчэ ў часопісе вашу фатаграфію бачыла, выразала нават тую фатаграфію, у кніжку ўсунула, ды згубіла недзе... Цераз адрасны стол вас знайшла,— гаварыла ўсё гэта Фімка, быццам апраўдваючыся, быццам просячы, прабачэння за тое, што вось прыйшла, назаляе.

Ружовасць памалу сыходзіла з твару, з шыі гаспадыні, быдта раставала і сцякала пад той халат. Але вочы не дабрэлі і аблічча не мякчэла. Бровы хмурыліся на гладкім белым ілбе. Рукою з шырокім заручальным пярсцёнкам яна захінула халат, які быў разышоўся на каленях, адкрываючы белыя гладкія ногі.

— То вам што,— дакумент патрэбен? — холадна спытала Зіна Патапава.— Дакумент, што былі ў партызанах?

— Ага, дакумент,— узрадавана заківала галавою Фімка.

— То калі вам трэба дакумент, у архіў схадзіце... У архіве захаваны ўсе спісы... Калі вы і праўда былі ў партызанах, то павінны быць у спісах...

Цяпер полымем успыхнулі Фімчыны шчокі. Як пугаю сцебанула — «Калі вы і праўда былі...». Аж слёзы

набеглі на вочы. Во як выходзіць... А што, чым яна дакажа... І няўпэўнена, вінавата прагучалі словы:

— Была я ў архіве... Няма там мяне... Але я ўжо думала — ну хто мог мяне запісаць? Доктар? А мо ён пагіб? А сама я параненая была, мяне партызаны ў вёсцы пакінулі... Людзі добрыя навучылі, каб сведак... Вось вы...

— А як ваша прозвішча, імя? — спыталася Зіна Патапава.

— Прозвішча Мархель, Серафіма Гаўрылаўна, але ў лагеры мяне ўсе Фімка звалі.

— Фімка, Фімка,— гаспадыня паднялася з канапкі, прайшлася па пакоі, спынілася, прыплюшчыла вочы.— Не, не помню... Такое рэдкае імя, каб чула, то не забылася б... А так — не помню,— пакруціла яна галавою. І загаварыла, быдта шчыра, даверліва і разам строга, павучальна:

— Ведаеце, я цяпер у камісіі працую... На грамадскіх пачатках, так сказаць... Па справах былых падпольшчыкаў, партызан... Дык колькім людзям мы ўжо, можна сказаць, помнікі паставілі... І, скажу вам, некаторым, можа, незаслужана... Напрыносяць паперак, сведак падкупяць... Так што мы цяпер вельмі асцярожныя з паперкамі... А вас, бачыце, у архіўных спісках няма, і я вас не помню...

Як аглушаная сядзела Фімка. Гэта ж яе выстаўлялі быдта якую аферыстку. Быдта прыйшла яна прасіць незаконна, падкупляць сведак, ці што... Няўжо яна так змянілася, што яе аніяк нельга пазнаць? І так забылася Зіна Патапава пра той дзень, што ўспомніць ніяк не можа?

— Я — не! Які помнік!.. І хіба падкупляць?.. Я трыццаць гадоў... Хіба я хлушу? Успомніце мяне... Я ж вас так помню...— І выкінула, як апошні довад, як карту, якую Зіне будзе нечым пабіць, адмовіцца ад чаго ніяк не зможа.— Вы яшчэ з Ромкам гулялі... Ён за вамі ўпадаў,— паправілася, каб не абразіць часам жаночага гонару гаспадыні, каб не абвінаваціць яе, што за хлопцамі бегала.

Спынілася Зіна Патапава пасярод пакоя, быдта гэтымі словамі Фімка за халат яе ўхапіла, калола вачмі Фімку, як шыльцамі. А твар ужо — як з каменя высечаны.

— Вы маеце на ўвазе Рамана Ігнатавіча?

Не ведала Фімка, як Рамана звалі па бацьку, ведала, што прозвішча Гольчык, а імя па бацьку...

— Я не ведаю, як яго імя па бацьку, ведаю, што Раман Гольчык...— Хацела ўжо, калі на тое пайшло, прызнацца, што раней у яе з Раманам было, але не адважылася. Гэта прынізіла б, мусіць, Зіну Патапаву, і Ромку прынізіла б... Што ў яго з такою Фімкаю нешта было... Пра сваё з Ромкам не сказала, ды і схавана ўсё гэта было далёка, глыбока, схавана не для таго, каб вымаць ды некаму паказваць, сама надта рэдка туды заглядала. Пра сваё з Ромкам не прызналася, сказала, каб пераканаць гэту недаверлівую, бяспамятную:

— Адкуль бы я ведала пра Ромку, каб вас з ім не бачыла, кожны дзень па лагеры гулялі, дык няўжо вы не верыце?..

А тая зноў захадзіла па пакоі, ужо нецярпліва, і ў голасе ўжо несхаванае раздражненне:

— Пра тое, што мы з Раманам Ігнатавічам у партызанах пазнаёміліся, усе знаюць... Мог вам нехта расказаць... Нічога дзіўнага...

Падняла Фімка хустку, што хамутком на шыі ляжала, усцягнула на галаву. Сама ўстала, пачала памалу паліто зашпільваць. У галаве круцілася, плылі па сцяне карціны ў рамках, і ныла сэрца. Во як выстаўляе яе гэта Зіна Патапава. Быдта дазналася Фімка ў некага пра Ромку і прыйшла ашукаць, прымазацца да іхняга партызанства. Ну, не помніш, дык не помніш, але так навошта... І раптам як стукнула Фімцы ў галаву: помніць яе Зіна Патапава, помніць, але чамусьці не хоча прызнаць... Не хоча прызнаць...

Падняла вочы, хацела спаткаць яе позірк, але Зіна глядзела ўбок, і твар яе выказваў яўнае нецярпенне. Яна зрабіла некалькі крокаў да дзвярэй, быдта падштурхоўваючы Фімку, каб тая скарэй пайшла. І Фімка ступіла за дзверы. Сама здзівілася свайму голасу, калі сказала:

— Да свіданія...

Глухі, як здушаны, голас.

Гаспадыня пакруціла замком, адчыняючы дзверы, выпусціла Фімку на лесвіцу.

Было адчуванне, быдта яна толькі што сышла з якой каруселі — нудзіла і круцілася ў галаве, і ніяк не магла знайсці, дзе тут выхад. Ткнулася ў зачыне-

ныя дзверы ліфта, адышла назад, нарэшце ўбачыла лесвіцу. Пачала спускацца ўніз.

Мела Фімка ў сваім жыцці ад людзей і крыўды, і абразы. І ў маладыя гады, і ў сталыя. «У нас з табою нічога не было...» Хіба такое забудзецца? Але чаго не бывае паміж хлопцам і дзеўкаю, мужыкі жонак кідаюць, ды з дзецьмі... А тут — яна ж жонкаю ягонай не была... Альбо гэта — гадоў пятнаццаць назад пачалі ў іх аддзяленні прападаць — то прасціна, то ручнік, то халат бальнічны. Пад падазрэнне папалі нянечкі. Але не злавіў за руку — не кажы, што злодзей. Сястра-гаспадыня ў іх тады была строгая, суровая старая дзеўка. І вырашыла злодзея злавіць. Некалькі разоў нянечак абшуквала. І Фімку абшуквала, і ў Фімчынай сумцы поркалася. А яна ж чужога — ніколі ў жыцці пальцам не кране. Во была крыўда... А тая скарга, што хворая на яе напісала? Фімка ў другой палаце прыбірала, а кабеце прыспічыла, пачала нянечку клікаць. Пакуль Фімка дабегла... Дык совесць мей, пры чым тут нянечка? А яна на нянечку — скаргу, што кепска працуе, не даклічашся... А плётка, якую нехта пусціў на яе, быдта яна з шафёрам Кірыкам. Кірыкава жонка прыбягала — валасы рваць, столькі сораму нарабіла, а яна ж — ні сном, ні духам. Ды гэта крыўды, якія помняцца, а колькі іх было, і большых і меншых, што пазабываліся. Не затойвала Фімка злосці на людзей.

Але крыўда, якую ўчыніла ёй Зіна Патапава, была, здаецца, самая балючая. Такой крыўды яшчэ Фімка не мела. Так не паверыць... Залічыць у аферысткі... У самазванкі... Быдта гразёю аблітая ішла па лесвіцы Фімка, быдта апляваная. Здушыла ўсё ў грудзях — не прадыхнуць. А лесвіца бясконца вяла ўніз, уніз, быдта з неба ў прорву спускалася Фімка і дарозе гэтай не было канца. Нарэшце падзьмула холадам з дзвярэй, а за імі — белы снег, вуліца. Сутыкнулася пры выхадзе з мужчынам. Невідушчымі вачмі глянула ў яго твар. Мужчына адступіў, даючы ёй дарогу. Выйшла з пад'езда, пакіравалася па тратуары. Не чула марозу, холаду, забылася, што можна сесці ў тралейбус. Шыбавала, шыбавала пешкі. У вачах стаяў шаўковы, з райскімі птушкамі, халат. Плылі карціны па сценах.

І чаго яна пацягнулася? Навошта гэта было? Каб асобную кватэру атрымаць? На чорта ёй асобная кватэра, ёй асобная кватэра, як труна, як магіла, яна хоча

з Таняю, з дзецьмі жыць. Хіба яна, калі на тое ржышча бегла, пад кулі нямецкія, пра асобную кватэру думала? Каб крышку, то і была б асобная, на два метры... Пачот, медаль пачапіць? Совесць мей, вось табе і пачот будзе...

Сябе вінавaціла Фімка, што паслухала доктаркі Веры Сяргееўны, што паслухалася Тані, пайшла партызанства сваё даказваць. Але гэта ўшчуванне перабівалі то прыжмураны позірк, то клопат на твары, то павучальны тон Зіны Патапавай, і грудзі працінала крыўда. І невядома, адкуль прыходзіла перакананне: успомніла яе Зіна Патапава, успомніла, але не захацела прызнаць. Не захацела прызнаць. Чаму?..

Кварталы тры прабегла Фімка па марозе, задыхалася. Крыху збавіла ход. Насустрач ёй ішлі і ішлі людзі — панастаўляўшы каўняры, паўцягваўшы ў іх галовы, хаваючыся ад холаду самі ў сабе, самі ў сабе. Ішлі таропка, не разглядаючыся на бакі. Плылі аўтобусы, тралейбусы з замураванымі марозам вокнамі, з маленькімі кружочкамі, прадыханымі ў белым інеі. Ляскалі дзверы магазінаў, пад'ездаў, то выпускаючы, то беручы ў сябе людзей.

Сцішвала хаду Фімка, і ў грудзях быдта пачынала сцішвацца, быдта здольная была ўжо і разважаць, спакайней думаць. І пачынала разумець, што гаварыла ў Зіны Патапавай нешта не так, нешта не спадабалася Зіне ў тым, што яна гаварыла. І не дзіва — напамінаць пачала, як спалохалася, як уцякаць клікала. Во дзе праўду людзі кажуць — як захоча бог пакараць, дык адбярэ розум... І яшчэ... Калі Зіна Патапава і праўда яе не помніць, то трэба было спытаць, хто яшчэ з атрада жывы застаўся... Зіна ж, калі яшчэ ў той камісіі працуе, павінна знаць. Чаму не спытала пра Ромку? Можа, і Ромка жывы, Ромка тады б успомніў.

І раптам спынілася як укапаная... Быдта толькі цяпер убачыла чалавека, з якім размінулася ў дзвярах, у пад'ездзе Зіны Патапавай. Быдта толькі цяпер убачыла яго... За тым, што схавалі гады, таілася даўняе... Няўжо ён? Няўжо Ромка? А можа, памылілася? Чаму адразу не пазнала? Бегла як утрапёная...

Пажаніліся... Жывуць з Зінай Патапавай...

Ромка...

## 6

Зачыніўшы за нечаканаю госцяю дзверы, Зіна вярнулася ў свой пакой і захадзіла па ім узад-уперад. Душу агортвала прыкрасць. Адкуль яна ўзялася, гэтая кабета, чаму да яе прыцягнулася, не магла каго іншага ўспомніць, знайсці?

І тут жахлівы халадок падступіў пад сэрца. Іншага знайсці? І таму, іншаму, расказаць, як Зіна Патапава спалохалася немцаў, хацела ўцячы?.. Каб выплыла потым, што і ўцякла... Каб выплыла пра падводу, пра Святланку, цётку Веру, параненых... Тых застрэлілі, а яе пусцілі... Каб пра Грышку выплыла, як сказаў: мая дзеўка, мая паненка... Грышка-паліцай...

Як здань насунулася на Зіну старое, забытае, пахаванае. Падумаць страшна, што загаварылі б пра яе на рабоце, у райкоме, у той жа камісіі. Зінаіда Юр'еўна Патапава, якую так высока паднялі, праславілі як адважную партызанку, аказваецца, дэзерцір... Паліцаева паненка, параненых закатавалі, а яе...

Пахаванае глыбока, закіданае пластамі гадоў, варухнулася, ажываючы, і гэта было так страшна, як страшна было б, каб у труне паварушыў рукою, падняўся нябожчык.

Прыйшоў муж, і маці паклікала іх абедаць. Есці зусім не хацелася, і Зіна сербанула некалькі лыжак супу, адставіла талерку ўбок. І катлету толькі пакалупала.

— Можа, нясмачна? — занепакоілася маці. Чатыры гады назад памёр бацька, і Зіна змушана была забраць матку, якая засталася ў вёсцы зусім адна. Старая не хацела есці хлеб дарма, старалася рабіць работу ў хаце. Але, не прывучаная ў вёсцы гатаваць прысмакі, не заўсёды ўмела зварыць абед па ўсіх правілах кулінарыі. Вось і цяпер занепакоілася.

— Смачна ўсё, добра,— не вельмі ветліва адказала дачка.— Проста не хачу есці.

Муж падазрона глянуў на яе. За трыццаць гадоў, што пражылі разам, навучыўся ўгадваць жончын настрой і цяпер бачыў — нешта жончын настрой сапсавала. Але не спытаў — што. Калі Зіне пападала, як ён казаў, шляя пад хвост, то лепей было яе не чапаць, бо сказане што-небудзь, як анучаю плясне. Лепей не чапаць. І ён, паеўшы, пайшоў у пакой, дзе стаяў тэлеві-

зар. Меўся быць хакей. Зіна, якая таго хакею не любіла, зачынілася ў сваім пакоі. Узяла кніжку, легла на канапку, прыкрыўшы ногі пуховаю хусткаю, хацела чытаннем засланіцца ад таго нябожчыка. Але не чыталася. Па некалькі разоў радкі перачытвала — не магла дабрацца сэнсу. Паклала кніжку пад вышытую падушачку, скруцілася калачыкам. І паплыло, закруцілася перад вачмі — назад, назад, у тыя гады, якія не хацелася ўспамінаць.

Але ўспамінаўся, выплываў, як з небыцця, разбіты бомбамі, спалены Мінск, у які яна прыйшла восенню сорак трэцяга года. Спалены, разбіты быў найболей цэнтр, а яго апаясвалі вуліцы з невялікімі драўлянымі дамамі, пры якіх стаялі аголеныя дрэвы вішняў, яблынь, ляжалі пустыя агароды. Драўляныя дамы дыхалі, як параю, дымамі з каміноў — жылі.

На Газетным завулку, у адным з такіх дамоў, знайшла сабе Зіна прытулак — у стрыечнай матчынай сястры, якая жыла тут з дачкою Ліляй, Зінінай равесніцай. Усім сваім выглядам, тварам Ліля мала адпавядала такому прыгожаму імені, была худая, маленькая, і Зініна маці заўсёды казала, што гэта ад гарадскога жыцця, ад магазіннай яды. Зіна верыла, што гэта так, бо сама на вясковых харчах ды на свежым паветры заўсёды цвіла, як ружа, і нават у вайну, і за кароткае партызанства не пахудзела.

Цяпер, калі Зіна асела ў горадзе, бацька кожны месяц прыязджаў сюды на кані — прывозіў бульбы, круп, сала. Не магла ж Зіна есці гэта адна, схаваўшыся, харч ішоў у агульны кацёл, і згаладалая за вайну гарадская радня была рада падмацунку.

А фронт грымеў, набліжаўся, ужо ясна было, што немцаў пруць, што доўга яны тут не затрымаюцца, што скора, вельмі скора вернуцца нашы.

Зіна з Ліляю пасябравалі, і як часта бывае сярод дзяўчат, пачалі давяраць адна адной сакрэты. Лілі, праўда, не было чаго асабліва расказваць, за ёю пакуль ніхто не ўпадаў, і сама яна яшчэ не паспытала ніякага шчымлівага пачуцця. А Зіна пад вялікім сакрэтам расказала Лілі, што была ў партызанах, што там за ёю ўпадаў адзін, ажно млеў, так закахаўся. Ліля слухала ва ўсе вушы, і не так цікавіў яе Зінін кавалер, як тое, што Зіна была ў партызанах. Сама Ліля надта хацела займець сувязь з партызанамі, але як ты

іх знойдзеш, бачыла партызан ды падпольшчыкаў толькі на шыбеніцах. І пыталася ў Зіны — а чаму ж яна цяпер не ў партызанах, чаму ў горад прыйшла? Зіна рабіла выгляд, што пра гэта ўжо аніяк няможна гаварыць. Толькі намякала... Намякала, быццам яе ў горад сам партызанскі камандзір паслаў... На заданне. Сама з сябе дзівілася Зіна — як навучылася хлусіць, колькі апошнім часам наманіла, але варта адзін раз сказаць няпраўду, як потым павядзе...

Даверлівая Ліля зайздросціла Зіне і напрамілы бог прасіла, каб тая і яе звязала з партызанамі, каб і ёй дала заданне.

— Што ўжо цяпер,— адмахвалася ад яе Зіна.— Ужо нашы на парозе... Што трэба было, я ўжо зрабіла.

Пускалі новыя галіны абгарэлыя, абламаныя таполі. На пустырах, абгароджаных спінкамі зламаных ложкаў, лапушылася, збіралася зацвітаць, бульба. Грукацелі, насоўваючыся на горад, навальнічныя хмары, збіраючыся паліць яго цёплым летнім дажджом. І да грукату грому далучаўся грукат гармат — ішлі нашы, гналі немцаў.

І вось на Савецкай вуліцы першы наш танк, і бягуць, як пацукі, апошнія немцы, і падае збітая з Дома ўрада фашысцкая свастыка, і плачуць ад радасці людзі, цалуюць, абдымаюць запыленых, потных байцоў.

І Зіна з Ліляю там, на Савецкай вуліцы, каля Дома ўрада, і яны цалуюць прапахлых бензінам і порахам хлопцаў, і хлопцы рады абдымаць дзяўчат, і ўсе вераць — гора, бяда мінуліся, наперадзе адна ясната.

А цераз некалькі дзён Ліля прыбегла з навіною — з усіх лясоў у горад ідуць партызаны, будзе парад партызанскага войска, недзе на Пуліхава, увесь горад туды кіруецца...

Ці ж маглі Зіна з Ліляю ўседзець дома? Пастараліся прыбрацца ў самае лепшае. Зіна блузачку мела блакітную ў белыя рамонкі, крэп-жаржэтавую, яшчэ ў пачатку вайны матка ў нейкай бежанкі на крупы выменяла. Адзела Зіна тую блузачку, да яе спаднічку чорную — пекната. Агледзеліся, што ў Лілі нічога людскага няма ўздзець. Папоркалася Зіна ў сваім куфэрку — і Лілі блузку выцягнула, ружовую, у белыя бобачкі. Магла б Лілі сваю сукенку даць, дык у Зініну сукенку тры Лілі ўлезе.

Маладосць — яна і ў абы-якой сукенцы прывабная, а прыбраліся дзяўчаткі і яшчэ больш пахарашэлі, нават Ліля папрыгажэла, а пра Зіну ўжо і казаць няма чаго, мала які хлопец устоіць.

Узяліся дзяўчаты за рукі — пабеглі. Па зламаных, гнілых дошках тратуара, па выбітым бруку, абапал якога грувасцілася бітая цэгла, стаялі абгарэлыя сцены, свецячы ў праёмах вокнаў і дзвярэй сінім небам, яркім сонцам. І на сэрцы ў Зіны было светла, радасна. Хіба яна ў чым вінаватая перад сваімі? Яна ж ненавідзела немцаў і ў партызанах была, няхай нядоўга, але была, а што ўцякла, то і не дзіва — такі страх, самалёты, бомбы і немцы ўсё бліжай, бліжай... А што там, на дарозе, Грышка заступіўся, то што ж яна вінаватая? Каму было б лепей, каб і яе з тымі палажылі? Каго б яна ўратавала сваёй смерцю? Грышка пашкадаваў яе маладосці, схлусіў немцам, што яна яго паненка.

Але нават пра гэта не думала цяпер Зіна, яна была рада, што нашы вярнуліся, яна не чула за сабою віны, яна была рада, што ў горад ідуць партызаны. Праўда, часам, на нейкі міг, уставала перад вачмі адзінокая падвода на дарозе, Грышкава постаць у паліцэйскім шынялі, немцы з аўтаматамі, але Зіна старалася адагнаць усё гэта, не думаць пра тое, што змяніць немагчыма.

Яны стаялі з Ліляю, узяўшыся за рукі, і глядзелі, як паўз Дом урада — пачарнелы, у плямах маскіроўкі — адна за адною ішлі калоны партызан у пінжаках і фрэнчах, у ватоўках, шынялях і плашч-палатках, у пілотках і кепачках, у вайсковых фуражках з зоркамі, у ботах і разбітых чаравіках, з аўтаматамі на грудзях і вінтоўкамі за плячыма, з пісталетамі на паясах, з ордэнамі і медалямі на грудзях, усе худыя, закаржанелыя ад нялёгкага жыцця ў лесе і разам з тым вясёлыя, шчаслівыя, бо з зямлянак, з лесу выйшлі на святло, на прастор, бо не трэба больш хавацца, можна паказаць сваю сілу, яны — перамаглі.

Мінаючы Дом урада, калоны ішлі далей, па разбітых вуліцах Мінска, несучы перад сабою сцягі атрадаў, брыгад, стараючыся ісці строем, роўна, як салдаты на парадзе, стараючыся не зважаць на радасныя твары людзей, што стаялі на тратуарах і з захапленнем глядзелі на іх, і не могучы не зважаць, неяк вельмі ўме-

ла вылучаючы сярод шчырых вачэй, радасных усмешак вочы і ўсмешкі маладых дзяўчат, яшчэ больш падцягваючыся пад гэтымі ўсмешкамі, часам падміргваючы той, што здалася асабліва сімпатычнай.

Траплялiся між партызан і жанчыны, і Зіна страшэнна зайздросціла ім і вельмі шкадавала, што сама не з імі, лічыла, што і яе месца сярод тых, што выйшлі з лесу.

Яна не ведала — калі прыйшла ёй гэта думка — ці тады, калі пачула пра партызанскі парад, ці потым, калі ўбачыла іх калоны, а можа, гэта надзея жыла і раней, ды толькі цяпер акрэслілася словам: Ромка... А можа, тут Ромка?.. Можа, убачыць яго?..

Не, мусіць, гэта думка заварушылася потым, калі ўбачыла, як шмат прыйшло ў Мінск партызан. Бо раней глядзела на калоны проста так... А потым нешта як абпаліла грудзі, і яна пачала прыглядацца... Ці няма яго тут... А можа...

Узбоч партызанскіх калон беглі падлеткі і зусім малыя дзеці — хлапчукі ў бацькоўскіх шапках, у залатаных каптанчыках, кашульках, у разбітых чаравіках, беглі дзяўчаткі, целяпаючы коскамі з заплеценымі ў іх анучкамі замест стужак. Згаладалыя, абы-як апранутыя дзеці ваеннай пары, ішлі за калонамі і жанчыны, і калекі, успіраючыся на кійкі, на мыліцы, не адставалі ад іх і дзяўчаты.

Прайшоўшы паўз Дом урада, партызанскія калоны кіраваліся ў бок вакзала, адтуль па разбітых вуліцах, кавалкі якіх выглядалі зусім пустырамі, паўз руіны і рэшткі разбітых дамоў ішлі ў бок Пуліхава. Зіна з Ліляю не адставалі ад калоны партызан, каля якой апынуліся яшчэ на Савецкай вуліцы. Зіна злавіла ўжо не адну ўсмешку, не адны вочы бліснулі ўжо ў яе бок. Нават Ліլі перапала ўвагі, адзін, чарнявы, цыганаваты, у абшморганым скураным пінжачку, з аўтаматам на грудзях, усміхаўся і падміргваў яўна Лілі. І яна заружавелася, з твару не сыходзіла радаснае захапленне. А Зіна то і злічыць не магла тых усмешак і позіркаў. Яна адбівалася ў іх, бачыла сябе ў тых позірках і ўсмешках, як у люстэрку,— сінявокую, румяную, з ямачкаю на шчацэ, у блакітнай блузачцы, і яшчэ больш харашэла ад сваёй прывабнасці.

Партызанскія калоны ўваходзілі ў горад з усіх бакоў — і са Слуцкай шашы, і з Маскоўскай, з Лошыц-

кага тракту і з Брэсцкага. Не ўсе калоны праходзілі паўз Дом урада, шмат якія кіраваліся адразу ў бок Пуліхава, туды, дзе да вайны збіраліся будаваць іпадром. Цяпер там ляжала вялікая пустка, толькі здалёк, на пагорках, відаць былі разбітыя дамы, чэзлыя дрэўцы, парослыя травою курганкі. Партызанскія калоны, як рэкі, плылі на гэту пустку, утвараючы людское мора, якое калывалася, смяялася, спявала.

У адным баку пусткі стаяла абцягненая чырвоным крэпам трыбуна, спераду на ёй, вялікімі белымі літарамі, было напісана: «Няхай жыве Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!» За трыбунаю, на велізарным шчыце, быў намаляваны партызан — у светлай кашулі, у галіфэ, апаясаны патроннымі стужкамі, з гранатамі на поясе. Адну руку ён узняў, быццам паказваючы ў бок ворага і клічучы людзей за сабою. У другой руцэ сціскаў аўтамат. Гэта быў вобраз партызанагероя, і, мусіць, гледзячы на яго, кожны партызан з тых, што збіраліся тут на парад, адчуваў, бачыў сябе іменна такім.

Каля трыбуны іграў аркестр, бліскаючы на сонцы медзянымі трубамі, сама трыбуна пакуль была пустая, і партызанскія калоны, што прыходзілі на гэту пустку, не доўга трымалі строй, а расплываліся, расцякаліся, гатовыя, аднак, па першым сігнале зноў сабрацца ў роўныя радочкі.

Зіна з Ліляю спачатку баяліся ісці туды, у гушчу партызан, можа, туды ісці нельга? Але скора ўбачылі, што там ходзяць і староннія людзі — тыя ж падлеткі, дзяўчаты, маладыя жанчыны і іх ніхто не праганяе. І яны спусціліся з пагорка ўніз, уліліся ў тое мора.

У адным гурце партызаны, стаўшы ў кружок, спявалі:

Бывайце здаровы, жывіце багата,
А мы ўжо паедзем дадому-дахаты...

З другога гурту далятала:

Дан приказ ему на запад,
Ей в другую сторону...

Крышку далей ад спевакоў адзін партызан іграў на гармоніку, другі, у сярэдзіне кола, танцаваў, задзірыста збіваючы на патыліцу аблезлую, пакамечаную ку-

банку з чырвоным паскам наперадзе, ляпаючы рукамі то па грудзях, то па разбітых чаравіках, пускаючыся ўпрысядку. Твар яго блішчаў ад поту, блішчалі ў радасці вочы, блішчалі белыя зубы, якія ён адкрываў усмешкаю.

Пры адной калоне партызан пахаджваў казёл, абвешаны нямецкімі крыжамі і медалямі. У казла былі доўгія, загнутыя ўгору, баявітыя рогі, доўгая шэрая поўсць і сапраўдная казліная барада. Людзі абступалі жывёліну, смяяліся, некаторыя спрабавалі зачапіць, падражніць, але казёл трымаў сябе незалежна, не звяртаў увагі на кпіны, на людскую гаману.

— Казёл заслужаны, тры гады ў партызанах быў,— ляпаў жывёліну па спіне худы белабрысы хлопец у кароткім пінжачку, з аўтаматам за плячыма.— Медалі на ім і генеральскія, і палкоўніцкія.

Казёл нібыта разумеў, што яго хваляць, і прымаў яшчэ больш незалежны выгляд. Людзі смяяліся.

І Зіна з Ліляю смяяліся з казла, і ім было весела, весела ад таго настрою, што панаваў на вялікай пустцы. З імі загаварвалі хлопцы, звалі ў свой гурт. Ліля, здаецца, і рада была б прыпыніцца каля якіх вясёлых малайцоў, але Зіна вяла і вяла яе за руку — далей, далей. Яна разумела, што знайсці чалавека ў такой процьме людзей, што спрабаваць знайсці іголку ў капе сена, ды, можа, Ромкі тут і няма, не ўсе ж партызаны прыйшлі на парад, толькі лепшыя, якіх выбрала начальства. І яшчэ — ці дажыў Ромка да гэтага дня, ці ўратаваўся тады атрад ад немцаў, можа, Ромкавы і костачкі ўжо сатлелі, а яна...

Не адпускаючы Лілінай рукі, Зіна то прабіралася праз гушчу партызан, то праходзіла паўз калоны, якія трымалі яшчэ строй, то спынялася і вадзіла вачмі па галовах, па шапках, па тварах, шукаючы таго, знаёмага. Ліля, хоць і не ведала Ромкі, таксама вадзіла вачмі па гуртах партызан, быдта і яна магла сустрэць знаёмага.

— Каго шукаеце, дзевачкі?

— Можа, мяне, то во я, во!..

— Хадзіце да нас, прыгажуні! — чаплялі Зіну з Ліляю хлопцы, але яны толькі ўсміхаліся на заляцанні і ішлі — далей, далей.

І раптам:

— Зіна! Зіна!

8 Зак. 2775

Зіна спынілася, закруціла галавою, шукаючы — хто кліча Зіну і ці яе...

У пляскатай кепачцы і чорнай кашулі з белымі гузікамі, з аўтаматам на грудзях, худы, загарэлы, радасны, распіхваючы партызан, да яе бег Ромка.

— Зіна! Зіначка! Жывая!

Ромка пры ўсіх абдымаў, цалаваў яе, і вочы яго большалі ад слёз, што ў іх набягалі.

— А прыгожая ж ты! Ледзь пазнаў! Думаў — ты, не ты...

— Ды я, я,— смяялася Зіна.

— А дзе ж ты тады дзелася, я шукаў, шукаў, думаў, забілі немцы, і сярод забітых шукаў...

Не падрыхтавала Зіна адказу Ромку на такое пытанне, але тут жа ўспомніла, што казала некалі Лілі, якая стаяла цяпер пад бокам. І Раману пачала тое самае:

— Мяне камандзір паслаў... У горад... На яўку... Але той дом бомбаю разбіла...

У гэты час пачулася каманда:

— Строіцца! Станавіся!

Партызаны забегалі, кожны шукаючы сваю калону, сваё месца. І Ромка азірнуўся, і яму трэба было бегчы. Але ён не мог пакінуць Зіну, выпусціць яе руку.

— Станавіся! — грымела праз рупар каманда.

Раскіданыя гурты партызан ужо пазбіраліся ў калоны, ужо раўняўся іх строй, толькі некаторыя, што спазніліся, яшчэ беглі да сваіх атрадаў.

На Ромкавым твары адбіўся адчай. Яму трэба было бегчы, скарэй бегчы ў сваю шарэнгу, і выпусціць Зініну руку ён не мог, здавалася яму, як выпусціць, зноў надоўга згубіць. І ён пацягнуў Зіну, пацягнуў за сабою ў строй.

— Ты таксама партызанка, маеш права, пайшлі!

Забыўшыся на Лілю, пакінуўшы яе адну на пустыры, Зіна пабегла за Раманам.

Духавы аркестр іграў марш, на трыбуне ўжо стаяла шмат людзей, па шарэнгах ішоў урачысты шэпт:

— Чарняхоўскі! Глядзіце, на трыбуне Чарняхоўскі!

— І Панамарэнка!..

— І амерыканцы! Дэлегацыя амерыканская!..

Партызаны раўнялі шарэнгі, падцягваліся. Спераду калоны, у якой ішлі Раман з Зінаю, палымнелі сцягі. І наперадзе параду было шмат сцягоў. Калоны, што

стаялі першыя, ужо зрушылі з месца. Грымела баявая музыка духавога аркестра. Вось і іх калона зрушылася. Урачыстыя твары. Цвёрды крок... Збоку калоны бегаюць дзядзькі з фотаапаратамі, пстрыкаюць, пстрыкаюць. А вунь на раскірэках вялізны апарат, мусіць, кінахроніка, іх здымаюць на кіно...

Каля трыбуны ішлі асабліва ўрачыста, начальства трымала руку пад казырок. Партызаны крычалі «Ура!». І Зіна крычала «Ура!». Калі мінулі трыбуну, яна азірнулася. І ўбачыла казла. Таго самага, з нямецкімі ўзнагародамі. Казла на вяроўцы вёў той самы партызан — белабрысы, у кароткім пінжачку, з аўтаматам. І целяпаліся на казле нямецкія крыжы, медалі... Начальства на трыбуне ўсміхалася...

Тая сустрэча з Ромкам вырашыла Зінін лёс. Папершае, Раман запісаў яе прозвішча ў лік партызан атрада імя Чапаева. Па-другое, быў дакумент — Зіна на парадзе партызанскім. Атрымалася так, што яна трапіла не ў адзін кадр — і на фотакартцы, і ў кінахроніку.

Больш за ўсё Зіна баялася начальніка асобага аддзела, ён і там, у лагеры, як толькі Зіна апынулася ў атрадзе, доўга з ёю гаварыў — чаму яна прыйшла ды хто прыслаў, хто прывёў. Цэлы допыт наладзіў. Баялася допыту і цяпер. Жыла ў трывозе. Спыталася ў Рамана, быдта з клопатам, з цікавасцю да тых людзей:

— А дзе ж камандзір наш? Дзе начальнік асобага аддзела?

— Камандзір загінуў у тую блакаду,— адказаў Раман.— А начальніка асобага аддзела ўзялі ў армію.

Як дазналіся потым Раман з Зінаю, і начальнік асобага аддзела загінуў. На фронце. Пад самым ужо Берлінам.

І шкода было Зіне гэтых людзей, і разам з тым быдта палёгка... Няма каму дапытваць...

Раман, было, яшчэ раз папытаўся:

— Дык куды, чаго цябе камандзір у Мінск пасылаў?

І Зіна яго да таго дома падвяла, да разбітага, дзе нібыта яўка была. А што хацеў ад яе камандзір — сама не ведае. Там, на яўцы, павінны былі сказаць.

Раман паверыў.

І пайшла пра Зіну слава партызанская, якую яна ахвотна падтрымлівала.

Яе паслалі вучыцца. А потым паставілі дырэктарам швейнай фабрыкі.

Раман скончыў партыйную школу і працаваў цяпер старшынёй райвыканкома. Мог бы вышэй падняцца ў сваёй кар'еры, ды ніколі не ведаў, як Зіна казала, дзе трэба лізнуць, а дзе гаўкнуць... Замінала трохі і гарэліца, не мінаў, грэшным дзелам.

З гадамі неяк атрымалася, што верх, аўтарытэт у сям'і ўзяла Зіна. І партызанскую славу займела большую, чым Раман. Яе, а не Рамана запрашалі на сустрэчы з моладдзю, яе, а не Раманавы партрэты друкаваліся ў газетах, часопісах, яна, а не Раман сядзела ў ганаровых прэзідыумах, яе, а не Рамана ўвялі ў камісію па справах былых партызан, падпольшчыкаў. Яна сама ўжо верыла ў сваё геройскае, баявое партызанства. Расказвала на сустрэчах, як пад кулямі перавязвала параненых партызан, як страляла па немцах, якія наступалі на лагер. Як па заданню камандзіра хадзіла на яўкі. І нішто душы не трывожыла, перакакала сябе і іншых, што так і было.

І раптам гэта недарэчная жанчына, гэта Фімка. Спачатку Зіна і папраўдзе яе не пазнала, а потым успомніла. Успомніла стварэнне ў ватоўцы, у падранай хустцы. Дзяўчына круцілася каля шпітальнай зямлянкі, была там санітарка, ці што, а як наляцелі немцы — схапіла мяшок з бінтамі і намерылася бегчы туды, дзе стралялі. А яна, дурніца, угаварвала бегчы яе ў другі бок... Угаварвала ўцякаць... Скажы гэтай Фімцы, што ўспомніла яе, падпішы дакумент, пасведчы яе партызанства — і пойдзе языком мянціць: «А гэта ж геройка звала мяне ўцякаць... Дэзерціраваць... Якая ж яна геройка...» Кума куме, і дойдзе да начальства... Пачнуць правяраць... Яшчэ і праўда дакапаюцца, што яна дэзерцір...

За час работы ў камісіі па справах падпольшчыкаў і партызан чаго не нагледзелася Зінаіда Юр'еўна Патапава. Як лопаліся дутыя аўтарытэты... Як паклёпнікі аблівалі людзей брудам і ад таго бруду чалавек не мог ужо адмыцца ўсё жыццё, хоць і ясна рабілася, што данос той паклёпніцкі. Як заблытваліся адносіны людзей, і заблытваліся так, што ўжо нельга было разабрацца — хто тут вінаваты і хто невінаваты. Як уставалі, закіданыя каменнямі гадоў, пахаваныя, быдта ў магілах, факты, учынкі людзей, ад якіх рабілася мо-

ташна і страшна. Зіна бачыла такіх — знішчаных, апляваных. Не дай бог, каб так і з ёю... Не дай бог...

Толькі цяпер, здаецца, адчула Зіна Патапава, што ўсе гады пасля вайны жыла яна пад трывогаю. Здаецца, усё забылася, ніхто нічога не напамінаў, а страх, трывога тачылі.

Не ведае, не помніць яна Фімкі... Ніякай не помніць Фімкі.... Няхай дакажа нехта, што помніць, ды не хоча прызнаць... Няхай дакажа тая Фімка, што Зіна звала яе ўцякаць... Няма сведак... І з той дарогі, дзе засталася адзінокая падвода, няма сведак... Мёртвыя сведкі... Няма...

Зіна ляжала на канапцы, укрыўшыся пуховаю хусткаю — цёплаю, вялікаю, некалі купіла ў Кіславодску, як ездзілі з Раманам на курорт.

Раман... Яшчэ Рамана памятае... Можа да Рамана пад'ехаць... Ну, гэтаму як я скажу, так і будзе... Хто ж яшчэ з атрада застаўся ў Мінску, здаецца, нікога... Час падмятае... Падмёў... А можа, болей і шукаць не будзе?.. Нейкая рохля... І прозвішча ў яе падобнае на рохлю... Як жа яе прозвішча? Ага, Мархель... Дасюль не шукала, і раптам адумалася... Можа, болей і не будзе шукаць?..

## 7

Пасля доўгіх маразоў прыйшла адліга, але на вуліцы ад яе не палепшала: дзьмуў моцны вецер, церусіў дождж, засланяючы даль туманам, у дварах толькі што чысты, белы снег апаў, пацямнеў, як твар схварэлага чалавека. Ліпы на праспекце стаялі чорныя і блішчалі ад вільгаці, на голых галінах нанізваліся кроплі, як пацеркі.

Снег, змешаны з пяском, якім у мароз пасыпалі вуліцы, ператварыўся ў рудую кашу, і аўтобусы, тралейбусы пырскалі ёю з-пад колаў, пырскі залятлі аж на вокны, і праз іх таксама было кепска відаць, як і праз замураваныя холадам. У паветры вісела сырасць, змешаная з пахам перагарэлага бензіну, саляркі, якімі чадзілі машыны і якія асабліва востра чуліся ў вільготным паветры.

— Лепш ужо мароз,— казалі людзі.

Але ў бальніцы, хворым, не было ніякай розніцы, якая на дварэ пагода, тут панаваў свой свет, сваё жыц-

цё і кожны меў сваю пагоду, якая залежала ад болю, ад тэмпературы, ад таго, ці прыйшлі адведаць і хто прыйшоў.

Апошнім часам у палатах памяняліся амаль усе хворыя, толькі адна, цяжкая, ляжала і ляжала на ложку пры дзвярах, як ні стараліся пры ёй дактары, кабеце ўсё горшала. Твар яе зжаўцеў, скура туга напялася на лобе, на носе, некалі пафарбаваныя валасы адраслі і пушыліся над галавою белым німбам. Цяпер на ложку толькі і відаць была гэта галава, пад коўдраю быдта і нічога не ляжала, быдта пусты ложак быў прыкрыты коўдраю, так схуднела, высахла ўсё цела кабеты.

Фімка прыбірала ў палаце — вадзіла анучаю, накручанаю на голую шчотку, па падлозе, пакідаючы на зношаным, рудым ліналеуме бліскучыя палосы. Палосы хутка высыхалі, і падлога зноў рабілася рудая, і тут не дасі ўжо ніякай рады, трэба мяняць ліналеум. Наогул у бальніцы трэба рабіць рамонт, недзе летам, можа, і будуць рабіць. Будынак стары, яшчэ даваенны, але ён лепшы за новыя — высокія столі, вялікія вокны, у палатах шмат паветра і святла. Зробяць рамонт, то і зусім добра тут будзе, хаця, як той казаў, лепей гэтага дабра не ведаць.

Сёння была серада, дзень, калі дазвалялі адведваць хворых, і адна, маладая, з валасамі, сашчэпленымі ззаду вялікаю сіняю заколкаю, сядзела ўжо, як курыца на плоце, на падаконніку. Фімка ведала, што хворая чакае мужа, ён прыходзіць кожны адведачны дзень, часам прарываецца і ў дзень неадведачны, і тады яны падоўгу сядзяць, узяўшыся за рукі, на драўляным тапчанчыку ў калідоры, буркуюць паціху, як галубкі. З акна відаць вуліца і той тратуар, па якім муж ідзе ў бальніцу, вось хворая і чакае, выглядае, хоць з акна вельмі дзьме і жанчына можа прастудзіцца.

Каля другой, пажылой жанчыны з круглым тварам і стомленымі вачмі, сядзіць маладая, з такім самым круглым тварам, Фімка ведае, што гэта дачка, ды каб і не ведала, па абліччы відаць — падобныя. Дачка нанесла мацеры — і ў слоіку, і ў місачцы, і ў цэлафанавым мяшэчку — рознай яды. Да гэтай кабеты ўвогуле ідуць і ідуць, нясуць і нясуць — то дочкі, то нявесткі, то сёстры, пляменніцы. З'есці ўсё, што ёй прыносяць, кабета не можа і частуе сваіх суседак па палаце — то

блінцамі, то піражкамі, то катлеткамі. Фімка лічыць, што гэта жанчына правільна пражыла жыццё і цяпер шчаслівая. Мець шмат радні, ды такой, каб шкадавала цябе, глядзела — шчасце. Часам Фімка думае — а каб яна вось так моцна захварэла і злягла ў бальніцу, ці бегалі б да яе Таня, Ларыса, ці насілі б — і ў слоіку, і ў місачцы? Ат, лепей не хварэць...

Побач са шчасліваю жанчынаю ляжыць другая, якую Фімка лічыць нешчасліваю. Яшчэ не старая, валасы з завіўкаю, губы намаляваныя, а вочы ўвесь час быдта нечага шукаюць альбо некага чакаюць. Да яе ніхто не прыходзіць, ніхто нічога не прыносіць, жыве на бальнічным стале. Праўда, тая, якой усё носяць, частуе і частуе гэту, адзінокую. І яна не адмаўляецца, бярэ і бярэ, есць і есць, абсмоктваючы курыныя костачкі, дачыста выядаючы са слоікаў і місачак. Яна стараецца з усімі быць добраю, усім дагадзіць, услужыць, але ў гэтай паслужлівасці нечага быдта не хапае і нешта быдта лішняе. Фімка не ведае, што гэта, як гэта называецца, але ў душы шкадуе кабету, мусібыць, там, за бальніцаю, той жывецца яшчэ горай, чым тут.

Павяла Фімка анучай каля ложка, на якім ляжыць цяжкая, і на міг прыпынілася. Вочы ў той заплюшчаныя, і быццам не дыхае... І ў Фімкі захапіла дыханне. Стаяла, трымаючы шчотку, не варушачыся. Ды раптам вочы ў той памалу расплюшчыліся, глянулі на Фімку як з далёкага даля. Кранулася прасціна ад уздыху. І быдта ўсміхнулася хворая, спыталася паціху:

— Што, нянечка?..

— Анічога, нічога, падаць што, можа...

Засаромелася Фімка, што на жывую так падумала, не ведала, як віну сваю выправіць.

— Нічога не трэба,— сказала хворая і зноў заплюшчыла вочы.

Фімка падхапіла вядро, вынесла яго за дзверы, у калідор. Пачала мыць падлогу ў калідоры. Зноў вадзіла анучаю па выцертым лінолеуме, тут ён выцерты яшчэ больш, чым у палатах. Здаецца, ні пра што не думала Фімка, рабіла работу, якую, заплюшчыўшы вочы, магла рабіць. Ні пра што не думала, а ў галаве снавала, варушылася, плыло — быдта карціны. То хворая, што на падаконніку мужа чакае, то нешчаслі-

вая, як вымазвае хлебам са слоіка. Выплыла, прыйшла ў галаву і Таня.

— Ты век дурная была, дурною і памрэш,— пачула яе голас.

— А што мне рабіць, што рабіць, калі Зіна Патапава мяне не помніць? — апраўдваецца перад ёю Фімка.

Не сказала пра сваё падазрэнне, быдта ўспомніла яе Зіна Патапава, ды не захацела прызнаць.

— Не адна тая Зіна была ў атрадзе, яшчэ нехта быў, пашукай...

— А як гэта я буду шукаць, каго знайду, дзе?

Не прызналася, што муж той Зіны — Ромка, што Ромка мог успомніць.

Не прызналася Тані і нікому ў жыцці не прызнаецца, як сядзела каля таго дома на лавачцы — і дзень, і два, і тры, пільнавала, каб убачыць яшчэ, каб пазнаць — можа, той раз абмылілася, можа, не Ромка?

Тады яшчэ было марозна. У двары гулялі дзеці — каталіся на санках, бегалі адно за адным, смяяліся. Людскія дзеці. Фімка так і не ведае, і не разумее — як гэта мець сваё. Праўда, Таніны дзеці... Ну і добра, што Таніны дзеці, а так... Як бы яна і жыла...

Бегалі дзеці, смяяліся, і людзі ішлі і ішлі, то заходзілі ў пад'езд, то выходзілі. Пад'язджалі машыны. А яна, у баку ад пад'езда, захутаная ў хустку па вочы, каб крый бог не пазналі, сядзела на лавачцы. Баялася, каб Зіна Патапава не згледзела ды не пазнала. Бо спыталася б — чаго тут сядзіш? І што б ёй Фімка адказала?

У яе стылі ногі, ледзянелі рукі і ў душы ўсё скавана было, нібы холадам. Няўжо гэта ён? Тут жыве? У гэтым вось доме? І ўсе гады жыў, а яна не сустрэла ні разу... Ні на вуліцы, ні ў магазіне, ні ў аўтобусе. Ды ён, мусіць, у тых аўтобусах і не ездзіць, на машыне, мусібыць.

І Фімка прыглядалася да людзей, якія прыязджалі на машынах.

Яго не прывезла машына, ён прыйшоў сам. І цяпер яна яго пазнала. Пазнала адразу, здалося цяпер, што ён і не змяніўся, такі, як і быў. Толькі крышку папаўнеў... І адзежа не тая... Шапка, паліто... У руцэ партфель з бліскучымі замкамі... Быдта які доктар...

Зледзянелыя, змерзлыя грудзі абдало гарачым.

Моцна застукала сэрца. Каб і хацела, не магла б падняцца з лавачкі. Вяла за ім вачмі, як ён ішоў, не здагадваючыся нават, што на яго скіраваны пякучы позірк. Бразнуў дзвярыма пад'езда.

Памалу адыходзіла гарачыня, сунімалася сэрца. Падступала жаданне ўстаць, зайсці ў тую кватэру, скінуць хустку і спытаць: «Ці помніш мяне, Ромка?» А што, як скажа — не помню... Сказаў жа некалі — «У нас з табою не было нічога... Нічога не было...» А можа, дамовіліся з Зінай Патапавай — не прызнаваць... Можа, расказала яму Зіна, што прыходзіла нейкая Фімка, і дамовіліся — не прызнаваць...

Холад, які растапіла гарачыня, зноў папоўз па целе, зноў пачула, як застылі ногі. Паварушыла пальцамі ў рукавіцах — і рукі задубянелі.

Бегалі, смяяліся дзеці. Тыя самыя ці другія? Праз адкрытую фортку матка клікала свайго:

— Саша! Дадому!

А калі б і пазнаў? Калі б і прызнаў? Што б яна яму сказала? Падпішы дакумент? А на чорта ёй той дакумент?! Трыццаць гадоў жыла, а цяпер дакумент... Ці ж яна за дакумент на Мішкавых нагах ляжала, калі доктар з яго цела кулю выкалупваў? Ці за дакумент бінты мыла, па чарніцы бегала, Мурмоня перавязвала?

Апомнілася Фімка, а яна ж не мые падлогу, стаіць, упершыся на шчотку, вада ў вядры застыла мутным азярцом. Людзі абыходзяць вядро, Фімку. Спахапілася, зашоргала анучаю па лінолеуме, быдта змываючы, праганяючы з памяці Зіну Патапаву, Ромку.

«Няхай жывуць... Яны — самі па сабе, я — сама па сабе... Чаго мне не хапае? Сытая, адзетая...».

На століку ў калідоры стаяла жоўтая скрыначка рэпрадуктара, трое мужчын у бальнічных піжамах, упершы бароды на складзеныя кулакамі рукі, уважліва слухалі перадачу. Калі Фімка падступіла да іх са сваёю шчоткаю, яны памкнуліся падняцца, але яна стрымала:

— Сядзіце, сядзіце, толькі ногі крышку...

Мужчыны пападнімалі ногі, і яна павяла па падлозе анучаю, адышла, каб не замінаць людзям...

Ідучы з работы, як заўсёды, зайшла ў адзін магазін, у другі, напакавала сумку прадуктамі.

Даль засцілала рудая морась, дробнымі кроплямі сыпала ў твар, пад нагамі распаўзаўся раскіслы снег.

З вуліцы, забудаванай новымі камяніцамі, павярнула ў свой завулак — нізенькі, драўляны, з голымі дубцамі вішань, яблынь, напалову раскіданы завулак, у якім засталося ўсяго тры дамы і ў адным з якіх жаўтаватым агнём свяціліся вокны. Нехта ўжо дома — Таня ці Ларыса... А можа, усе сабраліся...

І хваля радасці, цеплыні накацілася на Фімку, зазвінеў, загучаў у душы даўні, забыты ўжо спеў. І ад яго па сэрцы — галубіным крылом, галубіным крылом.

Не ведае Фімка, чаго зрабілася так радасна і лёгка на душы. Можа, таму, што адкінула клопат пра той дакумент... Што будзе жыць, як і жыла. Радавацца, што з работы ідзе дадому. І што назаўтра з дому на работу пабяжыць... Што і там і тут людзі, якіх яна любіць.

Галубіным крылом, галубіным крылом... Ці з зямлі паднімаўся той спеў, ці плыў з неба, ці ў ёй самой нараджаўся?..

## «ТАНЦУЙ ТАНГО...»

Гарадок быў нібыта незнаёмы чалавек, пра якога думаеш — вельмі ён на некага падобны, толькі не ўспомніш — на каго, а потым пачынаеш разумець, што гэта проста такое аблічча, блізкае табе аблічча, можа, нават земляка, чалавека з тваёй вёскі.

Так і гэты гарадок. Колькі іх, вось гэтакіх — з зялёным скверыкам у цэнтры, з Домам культуры, у архітэктуры якога можна пазнаць былую царкву альбо касцёл, з брукаванаю плошчаю, абапал якой на невялічкіх мураваных дамах шыльды — «Прадукты», «Кнігі», «Універмаг», з брукаванымі вуліцамі, што разыходзяцца ад гэтай плошчы. Не разбягаюцца, а іменна разыходзяцца, бо ўвесь тэмп жыцця ў такіх гарадках пасля шумных сталіц здаецца як у замаруджанай стужцы кіно. Тут у магазінах не падганяюць прадаўшчыцу — скарэй, скарэй, яна спакваля робіць сваю работу, тут не бягуць на злом галавы па вуліцах, каб дагнаць аўтобус ці тралейбус, тут не адмахваюцца ад чалавека, які што-небудзь пытаецца, а спыняюцца і шчыра, доўга, падрабязна расказваюць, як і куды ісці. Так падрабязна, што таму, хто спытаў, ужо хочацца скарэй пабегчы, бо ўсё ўжо даўно зразумеў. Але мясцовы жыхар тлумачыць, тлумачыць, а ў самога ў вачах столькі цікаўнасці, так хочацца яму, каб на яго тлумачэнні і ты даў свае, сказаў, хто ты ды адкуль, чаго сюды прыехаў, бо сваіх яны ўсіх ведаюць, а па табе адразу відаць, што ты тут залётная птушка.

Вера Максімаўна абследавала ўжо магазінчыкі, што стаялі абапал плошчы, ходзіць пагалоска — у такіх магазінчыках залежваюцца добрыя тавары. Цікавых тавараў яна тут, праўда, не ўбачыла, толькі ў кнігарні ляжаў крыху прыпылены томік успамінаў Ве-

расаева, і яна купіла гэту кніжку. Пагуляла яна і па зялёным скверыку з пафарбаваным бронзаю помнікам Леніну ў цэнтры, але як глянула на гадзіннік, убачыла, што да аўтобуса яшчэ дзве гадзіны чакання.

Вера Максімаўна завітала ў гэты гарадок па пісьму, якое прыслала ў рэдакцыю іхняй газеты жанчына. Аўтарка пісьма скардзілася, што яе незаконна звольнілі з работы. Пакуль Вера Максімаўна прыехала, жанчыну ўзялі на работу назад, начальства дачулася, што пакрыўджаная кабета пажалілася прэсе, і вельмі скора ўсё было ўладжана. Вера Максімаўна магла толькі парадавацца аўтарытэту іхняй газеты, відаць гэта было па тым, з якою пашанаю яе прымалі, як тлумачылі, што сапраўды была памылка, але яна ўжо выпраўлена. Так што справа заняла ў Веры Максімаўны, можа, з гадзіну, астатні час да аўтобуса быў вольны, і яна не ведала, як яго прабавіць, як скараціць.

Пасядзеўшы на лаўцы ў скверыку, за якім відаць быў адзін бок той самай плошчы з магазінчыкамі, паназіраўшы, як зрэдку праходзяць па ёй людзі, Вера Максімаўна паднялася, азірнулася і вырашыла прайсціся па адной з вуліц, што разыходзіліся ад плошчы. Выбрала тую, што здалася ёй зеляненйшаю, прыгажэйшаю, і пайшла па драўляным тратуарчыку.

Дамы на вуліцы былі драўляныя, з садамі, дзе завязваліся ўжо яблыкі, ігрушы, з агародамі, на якіх зелянелі цыбуля, укроп, чырванела буракобае бацвінне. Дамы былі пафарбаваныя, з верандамі, чым і адрозніваліся ад тых вясковых, якія яшчэ памятала Вера Максімаўна, і вуліца адрознівалася ад той вясковай, хоць шмат і падобнага было ў ёй. Былі тыя ж ціішыня, сады і агароды, а не хапала, мусіць, гумнаў ды хлявоў з даверліва расчыненымі варотамі, не хапала калодзежаў з доўгімі дзюбамі жураўлёў альбо з цэпамі, накручанымі на барабаны, не хапала таго салодкага паху гною, паху цёплага, толькі з-пад каровы, малака і яшчэ нечага, няўлоўнага, чым пахла старая вёска.

Вуліца ўпіралася ў асфальтавую шашу, якая агібала мястэчка, за шашою разлягалася поле, цёмна-зялёнае ад сакаўнога лубіну. Ён не паспеў яшчэ расцвісці, толькі павыкідаў высокія цурубалкі з белаватымі пупышкамі кветак, якія скора загарацца сінню і зробяць гэта поле падобным на мора.

За полем лубіну залаціста зелянеў хваёвы лес, над ім плылі чыстыя белыя аблокі.

Палюбаваўшыся ўсім гэтым хараством, Вера Максімаўна павярнулася, каб ісці ўжо да станцыі, дзе, як і на ўсіх станцыях у такіх гарадках, з вечнымі цыгаркамі на губах сядзяць няголеныя дзядзькі і бясконца вырашаюць розныя складаныя, і ўнутраныя, і міжнародныя, праблемы, ды раптам пад высокаю бярозаю, што расла на ўскраі мястэчка, убачыла невялічкую агароджу з вузкіх штакецінак, а за ёю белую пірамідку.

Колькі іх, такіх пірамідак, за такімі агароджамі параскідана на нашай зямлі. Усё сляды, сляды вайны. Вось і тут гэты след, узбоч шашы, на ўскраі ціхага мястэчка. Ці на гэтай дарозе сустрэўся салдат з куляю, недзе, на чужыне, зробленай спецыяльна для яго, ці таварышы аднекуль неслі параненага, ды не данеслі і тут, пры дарозе, пад гэтаю бярозаю, тады яшчэ, мабыць, зусім маладзенькаю, пахавалі?..

Паволі пайшла Вера Максімаўна да магілкі. Спынілася. Узяўшыся за пацямнелыя ад часу штакеціны, пачала чытаць:

— Даніловіч Уладзімір Максімавіч... 1923—1944... Загінуў смерцю героя...

Ну так, вайна, канечне, вайна... Колькі ж яму было? Дваццаць адзін? Ну, так, дваццаць адзін...

Да пірамідкі быў прымацаваны і медальён. Відаць, прымацавалі яго пасля вайны, у тыя часы было не да медальёнаў. Але і над тым медальёнам прашумела ўжо нямала вятроў і дажджоў, краёк яго ўнізе быў адбіты, сам медальён у дробнай сетачцы трэшчын, праз якія, як праз тоненькія павуцінкі, прасвечвала зусім маладое аблічча.

І раптам нібы токам ударыла Веру Максімаўну, зашумела, закруцілася ў галаве, і закруцілася бяроза над магілкаю, і зялёнае поле лубіну, і залацісты хваёвы лес. Закруцілася ўся зямля, закруцілася назад, назад, праз гады, праз дзесяткі гадоў, вяртаючы яе, ужо сталую жанчыну, у маладосць, у зялёную маладосць, амаль у дзяцінства.

Тады, бывала, падступала адчуванне, што ногі крочаць па чужой, незнаёмай планеце. Яшчэ ўчора аблітая сонцам, з пахамі хлеба, травы, з галасамі людзей і птушак, з моцнаю вераю ў чыстае, святое была пад

нагамі зямля, была, нібыта бацькоўскі дом, дзе кожны куточак — тваё прыстанішча, дзе нават сцены памагаюць, бароняць.

І раптам сцены абваліліся, і больш няма прыстанішча, і кінула цябе на друз, на камяні, і дзе шукаць ратунку, справядлівасці.

Яшчэ ўчора стаяў горад — і горада няма, толькі шкілеты высокіх дамоў пазіраюць пустымі вачніцамі вокнаў. Узрыты бомбамі дол падобны на паверхню Месяца, калі на яго глядзець у тэлескоп...

І ты, дзіця чалавечае, кінутае на гэты дол, на гэтую паверхню Месяца, пад ногі чужынцам, што ў вясёлым маршы крочаць па ёй і крышаць, трушчаць самае святое, крычаць дзікія, кашчунныя словы...

Так, так, нешта падобнае было ў тых Верыных адчуваннях першыя дні, тыдні, месяцы вайны.

Былі адрэзаны ўсе дарогі, што яшчэ нядаўна так шырока разлягаліся наперадзе — раней нябачаны вялікі горад, у які збіралася ехаць вучыцца — суровае паўночнае мора, белыя ночы... І нічога вакол, пустата, чарната. А тут яшчэ пачаў даймаць голад. Маці ўгаварвала пайсці ў сталоўку абіраць немцам бульбу, казалі, там за гэта даюць у дзень міску супу.

Надта не хацелася ісці. І яна доўга трывала. А далей пайшла.

Яе пасадзілі над вялізным чанам, і яна абірала, абірала бульбу, адну за адной кідаючы ў той чан, беручы з мяшка новую бульбіну, абіраючы і зноў кідаючы, праклінаючы і немцаў, і тую работу.

І раптам над яе галавою залямантаваў, заекатаў немец. Выхапіў бульбіну з чана, сунуў ёй пад нос, і раз сунуў, і другі і ўсё екатаў, екатаў... І тыкаў пальцам у чорнае вочка, што засталося на бульбіне. Выхапіў з чана яшчэ адну бульбіну і зноў сунуў ёй пад нос, і зноў ткнуў пальцам у чорнае вочка... А потым — вэк, раўз, русішэ швайн, не ўмееш абіраць бульбу!..

Так і не пакаштавала, дзякуй богу, таго супу.

А толькі што споўнілася шаснаццаць... Імяніннага пірага не было... Нават маці не сказала — віншую... Якое там віншаванне на чужой планеце...

Нядаўна споўнілася шаснаццаць. І цягнула да сваіх аднагодкаў. Да тых, з кім нядаўна вучылася ў адным класе. Каб пагаварыць — што ж рабіць далей...

Яны жылі на Грушаўскай вуліцы ў адным доме —

Іра і Жэня Харэвіч. Стрыечныя сёстры між сабою. Апошні раз Вера бачыла іх у школе на экзаменах, калі канчалі восьмы клас. Яшчэ на той планеце, зямля... Гэта было месяцы два таму назад.

Па дашчаным тратуары, на якім некалькі дзён таму назад ляжаў забіты немцамі чалавек, паўз магазін, цяпер разбураны, разбіты, паўз будынак іхняй школы, з якога немцы зрабілі казарму, пайшла яна на Грушаўскую вуліцу.

Драўляная вуліца ляжала зялёная, цэлая. Толькі нейкая ціхая, як нежывая. Першыя гукі пачуліся з дома, у якім жылі Іра з Жэняю:

Помнишь ли, родная,
Ночи голубые,
Звонкий шелест листьев
Под ночным дождем...

З хвіліну Вера стаяла, быццам аглушаная, не верачы, што і цяпер можа быць музыка. А мелодыя плыла, і хрыплаваты жаночы голас спяваў:

Дождь идет, роняя
Брызги золотые,
С тобой мы только вдвоем,
Только вдвоем с тобой...

Нясмела адчыніла дзверы.

На стале стаяў патэфон. І круціўся на ім чорны дыск. І плаўна ківалася, вадзіла іголкаю па пласцінцы, мембрана.

Вакол стала танцавалі пары. Жэня з Казікам, вучнем іхняга класа. Іра з Колем, што жыў на іхняй вуліцы. І Ніна, таксама з іхняга класа. Ніна танцавала з незнаёмым хлопцам у белай кашулі, з цёмнаю хвалькаю валасоў над высокім ілбом.

У Ніны былі светла-блакітныя, як вадзяністыя, вочы. Дзіўна, але Веры чамусьці здавалася, што Ніны наогул няма, яе не існуе на свеце, ёсць толькі нейкая яе абалонка, апранутая ў сукенку. У Ніниных вачах была пустата... І не было, не існавала Ніны. Але яна, аказваецца, была, існавала дзяўчына па імені Ніна і танцавала цяпер з незнаёмым хлопцам у белай кашулі, з хвалькаю цёмных валасоў над высокім ілбом.

На Веру тут быццам не звярнулі ўвагі. Прыйшла, дык прыйшла, села, дык сядзі... І яна, прымасціўшыся на крэсле, што стаяла пры сцяне, з дзівам пазірала на сяброваk.

І тут было, як на іншай планеце. Хіба раней тут танцавалі з хлопцамі? У галаве былі ўрокі, кнігі. Часам, праўда, і танцавалі, але адны дзяўчаткі. Найбольш зубрылі, калаціліся перад экзаменамі...

Пласцінка скончылася, Жэня падбегла, перавярнула яе на другі бок, пакруціла ручку патэфона, апусціла на пласцінку іголку. Пласцінка крыху пасіпела, а потым зноў завяла:

Танцуй танго...
Мне так легко...
Под звуки танго танцуем с тобою
Мы первый раз...

Пары памяняліся. Цяпер Жэня танцавала з Колем, Ніна з Казікам, а Іра з незнаёмым хлопцам. І ўсё нечага шапталіся, шапталіся між сабою. А Вера сядзела, глядзела. Сама не ведае чаму, вочы яе ўвесь час сачылі за незнаёмым. Нешта ў ім уразіла Веру. Можа, тая цёмная хвалька над высокім ілбом?.. А можа, цвёрды, як мужчынскі, позірк?.. А можа, тое, як ён зграбна танцаваў?..

Мусіць, ён быў старэйшы за іх, не нашмат, можа, на які год альбо два. Але адчувалася, што старэйшы, не такі, як Казік альбо Коля. З гэтымі Вера была як і з дзяўчатамі, яны не выклікалі ні трывогі, ні сораму, не хавалі ў сабе таямніцы. А гэты, хоць бачыла яго першы раз, абудзіў нешта невядомае, чаго зусім не ведала ў сабе.

Пасля танга быў факстрот. Яшчэ адзін факстрот. Зноў танга. Дзяўчаты танцавалі, мяняючы сваіх кавалераў, а Вера ўсё сядзела, глядзела. Яе не заўважалі. Ну і няхай!.. З Казікам ды з Колем ёй усё роўна не цікава было б танцаваць, ёй нават крыху дзіўна рабілася, што Іра, Жэня ды Ніна так сур'ёзна з імі танцуюць. Гэта ж былі двоечнікі, колькі паспісвалі яны ў Веры задачак, а выходзілі да дошкі, то так і глядзелі, каб хто падказаў, на экзаменах шпаргалак нарабілі.

А гэты, незнаёмы... Каб гэты запрасіў яе на танец, то яна, мусіць, самлела б ад сораму, ад страху, мусіць, у яе падкасіліся б ногі і яна не змагла б нават стаць на іх, не толькі танцаваць.

Потым вярталася дадому, а з вачэй не сыходзіў ён. Цёмная хвалька. І цвёрды позірк. І нешта незнаёмае праходзіла праз грудзі, нешта ў іх сціскалася, рабілася

то радасна, то трывожна, і дзіўна было ад такіх адчуванняў, і непадуладныя былі яны, каб іх адкінуць.

Назаўтра Вера зноў пайшла да сябровак. І там зноў танцавалі. І быў ён. Танцавалі, як і ўчора, мяняючы пары. А Вера зноў сядзела пры сцяне.

І раптам, калі пласцінка каторы раз завяла сваю мелодыю, незнаёмы хлопец падышоў да яе і запрасіў на танец.

На ўсю моц затахкала сэрца. Як у сне — паднялася. А ён ужо выводзіў яе на сярэдзіну пакоя.

Танцуй танго...
Мне так легко...

Ногі сапраўды не слухаліся. І як жа старалася Вера пабароць страх, сорам, як старалася зграбна хадзіць пад музыку. І не бачыла перад сабою свету, усё засланяла яго белая кашуля. Толькі недзе пад сярэдзіну пласцінкі пачала танцаваць смялей.

Ён сказаў, што зваць яго Валодзя. Што жыве каля «Белпалка». Былога «Белпалка», цяпер яго занялі немцы. Але людзі ўсё роўна называюць — «Белполк».

Нешта павінна была сказаць яму і Вера. Але не здолела нічога сказаць.

А наступным разам ён не прыйшоў. І калі Вера завітала да сябровак цераз дзень, яго зноў не было. Не прыйшоў ён і праз тыдзень.

Нясмела спыталася Вера ў Жэні — а дзе ж Валодзя і хто ён такі? І пад вялікім сакрэтам Жэня сказала, што Валодзя — гэта ого-го! Танцы ў яго тут былі для маскіроўкі. Каб немцы дазналіся, хто ён такі і дзе яго можна злавіць, то... Не аднаго Валодзю, іх бы тут усіх пахапалі...

Аж захлынулася Вера дыханнем. Дык вось чаму так уразіў яе гэты хлопец!.. Адчула яе душа, адчула, што ён не абы-хто, што ён не толькі прыгожы, але і мужны, сапраўдны чалавек, герой!

Яна ведала, на якой вуліцы ён жыве. І ногі самі павялі. Яна і цяпер, праз сорак два гады, можа пабажыцца, што ногі самі павялі. Яны былі ёй непадуладныя. Яна памятае, як і сорамна, і страшна было ёй ісці. Здавалася, кожны ведае, чаго яна ідзе па гэтай вуліцы.

Яна разумела, што наўрад ці сустрэне яго, можа, яго ўжо няма і ў Мінску. Ды каб і сустрэла, то, мусіць,

і не павіталася б, нават вочы на яго не адважылася б падняць.

Ярка свяціла гарачае сонца. Бяздумнае сонца, якое аднолькава свеціць і змяі, і сокалу, і ворагу, і сябру, якому ўсё роўна, хто грэецца ў яго промнях.

Па вуліцы шпацыравалі немцы. На Суражскім базары, на слупах, віселі закатаваныя імі людзі. Гарою друзу ляжаў разбіты горад. А Вера ішла. Ішла, каб хоць здалёк яго пабачыць.

І вось, здаецца, сустрэла... Не тады, не тым жнівеньскім днём сорак першага года. А цяпер. Праз сорак два гады. На ўскраі гэтага мястэчка. Здаецца, гэта быў ён. Цёмная хвалька над чыстым высокім ілбом. І суровы, як мужчынскі, позірк. І такая самая кашуля.

Аблічча глядзела на Веру Максімаўну праз тоненькую сетачку трэшчын. І здымак быў не самай лепшай якасці, яшчэ даваенны. Але чым больш прыглядалася Вера Максімаўна да гэтага твару, тым больш пераконвалася — ён. І імя — Валодзя...

Валодзя, Валодзя... Колькі іх, Валодзяў, было да вайны... Можа, ён... А можа, і не ён... А калі і не ён, то хіба не ўсё роўна?..

Ох, нашы хлопчыкі...

Вера Максімаўна трымалася рукамі за штакеціны — пажылая жанчына, бабка двaіх унукаў. Трымалася за штакеціны і быццам глядзела ў сваю маладосць.

І халадзела пад сэрцам.

І падступала туга.

## КАМАНДЗІРОЎКА ЗА МЯЖУ

### Дакументальнае апавяданне

Сонны вагон стаяў непрывычна высока над рэйкамі, яркія агні ліхтароў вырывалі з цемені ўзорыстыя фермы, страпілы дэпо, бліскалі на спінах саставаў, што пасцішваліся тут пад іх нежывым святлом, нібыта яшчаркі на сонцы. Пастуквала жалеза аб жалеза, часам гулка ўсплывалі галасы рабочых — мянялі калёсы з шырокай каляі на вузкую.

Я заўсёды зайздрошчу людзям, якія ўмеюць спаць, дзе ні прыткнуцца — адхінуўшыся на спінку крэсла

ў аўтобусе альбо ў самалёце, на паліцы ў цягніку, у агульным пакоі гасцініцы. Я магу спаць толькі ва ўласным ложку, і то колькі збэрсана ў ім прасцін. Самае невялікае ўзбуджэнне праганяе сон, і ўжо круцішся цэлую ноч, шукаючы на падушцы шчаслівага месца — вось яно, вось-вось ты патонеш у салодкім небыцці, дзе няма ні клопатаў, ні звадак, ні турбот. Але нейкая думка, як спружына, падкідае цябе, выбівае са сну, і ты зноў адна з цішынёю ночы.

І сёння я зайздросціла сваім спадарожнікам, якія, пазакрываўшыся ў сваіх купэ, салодка спалі, даверыўшыся службам чыгункі, ведаючы, што ўсё будзе зроблена як трэба і ў належны час.

Верыла ўсім службам чыгункі і я, і клопат наперадзе быў толькі прыемны, і ўсё ж не спалася.

Пастаяўшы каля адчыненых дзвярэй вагона, паглядзеўшы на начное дэпо станцыі Брэст, дыхнуўшы пахам жалеза і шпал, нагрэтых за гарачы летні дзень сонцам, я вярнулася ў сваё купэ, лягла пад лёгкую прасціну, падбіўшы кулаком невялікую цвёрдую падушку.

Трохі пакруцілася, а потым, мусіць, задрамала, бо нават прыснілася — гранітны крыж пры дарозе, пабеленыя штакецінкі агароджы, звялыя кветкі каля крыжа і тут жа свежыя, што я паклала. Магіла нашай паэтэсы Алаізы Пашкевіч, якая ўзяла сабе псеўданім — Цётка. А побач з гэтаю магілаю яшчэ два курганкі — і без крыжоў, і без іменаў, трымаў іх над зямлёю хіба толькі дзёран, дзе палыселы, дзе з мяцёлкамі старой травы. І быццам кладу я на адзін з тых курганкоў не кветкі, а фотакартку дзяўчыны з белым вэлюмам, з вяночкам на валасах і гавару ўсё:

— Фэля... Фэля...

Прачнулася ад таго, што вагон пагойдвала, ліхтары за акном, як маланкі, раз за разам прашывалі цемнату купэ. Затрымалася хвіліну на тым сне — так жыва стаялі перад вачыма і крыж гранітны, і курганок, і фотакартка, быццам я толькі што пабыла ў Старым Двары, каля тых магіл.

Вагон ціха пагойдвала, і захацелася зноў заснуць, не інакш было знойдзена шчаслівае месца на падушцы, але ў калідоры пачуліся крокі, галасы, ручку дзвярэй у купэ тузанулі. Ну, гэтага і трэба было чакаць — пагранічнікі.

У міжнародныя вагоны пагранічнікі заходзяць кожны раз як на падбор — маладзенькія, сімпатычныя, у новенькай, з іголачкі, форме. І гэтыя былі — маладзенькія, сімпатычныя, у новенькай, з іголачкі, форме, поўныя і ветлівасці, і ўласнага гонару, і разумення важнасці свайго абавязку.

Аддаўшы чэсць, яны далікатна папрасілі паказаць дакументы. Імгненна, натрэніраваным вокам, звяралі фотакартку на пашпарце з асобаю яго гаспадара, натрэніраваным вокам кідалі позірк на купэ — ці не прытаіўся тут які заяц.

Нічога падазронага ў нашым купэ не знайшлі, аддалі чэсць, пайшлі далей.

Тым часам пачынала світаць — летнія ночы кароткія, за акном вагона ўжо мільгалі польскія беразнячкі, узгоркі, хутары, з-за гарызонта выплывала польскае ўжо сонца, па небе плылі польскія аблачынкі. Цяпер усё роўна не заснуць, так што лепей прымасціцца каля акна і паглядзець на гэту мілую і блізкую мне, быдта сястра, краіну.

Здаецца, усё тут такое, як і ў нас — не пальмы ж тут растуць і не кіпарысы, тыя ж бярозы, хвоі праплываюць за акном. Тая ж бульба цвіце сінімі кветачкамі, той жа лубін павыкідаў жоўтыя кіяхі. І ўсё ж не той пейзаж, хоць крышку, ды не той. Мажа, ад самотных хутароў, параскіданых далёка адзін ад аднаго. Можа, ад жытняга поля, якое ў нас — нібыта акіян, а тут — палоскамі, азярцамі. І зусім ужо не наша, у нас такіх, здаецца, і няма — фура на вялізных калёсах з гумавымі шынамі. У нас што першае ўбачыш на дарозе — машыну. Тут першае, што ўбачыла,— каня, запрэжанага ў фуру на высокіх гумавых калёсах. Стаіць перад шлагбаумам, чакае, пакуль праміне наш цягнік. І гаспадар каня апрануты ўжо не па-нашаму — марынарка з самаробнага сукна, шапка адмысловага фасону — такія ў нас яшчэ носяць у Заходняй Беларусі.

Мінаем невялічкія станцыі, зноў плывуць палі і пералескі.

На платформе крытага Варшаўскага вакзала мяне сустракала пані Ірэна — невысокая, энергічная, элегантная, гадоў... У Польшчы далікатна абыходзяць гэта пытанне — гады жанчыны, і правільна робяць. Бо ўзрост жанчыны (мусіць, таксама, як і мужчыны)

аніяк не вызначаюць ні сівыя валасы, ні зморшчынкі на скронях, узрост вызначае іншае — бляск вачэй, энергія, дзелавітасць, разуменне сваёй неабходнасці, а па ўсіх гэтых прыкметах пані Ірэне не больш трыццаці.

— Вітаю на польскай зямлі, як пані ехалася, я чакаю, чакаю, цягнік спазніўся на дзве гадзіны, але ў нас гэта не навіна, мы прывыклі, прывыкайце і вы,— засыпае мяне пані Ірэна і вітаннямі, і пытаннямі. Яна вельмі добра гаворыць па-руску, невялікі акцэнт толькі міла фарбуе мову.

— Вам пашанцавала, стаіць добрая пагода, перад гэтым ліло і ліло, на Маршалкоўскай вуліцы шампіньёны павырасталі, кошыкамі збіралі.

Пры размове з пані Ірэнаю дыялогу быць не можа, толькі яе маналог. Пад гэты маналог мы знаходзім таксі, едзем па шырокіх, светлых вуліцах Варшавы.

Вядома, што пані Ірэна бачыла і памятае Варшаву апошняга года вайны, Варшаву — груду цэглы, камянёў, дашчэнту спалены фашыстамі горад. Ён быў знішчаны датла, да такой ступені, што палякі пачыналі сур'ёзна меркаваць — ці не перамясціць сталіцу? Можа, у Лодзь? А можа, у Кракаў? А можа, пабудаваць на новым месцы?

Колькі спатрэбіцца гадоў, каб вывезці адну толькі цэглу, друз, што засталіся ад старой Варшавы? Гадоў дваццаць?

Так думалі некалі і мы — мінчане, гледзячы на знішчаны Мінск. І мы думалі — гадоў дваццаць спатрэбіцца толькі на тое, каб вывезці друз. Але цераз дваццаць гадоў стаяла новая Варшава. Стаяў новы Мінск. Колькі працы чалавечай, і вернасці, і любві...

Не ведаю, ці ўспамінала вайну цяпер пані Ірэна. Наўрад. У яе былі іншыя турботы, яна ўжо расказвала мне, што сёння яшчэ прыязджаюць — адзін таварыш з Сафіі, другі з Прагі, а нехта нават з Парыжа, і яна мусіць кожнага сустрэць, кожнага ўладкаваць у гасцініцы, з кожным абгаварыць яго творчыя планы.

Можа, і ў мяне ўспамін пра разбураны Мінск, пра разбураную Варшаву, якую я бачыла толькі на фотакартках ды ў кіно, мільгануў на якое імгненне, яго вымеў клопат пра тое, што чакае мяне ў сённяшняй Польшчы, і ўсё-такі, усё-такі — вайна... Яна жыве, жыве калі не ў мазгах, то ў іх падкорцы, жыве і не можа

сканаць, не можа пакінуць таго, хто горбіўся пад яе ношкаю. І калі не быў паранены куляю альбо асколкам гранаты, то быў скалечаны асколкам перажытага. І гэтыя асколкі не могуць павымаць ніякія хірургі, яны сядзяць у нас, кроячь душу незалежна ад пагоды, не на дождж і не на туман, у самае яснае сонца могуць упіцца ў цела вобразам страты альбо ахвяры. І тады хоць крычы. Але мусіш трываць. Ніхто не дапаможа. З тым асколкам дажывеш да магілы, ляжаш з ім у труну.

Гасцініца «Еўропа». Трэці паверх. Асобны нумар. Ложак, стол, на стале лямпа, тэлефон, нейкая тоўстая кніга. Шафка — ніша пры дзвярах, у якой целяпаюцца тры пустыя вешалкі. Бліскучая чысціня ў санітарных службах, на ўмывальніку, загорнуты ў фірменную паперку, кавалачак пахучага мыла.

Прыняць бы душ ды пад коўдру, выспацца пасля бяссоннай ночы. Але хіба ты прыехала сюды спаць? Выспішся дома, а тут — Варшава! А паслязаўтра — Кракаў, Закапанэ...

Некалі так было ў Парыжы. Мы прыехалі стомленыя, і да смерці хацелася спаць. Да таго ж сыпаў і сыпаў дождж. Але хіба маглі мы спаць ці проста заставацца ў гасцініцы? Мы ж — у Парыжы! Там, дзе жылі і пакутавалі героі Віктора Гюго, дзе жылі адважныя мушкецёры, героі кніг, якімі мы зачытваліся ў юнацтве. Вось славуты Нотр-Дам, хоць рукою дакраніся. І я дакраналася. Каб паверыць — усё гэта не прыснілася, урачыстая мелодыя аргана гучыць сапраўды ў Нотр-Даме.

А цяпер — Варшава. Дык хіба можна сядзець у гасцініцы?

І вось русалка з мечам у руцэ, узнятым над галавою. І са шчытом. Варшаўская сірэна, герб горада. Русалка выплыла з ракі, каб бараніць сталіцу ад ворагаў. Рашучасць і жаночая пяшчотнасць на яе твары.

У разбітым, спаленым горадзе яна засталася стаяць — пачарнелая ад дыму, параненая асколкамі снарадаў, але нязломная, як сапраўдная варшавянка.

А далей былі:

Кракаўскае прадмесце з крамамі і крамкамі ў аднаўленых дамах. У вітрынах салонаў — творы мастацтва...

Стары горад з фасадамі ў стылях барока, готыкі, з каванымі брамамі, ажурнымі рашоткамі балконаў...

Плошча Рынак з роспісамі даўніх вякоў, з барэльефамі, парталамі, эркерамі, ацікамі, са скульптурамі ў нішах, адноўленымі, вернутымі да жыцця пасля смерці.

На плошчы, уздоўж сцен — мальберты. Каля іх, з пэндзлямі ў руках, мастакі. Прыхіленыя да сцен — малюнкі, карціны. Вернісаж пад адкрытым небам. Мастакі тут любяць працаваць. Кажуць, на плошчы, нябачныя чэрстваму воку, ходзяць, лётаюць, гуляюць у хованкі музы.

А пасярод плошчы — столікі пад стракатымі парасонамі — пасядзі, адпачні, выпі ліманаду, з'еш марожанага. Паглядзі на хараство. Ты ж, малады, не ведаеш, не бачыў, што было тут у сорак чацвёртым, падчас Варшаўскага паўстання. Еш марожанае...

Над горадам лунаюць паэзія, любоў, спрадвечны нацыянальны гонар. У кожным павароце вуліцы, у кожнай чарапічцы на даху, у кожнай ліпе, якая вырасла на месцы спаленай.

Павітаўшы вуліцы Варшавы, зайшоўшы нават у Кафедральны касцёл святога Яна і падзівіўшыся цудам яго архітэктуры, яго ўбранствам, вярнулася ў гасцініцу. Яшчэ крыху паглядзела тэлевізар. І не вытрывала, звілася. Заснула без сноў.

А прачнулася — нібыта нехта штурхнуў. І пачаў сарамаціць. «Што ж ты робіш... Дарма марнуеш час... Праспіш усё царства нябеснае...»

«А што мне цяпер рабіць? — спрачалася я з тым, хто разбудзіў мяне.— Мне ў Кракаў трэба, у Закапанэ, а калі яшчэ пані Ірэна арганізуе той Кракаў, тое Закапанэ! Што я тут, у Варшаве, магу знайсці?»

Той, хто разбудзіў, маўчаў, але па маўчанні я чула, што не згаджаўся са мною.

Я ехала ў Польшчу, каб пабываць у Кракаве, у Закапанэ, там, дзе жыла ў пачатку стагоддзя наша славутая паэтэса Цётка. Па яе слядах я хаджу ўжо больш чым трыццаць гадоў. Напісана кніга пра яе жыццё і творчасць. Але чым больш працуеш, тым болей белых плям знаходзіш то тут, то там. Цяпер я ехала шукаць яе слядоў у Ягелонскім універсітэце, на схілах і вяршынях Закапанскіх гор. Варшава была як прыстанак, як вузлавая станцыя на тым шляху.

І ўсё-такі... Чаму мне сёння прыснілася Фэля? Пляменніца Цёткі. Фэлі яна сапраўды была цётка, родная, крэўная, Фэля — дачка яе роднага брата Войцэха. Нарадзілася Фэля тады, калі Алаізы Пашкевіч не было ўжо на свеце. Але ў яе жылах цякла вельмі блізкая, родная Цётцы кроў. І яшчэ — іх парадніла зямля, той самы курганок каля дарогі, дзе абедзве знайшлі свой вечны спачын.

Паэтэса загінула ў час першай сусветнай вайны.

Пляменніца яе, Фэля, у час другой сусветнай.

Паэтэсу забіў тыф.

Фэлю — бандыты.

Спачатку імя Фэля было для мяне быццам той іерогліф, што абазнаў ахвяру, якіх у вайну было шмат. А потым я ўбачыла фотакартку. Дзяўчынка гадоў чатырнаццаці. Спакойны мілы тварык — мілы наіўнасцю і даверам, шчырасцю ў вялікіх вачах, можа, блакітных, а можа, шэрых, на фотакартцы не пазнаць, але відаць, што светлыя. Мяккая, далікатная акругласць падбародка. На распушчаных валасах празрысты белы вэлюм. Але гэта не вясельны вэлюм, хутчэй за ўсё дзяўчынку прыбралі для першай споведзі, першага прычасця, як гэта робяць у католікаў. На белым вэлюме — вяночак. Цяпер, калі я ведаю лёс дзяўчыны, мне гэты вяночак здаецца цярновым. На фотакартцы ён і сапраўды падобны на цярновы.

Цяпер імя Фэля было ўжо не іерогліф. За ім стаяла дзяўчынка ў белым вэлюме, з вяночкам на валасах, са шчырым поглядам і далікатным падбародкам. Стаяў чалавек са сваім лёсам, так дачасна і трагічна абарваным.

Я пачала шукаць. Вельмі мала дадало б мне гэта да асноўнай маёй тэмы, не раскрыла б новага пра Цётку. І ўсё ж... Лёс Фэлі хваляваў, не даваў спакою.

Гаспадар невялічкай хаткі, што стаяла ў вёсцы Стары Двор недалёка ад магілы Цёткі, некалі расказваў мне:

— Хата Пашкевічаў пуставала, вайна па свеце раскідала іх радзіну. Яшчэ тая вайна, што пры цары была. А такі-та быў фальварак, такая-та была радзіна...

А Фэлю ўжо гэтаю вайною забілі... Яна сюды, дадому, з Вільні прыехала, ад германца хавалася. З каляжанкаю сюды прыехала. Вось іх абедзвюх і забілі... На вялікдзень гэта было... У сорак трэцім...

— Але хто забіў, за што? — пыталася я.

— А, пані... Ці трэба бандытам — за што... Наставіў пісталет, і ўсё...

Пад настаўленым пісталетам я стаяла тройчы. Першы раз — у сорак першым, на Суражскім базары, у Мінску.

Голад вельмі скора наваліўся на захоплены немцамі горад. Людзі пачалі выкручвацца, як хто ўмеў. Суседка наша, Карабуціха, да вайны бязладная жанчына, у якой заўсёды серада з-пад пятніцы вылазіла, аказалася практычнаю кабетаю. Пачала гнаць самагонку і насіць на базар. Аднойчы папрасіла мяне: схадзі прадай бутэльку, я табе за гэта дам кавалак хлеба.

За кавалак хлеба можна было патаўчыся на базары, які цяпер нагадваў чэрава, жывот горада. Чэрава, жывот, бо з таго базару горад жыў, харчаваўся.

Я апынулася ў гушчы людзей, што таўкліся на базарнай плошчы, прапануючы тавар, купляючы, абменьваючы тавар на хлеб і крупы. У руцэ ў мяне была зеленаватая бутэлька, заткнутая коркам з анучкі, праз які цадзіўся смуродны пах самагонкі.

З натоўпу вылузаўся і падышоў да мяне мужчына гадоў пад трыццаць, высачэзны, а можа, з майго, яшчэ дзіцячага росту, ён высачэзным здаваўся, у жоўтым, далёка не новым, скураным паліто, у пляскатай шэрай кепачцы, з тварам хмурым і суровым. Узяў бутэльку з маіх рук, пабоўтаў, паглядзеў яе на святло.

— Трэба пакаштаваць,— сказаў хрыпата. Агледзеўся на бакі.— Зойдзем за вугал...

Расхінаючы плячом людзей, ён пачаў выбірацца з натоўпу. Я — за ім.

Вакол базару грудзіліся сцены разбітых дамоў. Мужчына падаўся туды, за разваліны. Я пакіравалася следам.

У цёмным закутку ён раптам спыніўся, выняў з кішэні пісталет, наставіў на мяне чорнае дула.

— Ану ўбірайся,— прасіпеў хрыпата.

З хвіліну я нема глядзела ў тое дула. А потым задам, задам, спатыкаючыся на разбітай цэгле...

Так прапаў мой кавалак хлеба.

Другі раз пад пісталетам стаяла ў сорак трэцім, у былой Заходняй Беларусі. Мы там былі «з саветаў». Гэтага бандытам было даволі.

Вечарэла. Нас у хаце было трое — маці, я і сястра. Яшчэ мы і не замкнуліся. І ў хату зайшоў. Адзін. Зусім нам незнаёмы. На падпітку. У доўгім чорным паліто. Правую руку трымаў у кішэні.

Увайшоў і стаў пры дзвярах. І мы, тры жанчыны, спыніліся пасярод хаты, уставіліся ў яго.

Ён маўчаў. І мы маўчалі. Ён аглядаў нас тупымі вачмі і ўсё глыбей засоўваў руку ў кішэню. А потым дастаў — бліскучы, чорны.

Мы стаялі як знямелыя. І ён маўчаў, і трымаў нас усіх пад прыцэлам.

Першая азвалася маці. Яна не крычала, не клікала на дапамогу, пачала быццам угаварваць яго:

— Навошта вы... За што... Што мы вам кепскае зрабілі... Мы хрысціяне, і вы хрысціяне...

Маці не верыла ў бога... Хацела, мусіць, проста абудзіць нешта ў душы таго, што стаяў пры дзвярах з пісталетам, вадзіў вачыма з адной на другую, з другой на трэцюю, быдта выбіраючы — з якой пачаць...

Колькі ўсё гэта цягнулася?

Маці лепятала:

— Мы хрысціяне, вы хрысціяне...

А той хістаўся і тупа глядзеў на нас п'янымі вачмі. А потым схаваў пісталет у кішэню, завярнуўся і пайшоў. Не стрэліў.

А трэці раз пісталетам гразіў немец, у сорак чацвёртым.

Я несла перадачу ў СД арыштаванаму. Не ведала, як перадаць, і круцілася вакол будынка, чакаючы якога выпадку.

У гэты час з дзвярэй выскачыў афіцэр. Ён даўно мяне прыкмеціў, бачыў, што я часта тут таўкуся, ведаў, да каго я прыязджаю, каму важу перадачы.

Немец выхапіў з кабуры пісталет.

— Вэк! Цурюк! Партизанен!

Ён гнаў мяне па вуліцы, піхаў пісталетам у спіну і крычаў:

— Вэк! Партизанен!

Мая спіна шорхла ад страху, сэрца захлыналася, чакала — зараз-зараз, вось-вось стрэліць...

І немец не стрэліў...

Усё гэта ўспомнілася мне, калі чалавек той сказаў:

— Ці трэба бандытам — за што... Наставіў пісталет, і ўсё...

Не-е, каханы пане,— думала я потым.— Нават бандытам трэба мець прычыну... Хоць сваю, бандыцкую, але прычыну...

І ўяўлялася дзяўчынка з распушчанымі валасамі, з белым вэлюмам на галаве і з вяночкам, падобным на цярновы.

Праз нейкі час я дазналася, што перад самаю вайною Феліцыя Пашкевіч выйшла замуж за маладога польскага паэта, як мне тады сказалі, Вітольда Шлягера, што жылі яны ў Вільні, што Вітольд Шлягер загінуў у трыццаць дзевятым годзе пры нападзе фашыстаў на Польшчу.

Зноў пачала шукаць, ужо па прозвішчы Шлягер. Пыталася ў знаёмых віленцаў, нават у рэдакцыю газеты заходзіла — ці не ведаў тут хто маладога польскага паэта Вітольда Шлягера, які загінуў у час вайны.

Ніхто не ведаў.

Цяпер, у Варшаве, у ціхім чыстым нумары гасцініцы «Еўропа», я зноў успомніла Фэлю. Чаму? Хіба і яна, разам з вайною, жыла ў той падкорцы?

На паліраваным стале, побач з бялюткім тэлефонным апаратам, ляжала тоўстая кніга. Я падышла, разгарнула. Гэта быў тэлефонны даведнік. Не ў кожнай гасцініцы, не ў кожным нумары можна знайсці тэлефонны даведнік. Што гэта — такі высокі сэрвіс? Альбо выпадкова ляжыць тут кніга?

Пачала гартаць. Вось літара «Ш».

— Шапшал... Шчэкало... Шчыт... Шэрар... Шлягер,— чытала я прозвішчы. Шлягер! Ёсць Шлягер! Але раз, два, тры, чатыры... Чатыры прозвішчы Шлягер... Можа, ніводнае з іх не мае дачынення да Вітольда Шлягера, мужа Феліцыі Пашкевіч, а можа... Можа... Зямля круглая,— як любіць гаварыць наш харошы пісьменнік Аркадзь Марціновіч.

Шлягераў было чатыры. Чый нумар набраць? І што сказаць, што спытаць?

Я глядзела на старонку з прозвішчамі, густа набранымі дробным шрыфтам, і варажыла. Званіць ці не званіць? І каму? У душы я ўжо ведала, што буду званіць, не вытрываю, каб не пазваніць. Але катораму Шлягеру? Прыйдзецца, мусіць, званіць усім чатыром, і яшчэ пытацца — ці няма ў іх знаёмых Шлягераў, што не маюць тэлефонаў. Некалі так, па тэлефоне, я

знайшла ў Вільнюсе Пясецкую-Шлапялене, гаспадыню літоўскай кнігарні, якую ў 1907 годзе судзілі за тое, што яна ў сваёй кнігарні прадавала рэвалюцыйныя кнігі Цёткі. Дай бог шчасця і тут.

Пачала з першага прозвішча ў кнізе — Шлягер М.

Нясмела паднімала трубку. Нясмела набірала нумар.

Да тэлефона доўга не падыходзілі. Потым пачулася жаночае, ціхае, нібы стомленае:

— Слухам...

Мне трэба было сабраць усю сваю адвагу і адчаяннасць, каб гаварыць па-польску. Па-руску жанчына магла не зразумець.

І я пачала:

— Няхай пані шчыра прабачыць за турботу... Ці не мае пані дачынення да маладога польскага паэта Вітольда Шлягера, які загінуў... Здаецца... у трыццаць дзевятым...

У адказ мне было доўгае маўчанне. Потым голас запытаў:

— З кім маю гонар?..

Як магла, растлумачыла, хто я. Што мяне цікавіць Феліцыя Пашкевіч-Шлягерова, а наколькі мне вядома, Вітольд Шлягер...

І спынілася, чакаючы адказу.

У трубцы зноў доўга маўчалі, потым слабы жаночы голас амаль прашаптаў:

— Прабачце, але ў мяне адчуванне, што вы звоніце з таго свету...

Я стаяла тварам да акна, за якім згусцілася ўжо цемната. Глянула на гадзіннік — пачатак адзінаццатай. Калі жанчына, з якой я гавару, немаладая, калі я падняла яе сваім званком з пасцелі, то ці мала што магло ёй прымроіцца.

Я пачала пераконваць яе, што званю не з таго свету, а з гасцініцы «Еўропа», што прыехала ў Польшчу з Савецкага Саюза, што глянула ў тэлефонную кнігу, убачыла прозвішча Шлягер і вырашыла пашукаць блізкіх Вітольда Шлягера, калі пані не мае дачынення, то няхай літасціва прабачыць...

— Я яго родная сястра,— прашаптала жанчына.

Марыя Шлягер, родная сястра Вітольда Шлягера, жыла ў новым мікрараёне Варшавы, займала аднапа-

каёвую кватэру, вельмі маленькую, па сценах застаўленую кнігамі. Сама была пажылая жанчына, высокая, хударлявая, з інтэлігентным тварам і далікатнымі рухамі, з ціхім голасам, які таіў эмоцыі. Па прафесіі яна архітэктар, але не так даўно выйшла на пенсію, жыве ў гэтай кватэры адна.

— Вы прабачце мне за тую фразу па тэлефоне, калі я сказала, што вы звоніце з таго свету... Але ведаеце... Так глыбока ўсё пахавана... І тыя, пра каго вы спыталіся... Іх так даўно няма на свеце... Мне здавалася, што іх імёны памятаю на гэтай зямлі адна толькі я...

— Я шукала, я цікавілася, пра вашага брата пыталася нават у Вільнюсе ў рэдакцыі,— гаварыла я.

— Як вам сказаць... Вітольд увогуле не быў паэтам... Можа, гэта было яго захапленне, пра якое не ведала нават я... Ён скончыў юрыдычны факультэт, належаў да прагрэсіўнай польскай моладзі, уваходзіў у групу «Папросту», да якой меў дачыненне і ваш цудоўны паэт Максім Танк...

А Фэля перад вайною служыла бібліятэкаркаю ў клубе культуральным, як пачалася вайна, пайшла ў вайсковы шпіталь дапамагаць параненым. Вось яны, перад самаю вайною,— пані Марыя паклала перада мною фотакартку.

Поўныя шчасця і радасці вочы... Какетлівы капялюшык... Галава схілена крышку набок, да светлай кучаравай галавы маладога мужчыны — таксама прыгожага і шчаслівага.

Тут Фэля старэйшая, чым на тым здымку, з ваночкам, але тое ж мілае аблічча... Служыла бібліятэкаркаю, а як пачалася вайна, пайшла ў вайсковы шпіталь... Як некалі Цётка — паэтэса Алаіза Пашкевіч... Выдавала часопіс для моладзі, рупілася пра беларускія бібліятэкі, а як пачалася вайна — першая сусветная — пайшла працаваць у вайсковы тыфозны шпіталь... Ці я сама прыдумваю гэту нітачку і звязваю цётку з пляменніцай, ці яна сапраўды існуе?

Варушыць старое, што зацягнулася ўжо раскаю гадоў, прытупіўшы боль, ахутаўшы памяць туманам — ці трэба?

Але варта дакрануцца да туману памяці, і ён пачынае рассейвацца, і сплывае з мінулага раска, адкрываючы глыбіні яго віроў.

— Фэля была вельмі адкрытая, і душою, і кішэняю,— расказвала Марыя Шлягер.— Яна дапамагала ўцякаць з Вільні тым, каго шукалі немцы, каму пагражала смерць. Мела знаёмых сярод простых сялян, сярод шляхты на Лідчыне і ў іх хавала людзей. Ці аднаго ўратавала ад смерці.

І зноў цягну я нітачку да Алаізы Пашкевіч:

«Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў...»

Гэта з успамінаў мужа паэтэсы, так паводзіла сябе Алаіза Пашкевіч у Пецярбурзе напярэдадні першай рускай рэвалюцыі. «Рупілася пра арыштаваных сяброў». Тое ж рабіла і Фэля.

Марыя Шлягер гаварыла:

— Я сама шукала Фэліных слядоў... Яна ж была жонкаю майго брата, блізкая мне... І знайшла чалавека, які больш чым хто ведаў пра Фэлю ў тыя гады... Ведаў пра яе смерць. Гэта Станіслаў Фядэцкі, цяпер стары ўжо чалавек. Ён нават апісаў мне тое, што ведаў. Яшчэ ў шэсцьдзесят чацвёртым годзе апісаў. Вось яго ўспаміны, я падрыхтавала іх да вашага прыходу,— і пані Марыя падала мне лісткі, спісаныя па-польску на машынцы.

«Успамін пра Фэлю Пашкевіч-Шлягерову»,— прачытала я загаловак [1].

Спачатку Станіслаў Фядэцкі пісаў пра сябе. Што да вайны ён служыў у Вільні інспектарам працы. Належаў да кола прагрэсіўнай польскай моладзі «Папросту». Там і пазнаёміўся, і пасябраваў з Вітольдам Шлягерам і яго жонкай Феліцыяй.

Як пачалася вайна, Вітольд Шлягер пайшоў у войска. На вайне і загінуў.

У саракавым — сорак першым гадах аўтар успамінаў працаваў у савецкіх установах, і калі немцы напалі на Савецкі Саюз, хаваючыся ад расправы, выехаў у маёнтак свайго нябожчыка айчыма. Маёнтак называўся «Лябёды», месціўся недалёка ад Старога Двара. Там Станіслаў Фядэцкі і сустрэўся зноў з Феліцыяй Пашкевіч-Шлягеровай, якая са сваёй сяброўкай Аляй, пакінуўшы Вільню, жыла ў Старым Двары, фальварку сям'і Пашкевічаў.

---

[1] Успаміны Станіслава Фядэцкага знаходзяцца ў аўтара гэтых радкоў.

А далей уставалі карціны.

Па начах у Стары Двор часам прыходзілі людзі, стукаліся ў Фэліны дзверы, і яна адчыняла, пускала людзей. Яны начавалаі ў хаце з дзяўчатамі, а далей іх адпраўлялі ў іншае месца. Гэта былі падпольшчыкі з Вільні, яўрэі, што ўцякалі з віленскага гета. Некаторых Фэля ведала, іншых пасылалі да яе знаёмыя, упэўненыя, што Фэля дапаможа.

А ў акрузе дзейнічалі партызанскія атрады. Атрады партызан савецкіх і атрады АК, Арміі Краёвай. Пад мястэчкам Васілішкі, што было недалёка ад Старога Двара, звіў гняздо і атрад АК пад камандаваннем Рагнеры. Ён дзейнічаў па загадах урада, што сядзеў у Лондане, і якому не так страшны быў Гітлер, як страшнымі былі «саветы», і які зусім не шкадаваў крыві палякаў. Рагнераўцы супрацоўнічалі з немцамі, яны выведвалі настроі людзей, выведвалі, хто чым дыша, і таму, хто дыхаў з імі не ў лад, выносілі свае прысуды. А каб лягчэй было вывіжоўваць, рагнераўцы часам выдавалі сябе за партызан савецкіх, вялі «савецкія» размовы, лаялі немцаў і хвалілі Чырвоную Армію.

Больш асцярожныя не паддаваліся на правакацыі. Як піша ў сваіх успамінах Станіслаў Фядэцкі, не паддаўся на правакацыю і ён. А Фэля паддалася. Пачала скардзіцца гэтым «савецкім» партызанам на паліцыю ў Васілішках, кіраваў якою былы польскі афіцэр, лаяць немцаў і выказваць сімпатыю да рускіх.

Першай акцыяй той самай васілішкаўскай паліцыі супроць дзяўчат быў арышт Фэлінай сяброўкі Алі, пра якую шапталіся, што яна яўрэйка і імя яе зусім не Аля.

Вясна звінела ўжо высокім чыстым небам, празрыстым паветрам, першымі галасамі птушак. Але яшчэ ляжаў снег. Паліцыя з Васілішак прыехала на санках, спынілася каля хаты. Той самай хаты, якая была родная і Алаізе Пашкевіч, па якой яна так сумавала ў выгнанні.

Піхаючы ў спіну прыкладам вінтоўкі, паліцэйскі пагнаў Алю да павозкі, штурхнуў у санкі.

Фэля, у адной сукенцы, без паліто, выскачыла за сяброўкаю, пачала сварыцца на паліцыянтаў, крычаць, што Аля не зрабіла нікому ніякага зла.

Таўстаморды паліцай сцебануў ляйчынаю каня, азірнуўшыся, крыкнуў Фэлі на развітанне:

— Не пакінеш хаваць саветаў ды жыдоў — і табе тое самае будзе!

Паехалі, павезлі Алю.

Фэля кінулася за дапамогай да Станіслава Фядэцкага, які тут, у вёсцы, апекаваў дзяўчат.

У сваіх успамінах Станіслаў Фядэцкі піша:

«Спроба адбіць Алю ў паліцыянтаў на шляху да Ліды, якую ўчынілі мы з Фэляю, не ўдалася, бо мы чакалі іх на адной дарозе, а тыя паехалі іншым кірункам».

Як збіраліся Фэля з Фядэцкім адбіць Алю — аўтар успамінаў не расказвае. Можа, Фядэцкі меў зброю? А можа, спадзяваліся ўгаварыць, падкупіць паліцэйскіх?

Алю затачылі ў лідскае СД. Гэта СД і я добра памятаю, яго немцы размясцілі ў будынку былой школы, на ўзгорку, недалёка ад чыгуначнай станцыі. Вакол гэтага СД бегала некалі і я, каб перадаць арыштаванаму перадачу, і немец грозіў мне пісталетам. Як пераплятаецца ўсё ў жыцці!..

Фэля шукала ратунку для Алі. Як вызваліць сяброўку? Не магла пакінуць яе без дапамогі, хоць і разумела, што, выручаючы Алю, рызыкуе і сама.

Жонка Фядэцкага сказала, што мае ў Лідзе знаёмага гестапаўца, што трэба паспрабаваць яго падкупіць.

Фэля сабрала ўсё, што мела — залаты пярсцёнак, грошы, на адзежу выменяла ў сялян сала.

Паехала з Фядэцкімі ў Ліду.

Гестапавец крывіўся, казаў, што мала.

Яго прасілі, угаварвалі, пераконвалі, што слабая дзяўчына не можа ўяўляць небяспекі для рэйха.

Здаўся. Выпусцілі Алю.

Фядэцкі папярэджваў дзяўчат:

— Не вяртайцеся ў Стары Двор. І не паказвайцеся там. Адразу едзьце ў Вільню, у Гродна, куды хочаце, толькі не ў Стары Двор.

Дзяўчаты разумелі і самі, што ў Стары Двор ім ехаць небяспечна. Але там заставалася нейкая адзежа, заставаліся рэчы, патрэбныя кожны дзень.

І дзяўчаты вырашылі заехаць.

Быў другі дзень вялікадня. Ярка свяціла, цёпла грэла сонца. Снег ляжаў ужо толькі белымі плямкамі, дзе-нідзе, у цяні, у нізінах. А на ўзгорках зеленела

ўжо трава, набрынялі пупышкі на дрэвах. І спявалі, вітаючы вясну, шпакі.

У вясковых хатах святкавалі ўваскрэсенне Хрыста. Лілася морам самагонка. І на яе пах, на яе смак выпаўзала з лесу нечысць.

Нехта некаму сказаў, што дзяўчаты вярнуліся з Ліды, што Алю выпусцілі. Што абедзве тут — у Старым Двары. Той «нехта» пераказаў іншаму. Гэты — далей.

У той жа дзень рагнераўцам было вядома — дзяўчаты вярнуліся.

На трэці дзень вялікадня прачнулася адурманеная самагонкаю вёска. Ёй рыхтавалася пахмелле.

Хто першы ўбачыў, што дзверы ў хаце Пашкевічаў расчынены насцеж? Хто першы заўважыў, што не чуваць галасоў, не відаць у двары дзяўчат? Хто першы ўвайшоў у хату і ўбачыў? Адкуль дазналіся людзі, хто і як забіў дзяўчат?

А гаварылі:

«Прыйшлі рагнераўцы... Загадалі дзяўчатам стаць тварамі да сцяны... Стралялі ў патыліцы...»

Такі знаёмы фашысцкі почырк. Фашысцкая жорсткасць. І нізасць... Дужыя мужчыны — слабых жанчын...

Рагнераўцы не адмаўляліся ад гэтага свайго злачынства. У газетцы, якую выдавала АК, яны потым напішуць, што Феліцыя Пашкевіч была пакарана за здраду радзіме. Вось так.

Марыя Шлягер перабірала фотакарткі. На іх была Фэля. То ў лёгкім сарафанчыку, то ў паліто і капялюшыку, то ў гарнітурчыку, з кнігаю пад пахай. І ўсюды — з усмешкаю, якая выдавала радасць жыцця і чысціню сумлення. На некаторых фотакартках яна была з Вітольдам. І твары ў абаіх такія маладыя і шчаслівыя, не мелі і знаку прадчування таго, што іх чакае.

— Якая несправядлівасць, якая несправядлівасць,— ціха гаварыла Марыя Шлягер.— Такія маладыя, такія прыгожыя, шчырыя, сумленныя... І абое... Праклятая вайна... Яна глытала самых лепшых...

Марыя Шлягер паклала фатаграфіі, выняла з канверта некалькі лісткоў, спісаных алоўкам.

— Гэта пісьмо Фэлі... Яна мне часта пісала, і да вайны, і ў вайну. Я берагу яе пісьмы. Яны такія ра-

зумныя, поўныя паэзіі. Асабліва ў час вайны... Паэзіяй яна нібы хацела засланіцца ад яе жахаў. Паслухайце:

— «Цяпер, у час вайны, паэзія — наш хлеб, толькі яна і падтрымлівае нас»,— прачытала пані Марыя.

Потым выняла лісткі з другога канверта.

— «Я ўся цяпер жыву паэзіяй, сябе знаходжу ў ёй, толькі сама не ўмею напісаць такіх цудоўных рэчаў...»

— «Я цяпер чытаю вершы Леапольда Стафа. Ці ёсць на свеце што-небудзь больш цудоўнае, і колькі ў іх мудрасці, велічы, хараства...»

А тут яна перапісала цэлы санет Леапольда Стафа — «Трыумф».

Паэзія — шчыт, паэзія — зброя, паэзія — мудрасць, хараство. Хіба можна і тут не звязаць пляменніцу і цётку, Феліцыю і Алаізу Пашкевічаў? Ці не яна, паэтэса-рэвалюцыянерка, перадала па спадчыне сваёй пляменніцы і самаахвярнасць, і сумленнасць, і гэтую вось любоў да паэзіі?

Успаміналіся словы роднай сястры Алаізы Пашкевіч — Караліны Пашкевіч, з якой я сустракалася ў Польшчы, у вёсачцы Франін, каля Лодзі, гады за два перад спатканнем з Марыяй Шлягер.

«Наша Фэля па Лізе [1] пайшла,— гаварыла тады Караліна Пашкевіч.— Такая ж была шчырая, адважная... І толькі яны ў роднай зямлі пахаваныя...»

Быць пахаванымі ў роднай зямлі, гэта для ўсіх членаў сям'і Пашкевічаў было не менш важным, чым жыць на ёй. Гэта я ўжо ведаю са сваіх даследаванняў. Аднак лёс параскідаў іх магілы па свеце. І сапраўды, толькі Алаіза і Фэля Пашкевічы знайшлі свой спачын на радзіме.

Я расказваю пані Марыі, дзе пахавана Феліцыя, малюю помнік на магіле Цёткі, побач — курганкі Фэлі і Алі.

— Як бы хацелася туды прыехаць, хоць паглядзець на Фэліну магілу,— гаворыць Марыя Шлягер.

— Я магу прыслаць вам вызаў... Думаю, дазволяць вам прыехаць,— прапаную я.

— Дзякуй... Я падумаю,— схіляе галаву гаспадыня.

---

[1] Алаізу Пашкевіч у сям'і звалі Ліза.

Яна перабірае, складвае фотакарткі, лісты. Паціху гаворыць:

— Ведаеце, а ў мяне не прайшло адчуванне, быдта мы дакрануліся да таго свету... Усё ляжала пад такім цяжкім пластом забвення...

— Прабачце, калі я вас патрывожыла,— сказала я.— Мне не хацелася прычыняць вам непакой...

— Што вы, што вы,— запратэставала пані Марыя.— Мы не маем права забываць... Мы мусім помніць... Вайна зноў вісіць над намі... Зноў вісіць...

— Ну, будзем спадзявацца...

Назаўтра я ад'язджала ў Кракаў. Уратаваны ад фашысцкага разбурэння Кракаў з яго Вавелем, Сукенніцаю, помнікам Адаму Міцкевічу, з Ягелонскім універсітэтам, які памятае яшчэ Капэрніка з Торуні, Францыска Скарыну з Полацка, у галерэях якога яшчэ таіцца голас Алаізы Пашкевіч, дзе на сценах у бібліятэцы вісяць партрэты прафесароў, закатаваных у фашысцкіх канцлагерах, спаленых у Асвенціме.

За акном цягніка праплывалі польскія гарады, трубы польскіх заводаў, фабрык, плылі лясы і пералескі, сінімі стужкамі віліся рэкі. Я думала пра час, які бяжыць так імкліва і звязвае, нібыта петлямі, мінулае і сёння, сёння і заўтрашні дзень, пра час, які плыве, ні на міг не спыняючыся, так скора ператвараючы будучыню ў мінулае.

Па вагоне бегала дзяўчынка гадоў чатырох — сінія вочкі, светлыя кудзеркі, дзіцячая чысціня і пяшчотнасць твару. Яна то станавілася на пальчыкі, каб глянуць у акно, то зазірала ў вочы пасажырам, быдта хочучы паказаць сябе, то шчаслівa бегала па калідоры.

Цягнік кіраваўся на поўдзень, да Кракава.

У Кракаве мне пашанцавала. Я знайшла новыя, дасюль невядомыя дакументы Алаізы Пашкевіч — запоўненыя яе ўласнаю рукою анкеты Ягелонскага універсітэта на летняе паўгоддзе тысяча дзевяцьсот восьмага года і на зімовае паўгоддзе таго ж года. У гэтых анкетах былі цікавыя, невядомыя дасюль, падрабязнасці і звесткі. Шмат новага дазналася я і пра рэвалюцыйную арганізацыю акадэмічнай моладзі «Спуйню», да якой належала Алаіза Пашкевіч, пра польскую артыстку Ірэну Сольскую, чыю студыю наведвала Цётка.

Падыхала і паветрам Закапанэ, якое некалі лячыла лёгкія Цёткі.

І падчас усёй паездкі помнілася мне спатканне з Марыяй Шлягер, мая прапанова паслаць ёй вызаў, разам з ёю пабываць на Фэлінай магіле.

Дома, у Мінску, я пачала чакаць ад яе пісьма. Яго не было доўга. Нарэшце канверт з Польшчы.

«Не першы гэта ліст, які я пішу да пані, але першы, які высылаю,— пісала мне Марыя Шлягер.— Пасля вашага прыезду, пасля нашай сустрэчы мяне апанаваў псіхоз вайны. Так моцна адчула я прысутнасць той, мінулай, і жах перад магчымасцю новага пекла...

Маю адзін спосаб адведаць магілу Фэлі, і грэх ім не пакарыстацца, але зараз я не маю ні фізічных, ні псіхічных сіл...

Пасля візіту пані купіла «Анталогію беларускай паэзіі». Колькі ў ёй болю... Усё зразумела...»

Ліст быў сумны, як і наша сустрэча ў Варшаве. Ліст быў напоўнены памяццю мінулай вайны і страхам перад новай.

А я зноў думала пра Алаізу Пашкевіч, пра Фэлю.

І пра тыя нябачныя ніці, што звязвалі цётку і пляменніцу.

## ТОСЯ

— Што ты сказаў? — не паверыла сваім вушам Тося, яна не данесла да стала кубак з чаем, уставілася ў сынаву патыліцу, які, здаецца, спакойна мазаў маслам свой кавалак хлеба.

— Мы з Інаю падалі заяву ў загс, мы з ёю пажэнімся,— паўтарыў Сяргей.

Тося не хацела верыць.

— А інакшай жартаваць ты не ўмееш? — паставіла яна кубак перад сынам.

— А я сур'ёзна,— Сяргей азірнуўся на матку, і Тося зразумела, што сын не жартуе.

— Божачка,— сашчапіла яна рукі.— Які з цябе муж! Табе ж усяго дваццаць... А Іна... Калі ты і праўда зрабіў такое глупства, то зараз жа забяры заяву з загса назад!

Сяргей адсёрбнуў з кубка чаю.

— Забяры... Скажаш... На пасмешышча?.. Я думаў, што рабіў...

Тося яшчэ не магла паверыць, што гэта размова ідзе сур'ёзна, што сын і праўда збіраецца жаніцца, яе хлапчук, якога яна зусім нядаўна купала ў ванначчы, вадзіла за ручку ў школу.

— Ён думаў, вы чуеце, ён думаў! — клікала сабе некага ў сведкі, у саюзнікі Тося.— Табе яшчэ вучыцца трэба, а не жаніцца! Ён падумаў!..

— Вучыцца, не вучыцца... Цяпер простыя рабочыя больш зарабляюць... Важна, каб галава была на плячах,— адказаў Сяргей.

Ён піў чай, кусаючы хлеб з маслам, яго доўгія рукі, абцягненыя рукавамі светлай кашулі, упіраліся локцямі ў стол, валасы, яшчэ вільготныя пасля ўмывання, былі акуратна зачэсаны ўгору, твар свежы і ружовы, яшчэ мала чапаны брытваю.

— Вы толькі паслухайце, толькі паслухайце, які ён разумны! А што б ты рабіў, такі разумны, каб матка не прыстроіла цябе на кінастудыю? У магазін пайшоў бы, грузчыкам? Рабочым, якія шмат зарабляюць?

— А што, і гэта работа,— паціснуў плячыма Сяргей.

Тося задыхнулася, да грудзей падступіла столькі крыўды, столькі гневу, што яна не ведала — з чаго пачаць, што сказаць, каб абрынуць на сына гэтыя гнеў і крыўду. Сказаць яму, што яна, матка, не пра сябе думае, што хоча, каб яму, сыну, было лепей, што яна жыла толькі для яго і так хацелася ёй, каб сын скончыў інстытут, а ён цяпер во як — нават парады ў яе не папытаўся, падаў заяву ў загс, і ўсё, а найбольш, найбольш... Божачка, каб жа гэта Іна нешта значыла, была прыгожая, з добрай сям'і, а то... І што ён у ёй знайшоў, чым яна яго прысушыла, такі-та хлопец — і высокі, і прыгожы, і, здаецца, не дурны... І Тося кінула сыну тое, што магло найбольш дапячы:

— Дык ты, сынок, калі жаніцца надумаў, то хіба лепшай не знайшоў? Яе ж у двары ўсе макака дражняць!

Думала раззлаваць Сяргея, але ён і вухам не павёў.

— Дражнілі, калі малая была... Мяне таксама дражнілі — Лыга, дык што?

— Цябе дражнілі Лыга, бо ты малы слова Рыга не мог вымавіць, казаў Лыга, а яе дражнілі, бо брыдкая, яна і цяпер брыдкая, і цяпер макака!

Сказала і адчула пад сэрцам халадок — зараз Сяргей узарвецца, нагрубіць.

Але Сяргей змоўчаў, пайшоў з кухні ў калідор, пачаў апранацца.

— Дык прымі да ведама... Заяву я назад забіраць не буду,— выйшаў, мацней, чым звычайна, стукнуўшы дзвярыма.

Гэты стук як прайшоў праз Тосіна сэрца, села на зэдлік у кухні, здалося, зрушыліся сцены, зрушыўся свет, адбылося непапраўнае. Такое адчуванне бяды і непапраўнасці было хіба тады, калі так недарэчна, так трагічна загінуў муж — ехаў з сябрамі на рыбалку і на іх машыну наскочыў п'яны шафёр самазвала.

Тады і Тосі не хацелася жыць, хацелася абрынуцца ў тую чорную пашчу магілы, што забірала мужа. Утрымаў на гэтым свеце хіба сын. Ведала — трэба гадаваць.

І выгадавала. Сын заўсёды быў добра дагледжаны — у чыстай кашульцы, у харошым гарнітурчыку, у начышчаных чаравіках. Някепска скончыў дзесяцігодку, але ў інстытут, на вялікі Тосін жаль, не трапіў, не хапіла балаў, і яна ўладзіла яго асістэнтам аператара на кінастудыю, дзе сама ўжо дваццаць год працуе краўчыхаю ў пашывачным цэху. Работа асістэнта аператара не вельмі важная — атрымай плёнку, здай плёнку, пастаў апарат сюды, занясі туды, уключы лямпу, патушы лямпу, але ўсё-такі кінастудыя, і асістэнт аператара, не сорамна сказаць, дзе і кім працуе, ды гэта ж работа і не назаўсёды, праз які год зноў падасца ў інстытут, можа, і ў кінематаграфічны.

І раптам — адным махам, адным ударам разбіць усе матчыны спадзяванні — жаніцца. Не, міленькі, нічога ў цябе не выйдзе, я з вамі яшчэ паваюю, выб'ю, сынок, дурасць з твае галавы...

Тося паднялася з зэдліка — у грудзях усё яшчэ дрыжала — ад таго стуку дзвярыма, ад усёй гэтай дурной раніцы, але трэба было ўзяць сябе ў рукі, нельга раскісаць!

З гэтага дня, як толькі Сяргей прыходзіў дадому, маці пачынала з ім гаворку пра яго жаніцьбу як пра нешта смешнае і недарэчнае.

— Дык дзе ж вы будзеце жыць, сынок? — яхідна пыталася матка.

— Можна ж і ў нас жыць, адзін пакой табе, другі нам... Большы табе...

— Глядзі, сынок, як ты скора матчыну кватэру падзяліў, а можа, я не хачу жыць з нявесткаю, можа, я сама яшчэ замуж выйду, раней не хацела айчыма табе прыводзіць, а калі ты ўжо і сам жэнішся...

— Ну, не хочаш, каб у нас жылі, ноймем пакойчык,— адказваў Сяргей.

— А ці ведаеш ты, сынок, колькі каштуе наняць пакойчык, жывеш за матчынай спіною, цаны грашам не ведаеш.

— Нічога, я ж працую, і Іна працуе,— адказваў Сяргей.

— Колькі вы там зарабляеце! На мяне не спадзявайся, я табе кааператыўнай кватэры не пабудую, Інкін бацька ёй таксама нічога не дасць, усё, што мае, у горла лье...

Во якую радню падсоўваў ёй сынок, а радня гэта, Інкін бацька, ужо з ёю як са сваячкаю, пазаўчора падышоў у двары — няголены, з расхрыстанаю грудзінай, у руцэ вядро пустое, і падміргвае:

— Можа, зойдзем, кума, да мяне, па чарцы зробім?

— Я не п'ю,— адрэзала яму тады Тося.

Так што ад такога бацькі дзеці помачы не дачакаюцца.

— А мы, мамуська, у нашых продкаў нічога прасіць не будзем, без іх абыдземся,— адказваў Сяргей мацеры.

Іншым разам матка падступала з другога боку:

— Сынок, можа, у цябе з гэтаю Інаю... Ну, разумееш... А ты хлопец чэсны, хочаш грэх прыкрыць, калі так, то прызнайся...

Сяргей смяяўся.

— Мамачка, ты не ведаеш Іны, нічога ў нас з ёю не было!

— Дык ці вочы твае асляпіла, сынок, не мог знайсці лепшую?!

І калі матка яшчэ раз назвала Іну макакай, сын выйшаў з хаты, так бразнуўшы дзвярыма, што аж пабелка пасыпалася.

Цэлы дзень праплакала тады Тося, што ні рабіла, а слёзы плылі і плылі з вачэй. «Вось і гадуй дзяцей, аддавай ім усё, а яны табе...»

Не магла суняць плачу...

Ажаніўся Сяргей з Інаю. Не было вяселля з белаю сукенкаю, з белым вэлюмам у маладой, з таксі, абвітым стужкамі і кветкамі, распісаліся, нанялі пакойчык недалёка ад той вуліцы, дзе раней жылі. Там у чалавека памерла жонка, а меў ён кватэру на тры пакоі, у адзін і пусціў маладажонаў. Зацятая матка нават павіншаваць не прыйшла. «Калі ты, сынок, такі, калі матку ў грош не ставіш, калі нейкае саплівае дзяўчо табе даражэй за яе, дык і жыві з ёю, паглядзім, ці надоўга цябе хопіць»,— гаварыла сама сабе Тося.

Яна засталася адна ў сваёй двухпакаёвай кватэры і раптам убачыла, якія доўгія бываюць восенню вечары, як доўга цягнуцца два выхадныя дні. Бывала, па магазінах бегаеш, абед гатуеш, у кватэры прыбіраеш, бялізну мыеш, то туды, то сюды, работа і работа, а цяпер яе як і няма — на адну ці многа трэба, на адну і абед гатаваць не хочацца, бутэльку малака вып'еш альбо так што пажуеш з кулака, і прыбіраць у хаце няма чаго — сама, адна, не насмяціш, і мыць на адну — колькі той бялізны.

«Вось і добра, вось і адпачну пад старасць»,— цешыла сама сябе Тося, але спакой і радасць не прыходзілі, часцей і часцей падступала туга.

Да сына не хадзіла, не хацела бачыць нявестку, памятала, як сама нагаворвала на яе, як жа пасля гэтага пойдзеш да нявесткі ў хату, яшчэ выгане такую свякруху.

А Сяргей часам забягаў да мацеры.

— Ну як, мамулька?

Пакруціцца, забярэ што-небудзь сваё — лыжы, кніжку, спяшаецца, з маткаю і пасядзець ужо няма часу.

Ад людзей дачулася, што Іна паступіла ў інстытут, у політэхнічны, будзе вучыцца на інжынера.

— Які з яе інжынер! Знайшлі інжынера,— казала яна суседкам,— яе ж з-за стала не будзе відаць, ды каб інжынерам быць, трэба мець галаву!

Сама Тося мела за спіною ўсяго чатыры класы, жыццё пасля вайны было цяжкае, мусіла рана пайсці працаваць і таму надта паважала людзей, якія паканчалі інстытуты. А пры слове «інжынер» перад ёю наогул паўставаў прыгожы і надта разумны мужчына. А тут раптам нявестка, Іна.

Час ішоў, сын дадому не вяртаўся, наадварот, па

ўсім, што даходзіла да Тосі, можна было меркаваць, што жывуць маладыя дружна.

Мінула два гады. Тося так і не прывыкла жыць адна, усё больш і больш тужыла, а маладыя, можна сказаць, аселі ў тым пакоі. Нейкі сусед, маючы злосць на гаспадара, у якога жылі Сяргей з Інаю, напісаў на таго ў выканком заяву, што вось, маўляў, лішнія метры ў чалавека, здае плошчу кватарантам.

З выканкома прыйшлі на абследаванне, убачылі, што сігнал правільны, і выдалі Сяргею законны ордэр на пакой у кватэры гаспадара.

Ад людзей дачулася Тося, што скора яна будзе бабка, пацвердзіў гэта і Сяргей, неяк заскочыўшы да маткі ўвечары.

Тую ноч Тося зноў не спала, але больш не мучылася і не плакала, быццам нешта размякла, растала ў яе душы. Дзіця... Сынава дзіця, яна, Тося, будзе бабка... Каб на цябе ліха, як скора жыццё праляцела, вось табе і бабка, а яшчэ замуж збіралася, старая качарга... І яшчэ падумалася, таксама як бы з помстаю, ужо да нявесткі: «Вось табе і інстытут, вось табе і інжынерства, дзіця выгадаваць — не ў кіно схадзіць...»

А вясною, калі сонца біла ў вокны, свяціла праз гардзіны і на падлогу ад іх клаўся густы ўзорысты цень, калі на падаконніку ў гаршчочку зацвілі пралескі, Сяргей пазваніў мацеры і сказаў, што ў іх нарадзілася дачка — Мая, Маечка, тры кілаграмы і дзвесце грам.

Паклала Тося трубку, а ў самой у грудзях усё захаланела, аж ногі аслабелі, у галаве пачало блытацца, адступала, рабілася маленькаю крыўда на сына, адступала, меншала злосць на нявестку, вырастала ў вялікае, у самае найбольшае — унучка, Маечка, тры кілаграмы і дзвесце грам.

Пайшла Тося па магазінах — трэба ж нешта ўнучцы купіць, цяпер нікуды не дзенешся, пойдзеш да сына, да нялюбай нявесткі, як жа не пойдзеш, калі там маленькае, сынава кроў, яе, Тосіна, кроў, Андрэева кроў... Не дажыў, бедны, да ўнучкі... Хоць і не бачыла яшчэ Маечкі — ужо любіла.

Накупляла Тося — і пялёначак, і кашулек, канверт шаўковы купіла, прыйшла дадому з пакункамі і села на крэсла не распранаючыся.

Ціха было ў хаце, толькі вада ў трубах пераліва-

лася — збіраліся адключаць ацяпленне, недзе ў суседзяў прапіпікала радыё, глуха гудзеў за вокнамі горад. На сцяне вісеў партрэт — павялічаная фатаграфія Тосі — вочы шырока расплюшчаны, валасы густыя, хвалямі, галава крышку павернута набок — зусім маладая тут Тося і вельмі сімпатычная, яна і цяпер нішто — высокая, смуглая, і твар яшчэ гладкі, без маршчын. Прыгожая Тося, а шчасця вось няма, муж загінуў, а сына сама ад сябе адпіхнула. Як жа пайсці цяпер да нявесткі, як пайсці да ўнучкі, нявестка ж можа і на парог не пусціць. «Калі я макака, скажа, дык вам і рабіць тут няма чаго...» Я б на яе месцы так і сказала...

Устала Тося з крэсла, распранулася, павесіла паліто ў шафу, пакункі кінула ў шуфляду — няхай ляжаць... І без мяне абыдуцца, без мяне, мусіць, усяго накуплялі.

Але дзён праз дзесяць не вытрывала. Як жа яна — і ўнучкі не паглядзіць, людзі пачнуць гаварыць — во зацялася матка, ды што там людзі, не пра людзей думала цяпер Тося, цягнула, як магнітам, туды, да сына, туды, да Маечкі, калі што, скажа нявестцы: «Я да сына прыйшла... Да ўнучкі прыйшла... Маю права... А калі табе не падабаецца, дык...»

Дзверы адчыніў сын — у спартыўных штанах, рукавы ў сіняй кашулі закасаныя, у адной руцэ нож, у другой напалову абабраная бульбіна.

— Ма-ама! — амаль закрычаў ад радасці, абняў матку, не выпускаючы з рук нажа і бульбіны.

Першае, што ўбачыла ў пакоі Тося — нявестку, адной рукой яна паціху вазіла калясачку, у другой трымала кнігу,— вазіла калясачку і чытала. Адарвала ад кнігі вочы, убачыла свякруху, і на твар ёй пачала напльваць чырвань. Нейкі міг Тося і нявестка стаялі адна перад адной як нямыя, потым Іна паклала кнігу на стол.

— Мама...— сказала ціха.

І Тосю як нажом паласнулі па сэрцы, на вочы набеглі слёзы. Ступіла крок да нявесткі, да калясачкі, потым спынілася, выняла з кішэні паліто хустачку, пасмаркалася, паклала хустачку назад у кішэню, пакункі — на стол, побач з Ініваю кніжкаю.

— Пакажыце ж хоць... унучку,— сказала здушаным голасам.

Потым яны ўтраіх стаялі над калясачкаю, у якой спала дзіця з малюсенькім носікам, з малюсенькімі губкамі, з тонкаю нітачкаю валаскоў, што вылазіла з-пад беленькага каптурчыка.

— Яна падобна на цябе, усе так кажуць,— гаварыў Сяргей мацеры.

Тося і праўда быццам бачыла ў малюсенькім тварыку знаёмыя рысы, здаецца, унучка і праўда падобная на яе.

— Ах, яна яшчэ дваццаць разоў мяняцца будзе, яшчэ на ўсіх будзе падобная,— сказала яна, хаваючы ў грудзях радасць.

Калі адыходзіла ад каляскі, кінула вокам на кнігу, якую паклала на стол нявестка, у кнізе былі лічбы і чарцяжы. «Глядзі ты»,— падумала Тося, ёй было дзіўна, што Іна разумее ўсе гэтыя лічбы, чарцяжы, і трохі крыўдна, што не Сярожа чытае такую кніжку, а нявестка.

Матку запрасілі за стол і частавалі смажанаю бульбаю з катлетамі, чаем. Іна падсоўвала да Тосі цукеркі ў карабку, торт.

— Да нас цяпер усё прыходзяць віншаваць, дык нясуць — цукеркі, тарты,— гаварыла яна.

Тося піла чай і неўпрыкмет разглядала нявестку — худзенькая і малая, як дзяўчынка, як дзіця, носік востранькі, валаскі рэдкія, Сяргей побач з ёю, быдта наліты сокам і малаком, зусім не падыходзяць яны адно да аднаго, ну, ды як сабе хочуць, не па-харошаму міл, а па-міламу харошы, як кажуць людзі, маладзец Іна, што не заганарылася, не пачала папракаць свякруху, і глядзі ты — толькі з радзілкі і за кнігу...

З гэтага дня Тося пачала заходзіць да сына — то цацку якую прынясе ўнучцы, то так прыйдзе, пасядзіць, пазабаўляецца з малою і кожны раз, калі б ні адчыніла дзверы — Іна ці з кніжкаю, ці чарцяжы чэрціць, ці задачкі рашае, як толькі і паспявае малую дагледзець, але і дзіця заўсёды чысценькае, не плача.

— Сесія скора,— тлумачыць Іна свякрусе,— не хачу хваста на лета пакідаць.

— Вучыся, вучыся,— адказвае Тося, а сама ўсё прыглядаецца — як гэта такая вось Іна ды інжынер, ці можа быць?

А нявестка здавала сесію за сесіяй і вось ужо апошні год у інстытуце, са свякроўкаю заўсёды ласка-

вая, называе мамаю, з Сяргеем таксама дружна жывуць, не так, як у іншых сем'ях — сварацца, спрачаюцца.

І з дня на дзень пачала вырастаць у Тосі быццам павага да нявесткі. Бач, як яна ўмее.

Маечка падрастала, трэці годзік пайшоў, гаварыла ўжо, хоць і па-свойму, пацешна, Тося брала яе часам да сябе дахаты, асабліва на суботу і нядзелю, была ж майстрыца, швачка, дык шыла Маечцы сукенкі, палітончыкі, колькі на дзіця матэрыялу трэба, як на ляльку, і Маечка сапраўды хадзіла як лялька, у шарсцяных і шаўковых сукеначках, з вялікім бантам у светлых валасках, бегала за Тосяю па кватэры і клікала:

— Бабця, бабця!

І так падабалася Тосі гэтае — бабця, што хапала малую на рукі, цалавала.

Мінуў яшчэ год, і вось настаў урачысты дзень — Іна прынесла дадому дыплом — скураную кніжачку, ад якой пахла клеем. Чырванеючы і харашэючы ад радасці, падала дыплом Тосі. Тая ўзяла ў рукі — асцярожна, каб не запляміць, не пакамечыць. Там прыгожымі чорнымі літарамі, тушам, было напісана Ініна прозвішча, імя, імя па бацьку і было напісана, што ёй надаецца спецыяльнасць інжынера. І яшчэ Іна паказала значок, сіненькі ромбік, яна цяпер можа насіць гэты ромбік, прышпілены да касцюма, і ўсе будуць бачыць, што яна інстытут скончыла.

Патрымала Тося ў руках і значок — цяжкаваты, халодны, з вінцікам з тыльнага боку.

— Насі, дачушка...— Павярнулася да сына: — А ты, сынок... Што ж ты?..

Сяргей, поўны радасці за жонку, махнуў рукою:

— А, я і так... Нашто мазгі сушыць, я бачыў, як Іна — днямі і начамі...

— Дык затое ж во — інжынер! — гаварыла Тося.

— Я яму таксама кажу,— падтрымала свякруху Іна,— увесь час кажу — вучыся, Сярожа, паступай у інстытут, я памагаць буду...

— Ат,— махнуў рукою Сяргей.— Я ўсё роўна болей зарабляць не буду.

— А я не для грошай вучылася,— загарачылася Іна.— Мне вучыцца было цікава. І ты паступай, убачыш, як гэта цікава...

— Добра, добра, там будзе відаць!

Не любіў Сяргей, калі з ім пачыналі гаварыць пра вучобу.

Дзень выдаўся і праўда майскі — сонца залівала горад, зелянела трава, кусты ўбраліся зялёным дробным лістам, пупышкі на дрэвах набрынялі, вось-вось палопаюцца. У Тосі ў хаце ўсё было прыбрана, халадзільнік напакаваны ядою, на шафцы, пад белым ручніком — пірагі і бісквіты. Сёння свята з вуліцы пакіруецца да яе, дзеці пасля дэманстрацыі прыйдуць да маткі, і не адны, са сваімі сябрамі, далі грошы на прадукты, папрасілі наладзіць ім стол. Тося з ахвотаю згадзілася — даўно не было ў яе кватэры музыкі, не ўгіналася падлога ад танцаў, пакуль ёсць сіла, пакуль можа напячы ды насмажыць — няхай пацешацца дзеці, і яна пры іх падвесяліцца, пры маладых і сама памаладзее.

Тэлевізар грымеў на ўсю кватэру баявымі маршамі, вясёлымі песнямі, Тося тупала з кухні ў залу, носячы на стол яду, а сама часам кідала позіркі на экран — можа, сваіх там убачыць, Іну ў калоне з заводам ці Сяргея з Маечкай на плячы, вунь колькі дзяцей на дэманстрацыі — з шарыкамі, з кветкамі ў руках.

Яны прыйшлі вясёлыя, з чырвонымі бантамі, прышпіленымі да грудзей, у Маечкі ў руцэ блакітны шарык на нітачцы.

— Бабця, а там такая машына была, з лялькамі, з мядзведзікамі, і там хлопчык быў, дык ён выступаў,— з парога пачала расказваць Маечка.

— Праўда? — цешылася бабка.— А яшчэ што там было?

І Маечка расказвала бабцы, што яна бачыла на дэманстрацыі — як ляцелі ўгору шарыкі, як выпускалі дзеці галубоў, як тыя лёталі над плошчаю, як махалі ўсе дзеці сцяжкамі і крычалі «ўра».

З Сярожам і з Інаю прыйшлі іх таварышы — хлопцы, дзяўчаты. Тося хуценька палічыла гасцей — чатыры хлопцы і чацвёра дзяўчат, усім хопіць месца, яна баялася, каб не прыйшло вельмі многа гасцей, каб усім хапіла і месца і закускі.

Пасля дэманстрацыі ўсе былі галодныя і, не вельмі забавіўшыся, селі за стол.

Тося, можна сказаць, была шчаслівая, усе хвалілі

яду, што яна нагатавала, ды і хваліць не было патрэбы, гаспадыня бачыла, як падчышчалі талеркі; побач з ёю сядзела ўнучка і таксама ўсмак умінала і салатку, і халадзец, насупраць яна бачыла сына — здаровага, вясёлага, у новым гарнітуры, нават Іна здавалася ёй сёння прыгожаю, не, смех смехам, а за апошні час Іна моцна пахарашэла, нават быццам падрасла, а можа, так здавалася ад таго, што папаўнела, ужо і нос не такі востранькі, і валасы не рэдкія, зрабіла завіўку, і вунь якая харошая галоўка, толькі сёння ўбачыла Тося, што ў Іны прыгожыя сінія вочы — гэта сіняя сукенка адцяніла, паказала іх.

Потым стол адсунулі ўбок, Сяргей уключыў магнітафон, пачалі танцаваць.

Тося збірала талеркі, рэшткі яды, выносіла ў кухню. Іна ўзялася ёй памагаць.

— Ідзі, дачушка, танцуй, я сама,— сказала ёй Тося.

— А, паспею,— адказала Іна, забіраючы са стала талерку з недаедзеным халадцом.

Калі Тося, пакінуўшы талеркі ў кухні, вярнулася ў залу, каб забраць са стала астатняе, Сяргей танцаваў з высокай светлай дзяўчынай. На дзяўчыне былі модныя зялёныя штаны, шаўковая жоўтая блузка, у вушах целяпаліся вялікія залатыя завушніцы. Тося ўбачыла руку дзяўчыны, якая ляжала на Сяргеевым плячы — з доўгімі пальцамі і доўгімі пазногцямі, пакрытымі карычневым лакам.

«Няхай танцуе»,— падумала Тося пра сына.

Праз нейкі час яна зноў зайшла ў залу — прыбраць са стала нажы і відэльцы. Сяргей зноў танцаваў, ужо новы танец, але з тою самаю дзяўчынаю.

— Ідзі, Іначка, туды, я сама ўпраўлюся,— сказала яна нявестцы, вярнуўшыся ў кухню.

— Ат, паспею,— зноў адказала Іна.

Цяпер Тосі было ўжо цікава — што там робіць Сяргей, і праз каторы час яна зноў зайшла ў залу.

Госці танцавалі, і Сяргей танцаваў, з тою самаю дзяўчынаю, толькі адзін хлопец з гасцей — невысокі, у акулярах, сядзеў збоку і гартаў кніжку, быццам на свята, у гасцях, яму не было іншага занятку, як чытаць кніжку.

Тося згортвала анучкаю са стала крошкі, а сама цікавала за Сяргеем.

«Ага, канечне... Вы мяне, старую, не абдурыце,

глядзі, як абдымаюцца... Шчака да шчакі танцуюць... А твар які ў Сяргея... Ну зусім дурнаваты... Сп'янеў ён, ці што... І што яго сп'яніла, гарэлка ці гэта...»

— Ану, ідзі туды, няма чаго тут пэцкацца,— вырвала Тося у Іны талерку, сама садрала з яе ручнік, якім нявестка падвязалася замест фартуха, піхнула ў плячо, выпраўляючы з кухні.

— Ой, якая вы,— засмяялася Іна,— дайце ж хоць рукі памыць.

І, памыўшы рукі, паправіўшы валасы, яна пайшла туды, дзе танцавалі.

Тося мыла, выцірала посуд, а самой нецярпелася паглядзець — што робіцца там, у залі. Ох і Сяргей, ох і зух, гэта ж трэба!.. А яна хто такая, замужняя ці дзяўчына? Прыгожая, нічога не скажаш, але сораму няма, ведае ж, што тут жонка, а вешаецца на шыю...

Яна выцерла рукі, вярнулася ў залу.

Маечка круцілася паміж тымі, што танцавалі, вадзіла ручкамі над галавою, падспеўвала. Іну, мусіць, запрасіў той, у акулярах, што чытаў кніжку, і яны абыякава тупалі пад музыку, па іх тварах было відаць, што танец ім зусім не прыносіць асалоды. А Сяргей зноў танцаваў з тою, у штанах, і зноў туліліся яны адно да аднаго шчокамі, цяпер тонкая рука з доўгімі пальцамі і карычневымі пазногцямі абдымала Сяргея за шыю, завушніца целяпалася каля самага Сяргеевага вуха, а Сяргей, здавалася, аж прысядаў, аж млеў, твар яго застыў з усмешкаю.

Калі танец скончыўся і кавалеры паўсаджвалі сваіх паненак, Тося падышла да сына.

— Хадзі, Сярожа, я табе нешта скажу,— паклікала яна яго ў кухню.

Сяргей паслухмяна пайшоў за маткаю, на хаду папраўляючы каўнер кашулі і гальштук.

— Табе што-небудзь памагчы? — спытаў ён, але не паспеў дагаварыць, як твар яго апякла аплявуха.

Сяргей ажно знямеў, аслупянеў, вылупіў вочы, глядзеў на матку, а тая замахнулася яшчэ і яшчэ раз пляснула яго па шчацэ.

— Чаго ты... За што? — ледзь выгаварыў Сяргей.

— Чаго?.. За што?..— шаптала Тося.— Я табе пакажу — за што... Ціскацца з тою дылдаю?.. Я табе за Іну галаву адарву!..

Здаецца, толькі цяпер пачынаў разумець Сяргей, чаго так узлавалася матка, і зарагатаў.

— Што ты, мама, ды я... Гэта ж так, жарты...

— Жарты? — шаптала Тося.— Я табе дам жарты... Ідзі туды і каб не смеў!..

І зусім невядома, чаму раптам скрывілася, пачала шукаць у кішэнях фартуха насоўку, знайшла, прыклала да вачэй.

— Ну што ты, мама,— смяяўся Сяргей,— кінь... Ой, якая ты смешная... Дай я цябе пацалую,— і Сяргей абняў матку, цмокнуў недзе каля вуха.

З залі прыбегла ў кухню Маечка, стала ў дзвярах — наструненая, узбуджаная, у кароткай чырвонай сукеначцы, з чырвоным бантам у валасах.

— Тата, бабця, хадзем танцаваць,— аж падскоквала ад нецярпення.

Тося пагладзіла сына па плячы, праз слёзы ўсміхнулася ўнучцы.

— Зараз прыйдзем, Маечка... Зараз прыйдзем танцаваць...— Глядзі мне,— яшчэ раз прыгразіла яна сыну.

## ДЗЕ КАНЧАЕЦЦА ЖЫЦЦЁ

Вера спускалася ўніз па лесвіцы, быццам ішла з аднаго свету ў другі, з аднаго жыцця ў другое. У тым, першым свеце, у яе быў Косця, была яна сама, Вера, былі яе вочы, якія бачылі свет, рукі, якія ўмелі рабіць усякую работу, быў інтэрнат, дзе стаяў яе ложак, скручаная спяцоўка пад ложкам, кельма, драўляны чамаданчык, з якім яна прыехала з вёскі ў горад.

У другім свеце, у тым, куды ішла Вера, прасціралася чорная цемната ночы, там канчалася жыццё.

На вуліцы яна здзівілася, што ўсё тут так, як было паўгадзіны таму назад — машыны, людзі. Куды адсюль? Каб застацца адной, каб нікога не чуць, не бачыць, каб ніхто не бачыў яе. Ёй раптам здалося, што яна стаіць перад усімі гэтымі людзьмі голая, як у страшным сне, калі сніцца, што ты голая на людзях і табе няма чым прыкрыцца.

І Вера, трымаючыся сцяны, бокам, бокам падала-

ся да брамы, якая вяла ў чужы двор, кінулася ў яе.

У двары вісела памытая бялізна, на лавачцы сядзела старая жанчына, каля яе катаўся хлопчык на дзіцячым веласіпедзе.

Вера перабегла гэты двор, ускочыла ў другі. Тут пры сцяне дома грувасціліся драўляныя скрынкі ад бутэлек. Затуліўшыся за дзверы пад'езда, няголеныя мужчыны ў пакамечаным нясвежым адзенні пілі па чарзе з рыльца цёмнае, як чарніла, віно.

За трэцім ці чацвёртым дваром аказалася ціхая вуліца — драўляныя дамы, зялёныя садкі за платамі, дашчаныя тратуары.

Вера пайшла па гэтай вуліцы, не ведаючы, куды ідзе, абы далей ад тых слоў, ад таго позірку, якія ў адзін міг зрабілі ўсё навокал чорным.

Як ён сказаў? Ага... «Нам няма больш пра што гаварыць... Ты не тая, за каго сябе выдавала...»

Ён гаварыў гэта і спачатку глядзеў убок, у акно, і твар яго быў як незнаёмы, быдта гэта гаварыў не Косця, а нейкі чалавек, якога Вера бачыла першы раз.

У пакоі нікога не было. Хлопцы, як толькі прыйшла Вера, адзін за адным падаліся за дзверы. І хлопцы былі нейкія не такія, нават Вася не ўсміхнуўся Веры, паабраму не прывітаўся.

Яна ішла да Косці, паднімалася па лесвіцы, і ногі ў яе падгіналіся, не хапала дыхання. Што скажуць людзі — яна сама ідзе ў інтэрнат да хлопца... Але яна не ведала, чаму так доўга не прыходзіць Косця, раней жа амаль кожны вечар стукаўся да іх у пакой. Яна думала, можа, Косця захварэў, можа, у яго бяда якая. І яна адважылася, пайшла сама да яго, бо не магла больш жыць, не ведаючы, чаму не прыходзіць.

Аказваецца, Косця быў здаровы, гуляў з хлопцамі ў карты. Убачыў яе — не ўзрадаваўся, наадварот, быццам засаромеўся, што яна прыйшла, вочы зрабіліся халодныя, чужыя.

І Вера зразумела, што здарылася бяда. Косця больш не прыходзіць, бо не хоча яе бачыць, яна яму больш непатрэбная. Але чаму?

Яна яшчэ ратавалася, хапалася, як тапелец за саломінку: «А можа, гэта мне здаецца? Можа, хлопцы зараз пойдуць, і Косця ўсміхнецца, зноў зробіцца свой... Можа, мне здаецца?»

Але хлопцы пайшлі, а Косця не ўсміхнуўся, не аб-

няў яе. Адышоў да акна, заклаў за спіну рукі. У акне быў відаць дом з рыштаваннямі. Яго адбудоўвалі са спаленай каробкі, яшчэ і цяпер відаць закураныя кавалкі сцяны, асабліва пад вокнамі. Усярэдзіне дом гатовы, толькі звонку трэба пафарбаваць. Вера ўспомніла, як і яны працавалі на гэтай каробцы, як Косця распілоўваў агнём электразваркі вялізную жалезную бэльку. Там яны і пазнаёміліся. Здаецца, аж цяпер запахла Веры электразваркаю.

— Я думала... Ты не прыходзіў... думала,— як апраўдвалася Вера.

Косця маўчаў, глядзеў у акно звужанымі вачыма.

— Ты за што-небудзь злуешся на мяне? Я штонебудзь не так зрабіла? Давай пагаворым...

І тады ён сказаў:

— Нам няма пра што гаварыць... Ты не тая, за каго сябе выдавала.

Веру здзівілі не столькі словы, як тон, голас, якім сказаў гэта Косця. Голас у Косці быў чужы і хрыплы, нібы моцна прастуджаны, нібы яму было цяжка гаварыць. А словы Вера нават не адразу зразумела. Як гэта — яна не такая...

— Як выдавала? За каго? — глядзела Вера на Косцю і дзівілася, што ён можа быць такі — зусім чужы.

— Не прыкідвайся,— рэзка павярнуўся да яе Косця.— «Як выдавала, за каго выдавала!» — перакрывіў ён Веру.— Свенту-недаткненту з сябе строіла! А сама! З немцамі! Тут, у акупацыю, з немцамі гуляла!

Косця ўжо не гаварыў, а крычаў, Веры здавалася, што ён зараз замахнецца і ўдарыць яе, можа, нават будзе біць, моцна і доўга.

Няхай бы ён ударыў яе... Няхай бы забіў, каб толькі не гаварыў такога. А ён наступаў на Веру і зноў гаварыў, быццам біў, і сябе, і Веру:

— Я табе ўсё... Я, можа, жаніцца з табою хацеў... А ты... Мне цяпер хлопцы праходу не даюць... Смяюцца з мяне, а на цябе кажуць — падсцілка нямецкая!..

У Веры ўсё паплыло перад вачыма — сцяна, пакленеая зялёнымі шпалерамі, чорны круг рэпрадуктара на сцяне, стол з графінам і картамі, раскіданымі па цыраце.

— Але гэта няпраўда! — ледзь выгаварыла Вера.— Гэта няпраўда, хто табе нагаварыў?

— «Няпраўда»? — зноў перакрывіў Косця Веру.—

Усе вы ўмееце адпірацца. Твая зямлячка сказала, Манька, твая сяброўка!

— Няпраўда, гэта няпраўда,— гаварыла Вера і сама дзівілася свайму голасу. Ён быў такі слабы, як у моцна хворай, такому голасу можна і не паверыць. І Вера змоўкла. Хацела загаварыць інакш, сказаць нейкія словы, каб Косця адразу паверыў, але не магла больш сказаць нічога. Усярэдзіне нешта душыла, нешта вялізнае, цяжкае ціснула на грудзі, на галаву, на вочы.

— Ідзі адсюль, ідзі,— адвярнуўся ад яе Косця.

І Вера павярнулася, пайшла, пайшла ўніз па лесвіцы, з аднаго жыцця ў другое.

Зялёная вуліца з дашчанымі тратуарамі скора скончылася, за ёю была пустка — згарэлі ў вайну дамы. Фунтаменты зараслі травою, дзе-нідзе ўздымаліся бугаркі прысыпанай зямлёю цэглы, друзу. Цераз пустку вяла вытаптаная ў траве чорная сцежка, і Вера пайшла па гэтай сцежцы, зноў не ведаючы, куды ідзе і чаго.

Над гарызонтам вісела доўгае тонкае воблака, пераразаючы жоўты круг сонца, якое апускалася за яго. Воблака здавалася чорным пасярэдзіне і залацістым па краях. А неба — шэра-сіняе, святлейшае ў тым баку, дзе сонца, і цямнейшае там, адкуль яно даўно сышло.

Перад Вераюківаўся твар Манькі — чырвоны, як абвараны, з доўгім, быццам зьлепленым з гліны, носам, з маленькімі, як у парасяці, светлымі вочкамі.

«Манька, Манька, ну што я табе зрабіла, за што ты так... Я ж прыняла цябе, як родную, за стол пасадзіла, грошай перад палучкаю не было, дык пазычыла...»

Абрыўкамі ўставала перад Вераю, як сядзелі яны ў інтэрнаце за сталом, як перажывала яна — ці ўсё добра, ці хопіць закускі, віна на кампанію. Дзяўчат было пяцёра — Вера з Манькаю ды яшчэ трое з іхняй брыгады, жылі ў адным пакоі. З хлопцаў — Косця і Васіль, Косцеў таварыш. Косця сядзеў каля яе, і рука яго ўвесь час ляжала на яе плячы, і, здаецца, нікога не бачыў Косця, акрамя яе, толькі з ёю і гаварыў. Яна бачыла, як касавурылася Манька на Косцеву руку, як касавурылася на Косцю. Веры было, можа, крыху і сорамна, што Косця так, пры ўсіх, яе абдымае, але ёй было так добра ад таго, што Косцева рука ляжала на яе плячы... Ёй хацелася, каб усім было добра, і яна га-

варыла пра Маньку, што вельмі любіць яе, што Манька — лепшая яе сяброўка, хоць вялікімі сяброўкамі дома і не былі.

А тая прыехала, распусціла плётку і паехала. Пазайздросціла, што ў Веры Косця, што ў самой нікога няма, бо брыдкая... Брыдкая і злосная. І дома была языкастая, на ўсіх нагаварвала, пляла, што Шурка Бураковых ходзіць з Феньчыным мужам у каноплі, што Фенька зладзейка, іхнюю курыцу ўкрала і зварыла, што Соню Баўтрук ніякія немцы ў Германію не звозілі, што паехала сама, па добрай волі.

Пляла, пляла, нагаварвала. Вера слухала і не слухала, у адно вуха залятала, з другога вылятала. Аказваецца, вось як можна нагаварыць. Косця паверыў... І ўсе, мусіць, паверылі... Як жа ёй цяпер жыць на свеце? Ні з якімі ж немцамі яна ніколі не гуляла, яна ненавідзела немцаў, яе бацька загінуў у партызанах, сама яна насіла партызанам соль...

За пусткаю праходзіла чыгунка, яе насып крута ўзнімаўся перад Вераю, на ім бліскучымі палоскамі ляжалі жалезныя рэйкі, з-пад рэек вытыркаліся шпалы — чорныя, замасленыя. Сцежка вяла ўгору, на чыгуначны насып. Вера спынілася. Адчула, што не ўзыдзе на гэты насып, не хопіць сілы. Яна чамусьці вельмі аслабела, у яе не ставала больш сілы ісці нават па роўнаму.

Кругом нікога не было, і Вера села, села, дзе стаяла, каля самага насыпу, на сухую калючую траву.

Сонца дакранулася ўжо краем да зямлі, доўгага тонкага воблака больш не было на небе, клубіліся, разыходзіліся, як дым, лёгкія, празрыстыя, прасвечаныя наскрозь барвовым захадам, воблакі.

Ружовыя промні ляжалі на Верыных руках, у якіх яна трымала белую сумачку, на сініх басаножках, на сукенцы ў сінюю бобачку. Вера ўспомніла раптам, як сёння, збіраючыся да Косці, яна прасавала гэтую сукенку, чысціла басаножкі, доўга прычэсвалася перад люстэркам, і ёй цяпер зрабілася сорамна, быццам якраз у гэтым была яе вялікая віна.

Цераз пустку ў бок зялёнай вуліцы ішла жанчына, трымаючы за руку хлопчыка. У другой руцэ ў жанчыны была цяжкая сумка, жанчына ішла скора, а хлопчык азіраўся на сонца, якога на небе застаўся толькі вузкі краёчак. Жанчына тузала хлопчыка за руку, і

тады ён бег, каб паспець за маткаю, а потым зноў азіраўся, і жанчына зноў тузала яго за руку.

Пачуўся гудок паравоза, потым лёгка задрыжала зямля, і гул, як далёкія грымоты, даляцеў да Веры. Гул мацнеў, ужо чуваць было, як звіняць рэйкі, як стукаюць, стукаюць па жалезе колы.

Вера заўсёды баялася цягнікоў, ёй заўсёды было страшна, калі вялізная жалезнаяаграмадзіна з грукатам, з лязгам праносілася каля яе, ёй было страшна глядзець, як круціліся вялізныя колы паравоза, як каціліся, уздымаючы пыл, колы многіх вагонаў. Калі даводзілася ісці чыгункаю і яе абганяў ці насустрач ёй нёсся цягнік, Вера заўсёды збягала з насыпу, затуляла рукамі вушы і чакала так, пакуль цягнік не праязджаў, не прамінаў, не абрываўся апошні вагон саставу.

Цяпер яна пачула гудок паравоза, але ёй было ўсё роўна, што гэта гудзе, што стукае. Яна нават не адразу зразумела, што гэта едзе цягнік. І толькі калі загуло зусім блізка, застукала амаль над галавою, яна ўсхапілася. Усхапілася і адразу ўбачыла чорны круг паравоза, які набліжаўся, грымеў і стукаў, нёсся насустрач. Паравоз з кожнаю секундаю набліжаўся, рос і рос, мацнеў грукат. Яшчэ секунда, і Веру абдало пылам, застукала, быццам у самой галаве, заляскатала, загрымела. Інстынктыўна Вера падалася назад, адхіснулася ад гэтага грукату і лязгу, але тут жа, не выпускаючы сумачкі, абхапіла сябе за плечы рукамі, быццам сама сябе трымаючы, не пускаючы ўцякаць.

«Чаго ты баішся, гэта ж адно, што табе засталося... Усё роўна цяпер няма жыцця... Няма жыцця без Косці... Няма жыцця, калі пра цябе так гавораць...»

Яна абхапіла сябе рукамі за плечы і нібы прымушала сябе ўздымацца насустрач грукату і лязгу, насустрач ветру і пылу, якія ўзнімаў цягнік. Яна зрабіла ўжо некалькі крокаў наперад. Вось яна ўжо на самым насыпе. Пралятаюць адзін за адным вагоны, угінаюцца рэйкі, круціцца пыл пад вагонамі.

«Трэба адважыцца... Гэта ж адзін толькі міг...»

Яна заплюшчыла вочы, зрабіла яшчэ крок — гарачы пыл секануў па нагах, ляскат, здаецца, ударыў па самых вушах, па галаве, і яна адхіснулася, адхіснулася і расплюшчыла вочы. Вялізны сіні вагон з белаю паскаю пасярэдзіне нёсся каля самага яе твару, на міг

абарваўся, і другі вагон, такі самы, з белаю паскаю, панёсся за ім, быццам даганяючы. Дрыжала зямля, гарачы вецер з горкім пылам з пахам згарэлага вугалю біў па твары. Здаецца, Вера ўбачыла ў акне вагона нечы спалоханы твар.

Яна ўсё стаяла, трымаючы сябе рукамі за плечы, адчуваючы, як яны калоцяцца, як калоціцца яна ўся, а вагоны імчаліся, імчаліся паўз яе. Прамчаўся апошні, хістануўся на рэйках і пабег за другімі — далей, далей. Вера глядзела ўслед цягніку, як услед апошняму сябру, які пакідаў яе, уцякаў, не забраўшы з сабою. Вось ён выгнуўся на павароце, як яшчарка, загудзеў яшчэ раз.

Усё цішэй лязгат, усё далей цягнік, вось і зусім знік з вачэй, паехаў у сваю далёкую дарогу.

Набіраючы ў басаножкі жвіру, Вера пайшла па насыпе. Яна чаплялася нагамі за шпалы, некалькі разоў паслізнулася, выцяла нагу аб рэйку, але болю зусім не пачула. Яна ішла ў той бок, куды паехаў цягнік, куды толькі што зайшло сонца. У грудзях душыла, калола, не было чым дыхаць, і само сабою вырывалася:

— Гы... гы...

Яна спынілася, не выпускаючы сумачкі, прыціснула да грудзей кулакі. Ёй здалося, што яна зараз задыхнецца.

— О-о-о! — застагнала Вера.

Ногі самі павялі яе з насыпу, яна не сышла, а спаўзла пад адхон, чапляючыся рукамі за калючую траву. З хвіліну стаяла на каленях, упіраючыся рукамі ў зямлю, потым упала тварам уніз і загаласіла.

Цямнела, горад запальваў агні, яны ўспыхвалі, як свечкі на навагодняй ёлцы, і кожны з іх здаваўся вясёлым, шчаслівым. Узышоў месяц, ён быў вялізны, круглы і чырвоны, быццам толькі што ўстаў з пасцелі, дзе добра выспаўся за дзень і цяпер вось ідзе на вячаровы абход паглядзець, што робіцца ўнізе, на зямлі.

Вера ляжала на бруднай калючай траве ўніз тварам, плечы яе хадзілі ад моцнага плачу, слёзы цяклі па руках. Што рабіць, як жыць далей, Вера не ведала.

## ГУЛЬНЯ

У пакоі стаяла шаснаццаць ложкаў і восем тумбачак, па адной на дваіх. Пры ложках, завешаныя працінамі, віселі сукенкі, паліто. Амаль што кожнай на ўвесь гардэроб хапала адной вешалкі, каторым не хапала, лічыліся багатымі.

Пры дзвярах месцілася мажная, прыземістая, абмазаная глінаю, пліта, на ёй стаялі закураныя чыгункі, каструлі, чайнік. Палілася пліта дрывамі, іх дзяўчаты дабывалі дзе маглі і як маглі. Удзень, бывала, прыглядалі, а вечарам, ідучы з заняткаў, цягнулі дошку ці бервяно, што «нядобра ляжала». Часам валаклі палена і з будаўніцтва, што вялося тут жа, вакол інтэрната. І тады ў пакоі шоргала піла, гакала сякера, а потым на пліце булькала каша, закіпаў чайнік. Іншым разам, як язычкі таго полымя, што вырывалася з камфорак, успыхвалі і невялічкія спрэчкі — каму ставіць на агонь свой чыгунок. Спрачаліся больш тыя, у каторых сукенкі і паліто не месціліся на адной вешалцы, у тых і ў чыгунок было што класці. Выручалі чаёўніцы, яны рэдка ставілі на агонь чыгункі, снедалі і вячэралі хлебам з чаем.

Чай з хлебам! Ого-го! Толькі сёлета і есць яго Шура ўволю, як адмянілі картачкі і зрабілі рэформу. А тыя гады... Лепей іх і не ўспамінаць. Ды як не ўспамінаць, як забыць — вайну, тры гады акупацыі, смерці, што давялося пабачыць сваімі вачмі.

Але ўсё, дзякуй богу, мінулася, прагналі немцаў, вайна скончылася, цяпер толькі жыць ды жыць. Цяпер яна такая шчаслівая — паступіла ва універсітэт! Каб гады тры таму назад наваражылі ёй такога — век бы не паверыла.

Згаладалая за вайну па вучобе, Шура накінулася на кнігі, усе сесіі здавала на «выдатна» і не паважала тых, у кім не бачыла старання, сур'ёзнасці. Яе абурала, што даўганогая Верка, якая не ведала страху акупацыі, жыла на Урале, вучылася і ў тыя страшныя гады, цяпер не вельмі налягае на падручнікі і ўжо мае два хвасты. Што легкадумная Наташка вечна круціцца перад люстэркам — хіба пасля такой вайны можна заставацца легкадумнай? Што сытая Алка, якой бацькі кожны месяц прысылаюць па тысячы рублёў, сяброўкам і капейкі ніколі не пазычыць.

Аднойчы, яшчэ на першым курсе, яна моцна пасварылася з Лінкаю. Іх курс паслалі выбіраць бульбу. Шура гнала баразну побач з Лінкаю. І раптам убачыла, што тая толькі зверху бульбачку збірае, а ўсярэдзіне зямлю і не калупне.

— Ты што гэта робіш, як гэта ты робіш! — накінулася Шура на Лінку.

Тая вачыма заплюскала — не адразу зразумела, чаго на яе навалілася.

— Гора ты не ведала, голаду! Бульбу ў зямлі пакідаеш!

— Пс-с,— пагардліва прасіпела Лінка.— А табе што? Старшыніха калгаса знайшлася!..

— Старшыніха ці не, але гадка глядзець на тваю работу!

— А ты не глядзі!

Пайшла Лінка іншую баразну шукаць, каб не рабіць побач з Шураю.

Той вечар, здаецца, была субота. Але нейкая ціхая субота. У клубе не было танцаў. І Грыша Буліцкі не выходзіў са сваім акардэонам на пляцоўку. Дзяўчаты займаліся кожная сваім. Вера, нацягнуўшы панчоху на шклянку, накладала на пяту штопку. Наташка, трымаючы ў адной руцэ маленькае люстэрка, пінцэтам вышчыпвала бровы. Кожны раз, як вырываўся валасок, Наташка моршчылася ад болю, лоб у яе над броўкамі паружавеў, але яна цярпліва трывала экзекуцыю. Таня шкрэбла лыжкаю па дне каструлі — даядала кашу, якая крыху падгарэла, і ад гэтага ў пакоі стаяў гаркаваты чад. Іншыя дзяўчаты таксама — каторая чытала, лежачы ў ложку, каторая поркалася ў тумбачцы. Шура вучыла англійскую мову. У яе быў закон — кожны дзень, хоць камені на галаву валіцеся, яна павінна вывучыць не менш чым дзесяць слоў.

— Ньюспэйпа — газета... Мэгэзін — часопіс... Фэкторі — завод... Вэкэйшын — канікулы... Клоўз — вопратка,— шаптала яна.

Нехта з дзяўчат, яўна нудзячыся, сказаў:

— Дзевачкі, давайце гуляць у ісціну...

Існавала такая гульня — у ісціну. Усе садзіліся колам, аднаго чалавека выпраўлялі за дзверы, другога ставілі ў сярэдзіну кола. Той, хто стаяў у сярэдзіне кола — вадзіў гульню: збіраў думкі ўсіх іншых пра таго, каго выправілі ў калідор. А той, вярнуўшыся з

калідора, павінен быў угадаць, хто і што пра яго тут сказаў.

— Давайце...

— Пайшлі,— жыва адазваліся дзяўчаты і застукалі зэдлікамі, крэсламі, збіраючыся пасярод пакоя ў кружок.

Знуджаныя сумным вечарам, дзяўчаты ажывіліся, чакаючы ад гульні хоць якой забаўкі.

І Шура, яшчэ раз паўтарыўшы,— Фэкторі... Клоўз...— адклала ўбок падручнік, узяла расхістаную табурэтку, што стаяла пры ложку, панесла ў круг.

Вадзіць гульню, збіраць ісціну ўзялася Маша — невысокая, светлавалосая, у якой, як і ў Шуры, увесь гардэроб месціўся на адной вешалцы, бо не было каму памагаць, усе блізкія загінулі ў вайну.

За дзверы выправілі Наташку, якая скончыла ўжо апрацоўку сваіх бровак, пакінуўшы адны вузенькія дужкі, не забыўшыся іх тут жа падмаляваць.

І пачалі збіраць ісціну пра Наташку.

— Прыгожая,— сказала пра яе Маша.

— Разумная,— сказала Таня.

— Харошы чалавек,— дадала Вера.

Шура слухала і думала: «Прыгожая? Разумная? Харошы чалавек? Ну, можа, і так... Але калі разумная, то чаму на тройкі вучыцца?..»

Маша збірала ісціну далей.

— Выдатная сяброўка,— заявіла Люда.

— Таленавітая,— дала сваю атэстацыю Ала.

Шура бачыла, што малююць дзяўчаты Наташку аднымі ружовымі фарбамі. Але не з аднаго ж ружовага зроблена Наташка, нават на сонцы ёсць плямы... Чаму ж і на плямку не паказаць? Можа, чалавек убачыць сябе збоку і выправіцца? І потым, усе ў адну дуду... Не, не цікава было Шуры дабаўляць сіропу ў гэту і без таго перасалоджаную вадзіцу... Павінен жа нехта... Гуляюць жа ў ісціну...

— Занадта круціцца перад люстэркам,— сказала Шура, калі падышла яе чарга.

— Усё, думкі сабраныя, ісціна ў маіх руках, гукайце Наташку,— запляскала ў ладкі Маша.

Наташка ўвайшла — крыху паружавелая ад хвалявання. Гульня-то гульня, але цікава, мусіць, што пра цябе сяброўкі думаюць.

— Прыгожая...

— Разумная...

— Харошы чалавек...

Наташка расцвітала. І ўгадвала, хто і што пра яе сказаў. Толькі раз задумалася, не магла здагадацца, хто пра яе сказаў — таленавітая. Але потым ткнула пальцам у Алу.

— Ты!

Наташкіны вочы пад вышчыпанымі броўкамі струменілі радасць, шчокі румянелі, ружовыя губкі ўсміхаліся, паказваючы роўныя белыя зубкі, і Шура не магла не пагадзіцца з Машаю, што Наташка сапраўды прыгожая. Радасць на хвіліну сышла з яе твару, калі пачула Шурыну думку. І, як ні дзіўна, угадала, што сказала гэта іменна Шура. Але адзін камарыны ўкус не мог сапсаваць настрою, не мог засціць зіхацення бліскучых прызнанняў, і Наташка, шчаслівая, апусцілася на свой табурэт.

За дзверы выправілі Алу.

І зноў пайшло тое самае:

— Разумная...

— Харошая сяброўка...

— Прыгожыя вочы...

Зноў пасыпаліся кампліменты, зноў паліўся сіроп, і Шуры зноў захацелася сказаць сваё. Сказаць нешта іншае хаця б для весялосці, для гумару, ці што, і каб не патрапляць усім, не страціць, так сказаць, самастойнасці.

— Талеркі пасля сябе мыць не любіць...

І Ала здагадалася, хто і што пра яе сказаў, і яна была задаволена сваёй атэстацыяй, толькі на Шуру кінула косы позірк.

Не, гульню гэту можна было назваць як хочаш, толькі не гульнёю ў ісціну. Дзяўчаты наперабой прыдумлялі найлепшыя словы, каб сказаць іх пра тую, што стаяла за дзвярыма. Усе былі разумныя, верныя сяброўкі, таленавітыя, у адной былі прыгожыя вочы, у другой ногі, у трэцяй валасы, у чацвёртай уся фігура. Усе былі ласкавыя, добрыя, пяшчотныя. І толькі Шура вяла сваё:

— Не мае ўласнай думкі,— сказала яна пра Таню, якая заўсёды з усімі пагаджалася.

— Любіць паспаць, абняўшыся з кніжкаю,— гэта пра Нэлку, якая клалася ў ложак з кніжкаю, быццам пачытаць, і тут жа засынала.

Нэлка блыталася, не магла ўгадаць, хто і што пра яе сказаў, і ўсе рагаталі і весяліліся, як дзеці, а можа, яны і былі яшчэ дзеці, вайна адабрала ў іх час для гульні, і яны наганялі... Набіралі тое, што страцілі.

— Цяпер ты за дзверы, твая чарга,— загадала Маша Шуры. І тая са смехам, як і ўсе да яе, пабегла ў калідор. Прыхінулася спіною да сцяны і раптам адчула, што сэрца яе забілася мацней. Аказваецца, і ёй не ўсё роўна, што скажуць, не ўсё роўна, што думаюць пра яе тыя ж Наташка, Вера, Маша...

Па калідоры нехта прайшоў з ручніком на плячы — Шура не звярнула ўвагі — хто. Нехта з ёю павітаўся, і яна адказала механічна — «добры вечар». Здавалася, надта доўга яе не клічуць, тыя, што праходзяць па калідоры, мусіць, дзівяцца — чаго гэта яна тут сценку плячмі падпірае?..

— Заходзь, сабралі ісціну,— паклікала нарэшце Маша.

Пасля цемнаватага калідора ў пакоі здалося вельмі светла — аж сляпіла вочы вялікая электрычная лямпачка без абажура. На твары дзяўчат ад яе клалася жаўтаватае святло. І блішчэлі ўсмешкі, вочы. І Шура ўсміхалася, чакаючы першых слоў. Усміхалася, як некалі, у маленстве, гуляючы ў квача альбо ў гусі-лебедзі, бо што за гульня без смеху, без весялосці.

— Лічыць сябе разумнейшаю за іншых...

Такая была першая думка.

— Ты! — паказала Шура на Алу.

— Не,— усміхалася Ала, і ўсмешка яе была не прыязная, не добрая, нешта ў ёй было ад здзеку.

— Ты,— павярнулася да Наташкі.

— Не-е...

А Маша лупянула другі раз:

— Надта шмат пра сябе думае...

Шура закруцілася ў коле, шукаючы, угадваючы, хто сказаў, а з яе зноў насміхаліся:

— Не-е...

Маша сцёбала далей:

— Кепскі чалавек...

— Задавака...

Усе смяяліся, і сама Шура смяялася, але адчувала, што смех усё больш камянее на яе абліччы, што ён ужо застыў, як маска, што яшчэ хвіліна, і смех здрадзіць ёй, уцячэ, і яна сілілася затрымаць яго, сілілася

ўсміхацца, рабіць выгляд, што ўсё гэта ёй толькі смешна, што ўсё гэта гульня, усё гэта не сур'ёзна. А сама адчувала, як камянее, ледзянее ўсё ўсярэдзіне, як здушвае грудзі туга. Яна паварочвалася ад адной дзяўчыны да другой, каб угадаць, якая што пра яе сказала, а тыя толькі смяяліся і ўсё казалі:

— Не...

— Не...

І быццам кідалі, кідалі ў яе камяні.

— Шкілет...

Гэта ўжо пра тое, што яна надта худая.

— Касавокая...

Шура яшчэ ўсміхалася, а калі сказалі — касавокая — нават зарагатала. Яна вытрывала ўсе ўдары камянёў, робячы выгляд, што не крыўдзіцца на сябровак, і села на сваё месца, трымаючы, як маску, усмешку на твары і ледзь стрымліваючы слёзы, якія былі ўжо так блізка, так блізка, ужо казыталі вочы, нос.

«Ніводнага добрага слова... Усе... Усе...» — білася ў галаве, у грудзях, і плыла перад вачыма пліта з закуранымі на ёй чыгункамі, каструлямі, чайнікам, плылі, як на каруселі, ложкі, і здавалася, што іх ужо ў пакоі не шаснаццаць, а трыццаць, пяцьдзесят, сто...

Больш не гулялі ў ісціну, пасля Шуры здаволіліся, усе разбрыліся па сваіх кутках. І Шура пайшла да свайго ложка. Крыху пасядзела на ім, спіною да пакоя, потым адхінула коўдру, распранулася і лягла. Але спаць не хацелася, не магла спаць, думала аб тым, што нядаўна адбылося, і звінела, звінела ў галаве:

— Кепскі чалавек...

— Шкілет...

— Касавокая...

І нібы адчыняўся, расхінаўся свет, якога дасюль не бачыла, не разумела Шура:

«Усе любяць, каб ім казалі толькі добранькае... Ты ім добранькае, дык і яны табе...

А як жа праўда, ісціна?..

А навошта каму твая праўда, ісціна...

Дык няўжо ўсе гэта разумелі, адна я — не?»

Глуха даносіліся галасы. Наташка нешта расказвала Тані. Вера паціху спявала. Нехта гартаў кнігу. Бразнуў чайнік на пліце. Жыццё ў пакоі ідзе сваім парадкам. Нічога не здарылася. У іх і праўда нічога

не здарылася, толькі ў мяне... Альбо яны і праўда ўсе добрыя, а я адна — кепскі чалавек?

І Шура пачынала ўжо верыць, што яна і праўда кепскі чалавек, і, як ні дзіўна, ад гэтага рабілася лягчэй... Пазнавала яшчэ адну ісціну — лягчэй адчуваць сябе вінаватаю, чым пакрыўджанаю без віны...

Але тут наплывала новая хваля гаркаты:

«Ім жа ўсе казалі адно салодзенькае, адна я штонебудзь устаўляла, а яны — усе на мяне адну... І Маша...— Надта крыўдна было, што і Маша. Іхнія ложкі стаялі побач, уначы часам коўдры блыталіся. Шура лічыла Машу сяброўкаю, у іх у абедзвюх і лёс падобны —сіроты, ніхто не памагае. Аказваецца, і Маша...— Шкілет... Касавокая... Няўжо я і праўда касавокая?»

Непрыкметна, каб ніхто не бачыў, выняла са свайго партфельчыка люстэрка, азірнулася на пакой. Ніхто не звяртаў на яе ўвагі, і яна паднесла люстэрка да твару. На яе глянулі спалоханыя вочы. Нібыта чужыя вочы, не яе... І твар увесь быў як чужы. Ці яна гэта? Яна ці не яна, але, здаецца, не касавокая... Мусіць, сказалі ад злосці... Дык, можа, і «кепскі чалавек» — ад злосці.

І зноў рабілася горка, і забівала дыханне, і ў вушах звінела:

— Шкілет...

— Касавокая...

Паклала люстэрка пад падушку, укрылася з галавою.

«Кожны любіць, каб яго толькі хвалілі... Толькі хвалілі,— білася ў галаве.— А сама хіба не любіш? Хіба не любіш, калі табе кажуць: разумная... прыгожая... працавітая... І сама любіш... Такі чалавек... Такі чалавек... Цяжка было і табе сказаць пра Алу — добрая сяброўка, пра Наташку — прыгожая?.. І табе ўсе добрага нагаварылі б. А так... А так...»

За дзвярыма азваўся акардэон. Адзін акорд, другі. Потым перабор клавішаў. І паплыў знаёмы вальс:

После тревог...
Спит городок...
Я услышал мелодию вальса
И сюда поспешил на часок...

Гэта Грыша Буліцкі выйшаў нарэшце са сваім акар-

дэонам на пляцоўку. Зараз туды з усіх пакояў пабягуць хлопцы, дзяўчаты, пачнуцца танцы.

І праўда — дзяўчаты ў пакоі ажывіліся, забегалі, пачалі апранаць лепшыя сукенкі, прычэсвацца.

Толькі Шура не паднімалася, і яе ніхто не паклікаў.

Акардэон іграў, іграў на пляцоўцы, і ўжо акрамя музыкі адтуль чуліся вясёлыя галасы, смех.

Грыша Буліцкі прыйшоў ва універсітэт з вайны, з фронту. Ён хадзіў увесь час у выцвілай гімнасцёрцы, з баявымі медалямі. І акардэон прынёс з вайны, трафейны, ці што. Іграў ён самавукам, але яго ўмення хапала, каб выводзіць вальсы, модныя факстроты, танга.

Утомленное солнце
Нежно с морем прощалось,
В этот час ты призналась,
Что нет любви...—

выводзіў Грыша.

Усе дзяўчаты, зманеныя музыкай, былі ўжо там, у прыцемку лесвіцы, дзе пад мелодыю танга ішло таямнічае, чароўнае жыццё: нечыя рукі ўпершыню датыкаліся да нечых рук, непаўторныя словы ўпершыню дакраналіся да нечага сэрца. І Шуры хацелася туды — да людзей, да музыкі, але нешта стрымлівала, не давала падняцца. Сённяшні вечар, сённяшняя гульня нешта змянілі ў яе душы.

І падступала пачуццё адрынутасці, адзіноты.

## ЗМЕСТ



---

**Лидия Львовна Арабей**

**ПОИСКИ ЛЮБВИ**

Повести, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак Ю. В. Пучынскі. Мастацкія рэдактары В. П. Жыжэнка, А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 2756

Здадзена ў набор 12.08.86. Падп. да друку 02.02.87. АТ 07556. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 15,33. Ул.-выд. арк. 15,90. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2775. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.